ISSN 0130 — 8068

12/2007



# ПОЛЫМЯ

**Да 85-годдзя часопіса "Полымя"**
**"Часопіс "Полымя" — этапы творчага станаўлення"**
**"Круглы стол" у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі**

**Тамара Кручэнка**
**Навум Гальпяровіч**
**Рагнед Малахоўскі**
Вершы

**Юры Станкевіч**
**Іван Капыловіч**
Апавяданні

**Тамара Аўсяннікава**
**"Я пісала табе пісьмо..."**
**Старонкі лёсу Яўгеніі Янішчыц**

**"Я заўсёды іду ад факта..."**
**Гутарка з Уладзімірам Гніламёдавым**

Калі табе дрэнна ў жыцці,
І ў сэрцы пануе трывога,
Старайся прычыну знайсці
І ўспомніць пра Бога.

Калі ты астаўся адзін
І трэба табе дапамога,
Хоць пару маленькіх хвілін
Успомні пра Бога.

Протаіерэй Іаан Міцько



# ПОЛЫМЯ

**12**

**(938)**

**2007**

**снежань**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2007**

# ЗМЕСТ


3 **Часопіс «Полымя» — этапы творчага станаўлення.** «Круглы стол» у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі.

22 **Тамара КРУЧЭНКА. «Затрымаюся ў леце...»** Вершы.

25 **Юры СТАНКЕВІЧ. Тры апавяданні.**

45 **Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ. «Непазбежна высокае неба...»** Вершы.

49 **Казімір КАМЕЙША. Паміж кубкам і вуснамі.**

85 **Рагнед МАЛАХОЎСКІ. Песня Ача. ***Дзе рачулка Нарачанка дрэмле... Натхненне. Расчараванне. Кахання радок. ***Тлее горад начнымі агнямі... Эскорт імгненняў. ***Гараць забытых летапісаў скруткі... Шчасце паасобку. ***Я быў закаханы... ***Калі душа ператвараецца ў анёла... ***Сыходзяць зімовыя мары...** Вершы.

90 **Іван КАПЫЛОВІЧ. Чорная паласа.** Апавяданне.

107 **Вячаслаў АР-СЯРГІ. Расставанне. Унізе. «Юнона і Авось». Акварэль. Лабірынт. Боль. Антонімы зімы. Мядзведжае заляцанне.** Пераклад з удмурцкай В. Гардзея. Вершы.

113 **Пятро САБІНА. Спажывайце, калі ласка.**

127 **Анатоль МЯСНІКОЎ. «Нас ведала грамадства, цаніла дзяржава...»**

133 **Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ: «Я заўсёды іду ад факта...»**

149 **Алесь БЕЛЬСКІ. Неадлучная ад традыцыі.**

166 **Тамара АЎСЯННІКАВА. «Я пісала табе пісьмо...»**

178 **Рыма СТАХОВІЧ-ЛАРЧАНКА. Букет лясных красак.**

183 **Васіль МАКАРЭВІЧ. Малітва роднаму краю...**

189 **Браніслаў ЗУБКОЎСКІ. Прыстанак — Свіслач.**

196 **Алена Корда. Доктар па прозвішчы Марутка.**

198 **Антон ПРЫЦЭЛ. Крык у лесе. Сіло кахання. Хто на што здатны.** Літ. пародыі.

199 **Метрыка літаратурная.**

204 **Змест часопіса за 2007 год.**





**ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# ЧАСОПІС «ПОЛЫМЯ» — ЭТАПЫ ТВОРЧАГА СТАНАЎЛЕННЯ

***(«Круглы стол» у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі)***



**Бліжэйшыя супрацоўнікі часопіса «Полымя»**

*Зверху стаяць (злева направа), першы рад:* Аляксандр Цвікевіч, М. Грамыка, М. Шульман, Б. Быхоўскі, Міхась Зарэцкі, П. Арэшнікаў, Алесь Гурло, І. Герчыкаў; *другі рад:* Яз. Дыла (Н. БыВаеўскі), М. Байкоў, Л. Каган, А. Шлюбскі, Іван Цвікевіч, Зм. Бядуля (Ясакар), У. Дзяржынскі, М. Мялешка; *трэці рад (сядзяць):* Яз. Лёсік, Якуб Колас (Тарас Гушча), праф. Ус. Ігнатоўскі, Цішка Гартны (Зм. Жылуновіч), Янка Купала, А. Баліцкі, праф. С. Вальфсон, праф. М. Грэдынгер; *чацвёрты рад:* Паўлюк Трус, Іл. Барашка, А. Александровіч, Ан. Вольны, Ніч. Чарнушэвіч, Янка Марук.

*Здымак змешчаны ў часопісе «Полымя», 1926, № 8.*

*З уступным словам перад удзельнікамі «круглага стала» выступіў* ***паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікалай Міхайлавіч МЯТЛІЦКІ.***



У нас усталявалася добрая традыцыя абмяркоўваць самыя злабадзённыя праблемы сучаснасці з нашымі вядомымі навукоўцамі. Мы сабраліся сёння ў Інстытуце гісторыі, каб згадаць тое, што адбылося ў творчым жыцці часопіса «Полымя» за 85 год, апынуцца ў той атмасферы, у якой ствараўся наш часопіс у далёкіх 20-х гадах мінулага стагоддзя. Пошук ісціны, пошук усталявання традыцыі — гэта тое, што надае сіл творчаму калектыву, які сёння стварае часопіс «Полымя».

Азіраючы 20-я гады мінулага стагоддзя, аналізуючы поступ віхурнага часу, усё болей пагаджаешся з думкай, што гісторыя «Полымя» — гэта само жыццё народа, які пракладваў гістарычны шлях да сваёй дзяржаўнасці, прагнуў духоўнага азарэння, свайго полымя. Сімвалічна тое, што менавіта ў снежні, калі сама прырода парошамі высцілае некрануты белавік зямлі, маладая літаратура пачула прыліў новых сіл і старонкамі нованароджанага часопіса высцілаўся яе шлях у будучыню. Дзесяткі апантаных людзей натхнёна і шчыра, з фантастычнай верай у пафас пераломнага часу рынуліся ствараць духоўную біяграфію народа.

Мы ведаем, што ля вытокаў нашага часопіса стаялі Янка Купала і Якуб Колас. Сёлета, у юбілейны год, год 125-х угодкаў з дня нараджэння нашых класікаў, асабліва варта падкрэсліць гэта, таму што майстэрству слова Коласа і Купалы багата належыць у гісторыі нашага выдання. Ужо тады ў адной з маладнякоўскіх рэцэнзій 1927 года адзначалася, што даўно «Полымя» перамагло ўсе перашкоды і стала галоўным рэгулярным часопісам беларускай культуры і палітыкі. Многія стваральнікі «Полымя», тыя, хто рыхтаваў да выхаду ў свет яго першыя нумары, і тыя, хто ў бессані начэй, чуючы жывы пульс нацыянальнага адраджэння, напісаў для часопіса таленавітую публіцыстыку, паэзію і прозу, маладымі жыццямі паплаціліся за свой рамантычны парыў. Бо рабіў першыя абароты махавік касцяломных рэпрэсій. Пайменна вядомы трагічны лёс ледзь не ўсяго складу першай рэдкалегіі часопіса: Цішка Гартны, Міхась Чарот, Усевалад Ігнатоўскі… Асабліва ахвярным, страшным для інтэлігенцыі Беларусі стаў 30-ы год, калі па сфабрыкаванай справе Саюза Вызвалення Беларусі было арыштавана 108 чалавек. Сярод іх акадэмікі Беларускай акадэміі навук Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Сцяпан Некрашэвіч, Гаўрыла Гарэцкі, прафесары Аркадзь Смоліч, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, пісьменнікі Максім Гарэцкі, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Адам Бабарэка, Язэп Дыла, Міхайла Грамыка, Алесь Гурло і іншыя. Многія аўтары маладога «Полымя» абвінавачваліся ў тым, што ажыццяўлялі арганізаванае шкодніцтва на культурным, ідэалагічным і іншых участках дзяржаўнага будаўніцтва, праводзілі антысавецкую агітацыю, накіраваную на запаволенне тэмпаў развіцця Беларусі па сацыялістычным шляху, ставячы канчатковай мэтай аддзяленне Беларусі ад Савецкага Саюза, стварэнне так званай Беларускай Народнай Рэспублікі. Трагічна склаўся лёс і першага афіцыйна прызначанага рэдактара, вядомага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, празаіка Платона Галавача. Прызначаючы дзяржаўніка на гэтую пасаду, ідэалагічныя службы як бы ўзмацнялі над часопісам неадступны кантроль, які выявіўся нават у тым, што часопіс з 1932 года пачаў называцца «Полымя рэвалюцыі».

Можна весці і далейшы пералік трагічных і сумных момантаў існавання нашага часопіса, але і ў гэтыя гістарычныя перыяды часопіс выстаяў, годна працуючы на беларускую ідэю. На яго старонках друкавалі свае творы і многія новыя аўтары. Скажам, у гэты час, у 30-я гады, у «Полымі» былі змешчаны ледзь не ўсе творы Кузьмы Чорнага.

Мы, гартаючы творчую біяграфію нашага выдання, звярнулі ўвагу яшчэ на адзін факт. Выхад часопіса «Полымя» прыпыніўся ў час Вялікай Айчыннай вайны. Але 1 студзеня 1945 года распараджэннем Савета Міністраў часопіс выходзіць тыражом пяць тысяч экземпляраў. Я ўяўляю, на якія руіны, на якія пажарышчы гэты часопіс ішоў. Але была патрэба ў духоўнасці, была патрэба ў адраджэнні жыцця, і часопіс выходзіў.

А сённяшні тыраж значна меншы, ён складае тры з паловай тысячы. На руіны бездухоўнасці мы не можам дайсці нават такім тыражом. Але трэба памятаць: калі адступае праўда, калі адступае мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці, у грамадстве пачынаюцца вялікія праблемы.

Сённяшні часопіс — гэта люстэрка жыцця не толькі нашай літаратуры і сучаснага беларускага грамадства наогул. Мы звярнуліся да многіх новых рубрык. Напрыклад, адрадзілі забытую, і я лічу, што дарэмна забытую, рубрыку «Беларуская навука». Гэтая рубрыка ў 60-я і 70-я гады была вельмі актуальнай у часопісе «Полымя». Сапраўды, у той час многія сацыяльныя, грамадскія праблемы вельмі ярка адлюстроўваліся ў публіцыстыцы.

Ведаючы ўзровень нашай навукі, пазнаёміўшыся з многімі навукоўцамі, можна сказаць — за нашай айчыннай навукай не толькі заўтрашні, але ўжо сённяшні дзень, бо мы жывём у цывілізаваным свеце, свеце, які рухаецца па шляху прагрэсу. Таму часопіс «Полымя» дае магчымасць выступаць нашым вучоным, расказваць пра адкрыцці, пра навуковыя калектывы. У свой час мы правялі «круглы стол» з Інстытутам гісторыі, прысвечаны Вялікай Перамозе. Такі ж «круглы стол» мы правялі з Інстытутам літаратуры і з Інстытутам мовазнаўства. Ад імя часопіса я хацеў бы выказаць думку ў абарону дзвюх гэтых навуковых устаноў. З'яўляюцца прапановы наконт іх зліцця. Паверце, у пісьменніцкай грамадскасці гэта ўспрымаецца адназначна адмоўна. Мы лічым: нельга рабіць сіямскіх блізнятаў з іменаў Коласа і Купалы. Яны пачэсна занялі ў свядомасці народа свае вялікія нішы. Абодвум ім належыць літаратура і мова, бо іх творчасць вельмі яскравая, адметная. Думаю, традыцыі Купалы і Коласа вечныя ў нашай літаратуры. Часопіс «Полымя» і сёння абапіраецца на іх. Мы вучым маладых любіць Бацькаўшчыну так, як любілі яе папярэднікі. І вельмі радуе тое, што сёння ў «Полымя» прыходзяць нават вучні школ, нашы дэбютанты. Напрыклад, летась мы надрукавалі цудоўныя вершы дзевяцікласніка, сённяшняга дзесяцікласніка 169-й мінскай школы Паўла Барахвостава. У нас друкуюцца студэнты Рагнед Малахоўскі і Юля Новік. Гэта даводзіць, што літаратура жыве і будзе жыць і ў нашым стагоддзі.

Сёння мы сабраліся за гэтым сталом, каб у шчырай, даверлівай атмасферы акунуцца ў тыя гады, калі асабліва нялёгка было на пачатку дарогі часопісу «Полымя». Ад гісторыкаў, ад даследчыкаў нашай літаратуры хацелася б пачуць меркаванні пра творчы поступ нашага часопіса, бо гісторыя заўсёды працуе на сучаснасць.

Мы, супрацоўнікі часопіса «Полымя» і калектыў нашых аўтараў, імкнёмся годна несці традыцыі часопіса, традыцыі нашай літаратуры. У рубрыцы «Наш край» мы расказваем пра лёс многіх беларускіх паселішчаў, і тут мы зноў спадзяёмся на супрацоўніцтва з Інстытутам гісторыі. Вядома, што сёння ў вас распрацоўваецца праект па малых гарадах. Мы працуем разам з Акадэміяй па праекце нашай аграрнай навукі, расказваем пра сучасную беларускую вёску, пра арганізацыю аграгарадкоў. Гэты праект таксама будзе працягвацца і ў выніку, магчыма, выльецца ў цікавую змястоўную кнігу.

Мы не забываем і тых людзей, якія сталі сапраўднымі легендамі ўжо мінулага, XX стагоддзя, расказваем пра іх, а таксама адкрываем новыя ракурсы іх творчасці, малавядомыя старонкі жыцця. Сёння ёсць што сказаць нашым аўтарам і ў галіне крытыкі, літаратуразнаўства. Выходзяць новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў, з гонарам магу зазначыць, што за гады існавання «Полымя» большасць твораў, якія сёння займаюць свае месца ў школьных хрэстаматыях, упершыню ўбачылі свет на старонках нашага выдання. Гэта і творы нашых народных пісь-

меннікаў — Васіля Быкава і Янкі Брыля, Івана Шамякіна і Івана Мележа, Івана Чыгрынава і Івана Навуменкі, а таксама творы выдатных паэтаў Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Петруся Броўкі і многіх іншых.

Сёння, калі чуюцца галасы аб тым, што беларуская літаратура неяк звузіла свае інтарэсы, я магу запярэчыць, што гэта не так. Магчыма, наша літаратура нават больш прызнаная ў свеце, чым дома. Я перакананы, толькі сваім, нацыянальна адметным, мы будзем цікавыя свету. У свеце ёсць усё, няма толькі нашага, беларускага. І калі мы сёння не дададзім гэтага, мы якраз страцім тое, што літаратура набыла. Узгадаем і моцную антываенную тэматыку нашай літаратуры. Сапраўды, творы пісьменнікаў-франтавікоў, былых партызан і пісьменнікаў — дзяцей вайны — якраз падняла нашу літаратуру да таго ўзроўню, якім мы сёння ганарымся. Васіль Быкаў з'яўляўся сем гадоў запар самым чытаемым пісьменнікам свету, і калі сёння ў шэрагу літаратурных выданняў гучаць сумніўныя думкі, што гэтага як бы не было, у нас ёсць што супрацьпаставіць апанентам і расказаць, як яно ёсць.

Працуючы над нашым рэдакцыйным партфелем на наступны год, мы гаворым, што ёсць творы, якія заўтра парадуюць чытача. Да нас трапіў вельмі цікавы гістарычны здымак. Сярод іншых на ім — уся першая рэдкалегія часопіса «Полымя». Гэта здымак 20-х гадоў, яго прывёз з Латвіі Сяргей Панізнік, знайшоўшы там у архівах. На здымку і Купала, і Колас, і Цішка Гартны, і вельмі маладыя іншыя нашы літаратары, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы.

*Лёс часопіса «Полымя» цесна знітаваны з лёсам Беларусі з 20-х гадоў XX стагоддзя. Часопіс «Полымя» вачамі гісторыка прадставіў* ***доктар гістарычных навук, прафесар дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Аляксандравіч КАВАЛЕНЯ.***



Юбілей часопіса не можа адзначацца без глыбокага гістарычнага экскурсу. Усе, хто прысутнічае сёння на нашым «круглым стале», маюць дачыненне да нашага выдатнага, сапраўды нацыянальнага часопіса, які шмат зрабіў для захавання нашай гісторыка-культурнай спадчыны, нашай мовы, традыцый, звычаяў і, нарэшце, для развіцця беларускай літаратуры. Часопіс «Полымя» знаходзіцца сёння на пад'ёме.

Мы гаворым пра цэлую эпоху. Той прамежак часу, у якім існуе ў беларускім грамадстве часопіс «Полымя», дае нам магчымасць так гаварыць. На працягу гэтай эпохі часопіс перажываў і ўздымы, і перыяды цяжкія як для самога выдання, так і для беларускай культуры ў цэлым. Ён стаў сведкам грамадскіх змен, таму з'яўляецца важнай гістарычнай крыніцай. «Полымя» заўсёды заставалася з народам, разам з ім перажывала ўсе складаныя, супярэчлівыя часы, якія выпалі на долю Беларусі.

Нараджэнне часопіса было невыпадковым, бо пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, у пачатку 20-х гадоў, адбываўся сапраўдны нацыянальны рэнесанс. Гэта быў час актыўнага фарміравання нацыянальнай інтэлігенцыі, час сапраўднага росквіту мовы. Тады нарадзіўся шэраг літаратурных гурткоў, якія сталі трывалым падмуркам для развіцця нацыянальнай літаратуры. Штуршком для гэтых працэсаў, безумоўна, стала пастанова аб ліквідацыі непісьменнасці.

Аднак стаўленне і кіраўніцтва, і пэўнай часткі інтэлігенцыі да беларускай мовы было неадназначным — і ў 20-я гады, і пазней, ужо ў 30-я. У пацвярджэнне гэтага я прывяду некалькі радкоў з дакумента, які датуецца 1938 годам. Першы сакратар ЦК П.К. Панамарэнка піша на імя Сталіна запіску «О белорусском языке, литературе и писателях».

Запіска гэтая разгорнутая, амаль на 10 старонках. Яна дае нам магчымасць уявіць тую эпоху, зразумець тыя перашкоды, якія даводзілася пераадольваць пісьменнікам, даследчыкам, усім энтузіястам беларушчыны.

«Сама мысль о сближении белорусского и русского языка была ужасной. Янка Купала пустил крылатое выражение «Пока жива мова — живет народ»».

І далей:

«Позволяю себе привести ряд примеров слов и оборотов, имеющихся сейчас в белорусской литературе: слово «подъём» связано с каким-то диким словом «уздым», «образование» — «адукацыя», «краски» — «фарбы», «борец» — «змагар»…»

Пасля ідзе пералік на цэлую старонку тых слоў, якія аўтару падаюцца непрымальнымі. Думаю, што, нягледзячы на многія перашкоды, у савецкі час, у гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі было зроблена шмат для развіцця нацыянальнай культуры і асабліва беларускай мовы. Вялікая заслуга ў гэтым належыць часопісу «Полымя», бо той прыклад, які я толькі што прывёў, сведчыць, што беларуская мова не заўсёды ўспрымалася адэкватна.

Але паглядзіце: калі ў 1928/29 навучальным годзе ў школах Беларусі вучылася прыкладна паўмільёна чалавек і было 5257 школ, то ў 1941 навучальным годзе, і гэта вядома дакладна, у Беларусі дзейнічала 12 294 школы, у якіх вучылася звыш 1 мільёна 737 тысяч дзяцей. Школы ў асноўным былі пачатковыя і сямігодкі. Дзесяцігодак у той час існавала мала.

Была распачата падрыхтоўка нацыянальных прафесійных кадраў. Значна пашырылася сетка сярэдніх спецыяльных устаноў. У 1940/41 навучальным годзе ў БССР налічвалася 128 тэхнікумаў, медыцынскіх, педагагічных, культурна-асветніцкіх і музычных вучылішчаў, у якіх займалася 35 тысяч навучэнцаў.

Вялікае развіццё атрымала сістэма вышэйшай адукацыі. У 25 вышэйшых навучальных установах займалася 21,5 тысячы студэнтаў. Па колькасці студэнтаў на 10 тысяч насельніцтва наша краіна (БССР) пераўзыходзіла Францыю, Германію, Англію, Італію. У рэспубліцы працавала 2,2 тысячы навуковых супрацоўнікаў.

Якая была прага да адукацыі ў нашай краіне! Гэта быў адукацыйны выбух. Зразумела, усё гэта не магло не паўплываць на тое, што адбывалася ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі.

Але, на жаль, і наша творчая інтэлігенцыя не заўсёды паказвала сябе найлепшым чынам. Сёння ў архівах выяўлены шэраг дакументаў, якія перадаюць пэўныя настроі таго часу. Адразу заўважу: калі мы будзем ацэньваць тую эпоху выключна па прадстаўленых сёння дакументах, мы рызыкуем абмаляваць яе суцэльным чорным колерам. Жыццё ішло, у ім было многа станоўчага. Людзі жылі, працавалі, спявалі. Пісьменнікі стваралі цудоўныя творы. Але нельга і адкідваць той бок жыцця нашага грамадства напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, які падаецца нам жахлівым, непрымальным. Скажам, не ўсе навуковыя і творчыя спрэчкі вырашаліся так, як павінны яны вырашацца між цывілізаванымі людзьмі. Часам новыя думкі выдаваліся за спробу дзяржаўнага перавароту, замах на ўладу. Гэта выкарыстоўвалася асобнымі прадстаўнікамі нашай інтэлігенцыі ў сваіх мэтах. Пайшлі даносы ў ЦК КПБ, у партыйныя органы і органы дзяржаўнай бяспекі.

Сёння мы ведаем: многія з тых, хто інфармаваў уладныя структуры, даносчыкі проста зводзілі ўласныя рахункі. А існуючая машына рэпрэсій дзейнічала, тыя даносы зрабіліся для яе прыдатнай глебай.

У 1956 годзе пасля XX з'езда, калі пачалася рэабілітацыя творчай інтэлігенцыі, шматлікія справы былі перагледжаны. Тады і высветлілася, якім чынам выбіваліся прызнанні ў многіх незаконна асуджаных. У якасці прыкладу прывяду адзін з дакументаў. Ён датуецца 3 мая 1956 года:

«Я, старший следователь след. отдела КГБ, капитан Кирченко, осмотрел материалы архивно-следственного отдела по обвинению Быховского Виктора Самуиловича 1909 года рождения…

Из материалов архивно-следственного отдела видно, что Быховский на предварительном судебном следствии полностью признал себя виновным в том, что, работая оперуполномоченным следственного отдела, а затем начальником отдела 4-го отделения УГБ НКВД БССР в 1937—38 годах, применял к отдельным арестованным физические меры воздействия, избивал их с целью получения от них показаний о контрреволюционной деятельности. Так, Быховский на предварительном следствии и в суде показал, что он избивал арестованных…»

Далей прыводзіцца спіс, які складаецца з дваццаці прозвішчаў.

«При этом Быховским применялись изощренные садистские методы, в результате которых арестованные, не выдержав издевательств, признавали себя виновными в совершении тяжких преступлений и давали показания на суде о якобы известных им преступниках. Такие методы применялись поголовно всеми следователями, в меньшей или большей степени, в центре и на периферии. Арестованных били также начальники отделов и сам нарком Берман».

Далей прыкладаецца цэлы спіс тых, хто прымаў удзел у злачынных дзеяннях супраць арыштаваных.

«А установки о поголовном избиении арестованных исходили от бывшего наркома внутренних дел Бермана и его заместителя Жаброва И. Н.».

Гэты дакумент сведчыць аб тым, якім чынам здабываліся паказанні. Многія матэрыялы да гэтага часу засакрэчаны, але яны захоўваюцца. Сярод іншых маюцца і матэрыялы аб следствах над супрацоўнікамі былой рэдкалегіі «Полымя».

Сёння такая інфармацыя здаецца нам жахлівай. Але ў тыя часы, у 37—39 гадах, людзі жылі ў той сістэме каардынат, якая існавала ў дзяржаве. Зразумела, пра многае яны нават не здагадваліся. Нам цяжка сёння судзіць, ды і не для таго мы сёння сабраліся тут. Галоўнае, прааналізаваць агульны фон, на якім ствараўся, рос часопіс «Полымя». А той фон быў вельмі супярэчлівы. З аднаго боку, сапраўды знаходзіліся тыя, хто сваімі даносамі аддаваў людзей на катаванні і смерць. І сярод прадстаўнікоў інтэлігенцыі былі такія. З другога боку, многія людзі жылі высокай ідэяй нацыянальнага адраджэння, станаўлення нашых нацыянальных прыярытэтаў.

Ахвяры, якія былі прынесены, цяжкія. Беларускае грамадства развіваецца, сёння наша творчая інтэлігенцыя мае магчымасць свабодна і без аглядкі выказваць свае думкі.

***Мікола Мятліцкі***

Сапраўды, гэты час пакідае трывожны адбітак у душы кожнага, але гэта наш падмурак. Папярэднікі выстаялі дзеля нас. Канешне, яны мроілі пра гэты час, задумваліся, кім будзем мы. Рэдакцыя часопіса «Полымя» абапіраецца на тое лепшае, што засталося нам у спадчыну, на працу ўсіх тых рэдактараў, якія былі на працягу існавання часопіса. Традыцыі, пакінутыя нам, вельмі трывалыя. Скажам, у часы Міхася Лынькова, які быў галоўным рэдактарам «Полымя» да вайны, часопісу ўдалося прайсці праз усе тыя перашкоды і абнародаваць вялікія творы, здзейсніць самае галоўнае — станаўленне беларускай літаратуры, развіццё нашага прыгожага пісьменства.

Немагчыма не ўзгадаць і нашага пасляваеннага галоўнага рэдактара — Максіма Танка, які ўзначальваў часопіс васемнаццаць гадоў. У той час абсягі часопіса значна пашырыліся. У беларускай літаратуры быў канчаткова сцверджаны і заняў сваё пачэснае месца жанр рамана. Успомнім 60-я гады, калі назіраўся сапраўдны раманны бум. І гэты падмурак мы павінны сёння захаваць, а таксама, бясспрэчна, забяспечыць трывалае развіццё нашай літаратуры.

*Матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь займаюць усё большае месца на старонках «Полымя». Ды і гісторыя самога часопіса ілюструецца шматлікімі дакументамі, якія захоўваюцца ў гэтым архіве. Перад удзельнікамі*

*«круглага стала» выступіў* ***кандыдат гістарычных навук дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Дзмітрыевіч СЕЛЯМЕНЕЎ.***



Нацыянальны архіў — адзін з вядучых архіваў рэспублікі. У нас захоўваюцца дакументы савецкай эпохі, той эпохі, на якую прыходзіцца асноўны перыяд дзейнасці часопіса «Полымя».

Як вядома, культурнае жыццё Савецкага Саюза рэгулявалася Цэнтральным Камітэтам Камуністычнай партыі, таму ў архіве, дзе захоўваюцца партыйныя дакументы, нямала ёсць і матэрыялаў, што тычацца культуры, у прыватнасці, і часопіса «Полымя». Дарэчы, фонд, дзе захоўваюцца дакументы ЦК, асабліва даваеннай пары, надзвычай цікавы, і ён добра захаваўся. У гады вайны архіў значна пацярпеў, але партыйны архіў быў вывезены на час баявых дзеянняў. У ім вельмі шырока адлюстраваныя менавіта 30-я гады, супярэчлівы, складаны час.

Варта адзначыць, што нашы фонды адкрыты, мы даём магчымасць пазнаёміцца з дакументамі, якія захоўваюцца ў нас. Такім чынам, праблемы закрытасці, засакрэчанасці матэрыялаў у нашага архіва сёння не існуе.

Акрамя захоўвання дакументаў, мы займаемся і публікацыйнай дзейнасцю. Нашы матэрыялы мы імкнёмся ўводзіць у навуковы абарот, выдаючы зборнікі дакументаў. У сувязі з гэтым варта ўзгадаць Уладзіміра Пятровіча Платонава, які быў ініцыятарам шэрага публікацый аб палітыцы партыі, аб пытаннях тагачаснай ідэалагічнай працы і культурнага жыцця. Тыя публікацыі, а сёння яны ўжо зрабіліся бібліяграфічнай рэдкасцю, адкрылі многія невядомыя старонкі культурнага жыцця даваеннай Беларусі.

*Сённяшні дзень часопіса «Полымя» — не толькі зварот да гісторыі, прапаганда лепшых твораў айчыннага прыгожага пісьменства, належнае месца займае на яго старонках і сучасная навука.* ***Акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар эканамічных навук, прафесар дырэктар Інстытута эканомікі НАН Беларусі акадэмік Пётр Георгіевіч НІКІЦЕНКА*** *прысвяціў сваё слова сучаснаму этапу развіцця беларускай гуманітарнай навукі, развіццю культурнай сферы ў рамках сучаснага грамадства.*



Трэба адзначыць агульны мінус многіх сённяшніх выданняў. Так, вельмі важна звяртацца да спадчыны, адкрываць новыя старонкі архіўных спраў, глыбей вывучаць гісторыю, але варта таксама звяртацца да тэм сённяшняга дня.

Друк павінен асвятляць тое новае, што можа прынесці грамадству карысць. Рубрыка «Навука» вельмі патрэбная і часопісу, і навукоўцам. Калі аднаўлялася гэтая рубрыка, папулярная яшчэ з 60-х гадоў, я першы адгукнуўся на просьбу часопіса менавіта таму, што лічу вельмі важным адлюстроўваць у часопісе сам дух сённяшняга дня. «Полымя» ідзе поруч з грамадствам, развіваецца разам з грамадствам на працягу 85 гадоў. І на дадзеным этапе развіцця асабліва важна перадаць дух сённяшняга і заўтрашняга дня, бо навука развіваецца надзвычай хутка. Хутка развіваецца і эканоміка, яна набывае новыя напрамкі, узбагачаецца сучаснымі здабыткамі.

У сённяшнім грамадстве існуюць вельмі вострыя праблемы, і яны павінны быць адлюстраваны, прааналізаваны, бо нам неабходна вырашаць іх. У першую чаргу гэта праблема творчай асобы, асобы, скіраванай на пазітыўнае стварэнне.

І праблема эканомікі, якая і сёння застаецца далёкай ад прынцыпаў гуманнасці. Яна будуецца на старой метадалогіі, якая даўно аджыла сваё. Яшчэ нашы класікі сцвярджалі, што зусім іншы кірунак павінен быць у эканоміцы, яна павінна арыентавацца на духоўнасць, на патрэбы чалавека, прычым далёка не толькі матэрыяльныя.

Эканоміка — гэта не сляпая гонка за прыбыткам! На шматлікіх канферэнцыях і ў сваіх публікацыях я спрабую давесці гэтую думку. Успрымаецца яна сёння вельмі няпроста. А між тым падыход павінен быць удумлівым, у многім — філасофскім. Каб будаваць будучыню, мы павінны асэнсоўваць той шлях, якім ішло грамадства. Улічваць развіццё не толькі нашай краіны, але вопыт усяго чалавецтва.

Беларускае грамадства павінна будавацца на агульначалавечых прынцыпах, на тых карысных здабытках, якія выпрацаваны гістарычна, адшліфаваны самім жыццём.

Агульначалавечыя каштоўнасці, якімі прасякнута наша нацыянальная культура, павінны і ў далейшым узвышаць яе, замацоўваць статус беларускай мовы, актуалізаваць яе. Беларуская гуманітарная навука развіваецца якраз праз выданні, у прыватнасці, праз часопіс «Полымя». Напрацоўкі ў гуманітарных галінах не павінны быць закрытымі. Для прыняцця адэкватных рашэнняў трэба прыцягваць творчыя сілы, новыя жывыя ідэі.

Запазычваць чужы вопыт, не прыстасаваны для нашых умоў, — бессэнсоўна. Ніхто не вырашыць нашых праблем, ні амерыканцы, ні французы, ні японцы. Гэта пад сілу толькі нам самім. Сёння надзвычай важна ўсведамляць, што дух беларускасці павінен працінаць не толькі культурнае жыццё грамадства, але і гаспадарчыя механізмы, і механізмы ацэначныя.

Таму мы вітаем выхад «Полымя» на навейшую гісторыю, зварот да аналізу тых методык, якія сёння толькі фарміруюцца. У дадзеным накірунку адкрываюцца вялікія перспектывы. Сапраўды, ёсць што асвятляць і абмяркоўваць.

Наогул, сродкі масавай інфармацыі павінны ўсведамляць сваю ролю ў фарміраванні грамадскай думкі і прыярытэтаў. Мала проста захапляцца нашай культурай, прапагандаваць гісторыю, варта рабіць нешта канструктыўнае сёння і асвятляць тое, як працуе наша грамадства, усведамляючы, што працуем мы на заўтрашні дзень.

Мы надта літаральна разумеем заклік Янкі Купалы «людзьмі звацца». І мы завёмся. Але, відаць, трэба ісці далей. Проста «звацца людзьмі» нам сёння мала. Калі ўжо казаць пра гісторыю, трэба закрануць і яшчэ адно пытанне, якое ўжо ўзнялі папярэднія выступоўцы. Бывае з цягам часу, калі мяняюцца сацыяльныя ўстаноўкі, чалавек пачынае апраўдвацца, абгрунтоўваючы свае непрыгожыя дзеянні тым, што тады быў такі рэжым, такія абставіны, такі час. Але іншыя ў той жа сістэме так сябе не паводзілі! Таму не варта апраўдваць свае паводзіны часам і той сістэмай, якая панавала ці пануе. Трэба заўсёды быць чалавекам. Не проста «звацца», а быць.

Яшчэ адзін момант, які часта сустракаецца сёння ў сродках масавай інфармацыі, — захапленне замежным. Кожны беларус павінен ганарыцца тым, што ён беларус, сваімі землякамі ганарыцца, іх дасягненнямі, тым лепшым, што ёсць на нашай зямлі, а таксама тым новым, што на ёй з'яўляецца. Дайшло да таго, што сёння мы баімся самі ўвесці новае паняцце, нават калі гэта неабходна, калі без яго не абысціся. У дадзены момант мы займаемся распрацоўкай праграмы інавацыйнай дзейнасці, а рухавік гуманітарнай навукі — якраз новыя паняцці. Але пры сутыкненні з імі чыноўнік пытаецца: «А дзе гэта ёсць?» Як жа «дзе ёсць»? Гэта ж новае паняцце. Часта адказам бывае: «А калі нідзе няма, і мы ўводзіць не будзем».

Гэты ген другаснасці сядзіць у нас вельмі глыбока. Мы ўсведамляем неабходнасць развіцця руху, а ён перашкаджае. З гэтым генам другаснасці не можа быць ні развіцця культуры, ні эканомікі і іншых навук. Яго трэба выпальваць з дапамогай полымя. І роля часопіса «Полымя» ў дадзеным выпадку закладзена ў самой яго назве.

Сёння з нагоды юбілею гэтага беларускага, глыбока ўкаранёнага ў нашу культуру выдання, я хацеў бы пажадаць, каб часопіс быў сапраўды інавацыйны па духу, канструктыўны, актуальны. Ён павінен стаць прыкладам для нашых сродкаў масавай інфармацыі, якім пакуль што многага не хапае. На жаль, не лепшым чынам выглядае «крытыканства», прынятае ў некаторых сучасных выданнях. Гэтая суцэльная незадаволенасць, адсутнасць канструктыўных прапаноў — самы танны прыём прадэманстраваць сябе.

На дадзены момант асноўная задача — выхад на навейшую гісторыю, стварэнне сучаснай нацыянальнай ідэі, якая, на жаль, пакуль у нас не прапісваецца. Гэта павінна быць ідэя, выпрацаваная нашымі класікамі, роднасная заклiку Купалы «людзьмі звацца». Але гэты заклік пара разумець шырэй. Час дзейнічаць, прымаць рашэнні, браць на сябе адказнасць, і — не баяцца. Гэта галоўнае — не баяцца, не дзейнічаць з аглядкай на некага. Гісторыя дае нам магчымасць самім аналізаваць і рабіць высновы.

Спорт, культура, турызм, літаратура і мастацтва робяцца ўсё больш значнымі ў эканамічных адносінах, асабліва ў інавацыйнай сістэме.

Наша мастацтва даўно прызнана сусветнай грамадскасцю. У нас Марк Шагал, у нас Казімір Малевіч, іншыя выдатныя дзеячы мастацтва. Наша літаратура займае сваё пачэснае месца сярод сусветных літаратур яшчэ з савецкіх часоў. Мы проста абавязаны карыстацца тымі здабыткамі, якія ў нас ёсць.

Вось яшчэ прыклад: у нашым Нацыянальным тэхнічным універсітэце адкрылася аддзяленне прамысловага дызайну. Толькі нядаўна адкрылі, а менавіта наш не распрацаваны дызайн адштурхоўвае ад беларускіх тавараў замежнага пакупніка, і цягнецца гэта доўгі час. Шведы нам кажуць, што наша прадукцыя ім патрэбна, але дызайн яе павінен адпавядаць менталітэту і запатрабаванням шведаў. Вось ілюстрацыя таго, як неразрыўна знітаваны мастацтва, крэатыўнасць і эканоміка.

Часопіс «Полымя» мае вельмі багатыя і надзвычай запатрабаваныя сёння напрацоўкі. У першую чаргу — гэта ўменне паказаць першаснасць творчай асобы. Творчая асоба, якая працуе на карысць грамадству, павінна адпаведна высока ацэньвацца, мець падтрымку, ведаць, што праца не застаецца незаўважанай. Бо сёння стаўленне да творчага чалавека неадпаведнае. Мы можам пачуць выказванні аб тым, што культура і навука знаходзяцца на ўтрыманні нашых падаткаплацельшчыкаў. Навука — першасная сіла ў развіцці тэхналогій, вытворчасці, як жа яна можа быць на ўтрыманні? Тут вельмі важна размяжоўваць, не блытаць катэгорыі. Тыя сферы, якія не выпрацоўваюць нейкі канчатковы матэрыяльны прадукт, не знаходзяцца па-за межамі эканомікі.

*У гады Вялікай Айчыннай вайны часопіс «Полымя» не выходзіў, але ваенная тэма была вельмі шырока прадстаўлена яго на старонках ва ўсе пасляваенныя гады.* ***Кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Уладзімір Іванавіч КУЗЬМЕНКА*** *звярнуўся да тэмы лёсаў беларускіх літаратараў у часы Вялікай Айчыннай вайны.*



**Х**ацелася б засярodзіць увагу яшчэ на адной тэме — часопіс «Полымя» і Вялікая Айчынная вайна. Зразумела, што аўтары часопіса былі цесна звязаны з ваеннай праблематыкай. Многія з іх прайшлі праз вайну.

Даследаванню гэтага перыяду культурнага развіцця нашага грамадства прысвечана кніга, выдадзеная Інстытутам гісторыі НАН Беларусі, «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны. Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства». У ёй ёсць вялікі раздзел «Культура Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў адлюстраванні

публікацый». Прагартаўшы гэтыя старонкі, мы заўважаем вялікую колькасць публікацый часопіса «Полымя». Публікацыі самыя розныя, з аднаго боку — артыкулы 40-х гадоў, вытрыманыя ў настроі таго часу, з другога боку — публікацыі 90-х, якія выяўляюць праблемы тагачаснага стану беларускай культуры ў зусім іншым ракурсе.

Калі ж разглядаць сам ваенны час, то, як мы ведаем, часопіс «Полымя» часова прыпыніў сваё існаванне і зноў пачаў выходзіць толькі ў 1945 годзе. Але гэта не значыць, што людзі, якія актыўна працавалі ў часопісе перад вайной, не праяўлялі сябе ў час вымушанага перапынку ў рабоце «Полымя».

Я выдаў некалькі манаграфій, прысвечаных тэме «Беларуская інтэлігенцыя і Вялікая Айчынная вайна». Матэрыялы самага рознага кшталту трапляліся мне ў рукі.

Напрыклад, Міхась Лынькоў, які з 1933 па 1941 год займаў пасаду галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». Пачалася вайна, і Міхась Лынькоў удзельнічаў у прапагандысцкай рабоце, а з ліпеня 1941 года, калі пачынае выходзіць франтавая газета «За Савецкую Беларусь», становіцца яе галоўным рэдактарам. У чым быў сэнс працы рэдакцыі гэтай газеты, добра бачна з ліста Міхася Лынькова Коласу. Ён датуецца кастрычнікам 1941 года і напісаны на рускай мове. Справа ў тым, што лісты, напісаныя па-беларуску, больш павольна ішлі да адрасата, бо працавала ваенная цэнзура, а лісты на рускай мове даходзілі хутчэй.

«Работаем мы изо всех сил, стараемся как можем хотя бы нашим словом помогать бойцам, помогать нашим партизанам бить коричневую нечисть».

Так, супрацоўнікі часопіса найперш імкнуліся дапамагчы франтавікам публіцыстычным словам, па-мастацку выкрыць нялюдскую сутнасць гітлерызму, нацызму. Ёсць вельмі красамоўныя лічбы. Той жа Міхась Лынькоў за ваенны час у розных выданнях, і франтавых, і савецкага тылу, выдаў артыкулаў і нарысаў звыш 100. Пры гэтым з 1943 года ён прызначаецца дырэктарам Інстытута літаратуры Акадэміі навук, але працягвае пісаць і друкавацца. Не менш артыкулаў за азначаны перыяд з'яўляецца і ў Якуба Коласа. Тое ж можна сказаць і ў дачыненні да Кузьмы Чорнага. Янка Купала таксама друкаваўся вельмі многа. Яго публіцыстыка, яго паэтычныя творы з'яўляліся ў перыядычных выданнях, выходзілі ў адноўленым у Маскве Дзяржаўным выдавецтве БССР, выпускаліся лістоўкамі па сотні тысяч экземпляраў. Тыя лістоўкі дастаўляліся ў акупіраваную Беларусь. У гэтым жа шэрагу можна назваць многіх іншых беларускіх літаратараў, якія ў даваенны час плённа супрацоўнічалі з часопісам «Полымя».

Калі не браць Аркадзя Куляшова, які выдзяляецца надзвычай яркім творчым узлётам у гэты час, публіцыстыка стала асноўным заняткам пісьменнікаў. На яе былі пакладзены ўсе сілы, таму ў беларускіх майстроў слова не было вялікіх творчых дасягненняў у названы перыяд. Чаму так атрымалася, тлумачаць нам матэрыялы пленума Саюза пісьменнікаў СССР, які адбыўся ў снежні 1945 года. Вось вытрымка з гэтага дакумента:

«От писателя требовалась тогда газетная скорость и оперативность. В таких условиях трудно было работать над крупными, углубленными, по-философски осмысленными произведениями».

Такім чынам, публіцыстыка была галоўнай.

Нельга не закрануць і творчасць паэтаў-франтавікоў. Яркім прыкладам тут з'яўляюцца акопныя вершы Паўлюка Пранузы. Многія таленавітыя маладыя беларускія паэты, як вядома, загінулі на фронце.

Уразіла мяне асабліва справа Куляшова. «Сцяг брыгады» не вельмі прыязна быў прыняты ў пісьменніцкім асяроддзі, як пішуць самі літаратары. Пімен Панчанка прыязджаў з фронту ў Маскву, быў сведкам абмеркавання, бачыў адносіны да твора, і ў гэтай сувязі піша Гурскаму пасля таго, як ужо вярнуўся на фронт: «Сэрца маё цяпер вельмі спакойнае. Ледзь-ледзь не мудрае, а ў Маскве яно чамусьці шалее. У апошні прыезд у Маскву я яшчэ раз упэўніся, што нашы пісьменнікі думаюць толькі пра сябе. І людзі сярод іх ёсць разумныя, таленавітыя,

але нечага круцяць, хітрацць, ліцамерацць, а я, дурань, усё гэта прымаю да сэрца. Мне часамі было горка і балюча». Так пісаў Панчанка ў лютым 1943 года.

Відаць, карані такой сітуацыі ў 30-х гадах, пра якія мы сёння шмат гаварылі.

Ёсць яшчэ адна грань — дзейнасць пісьменнікаў на акупіраванай тэрыторыі. Гэта, канешне, маладыя савецкія літаратары, якія пайшлі ў партызаны і ў падполле: Засім, Брыль, Васілёк і іншыя. Але з другога боку — калабаранты, якія былі надзвычай папулярныя ў 90-я гады. Папулярныя настолькі, што ў часопісе «Полымя» ў тыя гады іх творы займалі вялікае месца.

Па гэтым вострым пытанні ёсць цікавая думка пісьменнікаў-франтавікоў, партызанаў, тых маладых літаратараў, якія змагаліся ў падполлі. У дадзенай спрэчцы яна здалася мне вельмі правільнай. Думка гэтая агучана ў 1999 годзе на старонках газеты «ЛіМ». Надрукаваны гэты артыкул на рускай мове. «В то время, когда мы в окопах сражались за Родину, они отсиживались в управах на оккупированной фашистами территории. Когда мы голодали в послевоенные годы, они хорошо себя чувствовали, работая в редакциях различных «голосов» или газет на Западе».

Тэматыка гэта складаная, і сёння існуе нямала спрэчак аб стаўленні да пісьменнікаў-калабарантаў, і раней спрэчак было не менш. Але, аналізуючы гістарычны шлях беларускай інтэлігенцыі, лёс часопіса «Полымя», мы не можам пакідаць па-за ўвагай трагічныя, неадназначныя старонкі.

Пра ваенны час можна гаварыць шмат, але я згодны з думкай, якая сёння ўжо не раз гучала, што на такой часавай адлегласці ад тых ці іншых падзей, важна ўбачыць пазітыўнае. Не разглядаць тую ці іншую эпоху аднабока, засяроджваючыся на адным ракурсе. Вялікі народны подзвіг, цярпенне і шчырая праца перамалолі ўсё. І менавіта за гэта нам варта трымацца.

*На працягу свайго існавання часопіс «Полымя» адлюстраваў тыя жанравастылёвыя пошукі, праз якія прайшла беларуская літаратура. Менавіта гэты ракурс у аналізе часопіса абраў тэмай для выступлення* ***акадэмік НАН Беларусі, пісьменнік Уладзімір Васільевіч ГНІЛАМЁДАЎ.***



Тая дата, якую сёлета святкуе «Полымя» — 85 гадоў, — дата рэдкая.

Выданне існуе з 1922 года, а значыць, яно перажыло вельмі і вельмі многія значныя падзеі для нашага народа. Уздымы Беларускай дзяржавы і складаныя, трагічныя для Радзімы часы. Калі мы выкарыстоўваем такія паняцці, як «літаратурны працэс», «гісторыя літаратуры», «развіццё літаратуры», усе яны выглядаюць абстрактна ў параўнанні з гісторыяй самога часопіса. У часопісе звычайна збіраецца самае лепшае, што выходзіць з-пад пяра нашых пісьменнікаў. Гісторыя часопіса «Полымя» — гэта гісторыя нашай літаратуры ў творах, у раманах, аповесцях, нарысах, апавяданнях, вершах, у надзённай публіцыстыцы. А ў апошнія гады публіцыстыка асабліва цікавая, насычаная. Яна адлюстроўвае сённяшні дзень нашай навукі, звязанай з вытворчасцю, з будаўніцтвам новых эканамічных, грамадскіх і чалавечых адносін.

І яшчэ, як мне здаецца, гісторыя «Полымя» — гэта гісторыя мастацкага развіцця нашай літаратуры. Гісторыя яе стылёвых пошукаў. 20-я гады вызначаюцца, асаблівай, адметнай стылістыкай. Пра Цішку Гартнага пішуць: «Цішка Гартны рве фразу. Стыль яго — рэвалюцыйны». Адметныя стылістычныя прыёмы былі знакам часу. Міхайла Грамыка ў тыя гады выступіў з паэмай «Гвалт над формай».

30-я гады ўяўляюць сабой уваход у новы стылёвы этап. У асноўным — эпічны, удумлівы, азначаны пошукамі ў галіне псіхалагізму. Яго можна назваць раманным этапам, і перабольшаннем такое азначэнне не будзе. Канешне, тут

вылучаюцца творы Кузьмы Чорнага, які быў вядомы і ў 20-я гады, але менавіта ў 30-я яго талент прымае новыя формы, аўтар мяняе сваё творчае аблічча, і ўсё ж інтэнсіўнасць яго пошукаў не толькі не змяншаецца, а нават нарастае. Тут жа з'яўляюцца і маладыя аўтары, цудоўныя навелісты.

Ці 40—50-я гады. «Полымя» адраджалася, як адраджалася і жыццё. Мы пачалі верыць у сацыялізм з чалавечым тварам, у чалавечую дабрыню, у лепшыя якасці савецкага чалавека і яго маральны кодэкс. І гэтыя гады найлепшым чынам адбіліся ў нашай літаратуры. Былі створаны такія раманы, як «Людзі на балоце», «Птушкі і гнёзды», «Сэрца на далоні» і іншыя. Гэтыя творы адлюстроўвалі лепшыя бакі жыцця, яны сапраўды выхавалі чалавека, надзеленага дабрынёй і высокімі маральнымі якасцямі.

Далей літаратура станавілася больш анталагічнай, быційнай, філасофскай. З'яўляюцца творы В. Быкава, А. Адамовіча, В. Казько, і з'яўляюцца яны менавіта на старонках «Полымя».

З надыходам перабудовы многае памянялася. Сёння мы ўжо можам ацэньваць яе з адлегласці часу. Гэта быў цяжкі этап, які таксама адлюстраваўся ў часопісе «Полымя». Перабудова ўяўляецца своеасаблівым прамежкам між тым, што было больш-менш ясным, зразумелым, традыцыйным, і момантам пэўнай разгубленасці. Той час быў няпростым для рэдакцыі, для самога выдання і для беларускай літаратуры.

Сама назва часопіса мянялася яшчэ на пачатку яго існавання. І гэта гісторыя таксама ў многім сімвалічная, бо ілюструе тое, як часопіс знітоўваў творцаў, групаваў вакол сябе лепшыя творчыя сілы. Разагналі ўсе літаратурныя аб'яднанні, сярод якіх была і арганізацыя «Полымя», і часопіс быў пры ёй. Калі ўтварыўся Саюз пісьменнікаў, часопісу далі новае імя «Полымя рэвалюцыі», каб усе аўтары маглі ў ім друкавацца, і «Полымя», і былыя «ўзвышаўцы», і «Звенья», і інш.

Я таксама падтрымліваю думку Пятра Георгіевіча Нікіценкі. На чым трымаецца час? Час трымаецца на чалавеку. Як расказаць пра нашага сучасніка, пра сённяшняга чалавека? Як зрабіць гэта ў розных жанрах? Парадокс: мы ўсе самі сучаснікі, мы адно аднаго бачым, але пакуль чалавек не пройдзе выпрабаванне мастацтвам, не набудзе эстэтычныя абрысы, да таго часу мы такіх герояў, як Паўка Карчагін, не ўведаем. А ў свой час Паўка Карчагін — яркі, пазнавальны герой часу, надзелены тымі ж якасцямі, што яго равеснікі. Але знайшоўся Астроўскі і яго стварыў. Ён стварыў тую меру, якой мы пачалі вымяраць эпоху.

Мы помнім многія яркія, характэрныя літаратурныя вобразы, якія, з аднаго боку, адлюстроўвалі чалавека свайго часу, а з другога — стваралі яго, выхоўвалі.

Мне здаецца, сёння мы павінны скіраваць намаганні на тое, каб наладзіць дыялог з нашым сучаснікам. Літаратура не пачынаецца адразу з вялікіх раманаў. Тут ёсць подступы: нарысы, дзённікі, публіцыстыка. Пасля з сабранага матэрыялу, з гэтай жыццёвай асновы, як зоркі з туманнасці, нараджаюцца сапраўдныя, пазначаныя сваім часам творы.

Другая важная задача — паставіць заслону эпігонству. Канешне, мастацтва, і літаратура ў прыватнасці, трымаецца на архетыпах. Паўтарэнні адных і тых жа глыбінных матываў на новых вітках развіцця культуры непазбежныя. Адносіны паміж людзьмі, паміж пакаленнямі, тэма кахання, пошуку сэнсу жыцця і іншыя матывы належаць да вечнага. Але, не стварыўшы жывы вобраз сучасніка і сучаснага жыцця, мы будзем проста паўтарацца, бессэнсоўна рухацца ў замкнёным коле.

Магчыма, мае сэнс аддаць першую скрыпку ў гэтай справе нарысістам. Сёння гэта мэтазгодна. Варта ствараць партрэты тых людзей, якія з'яўляюцца яркімі прадстаўнікамі сённяшняга і заўтрашняга дня. Тых, хто здзейсніў пэўны прарыў у сваіх мастацкіх, навуковых, грамадскіх ідэях. Тых, хто зазірнуў з сучаснасці ў будучыню. Людзей, якія паказалі практычныя ўзоры сваіх дасягненняў, — гэта вельмі важна, бо ў перадавога, у новага заўсёды было шмат праціўнікаў, і здзейсніць сваю мару вельмі нялёгка.

На рэчы трэба глядзець канструктыўна. Такія прарывы не абыходзяцца без выдаткаў, без недахопаў і страт. Усё новае цяжка стварыць і цяжка ўвесці ва ўжытак. І тут на дапамогу прыходзяць урокі, якія дала нам сама гісторыя. І часопісам вельмі важна адлюстроўваць культурны працэс як нешта неперарыўнае, знітаванае, паказаць, як мінулае адбіваецца на сённяшніх рэаліях, як яно фарміруе нейкія ідэі, якія пакуль не нарадзіліся.

*Беларуская літаратура і вёска — тэма, якая даволі часта ўздымаецца літаратуразнаўцамі. Глыбока даследуюцца і фальклорныя карані тых ці іншых мастацкіх прыёмаў, і крыніцы сюжэтаў, вобразаў, і лёсы пісьменнікаў, многія з якіх нарадзіліся і правялі сваё маленства ў вёсках, сталі сапраўднымі носьбітамі традыцыйнай культуры беларусаў, адлюстравалі ў сваіх творах яе адметнасць і прыгажосць.* ***Намеснік Старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар эканамічных навук, прафесар, акадэмік Уладзімір Рыгоравіч ГУСАКОЎ*** *разгледзеў традыцыйную вясковую тэму ў новым ракурсе.*



**Я** таксама прытрымліваюся ўжо не раз выказанай сёння думкі аб тым, што пісьменнік павінен шукаць новае, адлюстроўваць дзень сучасны. Але яшчэ раз неабходна падкрэсліць тое, што жыццё варта асэнсоўваць рэальна, праўдзіва. Як бы там ні было, але праўдзівасць у мастацкім творы заўсёды была і будзе надзвычай важным элементам. І беларуская літаратура мае вялікія напрацоўкі ў гэтым плане. Наш народ стварыў моцную рэалістычную літаратуру, і часопіс «Полымя» з году ў год прадстаўляў чытачам новыя творы, новыя здабыткі пісьменнікаў у гэтым накірунку.

Тут трэба зноў звярнуцца да гісторыі. Часопіс «Полымя» ўзнік у 1922 годзе, фактычна ён фарміраваў сваё аблічча ў час заснавання СССР.

Такая знітаванасць з дзяржаўнай палітыкай стала сапраўднай драмай для многіх выданняў, у тым ліку і для «Полымя». Аб'ектыўна адлюстроўваць рэальнасць не мог ні адзін часопіс, наогул ніводнае выданне. Уладзімір Гніламёдаў адзначыў, што па-сапраўднаму жыццёвыя творы, якія перадавалі аблічча часу, з'яўляюцца ў перыяд так званай адлігі. Да таго ж існавала моцная цэнзура, часам перабольшаная. Асабліва ўплыў цэнзуры пачаў адчувацца ў 30-я гады. З аднаго боку цэнзура, з другога — рэпрэсіі. І такое становішча было надзвычай неспрыяльным для «Полымя» і ў цэлым для культуры.

Сёння, на гэтым «круглым стале», закраналася нямала цікавых тэм ад гістарычнай рэтраспектывы да існавання часопіса ў нашы дні і перспектыў яго на дзень заўтрашні. Але мне хацелася б закрануць яшчэ адну тэму, вельмі важную для беларускай літаратуры і культуры. Гісторыя нашага народа, нашай дзяржавы, а адсюль — і гісторыя літаратуры надзвычай цесна звязаны з сялянствам, з гісторыяй вёскі. І часопіс «Полымя» заспеў, відаць, самы напружаны, самы трагічны перыяд гэтай гісторыі, перыяд разбурэння традыцыйнага ладу жыцця.

Вельмі вялікі пласт нашых мастацкіх твораў на працягу ўсяго існавання часопіса, ды і раней, тычыўся якраз існавання вёскі. Жыццё сялян стала адной з вядучых тэм беларускай літаратуры, прыдатнай глебай для мастацкага асэнсавання.

Гэта жыццё ва ўсе часы было вельмі нялёгкім, але ў XX стагоддзі яно стала без перабольшання трагічным. Прычым глыбока трагічным. Пачынаючы з дэкрэта Леніна паступова высвятлялася, што сялян падманулі. Зямлю ім не далі, а менавіта за зямлю сяляне змагаліся і падтрымалі савецкую ўладу, спадзеючыся на тое, што зямля сапраўды будзе належаць тым, хто на ёй працуе. Пасля гэта-

га, у сувязі з нацыяналізацыяй зямлі, буйныя землеўладальнікі адразу з'ехалі з краіны.

Перыяд ваеннага камунізму таксама ў першую чаргу адбіўся якраз на сялянстве. Ён проста разарыў сялянства, а за тым — і ўсю краіну. Я даўно і пільна вывучаю матэрыялы па гісторыі беларускага сялянства, матэрыялы, якія дэманструюць, што рабаўніцкая палітыка ў адносінах да вясковага жыхара заўсёды жахліва адбіваецца на жыцці краіны.

Праз нейкі час улада ўсвядоміла, што такая палітыка ў адносінах да сялянства — жудасная памылка, што разбурана самая важная галіна — харчовая, і трэба яе ўзнаўляць. У гэтых умовах быў вымушана ўведзены НЭП. Не заканамерна, як прынята казаць, а менавіта вымушана. Гэта было далёка не поўнае ўвядзенне рынку і не вяртанне сялянству пэўных свабод, як лічыцца. На самой справе, адпаведную колькасць сельгаспрадукцыі можна было пакідаць толькі пасля абавязковай здачы дзяржаве пэўнай яе часткі. Спачатку той падатак прымаўся ў натуральным выглядзе, а пазней і ў грашовым. Уводзіліся жорсткія меры ў адносінах таго, колькі прадукцыі можна пакідаць сабе, а колькі прадаваць. Аднак нават такая палітыка, з абмежаванымі правамі сялянства, у хуткім часе прывяла да эканамічнага ўздыму краіны.

А потым — яшчэ адно выпрабаванне для вёскі — калектывізацыя, пра якую прысутныя нямала ведаюць.

Перыяд Другой сусветнай вайны стаў чарговым перыядам заняпаду вёскі. Многія працаўнікі пайшлі на фронт і не вярнуліся, падчас ваенных дзеянняў былі знішчаны пасевы, гаспадаркі разрабаваныя. Узнаўленне пасля вайны было цяжкім. У многім яно трымалася на ініцыятыве, на духоўным уздыме народа. Але і тады палітыку ў адносінах да сялянства нельга лічыць спрыяльнай і справядлівай. Працадні, немагчымасць атрымаць пашпарт, нізкія заробкі рабілі высакародную працу селяніна не проста, як сёння кажуць, непрэстыжнай, а непрымальнай. Бацькі імкнуліся, каб іх дзеці з'ехалі вучыцца ў горад і засталіся там.

Ці аб'ектыўна адлюстравала літаратура гэтыя цяжкія этапы ў жыцці сялян? Зразумела, не, бо такое было проста немагчыма. І не толькі на старонках «Полымя», а ва ўсіх тагачасных выданнях. Але ў творах беларускіх пісьменнікаў трагедыя вёскі паўстае і высвечваецца ў розных ракурсах. Можа, менш у эканамічным, а больш у духоўным.

Сапраўды, мы мінулі той гаспадарчы этап, тую фармацыю, мы перажылі гэта, але наступствы цяжкай для сялянства пары адчуваем і сёння. І наступствы гэтыя менавіта духоўнага, культурнага характару.

Некалі на пачатку 90-х гадоў я быў на навуковай канферэнцыі ў Польшчы. Адзін з прафесараў, які таксама займаўся праблемамі развіцця сельскай гаспадаркі, даводзіў, што гаспадарка Польшчы недастаткова эфектыўная таму, што некалі Польшча ўваходзіла ў Расійскую імперыю, дзе былі пэўныя абмежаванні для ўласнікаў. Успомніце, калі Польшча ўваходзіла ў Расійскую імперыю? Прайшло шмат гадоў. Але ёсць меркаванні, што наступствы тых часоў гаспадарка адчувае дагэтуль. Так гэта ці не так, але думка такая выказвалася ўсур'ёз. Што казаць у такім выпадку нам, калі наш селянін даўно забыўся, што значыць кіраваць сваёй гаспадаркай самому? У нашым выпадку робяцца абсалютна відавочнымі адмоўныя вынікі абмежаванняў гаспадарчай дзейнасці. Сённяшні селянін выхаваны з думкай, што зверху лепш відно, як трэба будаваць сялянскую працу.

Наступствы калектывізацыі, раскулачвання, рэпрэсій, сацыяльнай няроўнасці сялян побач з іншымі працаўнікамі краіны — не ў тэхнічнай сферы, не ў грашовай. Тое адставанне мы перамаглі, але няўзноўленым застаўся куды больш важны пласт — адчуванне сябе гаспадаром на зямлі. Сёння кажуць: «Купляйце зямлю, бярыце гаспадаркі ў арэнду». Але інвестары адбіваюцца ад тых гаспадарак, не хочуць браць. Простаму ўласніку прапаноўваюць зямлю ў арэнду, таксама не хочуць браць. На сённяшні дзень сяляне ўжо больш аддаюць зямлю, чым бяруць. Ёсць, зразумела, моцныя гаспадаркі, якія працуюць на вельмі высокім сусветным

узроўні. Але яны часцей за ўсё трымаюцца на аўтарытэце асобы, маюць моцнага кіраўніка, які падбірае адпаведную каманду. Падобных асоб — адзінкі.

Такое становішча сфарміравана, канешне, працяглым уціскам на сялянства, вынішчэннем сапраўднага духу гаспадарлівасці. І сёння мы кажам, што трэба тэрмінова прымаць меры па аднаўленні сялянства. Перш за ўсё пара адмаўляцца ад безасабовасці, ад нічыйнай маёмасці, выхоўваць уласніка. Няхай уласнасць будзе рознай, у асобных выпадках, скажам, акцыянернай, карпаратыўнай, але яна павінна мець сваіх гаспадароў, асноўвацца на прынцыпе самакіравання. Тады можна будзе казаць пра самаакупнасць, самаразвіццё, засваенне новых тэхналогій. Для эфектыўнай працы павінна адчувацца прыватная ўласнасць, напрыклад, заробак павінен налічвацца ад прыбытку прадпрыемства, а не прызначацца з высокіх інстанцый.

Гэта якраз тое, чаму вучыла наша вялікая класічная літаратура, прысвечаная вясковай тэме. Яна імкнулася перадаць тыя духоўныя здабыткі нашчадкам. На жаль, пакуль што скарб нашай вясковай культуры застаецца не тое што страчаным, а дакладней, неўспрынятым. Ужо стала відавочна, што праблемы нашай вёскі і звязаныя з гэтым эканамічныя цяжкасці караняцца менавіта ў сферы духоўнай. Яны ў тым, што мы не выхавалі гаспадара. Гаспадара, значыць, адказнага, працавітага чалавека, які жыве не адным днём і адчувае сваю роднасць з зямлёй, якую апрацоўвае.

*Пра плённае супрацоўніцтва з рэдакцыяй часопіса «Полымя» гаварыў* ***прарэктар Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта кандыдат гістарычных навук Канстанцін Іванавіч БАЛАНДЗІН.***



Паважаныя ўдзельнікі «круглага стала»! Мне здаецца, што перш-наперш мы павінны выказаць словы ўдзячнасці супрацоўнікам часопіса за тое, што яны выхоўвалі жыхароў рэспублікі, шукалі і друкавалі творы маладых літаратараў, развівалі іх талент, далі пуцёўку ў вялікую літаратуру многім добра вядомым празаікам, паэтам, драматургам.

Вельмі добра, што рэдакцыю часопіса цікавяць самыя розныя старонкі жыцця рэспублікі, яе дасягненні і праблемы. Рэдакцыя, такім чынам, і сёння працуе на гісторыю, на нашы поспехі, на будучыню краіны. Ідзе актыўны творчы пошук. Сведчаннем гэтага з'яўляецца правядзенне на базе Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта «круглага стала», прысвечанага праблеме выкладання курса «Гісторыі Беларусі» ў тэхнічным ВНУ рэспублікі, што станоўча ўспрынялі не толькі яго ўдзельнікі. Разам з тым нам прыемна, што рэдакцыя з зацікаўленасцю пазнаёмілася з працай нашага літаратурнага аб'яднання (створана пры Упраўленні культуры) і зборнікам вершаў «Полистих». Мы спадзяёмся, што лепшыя вершы з гэтага зборніка будуць надрукаваны ў часопісе. Гэта будзе яшчэ адзін плённы крок у нашым супрацоўніцтве.

*«Полымя» і яго культурны кантэкст, месца беларускай класічнай літаратуры ў сучасным дзяржаўным будаўніцтве — тэма выступлення* ***доктара філалагічных навук, прафесара, галоўнага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры, члена-карэспандэнта НАН Беларусі Міхася МУШЫНСКАГА.***

Слухаючы выступленне Уладзіміра Іванавіча Кузьменкі, прысвечанае лёсам тых літаратараў, якія былі звязаны з часопісам «Полымя» ў часы Вялікай Айчыннай вайны, мне міжволі ўспомніліся словы Пімена Панчанкі з верша «Анкета»:



Калі мая песня каго й хвалявала,
То тая, апранутая ў шынель...
Растрачана дзён незваротных нямала
На дробязь, на глупства, на тосты, на мель.
І хоць я з дарогі ніколі не збочыў,
Не вешаў на ўласнае сэрца замок, —
Пільней углядацца маглі б мае вочы,
Зрабіць я павінен быў большае, мог.

Тут Панчанка — паэт сапраўды глыбокі, патрыятычны і самакрытычны. І ў працытаваных радках чуецца шкадаванне, што можна было сказаць больш, смела, пранікнённа. Сапраўдны творца заўсёды гэта разумее. І якімі б ні былі перашкоды, якой бы ні была сітуацыя, а для паэта немагчымасць шчыра і поўна выказацца — сапраўды незваротна страчаны час.

Мне хацелася б развіць думку, якую выказаў Уладзімір Гніламёдаў пра «Полымя» і яго культурны кантэкст. Пачынаючы з 20-х гадоў «Полымя», як ніякі іншы часопіс, звяртала ўвагу на развіццё беларускай культуры, навукі і літаратуразнаўства. Для мяне, даследчыка гісторыі крытычнай і навуковай думкі, гэта заўсёды было вельмі прыемна. Тут бачны адзін з самых моцных бакоў «Полымя». У гэтым плане традыцыя, сфарміраваная часопісам «Полымя», прадуктыўная для ўсіх сённяшніх выданняў. Яна ў тым, што навуковае даследаванне — даследаванне аб'ектыўнае. Вучоны імкнецца знайсці карані любой з'явы, разгледзець яе ў сувязі з іншымі.

Абапіраючыся на традыцыі, закладзеныя папярэднікамі, «Полымя» развіваецца сёння і будзе развівацца далей. Прычым, у адрозненне ад многіх іншых выданняў, «Полымя» смела, так бы мовіць, прыцягвала да супрацоўніцтва пісьменнікаў і вучоных, спецыялістаў розных галін, больш цэнтрысцкую пазіцыю. Шматграннасць, шырыня поглядаў — вельмі карысныя якасці, неабходныя для далейшага развіцця.

Я цалкам пагаджаюся з Пятром Георгіевічам Нікіценкам у тым, што асабліва актуальнай сёння з'яўляецца арыентацыя на сучаснасць. Але пры гэтым вельмі важна абапірацца на ўласны вопыт і плённыя дасягненні папярэднікаў. Напрыклад, наш інстытут распрацаваў тэму «Янка Купала і Якуб Колас і праблемы дзяржаўна-культурнага будаўніцтва». Асабіста я займаўся вывучэннем спадчыны Якуба Коласа ў названым ракурсе і ўбачыў, наколькі актуальныя творы нашых класікаў, наколькі яны сугучныя нашаму часу, тым задачам, якія сёння стаяць перад беларускім грамадствам, перад творчай інтэлігенцыяй.

Возьмем тую ж праблему вёскі. Якуб Колас выступаў сапраўдным абаронцам селяніна-серадняка. Паказваючы, што працоўны селянін ніякі не вораг рэвалюцыі, ён — тая аснова, на якой будзе трымацца вёска. З такіх жа агульнанародных пазіцый адлюстраваны ў творах Коласа ўзаемаадносіны бацькоў і дзяцей, старэйшага пакалення і моладзі, тэма сям'і, будаўніцтва новага грамадства. І тут Якуб Колас праз вобразную сістэму апавяданняў, праз лёсы канкрэтных асобаў сцвярджае ідэю неабходнасці беражлівага стаўлення да маральна-этычнага вопыту, назапашанага народам на працягу многіх пакаленняў. Нават дэтэктыўна-прыгодніцкія творы Коласа («На «святой зямлі», «Балаховец», «Адзін» і інш.) могуць быць павучальнымі для сучаснай літаратурна-творчай практыкі. Павучальныя тым, што аўтар згаданых апавяданняў не абмяжоўваўся адлюстраваннем толькі вострых калізій, а ставіў за мэту раскрыць глыбокую думку, паказваў, што за сутыкненнямі герояў стаялі розныя погляды на свет, на прызначэнне чалавека. Інакш кажучы, Колас-мастак уласнай творчай практыкай сцвярджаў глыбока змястоўнае, чалавеказнаўчае мастацтва. Пафасам чалавеказберажэння, пафасам народазахавання пранікнута ўся творчасць Якуба Коласа.

І таму часопіс «Полымя» робіць вялікую справу, рэгулярна звяртаючыся да творчасці класікаў, прапагандуючы нацыянальную мастацкую літаратуру. У адным з нумароў надрукаваны артыкул пра паэму, а па сутнасці пра раман у вершах Якуба Коласа «На шляхах волі». Гэты твор паказвае, што паэт разумеў усю складанасць жыцця і з пазіцый гуманізму, патрыятычных пазіцый, любові да чалавека імкнуўся паказаць, якім драматычным быў шлях да волі, да ўнутранай чалавечай свабоды. Тут і пытанне чалавечай годнасці, і пытанне свядомага выбару. Колас здолеў вельмі многае выказаць у мастацкай форме і данесці і да свайго сучасніка, і да сённяшняга чытача.

«На шляхах волі» прысвечана Першай сусветнай вайне і вайне грамадзянскай. Праца над гэтым творам, распачатым у 20-я гады, працягвалася і ў 30-я. Але ў той змрочны час Колас-гуманіст не меў магчымасці адкрыта сказаць, што грамадзянская вайна — гэта вайна братазабойчая, і ён спыняе працу на дваццаць гадоў і з 1935 па 1955 год не бярэцца за твор, але ўвесь час узгадвае, што на яго рабочым стале ляжыць нясконачаная паэма, і ён хоча вярнуцца да яе. І нарэшце ў 1956 годзе Колас працягвае работу. Праўда, раман у вершах «На шляхах волі» так і застаўся незакончаным. Але і ў такім выглядзе гэты твор — выдатная з'ява беларускай літаратуры.

Між іншым, да тэмы грамадзянскай вайны Колас звяртаўся і ў іншых творах. Яскравы прыклад — апавяданні «Крывавы вір», «Дачакаўся», «Сяргей Карага».

Тут беларускае нацыянальнае мастацтва ў асобе Якуба Коласа з выключнай глыбінёй перадае трагедыю часу, трагедыю простага чалавека.

Калі мы святкуем юбілеі класікаў, варта памятаць, што гэта не проста даніна павагі. У сваіх творах Янка Купала і Якуб Колас многае зрабілі для ўмацавання маральнага клімату ў грамадстве, для фарміравання нацыянальнай, патрыятычнай свядомасці беларуса.

*У сваім выступленні перад удзельнікамі «круглага стала»* ***доктар гістарычных навук, прафесар загадчык аддзела ваеннай гісторыі і міждзяржаўных адносін Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксей Міхайлавіч ЛІТВІН*** *выказаў свае меркаванні аб ролі часопіса «Полымя» ў адраджэнні і захаванні беларускай культуры.*



Юбілей «Полымя» — значная падзея ў гісторыі беларускага грамадства. Этапы яго развіцця і станаўлення ад самага пачатку супадаюць з этапамі развіцця нашай навейшай гісторыі, з этапамі развіцця грамадскай думкі.

Вывучаючы гісторыю часопіса, мы імкнёмся лепей зразумець падзеі апошніх гадоў у нашым мастацкім асяроддзі. Мы звярнулі ўвагу на тое, што сапраўдныя творчыя ўздымы часопіса былі звязаны з пэўнымі «пацяпленнямі» ў грамадстве.

20-я гады адзначаны палітыкай беларусізацыі. І тое адраджэнне, абуджэнне ў грамадстве цікавасці да сваіх нацыянальных каранёў адразу адгукнулася ў асяродку творчым. Сам факт стварэння БССР нібыта адкрыў шлюз для нацыянальнай творчай энергіі. У выніку — сапраўдны культурны выбух, калі беларускі народ, беларуская нацыя выдыхнула такую колькасць талентаў. Але яны схлынулі, адышлі, закатаваныя, выкарчаваныя рэпрэсіямі. І ўсё ж «Полымя» застаецца, застаюцца і творы пісьменнікаў, апублікаваныя на старонках часопіса.

Такое было не раз, сама беларускасць зведала і ўздымы, і заняпады. Часопіс прайшоў праз гэта, і цяпер на ім ляжыць асаблівая адказнасць. Па змесце сваім «Полымя» павінна быць вядучым беларускім літаратурным часопісам, які можа не аглядацца на нейкія неадназначныя настроі ў краіне, а ісці сваім шляхам, шляхам, сцежку якога пратарылі папярэднікі. «Полымя» павінна быць флагманам

беларускай, я падкрэсліваю, беларускай літаратуры, беларускай публіцыстыкі, беларускай духоўнасці. Зразумела, гэта зрабіць вельмі складана. Неабходна, каб вакол часопіса аб'ядналіся шырокія творчыя сілы.

У грамадстве ідзе вельмі вострая дыскусія аб беларускай мове. Аднак на старонках «Полымя» яна амаль не асвятляецца. Тут варта было б прыцягнуць усіх, хто можа даць ацэнку сітуацыі і ўнесці свае прапановы, каб нам усім было зразумела, якая перад намі праблема. Пазіцыя «Полымя» павінна быць вядома перш за ўсё кіраўніцтву дзяржавы. Беларусь — незалежная і самастойная краіна.

«Полымя» павінна адстойваць замацаваную ў Канстытуцыі роўнасць беларускай і рускай мовы. На мой погляд, праблема беларускай мовы дасягнула крытычнай кропкі.

Я лічу, што ўсе нашы чыноўнікі абавязаны здаць экзамен не толькі па беларускай мове, а і па гісторыі Беларусі за 9—10 клас. Таму што сёння, калі паглядзець нашы падручнікі, а па сутнасці яны добрыя, кожны можа зразумець, што наша нацыя не горшага за нашых суседзяў палякаў, расіян, украінцаў, прыбалтаў.

У нас добрая нацыянальная палітыка. Але ў той жа час паглядзіце на наша нацыянальнае тэлебачанне, дзе там беларуская мова? Якое ёй адведзена месца? Мы любім ганьбіць савецкі час, але тады беларускае тэлебачанне было сапраўды беларускім. І што мы бачым сёння? Першая беларуская праграма, якая транслiруецца на замежжа, выходзіць на рускай мове. Беларусы за мяжой глядзяць свой нацыянальны канал на рускай мове. Каму гэта трэба і куды глядзяць нашы чыноўнікі?

Мы збіраемся развіваць турызм, але ўсе замежныя турысты хочуць пабачыць беларускую адметнасць, пачуць беларускія песні, беларускую гаворку. Чым мы адрозніваемся ад тых, хто прыедзе да нас? Чым мы іх зацікавім? Зразумела, толькі сваёй адметнай, толькі нам уласцівай культурай.

Тэрыторыя Беларусі, людзі, якія жылі тут у глыбокую даўніну і асабліва ў XIII—XVI стагоддзях, перажылі сапраўдны ўздым, залаты век нашай гісторыі. Нам ёсць чым ганарыцца.

Многія пытанні трэба рашаць на самым высокім узроўні.

На мой погляд, справаводства на ўсіх узроўнях, ад самага высокага і да ўзроўню вёскі, павінна весціся на беларускай мове. Яно нават у сталінскі час пабеларуску вялося, пасля Сталіна вялося. Чаму нельга ў «Полымі» пагаварыць на гэтую тэму, запрасіць навукоўцаў, пісьменнікаў?

Нейкія захады ў гэтым накірунку пастаянна павінны рабіцца, бо, калі такая палітыка будзе праводзіцца і далей, наша культура вельмі хутка прыйдзе да заняпаду.

Варта правесці «круглы стол» менавіта па гэтым пытанні, надрукаваць яго ў часопісе «Полымя». Бо менавіта «Полымя» на працягу свайго існавання зрабіла надзвычай многа для прапаганды нацыянальнай культуры, для яе падтрымкі і для асвятлення таго стану, у якім яна знаходзіцца на пэўным часавым адрэзку.

*У заключным слове перад удзельнікамі «круглага стала»* ***Аляксандр Аляксандравіч КАВАЛЕНЯ*** *падсумаваў вынікі сумеснай работы навукоўцаў і супрацоўнікаў рэдакцыі часопіса «Полымя» і акрэсліў шляхі далейшай працы.*

У падсумаванне нашай размовы мне хацелася б яшчэ раз звярнуцца да слоў, сказаных Пятром Георгіевічам Нікіценкам: «Заўсёды трэба заставацца чалавекам». Сапраўды, вельмі важна памятаць гэта і кожнае сваё дзеянне ўзважваць з пункту гледжання чалавека, народжанага на гэтай зямлі.

Тое, што адбывалася ў нашай гісторыі, варта аналізаваць з геапалітычнага пункту гледжання. Беларусь знаходзіцца не проста ў цэнтры Еўропы. Яна заўсёды была на своеасаблівым зломе паміж Усходам і Захадам, і гэта не магло не адбіцца на літаратуры, на культуры. Такая асаблівасць вызначае і сённяшняе



*У час пасяджэння «круглага стала».*

становішча нашага народа. Адносіны да нас не зменяцца, пакуль ключы ад гэтага геапалітычнага калідора будуць знаходзіцца на Захадзе ці на Усходзе. Паглядзіце, варта толькі было кіраўніку дзяржавы сказаць, што мы жадаем, як заклікаў Янка Купала, «людзьмі звацца», самім вырашаць лёс нашай зямлі, нас пачалі біць і злева і справа.

У многім трагічны лёс нашай краіны звязаны менавіта з гэтым. Нам давядзецца навучыцца жыць і захоўваць сваю нацыянальную адметнасць у азначаных геапалітычных умовах.

А для гэтага павінны адбывацца такія дыскусіі, як сёння. Нам іх вельмі не хапае. Літаратура — гэта не што іншае, як гісторыя, выкладзеная ў мастацкай форме. Нам не хапае ўсебаковага аналізу сітуацыі, які дасягаецца супрацоўніцтвам гісторыкаў і літаратараў.

Небяспека ў тым, каб не нарабіць памылак, ацэньваючы сённяшні час празмерна станоўча ці празмерна крытычна. Трэба спакойна, углядаючыся ў рэчаіснасць, якая акружае нас, рабіць свае высновы. Мне давялося аб'ехаць усю Беларусь. Так, за апошнія 15 год яна вельмі змянілася ў лепшы бок. Гэта трэба бачыць і, канешне, аддаваць належнае. Але варта ўсведамляць, што праца нас чакае яшчэ большая. Многа недахопаў і недапрацовак, але назіраецца пазітыўны рух. Усе разам мы павінны таксама рухацца ў гэтым пазітыўным напрамку, плённа супрацоўнічаць.

А для гісторыкаў і літаратараў гарызонты сумеснай працы вельмі шырокія. Гэта і стварэнне гістарычна праўдзівых твораў для школьнікаў, прычым і малодшага школьнага ўзросту, а не толькі для старэйшых вучняў. Гэта і папулярызацыя гісторыі і культуры для дарослых чытачоў. Колькі цікавых фактаў не закранута, колькі тэм! Канешне, варта было б нам навучыцца і зарабляць на гэтым, прыносіць пэўны прыбытак. Калі мы кажам аб рынкавых адносінах, то інтэлектуальная і творчая сферы не павінны заставацца па-за межамі гэтых адносін.

Мы выйшлі на віток, калі духоўнасць павінна рабіцца мерай усіх адносін, у тым ліку і эканамічных. А духоўная, культурная сфера, у сваю чаргу, не павінна з гэтых адносін выпадаць.

Тэм для аналізу і роздуму ў нас шмат. І пры падтрымцы часопіса «Полымя» навукоўцы мелі і, спадзяёмся, будуць мець магчымасць дзяліцца сваімі напрацоўкамі ў розных галінах з шырокай чытацкай аўдыторыяй.

***Падрыхтавала***
***Марыя Шамякіна.***





**Тамара КРУЧЭНКА**

# «ЗАТРЫМАЮСЯ Ў ЛЕЦЕ...»

## ЛОЕВУ

Узіраецца неба ў люстэрка ракі,
Шлюць паклоны Дняпру летуценныя чайкі,
Лёгкі ветру павеў, перашэпты ракіт...
Прагне сэрца сюды, да свяшчэнных прычалаў.
Колькі тут пахавана і мар, і надзей
Маладзенькіх байцоў, камандзіраў бязвусых...
Сэрца зноўку, бы ў храм, мяне ў Лоеў вядзе,
Што фарпостам стаіць на мяжы Беларусі.
Зноў кастрычнік прыкрыў берагі туманом,
І пранізлівай згадкай абудзіцца сэрца:
Хлопцы йшлі праз Дняпро
З цёплай згадкай пра дом,
І ніхто з іх не думаў аб смерці.
У Алеі герояў цяпер цішыня,
І глядзіць на нашчадкаў задумлівы Батаў...
А скарбонка-музей — гэта іх вышыня,
Лепшы помнік Айчыннай салдатам.
Бэз захмеліць вясной... Бы ў пялёсткавы рай
Трапіш тут, на зямлі старажытнага Лоя...
Як цябе не любіць, наш акрылены край,
Наш гасцінны і сонечны Лоеў!

* * *

Адчула раптам: змоўкну, задыхнуся,
Калі сваёй радзімы не пабачу...
Імчу ізноў на поўнач Беларусі
У край лясны, мой родны кут рыбацкі.

Там дыхаецца вольна, на ўсе грудзі,
Вышэй і неба восеньскага хмары...
Здаецца, што там лепшыя і людзі,
Што толькі пра узвышанае мараць.

*__Кручэнка Тамара Віктараўна__ нарадзілася 30 мая 1955 года ў г. п. Мядзел. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працавала ў рэдакцыях шматтыражных газет «Новатор» шклозавода і «Ударный труд» радыёзавода, цяпер — у газеце «Гомельская праўда».*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Край бацькоўскі».*

І подбегам імчу насустрач дому,
Дзе колісь маці з бацькам сустракалі,
І чую праз гады іх голас: «Тома!»
Радкамі вершаў набягаюць хвалі...

* * *

Хлеб духмяны той, з дзежкі,
З пахам кміну і траў
У маёй бабкі Сцешы
Быццам сам вырастаў
На кляновых лісточках,
Спрацаваных далонях.
Караваі, як сонцы,
Несла з печы бяздоння.
І такім быў жаданым
Гэты час урачысты,
На ручнік вышываны
Хлеб жытнёвы лажыўся.
І свяціліся ўсмешкай
Васільковыя вочы.
...Крочу жытняю сцежкай
І на магілкі збочу.

* * *

Па матулі певень галасіў
На увесь раённы наш пасёлак...
Чэрвеньскі здаваўся ранак золкім
У слязінках-кроплінках расы.
І рыпеў калодзеж развітальна,
Невычэрпны, як жыцця крыніца...
Колькі ты прынесла ў дом вадзіцы,
Колькі чысціні падаравала.
І развітваўся з табой наліў,
Ён цягнуў услед свае галіны,
Чырванела горычна каліна,
І шаптала ўслед чародка сліў.
І бярозкі, як ты і прасіла,
Над табою ціха шапацелі,
Быццам развітацца не хацелі...
Жыта толькі што закаласіла.
І плыла мая матуля ў Вечнасць...
Цёткі Ніна, Жэня, Васіліна
Развітальны шлях твой блаславілі
І сказалі ціха: «Да сустрэчы...»

## У БАБЧЫНЕ

Вёска твая — нібы клін жураўліны —
Мкнецца у неба узняцца імкліва...
Лапіны снегу на чорнай зямліцы...
Хіба ж такое можа прысніцца?
Хаты ў журбе, нібы тыя дамоўкі,
Гукаў ніякіх, жыццё тут замоўкла...
«Газік» імчыць нас, і раіць калега:
«Не дакранайся тут толькі да снегу...
Ўсё тут памерла, тут могілкі вёскі,
І радыяцыя-смерць яшчэ косіць».
Я не стрывала, прашу прыпыніцца,
Дзе нарадзіўся Мікола Мятліцкі...
«Ты рызыкуеш, — мне кажа калега, —
Хочаш памерці ад гэтага снегу?»
Ды я ступаю у двор вінавата:
«Дзень табе добры, Міколава хата...»

## БАЛАДА

Ах гара, Баклаёўская горачка,
Праз цябе колькі з'ехала горачка!
І да цёткі бядовае Зіны
У труне везлі любага сына.
Галасіла надрыўна, бясконца:
«Згасла сонца, адзінае сонца...
Мой сыночак ты, мой Ігарочак...
Мой сыночак ты, мой дунаёчак...»
...Рыхтавала матуля вузельчык
Для сябе у сырую зямельку.
Прамаўляла: «Закрыю як вочы,
Завязеш на радзіму, сыночак.
Завязеш ты мяне за лясы
Ў маю родную вёску Брусы...»
Ды пакрыўдзіў так лёс цётку Зіну —
Правяла на клады першым сына...
Ах гара, Баклаёўская горачка!
Цётку Зіну заціснула горачка...

* * *

*Галіне і Уладзіміру Бяловым,*
*сябрам з Чарнігава*

Замірала душа і губляліся словы,
Ды трымала мяне ваша неба, Бяловы...
Дом, адкрыты вятрам, і надзеі, і веры,
Ветразь вашай любові ў жыццё мяне верне.
Чую музыку сцен, неба тут замест столі.
Як качэўнікі, вы па вакзалах — за доляй...
Што вам межы, таможні, даляры і грыўні,
Калі ў сэрцы — любоў, і ні кропелькі крыўды!

* * *

І пада́ў пакупнік невялікі стос грошай...
Не заменяць яны маёй хаты прыгожай,
Дзе на свет пазірала вачыма дзіцяці,
Дзе у згодзе жылі мае тата і маці.
Стос замежных папер адпаведнага курсу
Падбівае зазыўна уведаць спакусу
Адцурацца зямелькі, ўрадлівае нівы,
Стаць нібыта багатай, ды ўсё ж нешчаслівай.
Мне гучаў паланез развітання з радзімай...
Застаюся ў жыцці без хаціны адзінай,
Дзе на свет пазірала вачыма дзіцяці,
Дзе у згодзе жылі мае тата і маці.

* * *

Край бацькоўскі, кут радзінны...
Шэпчуць нешта чараціны,
Покуль Нарач не прачнецца
Ускалыхам шчырым сэрца...
Што ёй сніцца, закаванай
Лёду шызым пакрывалам,
Шэраччу, смугой туманаў,
Быццам горычным падманам.
На агромністай ільдзіне
Рыбакі — нібы пінгвіны
На планеце антарктычнай,
Ды з зямелькі б'е крыніца...
І згадаю ўсе прыкметы —
Тут радзіма, край паэтаў.

* * *

Затрымаюся ў леце,
У нашым тым леце...
Залюляюць мяне
Карабельныя сосны...
Мы з табой удваіх
На усім белым свеце,
Я твая неспадзеўная госця.
Падсцялі мне саломкі, —
Так падаць балюча
З паднябесся любові
На каменне ілжы...
Дай яшчэ пакружляць
Над надрэчнаю кручай,
Покуль восеньскі дождж
Не імжыць.
Не раскроіць мяжой
Тое нашае лета,
Хоць заінеў даўно
За Дзяснoю абрус...
На тым беразе я
Ад кахання аслепла...
Як жа мне даляцець
да цябе, Беларусь?



ПРОЗА

**Юры СТАНКЕВІЧ**



# ТРЫ АПАВЯДАННІ

## *Пакупнік сноў*

Адзін чалавек па прозвішчы Кук, а ён працаваў загадчыкам аддзела ў гарадскім архіве, маючы аднойчы нейкую не вельмі істотную патрэбу, зайшоў да свайго суседа па лесвічнай пляцоўцы, якога звалі Яўген Мігель. Суседзі, як гэта звычайна бывае ў большасці выпадкаў у вялікіх гарадах, мала што ведалі адно пра другога, хіба толькі ў агульных рысах. Так, Аляксандр Кук ведаў пра Яўгена Мігеля тое, што апошні жыў у сваёй аднапакаёўцы адзін, хаця іншым разам да яго заходзіла жанчына сярэдніх гадоў, шэрая і непрыкметная, што Мігелю за сорак, ён калісьці трапіў у аўтамабільную аварыю і меў ці мае праблемы са здароўем, нават ляжаў у стацыянары. З жонкай быў разведзены, а адзін сын ад іх шлюбу першы год служыў у арміі. У сваю чаргу Мігель мог ведаць ці ведаў пра Кука тое, што ён сямейны чалавек, лысаваты, сярэдняга веку, мажны, мае дваіх дзяцей, працуе служачым і жыве ў кватэры насупраць.

Дык вось Кук зайшоў да суседа а другой палове дня, пасля работы. Мігель, хударлявы і цёмнавалосы, сустрэў яго ў дзвярах і, нібы апраўдваючыся, патлумачыў, што нечакана задрамаў на канапе, бо нядаўна вярнуўся з начнога дзяжурства. Кук папрасіў прабачэння і сказаў, што мусіць вярнуцца да сябе, але Мігель яго затрымаў.

— Справа ў тым, — патлумачыў суседу, — што я днём сплю мала і звычайна дваццаць-трыццаць хвілін, што ў дастатковай ступені дазваляе мне аднавіць сілы.

— Але ж сон павінен быць працяглым і, як я ведаю, прайсці некалькі фаз, каб быць паўнавартасным, — заўважыў Кук, прысеўшы на прапанаванае гаспадаром крэсла.

— Так, — ахвотна згадзіўся Мігель, — але ў мяне пасля аварыі з'явіліся некаторыя, так бы мовіць, адхіленні ў гэтым працэсе, што памяняла характар

---

***Станкевіч Юры Васільевіч*** *нарадзіўся ў г. Барысаве ў 1945 годзе. Сын рэпрэсаванага па 58-м артыкуле. З 15 гадоў працаваў на фабрыках і заводах, вучыўся ў вячэрняй школе, мае шмат спецыяльнасцей. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у Барысаўскай аб'яднанай газеце, на радыё, у канцы 80-х у часопісе «Маладосць», потым у часопісе «Крыніца». Выдаў кнігі прозы: «Луп», «Анёлы на бальшаку», «Армагедон-1895», «Любіць ноч — права пацукоў», «Сатырыкон», «Апладненне ёлупа». Працуе ў драматургіі і кіно, аўтар некалькіх п'ес і кінасцэнарыяў. Жыве ў Мінску.*

майго жыцця і працы. І далей Мігель паведаміў суседу, што ён адчувае патрэбу прытрымліваца прыродных біярытмаў і таму выбраў сабе працу, звязаную з начнымі дзяжурствамі і якая ў сувязі з гэтым лепш аплачваецца.

— Так, так, — сказаў Кук, — ёсць людзі, якія мала спяць, і таму, пэўна, заўсёды ў выйгрышы, а мне, напрыклад, трэба спаць каля васьмі гадзін у суткі, і шкада — бо трэць жыцця чалавек ляжыць на ложку ў своеасаблівай непрытомнасці, — вочы блукаюць у розныя бакі, нібы ў вар'ята, безабаронны, а мазгі працуюць дарэмна, узнаўляючы неакрэсленыя малюнкі падзей, якія не існуюць у рэальнасці. І далей Кук, памаўчаўшы, пацікавіўся, ці бачыць сны яго субяседнік, бо той, па яго словах, спіць так мала.

— І вельмі яркія і запамінальныя, — ветліва патлумачыў гаспадар кватэры. — Хоць і бываюць нявартасныя, а то і зусім не істотныя, ну вось як, прыкладам, дзесяць хвілін таму, калі я прыснуў на гэтай канапе.

— І што ж вам праснілася? — далікатна спытаў госць. — Вы запомнілі?

— А-а, дробязь, абы-што. Быццам я зайшоў у крамку «сэканд» — ну, што пад намі, у падвале нашага дзевяціпавярховіка, вы ж, пэўна, ведаеце, можа, нават і заходзілі, і разглядаў там featured адзенне, а потым зняў з вешалкі ношаную скураную куртку і пачаў яе мераць у кабіне. Адчуваю — за падкладкай нешта быццам захрусцела. Ну, я распорваю сцізорыкам, акуратна так, а там цэлафанавы пакецік, а ў ім... брыдота, тараканы, якія адразу пачалі разбягацца...

І гаспадар кватэры сарамяжліва ўсміхнуўся.

— Хіба што, — супакоіў яго Кук. — Сапраўды, іншым разам такое сасніцца, што і расказваць сорамна.

Яны паразмаўлялі яшчэ пару хвілін пра сёе-тое. Кук успомніў, што прыходзіў за сярнічкамі, бо не было чым запаліць газ — ён не ўжывае тытуню і таму не мае пры сабе нават запальнічкі.

Мігель ахвяраваў карабок сярнічак, і Кук развітаўся з гаспадаром.

* * *

На другі дзень, вяртаючыся з працы пешшу, — а стаяла цёплая восень, Кук якраз праходзіў побач з падвалам, дзе знаходзілася крама па продажы ношанай і таннай вопраткі, і раптам спыніўся, а потым чамусьці спусціўся па прыступках і зайшоў унутр. У краме, завешанай усялякім адзеннем, амаль адсутнічалі пакупнікі. Паветра было цяжкае, пахла ношаным. Прадаўшчыца запрасіла Кука рухацца смялей і спытала, што яго асабіста цікавіць. Кук адказаў ёй у тым сэнсе, што паглядзіць сам, і прайшоў у кут, дзе вісела мужчынскае адзенне. Увагу яго ўрэшце прыцягнула адзіная на ўвесь гэты аддзел карычневая скураная куртка на маланцы. Цьмяна адчуваючы неакрэсленую цікавасць і згадаўшы сон суседа Мігеля, Кук зняў куртку з вешалкі і пачаў яе спачатку разглядаць, а потым абмацваць. «Якраз на вас, — умяшалася адразу прадаўшчыца, жанчына гадоў трыццаці са слядамі злоўжывання касметыкай на бледным твары, — ды вы праходзьце ў прымерачную, там і люстэрка, і месца больш, і ніхто перашкаджаць не будзе».

Кук скіраваў у прымерачную і зашморгнуў за сабой фіранку. Чамусьці прыслухаўся, ці не ідзе за ім прадаўшчыца, але тая ўжо завіхалася ля нейкай пакупніцы. Кук адклаў убок вешалку і пачаў старанна абмацваць куртку рукамі. Рэч была маланошаная, падкладка амаль не працёртая. Бліжэй да левай падпахі пад пальцамі ледзь чутна хруснула, і ён намацаў быццам нейкае зацвярдзенне. Сэрца забілася часцей, Кук нават міжвольна зірнуў на сябе ў люстэрка: твар быў усхваляваны, кроў прыліла да шчок. Ён адразу ўзяўся за куртку. Маленькі складанчык, які Кук заўсёды насіў з сабой, быў дарэчы.

Ён крыху ўспароў шво, рассунуў убакі і выцягнуў невялікі пакецік, двойчы загорнуты ў цэлафан. Не разглядваючы, паклаў яго ў кішэню, вынес з прымерачнай куртку, занёс на месца, дзе зноў павесіў на вешалку, пасля чаго выйшаў з крамкі, ужо на парозе запэўніўшы прадаўшчыцу, што рэч яму малая.

У ліфце Кук разгарнуў пакецік. У ім цесна спрасаваныя адна да адной ляжалі дваццаць банкнот па сто долараў кожная.

Пакінуўшы ліфт, усхваляваны Кук пасунуўся да дзвярэй суседа Мігеля, рука яго ўжо націскала кнопку званка, але абачліва стрымаў сябе і вырашыў усё спачатку добра абдумаць. І сапраўды, меркаваў Кук, мераючы крокамі пакойчык сваёй кватэры, — хаця вешчы сон Мігеля і навёў яго на вялікія грошы (а тараканы, як зараз успомніў народны соннік, і значылі грошы), ці павінен ён адразу аб'яўляць пра ўсё суседу і дзяліцца з ім знойдзеным? Не будучы сквапным, Кук схіляўся да таго, каб аддаць частку Мігелю, але калі той даведаецца, што яго сон збыўся, то хутчэй за ўсё спачатку пазайздросціць, а потым спрацуе своеасаблівы тормаз, і той не стане дзяліцца з ім сваімі снамі, а сны яго зусім няпростыя, ці ўвогуле яго падсвядомасць дасць збой. Кук раптам успомніў інтэрв'ю з адным пісьменнікам, якое прайшло па тэлебачанні. Пісьменнік — малады і самаўпэўнены з выгляду, расказаў, што пазычаў для сябе шмат сюжэтаў з гутарак са знаёмым па лецішчы старым, але аднойчы меў неасцярожнасць расказаць таму пра гэта, і старога адразу нібы замкнула і больш з яго нічога выціснуць не ўдалося. Так і тут, меркаваў Кук, усё можа згаснуць, як кволы агеньчык, хаця павінен жа ён нейкім чынам аддзячыць суседу, хіба не так? Гэтыя грошы Кук сам мог зарабіць не менш як за год стамляючага сядзення за сталом і частых камандзіровак, якія не асабліва любіў. Да таго ж, як адразу вызначыў, усе, прыхаваныя кімсьці на чорны дзень банкноты, былі сапраўдныя.

* * *

Увесь наступны тыдзень Кук як чалавек цікаўны, узяўшы адгул, правёў усебаковыя пошукавыя даследаванні, якія тычыліся праблематыкі сноў. Заказаў у бібліятэцы шмат дапаможнай літаратуры па гэтай тэме і праседжваў у чытальных залах усю першую палову дня.

Выявіў для сябе шмат цікавага, але дакладна акрэсленай навуковай канцэпцыі так і не знайшоў. Увогуле, гаданне па снах насіла назву анейрамантыя. Як здаўна падкрэслівалася, усялякі сон важны толькі сваім вытлумачэннем. Празорцы мінулага начавалі ў храмах з пэўнай мэтай: пабачыць вешчыя сны і аб'явіць цікаўным іх сэнс. У старажытных плямёнах існавалі культы снабачанняў, якія захаваліся ў некаторых рэгіёнах і да нашага часу. Прычым рэальнасць сноў была, на іх погляд, больш вартасная за рэальнасць часу. Так, туземец з выспы Барнеа, які ўбачыў у сне, што жонка здрадзіла яму, лічыць гэта абсалютна доказным. Бацькі ў лепшых выпадках адразу забіраюць сваю дачку назад да сябе, каб пазбегнуць помсты раўніўца. Сведчанне снабачцы пераважвае любыя адгаворкі. Індзейцы племені іракезаў, што б ім ні прыснілася, абавязкова выконваюць гэта, і як мага хутчэй. У Бразіліі індзейцы племені тупа-інба рашаліся на вайну толькі пасля спрыяльных сноў, а ў мексіканскім племені хуічолаў адмыслова прызначаны снабачца выбіраў новых кіруючых асоб і правадыроў. На Камчатцы, як сведчыў вядомы даследчык Г. Штэлер, дастаткова было заявіць, што табе сасніліся ласкі такой-та дзяўчыны, каб іх тут жа атрымаць. Яна памерла б, калі б не зрабіла так, каб рэальнасць заплаціла пазыку перад сном.

Далей Кук усё больш паглыбляўся ў тэарэтычныя вышукі і паранавуковыя адхіленні. Урэшце, што такое наша рэальнасць? Гэта тое, што мы

бачым рэчы такімі, якімі іх бачыць ... дамовіліся. Тое, што зноў і зноў паўтараецца, паддаецца вымярэнню і мае нязменны вынік. Але ж ужо цяпер толькі з квантавай тэорыі мы ведаем, што сапраўдная, абсалютная рэальнасць існаваць у свеце пастаянна вібрыруючых скапленняў атамаў, прывідных субчасцінак, статыстычных верагоднасцей і палей — не можа. Мы вымушаны канстатаваць, што абсалютна рэальнага няма і ніколі не было. Увесь наш асабісты свет — магчыма, штучна створаны лакальны галадэк: жыццёвая прастора, карыстальнікі якой могуць выклікаць галаграфічныя імітацыі любой пажаданай рэальнасці. А калі перанесці ідэю галадэка на ўвесь Сусвет, то і галаграма прыраўняецца да яго і стане Галасветам, а наша падсвядомасць, запраграмаваная на тое, каб час ад часу апускаць нас у сапраўдную рэальнасць, імкнецца паказаць нам, што свет, які мы ствараем, таксама бясконца крэатыўны, як рэальнасць нашых сноў. Урэшце некаторыя сур'ёзныя вучоныя і даследчыкі лічаць сны «ўнутранымі галаграмамі». На іх думку, у так званых «светлых» снах, у ходзе якіх спячы заходзіць ясную свядомасць і ўплывае на падзеі, здзяйсняюцца візіты ў паралельныя рэальнасці, якія адбыліся ці адбудуцца ў іншы час. Ніхто дакладна не ведае, што такое сон і як працуе мозг чалавека. Дзіўны і злавесны сэнс набывала на першы погляд жартоўная дылема Чжуана-дзы пра філосафа, якому толькі што снілася, што ён — мятлік, і мятліка, якому цяпер сніцца, што ён — філосаф.

* * *

Праз некалькі дзён, памяняўшы ў абменніку адну паперку, Кук, абцяжарыўшы свой пулярэс грашыма, купіў бутэльку прыстойнага каньяку і скіраваў да суседа. Яўген Мігель якраз знаходзіўся дома і, як ён патлумачыў госцю, дагэтуль, лежачы на канапе, глядзеў тэлевізар. Кук адразу пацікавіўся, ці не прыснуў часам перадусім гаспадар. Так, згадзіўся Мігель, ён сапраўды задрамаў, хаця дакладна ведае, што шкодна спаць побач з працуючым тэлевізарам. І ўвогуле, на захадзе сонца.

— І бачылі нешта ў сне?

— Але.

— Можа, зноў што-небудзь з тараканамі?

— Не, без гэтай брыдоты, — адказаў гаспадар і спытаў, заўважыўшы каньяк і ажывіўшыся: — Гэта з якой нагоды?

— Адзін не ўжываю, а з паважаным чалавекам чаму не пасядзець, не пагаварыць, — пасля секунднага вагання дыпламатычна ўхіліўся ад тлумачэння пра знаходку ў «сэкандзе» Кук.

Мігель зрабіў па бутэрбродзе, прынёс шклянкі, адкаркаваў бутэльку і наліў госцю і сабе. Абодва выпілі, адкусілі па кавалку, памаўчалі, а потым Кук сказаў:

— Маё пытанне невыпадковае. Справа ў тым, што я яшчэ крыху раней пачаў збіраць сны. І працягваю гэта рабіць.

— Разумею, — ніколькі не здзівіўшыся, заўважыў гаспадар. — Але я з дзяцінства памятаю, як бацькі перасцерагалі мяне, каб свае сны нікому і ніколі не расказваў. Калі сон аб'явіць на слых, то ён абавязкова спраўдзіцца — добры ці, наадварот, дрэнны. Калі чалавек яго раскажа — ён ужо не гаспадар лёсу, бо ў ход падзей умешваюцца невядомыя, магчыма, нават і незямныя сілы і будуць ім кіраваць.

— Так, — згадзіўся госць і дадаў з таго, што вычытаў з кніжак. — Яшчэ Жак Рубо адзначыў: «Мяркуючы, што рэальнасць зусім не рэальная, ці магу я ўвогуле лічыць сны снамі?» Я зараз вяду да таго, што вы, спадар Яўген, хоць і

маеце рацыю, але запамяталі пра тое, што ў кожнага правіла бываюць выключэнні. У нашым выпадку гэтым выключэннем з’яўляецца права на продаж.

— На продаж чаго?

— Сноў. Калі я буду іх купляць — то гэта зусім іншая справа. І калі вы не супраць, то я папрашу калі-нікалі і вас прадаць мне свой сон. Аплату мы ўзгоднім.

— Не магу ж я з вас браць грошы? У сутнасці за што?

— Магчыма і так, але калі я купляю сон, то мушу спадзявацца на яго каштоўнасць, — даводзіў Кук. — Гэта, прыкладам, як вы нешта прадаяце — абавязкова трэба ўзяць грошы, інакш ваш тавар не будзе мець вартасці. Нават калі котка прыносіць кацянят, гаспадары іх рады і так каму-небудзь аддаць, але бяруць жа за жывёлу ўсяго якую дробязь — на ўдачу.

Мігель падумаў і паціснуў плячыма.

— Справа ў тым, — сказаў ён, — што пасля аўтааварыі мае сны не зусім паўнавартасныя. Я захоўваю ў іх поўную свядомасць і ведаю, да слова, не толькі тое, што сплю, але і тое, што ведаю пра гэта веданне.

— Вось як? — зацікавіўся госць. — Але ж гэта значыць, што вы можаце кіраваць сваім сном і нават уплываць на яго? Бачыць нешта такое, што мы не бачым у звычайным сне? Вы можаце злётаць і пахадзіць па Месяцы, а потым вярнуцца назад. Я вам зайздрошчу.

— Не спяшайцеся. Гэтая хвароба з’явілася ў мяне ў «дурцы», дзе я ляжаў амаль месяц у сувязі, як я гаварыў раней, з траўмай галавы. Мяне вызвалялі з разбітай машыны аўтагенам. І якая карысць у тым, што я пахаджу па Месяцы, калі не магу прыкішэніць там і ўзяць з сабой які маленькі кавалачак грунту?

— Дарэчы, вы чыталі пра такое ў Кастанэды? — спытаў пасля паўзы Кук. — Я маю на ўвазе тое, як вучыў свайго вучня індзеец Дон Хуан скіраванаму снабачанню?

— Так, — сказаў Мігель. — У «дурцы» былі і кастанэдавы прыхільнікі. Нават у лекара на стале я ўбачыў яго кнігу. Такі быў час, такая мода.

— Рады, што вам не трэба тлумачыць і вы ва ўсё ўязджаеце, — ажывіўся госць. — Я чуў, што па насычанасці ўражанняў скіраваныя сны могуць даць рады любому наркотыку. І гэта пры тым, што не прыносяць арганізму шкоды.

Але гаспадар не падтрымаў яго.

— Я быў бы толькі задаволены, каб спаць, як усе — нармальна.

— Дык усё-такі, — вярнуўся да сваёй ранейшай прапановы Кук. — Вы прадасцё мне сёй-той з вашых сноў?

— А навошта вам?

Так як чалавек па прозвішчы Кук даўно чакаў такога пытання, то ён і патлумачыў гаспадару, што піша адмысловую навуковую ці дакладней — калянавуковую працу, і таму мусіць збіраць сны ва ўсіх сваіх знаёмых. За плату. Вядома, ён хлусіў, але Мігель быццам не заўважыў гэтага.

— Я падумаю колькі дзён, — адказаў гаспадар.

* * *

Прыкладна праз тыдзень Кук зайшоў да суседа Мігеля і ў канцы гутаркі спытаў таго наконт іх мінулай размовы і сваёй прапановы. Мігель адказаў, што ўвогуле не супраць прадаць які са сваіх сноў і, вядома, не за грошы, а, так бы мовіць, сімвалічна, за распітую разам пляшку каньяку ці яшчэ што далікатнае. Але, дадаў, — ёсць сны зусім інтымнага характару. Вось учора яму снілася былая каханка, якой не бачыў некалькі год. Хіба гэта можа быць такім ужо цікавым?

— Не, — згадзіўся госць. — Але як толькі вы пабачыце якіх тараканаў, мух, жаб, чарвякоў, то я гатовы купіць такі сон.

Яшчэ некалькі дзён запар Кук заходзіў да суседа Мігеля і распытваў таго пра сны. Каб не расчараваць таго, купіў адзін, але, на яго погляд, неістотны. Суседзі распілі бутэльку каньяку, якую прынёс Кук, і разышліся.

Праз дзень Мігель паведаміў Куку, што ў бліжэйшы час наўрад ці што прадасць яму, бо сніў у асноўным свайго сына, армейскую казарму, у якой той цяпер, пэўна, жыве, былую жонку ды нейкіх мышэй.

— Раскажыце пра мышэй, — у ветлівай форме адразу запатрабаваў Кук.

— Мне саснілася быццам нейкая гульнявая пляцоўка, — пасля паўзы пачаў расказваць Мігель, — дзе было шмат зацікаўленых людзей, якія рабілі стаўкі на нейкія скачкі. З шуфлядак выпускалі жукоў, якія беглі па доўгіх латках.

— Так, так, — наструніўся Кук. — І што?

— Ды нічога асаблівага. З адной шуфлядкі замест жука выбегла мыш і, вядома, апярэдзіла ўсіх. Хіба не лухта?

— Я купляю ў вас гэты сон.

Кук схадзіў да сябе і прынёс каньяк, які абодва субяседнікі і распілі пад ажыўленую, хоць і малазначную гутарку.

У сябе дома Кук пачаў аналізаваць сон Мігеля з усіх бакоў, бо, як ён добра памятаў і засвоіў, кожны сон важны сваім вытлумачэннем. Скачкі, меркаваў ён, адбываюцца толькі на іпадроме. Робяць стаўкі яшчэ і ў казіно, але ў казіно — рулетка, і гэта зусім не тое. Вядома, жукі — гэта вобраз, праекцыя ў сапраўдную рэальнасць. А мыш? Мышы, як Кук даведаўся з сонніка, — да беднасці. Дык чаму перамагла мыш?

* * *

Назаўтра быў выхадны дзень, і Кук паехаў на іпадром. Ён раней наведваў яго разы два, але больш з цікаўнасці, бо не быў заўзятым гульцом. Набыўшы білет і праграму скачак, Кук пачаў уважліва яе вывучаць. Ягоныя намаганні ўрэшце прынеслі відавочны плён. Шэрая мыш! У трэцім заездзе прымала ўдзел кабыла па мянушцы Шэрая Мыш. Яна выступала пад нумарам дванаццаць. Кук скіраваў у букмекерскую і даведаўся, што стаўкі на Шэрую Мыш прымаюцца адзін да дзесяці, пасля чаго, падумаўшы, паставіў на дванаццаты нумар пяцьсот долараў.

Каб дарэмна не хваляваცца, пайшоў у бар, дзе заказаў сабе піва, адначасова слухаючы абвесткі па мясцовым радыё.

Шэрая Мыш выйграла заезд.

* * *

Усхваляваны ўдачай, Кук хацеў адразу наведаць Мігеля і добра адсвяткаваць падзею, але да суседа якраз прыйшла ранейшая непрыкметная жанчына — як меркаваў Кук, яго сужыцелька, і ён адклаў візіт.

Між тым на працы Куку паведамілі, што праз два дні яму трэба адпраўляцца ў камандзіроўку ў сталіцу суседняй рэспублікі. Кук не любіў дарогу, але сустрэў гэтую непазбежную навіну са стаічнай стрыманасцю. Ведаючы антыпатыю дамаседа Кука да вакзалаў і гасцініц, начальства нават прапанавала яму заказаць білет на самалёт і аплаціць толькі палавіну яго кошту, бо фондаў не хапала. Кук згадзіўся, незадаволена дадаўшы, што і назад вернецца самалётам, бо ўжо не малады, каб суткамі трэсціся ў цесным купэ якога цягніка і трываць пах ад чыіхсьці нясвежых шкарпэтак.

Адвячоркам, збольшага сабраўшыся, Кук патэлефанаваў Мігелю і спытаў, ці мае той крыху вольнага часу. Сусед адказаў, што да начнога дзяжурства такі час якраз ёсць, ён адзін, і запрасіў зайсці.

Кук захапіў з сабой бутэльку каньяку і пакрочыў праз лесвічную пляцоўку.

— Паслухайце, — пачаў здалёк гаспадар, калі абодва ўжо селі, як звычайна, за стол на кухні, — я нейкі час думаў над тым, што вы мне расказвалі пра сон. Дык вось: сон — гэта поўнае адключэнне свядомасці, ну, быццам адключаюць камп'ютэр. Ці, наадварот, у сне чалавечы мозг поўнасцю прачынаецца, і энергаабмен дасягае мяжы высокіх велічынь. У першым выпадку — пасля сну наша, так бы мовіць, «я» перажывае своеасаблівую смерць і з'яўляецца ўжо ягонай копіяй. Хіба не так? А ў другім? Неўролагі цяпер сведчаць якраз тое, што мозг у сне працуе звышэфектыўна. Тады вынікае: ён сапраўды праломвае бар'еры часу і прасторы. Дык што такое ў гэтым выпадку наша «я», наша свядомасць? І час? І прастора?

— Ёсць пытанні, на якія, пакуль не толькі я, звычайны чалавек, можна сказаць, невук, не здолее адказаць, а ўвогуле — ніхто, — пасля роздуму сказаў Кук і дадаў:

— Вы прадасце мне свой чарговы сон? Пажадана, сённяшні?

— Зрабіце ласку. Але ён неістотны і наўрад ці вас зацікавіць.

— Ну, не важна, — падахвоціў Кук.

— Мне саснілася, што я прагульваю сабаку. І гэты сабака быццам мой і ў той жа час зусім не мой, а проста жывёла. Мы падыходзім да высокай гары — гэта гранітная скала, якіх у нашых краях, заўважце, не існуе. Але ў маім сне гэта так. Сабака часта падманвае мяне, з'ядае мой бутэрброд, калі мы адпачываем, але я дарую яму, адчуваю да яго нават прыхільнасць. Ля скалы я бачу вельмі доўгую лесвіцу, якая прыхілілася да яе і вядзе ўвышыню. Знізу лесвіца чамусьці заканчваецца колцамі. Раптам сабака падбягае да яе і пачынае караскацца на самы верх, і вельмі хутка. Я сачу за ім з трывогай і бачу, як сабака ўздымаецца вышэй і вышэй. Але тут колцы лесвіцы нечакана ад'язджаюць, і ўсё абвальваецца на зямлю. Я гляджу, дзе сабака, і бачу яго на самым версе скалы. Там нешта гарыць. Вось і ўсё. Далей я прачнуўся.

— Я не магу купіць гэты сон, — пасля роздуму, смеючыся, сказаў Кук. — У ім няма таго, што мяне цікавіць: тараканаў, мышэй, жаб, клапоў, птушак, жамяры якой і гэтак далей.

— Няхай, але ў ім сабака. Урэшце, воля ваша. Я аддаю вам гэту дробязь дарма. Тым больш, я вас папярэдзіў, што сон неістотны.

Гаспадар і госць дапілі напой, і Кук пайшоў у сваю кватэру.

* * *

Раніцой Кук заехаў на працу, але хутка вызваліўся і рушыў дамоў, адкуль, сабраўшыся, скіраваў у аэрапорт. Камандзіроўка пачалася.

Ляцець было крыху больш за гадзіну. Кук заняў сваё месца ў салоне самалёта, выцягнуў з сакваяжа часопіс, які набыў у шапіку і, паназіраўшы крыху за стройнай, прываблівай сцюардэсай, паглыбіўся ў чытанне.

Самалёт між тым выруліў на ўзлётную паласу, зароў двума маторамі і неўзабаве ўзляцеў.

Чытаць было нецікава. Кук пачаў разглядаць бачных яму пасажыраў. Многія былі апранутыя ў цёмныя касцюмы, як і ён, — пэўна, таксама камандзіраваныя. Але сядзелі і некалькі маладзёнаў у світэрах і джынсах. Побач з Кукам драмаў таўстун з дыпламатам на каленях. У яго была моцная чырвоная шыя і загарэлая лысіна. Кук зірнуў на гадзіннік: яны ляцелі ўжо каля дваццаці

хвілін. Ён яўна нудзіўся і чакаў, каб выйшла прыгожая і сексуальная сцюардэса, але яе не было. Самалёт між тым злёгку трасянула, і ён відавочна стаў рабіць разварот, на што амаль ніхто не звярнуў увагі. У салоне нарэшце з'явілася сцюардэса і папрасіла ўсіх прышпіліцца рамянямі. Кук міжволі адзначыў, што ў яе нейкі ненатуральна бледны твар і змяніўся голас. Ён нахіліўся да суседа і адсунуў фіранку з ілюмінатара.

З рухавіка над той часткай крыла, якую ўбачыў праз шкло, вылятаі языкі полымя.

Кук раптам адчуў, як у яго пахаладзела спіна. Хацеў ускочыць з месца і пабегчы да кабіны пілотаў, каб спытаць у чым справа, але сутыкнуўся з успуджаным і перасцерагальным позіркам сцюардэсы і — застаўся.

Кук адчуў, як яго думкі ліхаманкава мітусяцца. Зноў зірнуў у ілюмінатар — полымя вырывалася з-пад крыла. «Можа, так і трэба? — пранеслася ў яго галаве, — можа, гэта выхлапы звычайнага адпрацаванага паліва?» Сцюардэса між тым крутанулася і паспешліва пабегла з салона ў кабіну.

— Грамадзяне пасажыры, — пачуўся ў салоне мужчынскі голас, пэўна, камандзіра. — Наш «борт» у сувязі са складанымі метэаралагічнымі ўмовамі наперадзе вымушаны вярнуцца і зрабіць незапланаваную пасадку. Усіх, хто яшчэ не прышпіліўся, просьба зрабіць гэта неадкладна.

І тут Кук зусім не да часу і месца зусім нечакана ўспомніў пра сон Мігеля, які ён адмовіўся купіць і на які так неабдумана не прарэагаваў. Лесвіца на колцах — гэта ж трап, па якім ён паўгадзіны таму падняўся на борт самалёта. Сабака ў любым сонніку вызначаецца як сябра. Гэта ён, Кук, і ёсць той сябра, які апынуўся на скале, на гары. А гара — гэта бяда, гора. Лесвіца абрынулася. І не толькі ў сне. Які ж ён быў ідыёт, бо не патурбаваўся вытлумачыць гэты прапанаваны яму знак бяды, гэтую перасцярогу. Ён так неабдумана не купіў той сон.

Самалёт затрэсла, і пасажыры пачалі нешта трывожна выкрыкваць, нейкія пытанні — кожны сваё. Кук зноў наваліўся на таўстуна, які здзіўлена лыпаў вачыма, і рвануў фіранку.

З-пад крыла ўжо ва ўсю моц біла полымя. У салон убегла сцюардэса. Твар яе быў перакошаны, а скура на ім белая, як папера. Яна ўжо яўна не валодала сабой. Кук схапіўся за рэмень, каб адшпіліць яго, падняцца з месца і спытаць у сцюардэсы, колькі часу ім яшчэ ляцець да якога бліжэйшага аэрадрома, але не паспеў.

Злева, дзе быў агорнуты полымем рухавік, адбыўся адчувальны выбух, самалёт імкліва нахіліўся і, развальваючыся на часткі, пачаў падаць на зямлю.

## *Стрыечніца*

Цягнік адыходзіў а восьмай гадзіне вечара. Сонца яшчэ толькі хілілася да захаду, і вакзал, як заўсёды ў летнюю пару, стракацеў людзьмі, машынамі, поўніўся шумам.

З дарожнай сумкай у руцэ Зміцер Дашкевіч стаяў на пероне ў чаканні цягніка. Месцы, дзе збіралася зашмат людзей, асабліва вакзалы, ён не любіў. Тым не менш патрэба была неадкладная.

Наведаць стрыечную сястру Змітрака Дашкевіча папрасіла цётка, якая даводзілася дзяўчыне маці. Два гады таму малодшая сястра Дашкевіча Ганна з'ехала ў мегаполіс, адкуль цяпер дасылала лісты альбо тэлефанавала — заўсёды днём і, запэўніўшы, што ў яе ўсё добра, хутка заканчвала размову. Калісьці Аня (а так яе звалі дома) скончыла харэаграфічнае вучылішча: выдатна спявала і танчыла і з часам выражыла, як ведаў Зміцер, што ў правінцыі яе нічога вартага не чакае — урэшце большасць яе аднагодкаў

таксама трызнілі Парыжам, Берлінам, Нью-Йоркам альбо, на худы канец, Масквой.

У кароткіх лістах дамоў Аня распавядала, што за мяжой вучыць музыцы і танцам таленавітых дзяцей і падлеткаў, а ў вольны час рыхтуецца паступаць у кансерваторыю.

Цётка, якую днямі скіравалі ў анкалагічны дыспансер на абследаванне, не дачакаўшыся дачкі, што ўсё цягнула з адведзінамі, пайшла за дапамогай да пляменніка.

Слухаючы цётку, Зміцер Дашкевіч успамінаў стрыечніцу, якой яе ведаў два гады назад: танклявую, даўганогую дзяўчыну, рахманую, але разам з тым настойлівую і натурыстую.

— Чаго цябе цягне ў гэты вір? — спытаў тады сястру, калі тая ўжо збірала рэчы, каб праз які тыдзень спраўдзіць сваё, як ён лічыў, неабдуманае рашэнне. — Хіба ты не зусім разумееш, якія цяжкасці чакаюць маладую, адзінокую дзяўчыну ў гіганцкім і ўжо ад таго брудным ва ўсіх адносінах мегаполісе, у гэтай сучаснай Гаморы? Твой бацька рана памёр, а маці ўжо ў гадах, і ніякай дапамогі ты, калі што, не дачакаешся.

Самому Зміцеру Дашкевічу было ўжо далёка за трыццаць. У дваццаць год вярнуўся дадому з Афганістана, дзе, служачы ў войску, прымаў удзел у баях, быў паранены ў плячо, неяк здолеў выжыць. З паўгода ён добра, хоць і без асаблівай ахвоты, выпіваў, потым адразу кінуў, скончыў тэхнічны каледж, ажаніўся і ўладкаваўся працаваць у прыгарадным лясніцтве. Зміцер быў сярэдняга росту, з даволі гожым, па-мужчынску квадратным тварам і цёмным вожыкам кароткіх валасоў. Маўклівы, ён, быццам назаўсёды, палюбіў адзіноту. У вольны час альбо нешта чытаў, альбо рыбачыў на возеры, захапіўшы з сабою такога ж нешматслоўнага сямігадовага сына.

— Я хачу сама вырашаць за сябе, — адказала тады яму стрыечніца. — Буду творча працаваць, сустракацца з таленавітымі людзьмі, з багемай, а не з дзеравеншчынай, ад якой нясе півам з цыбуляй.

— Магчыма, так яно і будзе, — павысіўшы голас, сказаў на гэта Зміцер. — Але такое ў большасці здараецца толькі ў ідыёцкіх фільмах для дэбілаў. Ты не ведаеш, які гэта страшны горад. Ён поўны дзялкоў, крымінальнікаў, ну і, вядома, так званых «пакліканых» багемай. Але далёка не ўсім шчасціць трапіць у яе абдымкі. Наркаманы, дробныя п'янтосы, што жывуць, бясконца пазычаючы грошы, і лічаць сябе непрызнанымі геніямі, вычварэнцы, проста хлам...

— Можна падумаць, што ты ўсё гэта зведаў...

— Вядома, я не ўсё там бачыў, але мне хапіла для высноў і таго часу, калі аднойчы з'ездзіў туды на заробкі.

Але дзяўчына толькі іранічна ўсміхнулася і сказала:

— Нават, калі і так. Я сама вырашыла, па якім шляху пакрочу. Можа, мне пашанцуе, а можа, і не. Але ж вярнуцца сюды я заўсёды здолею. І тым больш жыць так, як жывеш ты.

Зміцер убачыў тады ў яе вачах лёгкі дамесак пагарды. Гэта была нібы пагарда буравесніка да хатняй птушкі, якая выбрала жыццё ў цішыні і спакоі. Дый хіба ён — хатняя птушка. Але ж не збіраўся тлумачыць дзяўчыне, што жыццё занадта кароткае, што сам за які год-два пражыў яго столькі, колькі б ёй хапіла на трыццаць, і што галоўнае ў жыцці, магчыма, толькі душэўны спакой.

Зміцер прамаўчаў — урэшце, маладосць спасцігае вопыт і веды не са слоў старэйшых, а наступаючы на ўласныя граблі — толькі спытаў:

— У цябе ёсць там знаёмыя, сваякі, да каго можна звярнуцца на першым часе? Ты прыглядзела сабе якую работу на пачатак?

— У Інтэрнэце я знайшла некалькі вакансій, — адказала стрыечніца Аня. — Запісалася на субяседаванні. Там лёгка знайсці месца ў гандлі, афі-

цыянткі, але я ўпэўнена, што ўладкуюся па сваім профілі. Да таго ж веру ў добрых людзей. Як прыеду, зніму пакойчык у ведамасным інтэрнаце — для якіх медыкаў, рыбакоў. Звярнуся проста да каменданта.

— Магчыма, ты сапраўды вельмі таленавітая, — заўважыў ён тады не без іроніі, — але ж таленты павінны належаць сваёй краіне, там, дзе выспелі, а не збягаць у чужую. Чалавеку лепш трымацца таго месца, дзе ён нарадзіўся.

— А што мяне тут чакае? — пачуў у адказ. — Ну, скончу педінстытут завочна, ну, уладкуюся ў школу, як маці. Ну і што? Вось я настаўніца, спальваю нервы на ўроках. Вось я замужам, нарадзіла дзіця. А вось муж пачынае выпіваць, а я хадзіць на працу ў сукенках з плямамі ад супу, потым таўсцею, выходжу на пенсію і... калі-небудзь ціха зажмураваюся. Так жыць я не хачу.

— Ты ўсё-такі падумай, — прапанаваў ён больш па інерцыі. — Не раз, як кажуць, парайся з падушкай.

Вядома, скончылася тым, што стрыечніца аднойчы з'ехала.

* * *

Лежачы без сну ў вагоне, Зміцер Дашкевіч раптам падумаў: ці часам не зайздросціць ён цяпер стрыечніцы Ані? Ён бы таксама мог жыць дзе-небудзь у вялікім горадзе, узбіцца на грошы, ездзіць на іншамарцы, наведваць казіно, мяняць палюбоўніц. Але дзеля гэтага, як разумеў, трэба было пераступіць нешта занадта чалавечае, што яшчэ заставалася ў глыбіні душы. Дый ці тое галоўнае? Урэшце, які ў яго талент. Ніякага. Тут сястра, пэўна, мела рацыю. Пад аднастайнае перастукванне колаў Зміцер урэшце заснуў.

* * *

Раніцай разам з пасажырамі ён выйшаў з вагона і марудна рушыў да выхаду, пільна ўглядаючыся ў сустракаючых.

Аня была сярод іх. Не адразу пазнаў стрыечную сястру, якую не бачыў ужо больш як два гады і памятаў стройнай і па-свойму абаяльнай дзяўчынай. У доўгай квятастай спадніцы і блакітнай кашулі, яна тым не менш выглядала неяк нязвыкла. Зміцер Дашкевіч, па-свойску абдымаючы яе, мельгам адзначыў, што сястра састарэла з твару, а з рота ў яе пахла тытунём. Раней жа не паліла. Назіральны, ён, адхіліўшыся, зноў углядзеўся ёй у твар і ўбачыў ледзь прыкметны і ўмела замаскіраваны грымам, прыпудраны сіняк. Устрывожаны, ён, падумаўшы, усё-такі адклаў свае пытанні на потым.

Яны доўга, з перасадкамі, дабіраліся ў метро, а потым ехалі на аўтобусе. Па дарозе стрыечніца пыталася пра маці, пра некаторых сваіх сяброўак і знаёмых, якія засталіся ў іх правінцыяльным гарадку, і Зміцер сціпла адказваў на яе пытанні, адзначыўшы, што ў маці, магчыма, знайшлі небяспечную хваробу і, натуральна тое, што яна хоча пабачыць дачку.

Больш пра гэта яны не гаварылі, бо выйшлі на адным з прыпынкаў на ўскраіне горада. Было ўжо даволі спякотна, асфальт выпраменьваў цяпло сонца, якое ў тонкім вэлюме смогу вісела ў амаль бязвоблачным небе. Людзі мітусіліся вакол іх, спяшаючыся па сваіх справах.

— Мы дзесьці ля твайго дома і пойдзем адразу проста да цябе? — спытаў Зміцер Дашкевіч сястру.

— Не зусім так. Я зняла для цябе нумар у гасцініцы. Яна тут непадалёку.

— А дзе ты жывеш?

— Я жыву ў сям'і, дзе шмат дзяцей, якіх я і вучу. Іх дом у двух кварталах адсюль.

Нумар у гасцініцы аказаўся не больш як дзесяць квадратных метраў. Сталі вешалка, ложак і тумбачка, як у бальнічным пакоі. Туалет знаходзіўся ў канцы калідора. Сцены кабіны ў ім былі спісаныя непрыстойнасцямі. З акна пакоя была бачная сцяна дома насупраць.

— Вечарам я вызвалюся, — сказала стрыечніца, — і мы пасядзім у кафэ, пагаворым аб усім больш падрабязна. Ты ж ненадоўга?

— Не ведаю, — няўпэўнена адказаў Зміцер Дашкевіч. Штосьці няўлоўнае, неасэнсаванае занепакоіла яго.

Сястра развіталася і мусіла пайсці, забраўшы сёе-тое з прадуктаў, што ён прывёз з сабой.

— Можа, цябе праводзіць? — спытаўся.

— Не. Адпачні, бо, пэўна ж, здарожыўся.

Як стрыечніца выйшла, Зміцер скінуў вятроўку, надзеў на галаву бейсболку, замкнуў нумар і, не губляючы дзяўчыну з віду, асцярожна рушыў следам. Калі б нават яна і азірнулася, то наўрад бы здалёк пазнала яго. Але сястра, не азіраючыся, крочыла наперад. Неўзабаве збочыла ў завулак, потым у другі і падышла да невялікага двухпавярховага дома за металічнай агароджай. Ля дома стаялі прыпаркаваныя некалькі легкавых машын, амаль усе іншамаркі. Брамка, што вяла за агароджу, была расчыненая, і ў яе заходзілі і выходзілі жукаватыя цёмнавалосыя людзі. Машыны зрэдку ад'язджалі, а на іх месца праз нейкі час пад'язджалі новыя.

Стрыечніца Аня прайшла ў падворак дома, дзе была сустрэтая незадаволенымі воклічамі і адразу знікла ва ўхадных дзвярах.

Зміцер Дашкевіч пастаяў нейкі час, пахмурна назіраючы за падазроным домам і яго жыхарамі. Ён яшчэ раз убачыў стрыечніцу, якая выйшла з гадавалым дзіцем на руках, а потым зноў знікла. Тады ён павярнуўся і рушыў назад у гасцініцу.

У сваім нумары Змітрок Дашкевіч лёг на ложак і доўга ляжаў, абдумваючы ўбачанае, а потым нечакана заснуў.

Прачнуўся, калі сонца пачынала ўжо хіліцца да захаду, і зірнуў на гадзіннік. Гэта быў каштоўны трафейны «ролекс», які ён калісьці, дваццаць гадоў таму, зняў з забітага маджахеда і па «дэмбелі» здолеў без прыгод прывезці дадому. Да сустрэчы з сястрой заставалася паўгадзіны.

* * *

Кафэ было поўнае наведвальнікаў. За столікамі нетаропка паглыналі спіртное з густам апранутыя дзяўчаты і юнакі з тварамі, іншымі з якіх, пэўна, зацікавіўся б Ламброза. Былі сярод іх і старэйшыя па ўзросце, яўна падобныя на звычайных гарадскіх наркаманаў, а жанчыны — на шлюх. Сям-там адкрыта палілі цыгарэты, чулася разняволеная п'янаватая гаворка. «Хіба варта было ехаць амаль за тысячу кіламетраў, каб пабачыць усё гэта тупое і агрэсіўнае ўбоства», — падумаў ён, хацеў спытаць пра тое сваю стрыечніцу, але стрымаўся.

Аня сядзела за столікам насупраць яго і паглынала салат. Яна была апранута па-ранейшаму. Прынеслі бутэльку чырвонага сухога віна, і Зміцер замовіў па біфштэксе. Ежа, асабліва яе якасць, вымагала лепшага, але змаўчаў, бо не гэта было зараз галоўнае.

— Паслухай, — пачаў ён, — табе варта паехаць дамоў.

— Ты хочаш сказаць пабачыць маці? — удакладніла стрыечніца Аня.

— Паехаць назусім. Вярнуцца разам са мной, — жорстка падвынікаваў ён. — І нам трэба зрабіць гэта неадкладна. Заўтра.

— Чаму так раптоўна?

— Таму што ты нікуды не паступіла, на табе старая сукенка і ў цябе сіняк на твары.

Аня сціснула зубы.

— Я паваліласся, як танчыла.

— У каго ты спынілася?

— У заможных людзей. Я даглядаю іх дзяцей.

— Наколькі я здагадваюся, ніякіх прапаноў з «Масфільма» табе не паступіла і ты не выйшла замуж за вядомага музыку ці спевака. Нават за звычайнага багатага адваката, які б павёз цябе ў гэты спякотны час у Еўпаторыю.

— У мяне яшчэ наперадзе жыццё, і я не думаю, што там, на радзіме, мне будзе лепш.

— Жыццё кароткае, а людзі часта хутка апускаюцца, нават не заўважаючы гэтага.

Аня нервова запаліла цыгарэту. Было бачна, што гутарка нядобра ўзрушыла яе, і яна ледзь стрымліваецца.

— Ну і няхай, — з выклікам адказала. — Гарбаціць, як ты, і чакаць нішчымнай пенсіі?

— Можна заўсёды знайсці якое захапленне, калі ты чагосьці варты, — заўважыў ён больш ціхамірна.

— Ну а ты чагосьці варты? Чаго? — укалола стрыечніца ўжо даволі злосна і чыста па-жаночы.

— Я прыехаў сюды не за тым, каб высвятляць гэта ці спрачацца з табой, а каб вярнуць цябе дадому. Дома лепш, чым на чужыне. Мне гэта добра вядома.

Аня зацята маўчала.

— Я хачу пагаварыць з людзьмі, у якіх ты пражываеш і працуеш, выхоўваючы іх дзяцей, — сказаў Зміцер. — Хто яны?

— Ды якая табе розніца?

— Ты мне не чужая, і вось зараз, прыкладам, я адказны за цябе. Хочаш ты гэтага ці не.

— Як я, на тваю думку, вярнуся дадому? З мяне пачнуць кпіць, скажуць, што я ні на што не вартая. Што я няздара.

— Тым не менш ты павінна вярнуцца назад, выйсці замуж і нарадзіць дзяцей. Азірніся вакол сябе хоць бы ў гэтым кафэ. Што тут добрага? Хіба не агідныя табе людзі, якія віруюць за столікамі? А насмактаўшыся, як камары, пачнуць рабіць адно аднаму гадасці?

— Ну не ўсе ж кафэ такія. Не ўсе людзі агідныя.

Маўчалі, пакуль іх бакалы з віном апусцелі, а ежа знікла.

— Урэшце, я не хачу з табой сварыцца, — падводзячы вынік, сказаў Зміцер Дашкевіч і паклікаў афіцыянтку, каб расплаціцца.

Яны выйшлі з кафэ і апынуліся на ходніках, ад якіх зыходзіла задушлівая гарачыня. Над горадам, над даляглядам яшчэ вісела сонца. Было спякотна.

— Раю падумаць пра наш ад'езд да заўтрашняга дня, — прапанаваў Зміцер Дашкевіч стрыечніцы. — А пакуль я цябе праводжу да твайго жытла і, калі ты не супраць, пазнаёмлюся з тваімі, так бы мовіць, працадаўцамі. Да вечара яшчэ шмат часу.

Адразу адчуў, як наструнілася Аня.

— Я дайду сама, — рашуча адхіліла яна братаву прапанову. — І... абяцаю табе падумаць, а заўтра дам адказ. Дарэчы, ты не забыўся, у якім баку твая гасцініца?

* * *

Як і раней, Зміцер Дашкевіч, крыху счакаўшы, асцярожна, хаваючыся за прахожымі, пакрочыў за сястрой. Але той, пэўна, аніяк не прыходзіла ў галаву, што за ёй могуць сачыць. Падумаўшы пра гэта, адчуў пэўную няёмкасць. «І ўсё-такі, — падсумаваў, — я прыехаў сюды здалёк, каб даведацца пра ўсё і выканаць свой сваяцкі абавязак, нягледзячы ні на якія маральныя адхіленні. Хіба што так яно і павінна быць».

Стрыечніца Аня спяшалася. Вуліца, па якой яна крочыла, была ўсё тая ж: з урослымі з бакоў у асфальт пяціпавярховікамі, неахайнымі прыватнымі крамкамі, пэўна, адчыненымі ў апошні пасляперабудовачны час, ды старымі, магчыма, пасляваеннымі будынкамі: двух- і чатырохпавярховікамі. Некаторыя з іх былі абнесеныя агароджай. Менавіта да аднаго з іх, які ён ужо пазнаў, ішла Аня.

Пабачыў, як стрыечная сястра знікла ў доме, і задумаўся пра тое, што яму рабіць далей. Неасэнсаваныя падазрэнні не пакідалі. Што гэта за дом? Хто там жыве, працуе і якой дзейнасцю займаецца? Чаму па двое, па трое маладых людзей, прыпаркаваўшы свае іншамаркі, знікаюць за дзвярыма, прычым некаторыя з іх, як заўважыў, на падпітку?

Зміцер Дашкевіч прайшоў крыху далей па другім баку вуліцы і спыніўся перад адным з пад'ездаў пяціпавярховай «хрушчоўкі». Чакаў нядоўга. З пад'езда нетаропка выйшла жанчына яўна пенсійнага ўзросту, з пекінесам на ланцужку. Сабака аж заходзіўся ад жадання кудысьці бегчы. На галаве жанчыны быў капялюшык ад сонца, а на вачах цёмныя акуляры.

— Паслухайце, — адразу спытаў яе Дашкевіч. — Вы не падкажаце, што знаходзіцца ў тым доме? — І кіўнуў убок двухпавярховага будынка, за агароджай якога знікла Аня.

На вуснах жанчыны з'явілася нешта накшталт саркастычнай усмешкі.

— А вы хіба не ведаеце? Масажны салон.

— А канкрэтна? Па-мойму, вы нешта недагаворваеце. Скажу вам праўду: мая сястра кажа, што ўладкавалася сюды на працу, — вучыць дзяцей. Я прыйшоў даведацца. Тут нешта не тое.

— А вы б спыталі ў яе, што там за праца, — у голасе жанчыны адчувалася ўжо і жаданне пазласловіць. Вы аповесць Купрына «Яма» чыталі? Дык вось тут такая ж самая яма. Не будзьце наіўным.

Сабака ўжо цягнуў жанчыну прэч. Зміцер Дашкевіч машынальна падзякаваў і... скіраваў назад, да дома.

Ён ужо не раздумваў, што рабіць. Але спачатку трэба было ўпэўніцца на свае вочы, чаму стрыечніца менавіта тут, і прымаць нейкае рашэнне.

Разняволеным крокам мінуў брамку, прайшоў па асфальтавай дарожцы і націснуў на ручку дзвярэй.

Коратка стрыжаны мацак, які сядзеў у холе і размаўляў па радыётэлефоне, слізнуў па ім вачыма і запаволена падняўся насустрач.

— Вы хто такі? У нас па запісу.

— Кліент, — знарок туманна адказаў Змітрок Дашкевіч.

— Нешта я вас не памятаю.

— За «вертухая» тут? — наблізіў яго да канкрэтыкі Змітрок Дашкевіч і дадаў: — Я прайду.

— Вам да каго? — крыху пацішэў мацак.

— Да Ані.

— Якой? Тут у нас іх некалькі.

— Да «бульбашкі».

— А-а, у яе ж быццам сёння вольны дзень.

— Дамова ў нас. Ды што ты парышся, братан? — перайшоў на «ты» Зміцер Дашкевіч. — Каго прэсуеш?

— Ну, згода, знялі тэму. Праходзь, — мацак, у якога якраз засігналіў мабільнік, вярнуўся ў крэсла.

Зміцер Дашкевіч адразу ўзняўся на другі паверх і апынуўся ў доўгім калідоры, па баках якога месціліся пакоі з нумарамі на дзвярах і раз-пораз узнікалі чыесьці нетаропкія постаці. Нейкая ўскудлачаная дзяўчына ў шортах на яго пытанне тыцнула пальцам у адны з дзвярэй:

— Тут.

Стрыечніца Аня сядзела ў крэсле за невялікім столікам, на якім стаяла напаўпустая бутэлька віна і пара пласцікавых аднаразовых талерак. Побач з ёй, але на канапе ўладкавалася фарбаваная пад ружовы колер дзяўчына з лялечным тварыкам. Абедзве палілі цыгарэты.

Пабачыўшы брата, стрыечніца быццам і не здзівілася.

— Усё-такі высачыў, — сказала яна, крыва ўсміхнуўшыся. — Ну, давай, гавары!

— Я пайду, — адразу падхапілася яе суразмоўца і, не марудзячы, выйшла.

— Збірайся, — сказаў Змітрок Дашкевіч сястры. — Я не хачу ведаць, чым ты тут займаешся, але мы адсюль ад'язджаем. І лепш нават зараз. Пойдзеш у гасцініцу, дзе я спыніўся, і пабудзеш там, пакуль я прывязу білеты на цягнік.

— Я не паеду.

— Гэта яшчэ чаму? — спытаў ён і прысеў на канапу, дзе дагэтуль сядзела ружовая дзяўчына.

— У асноўным — ты ведаеш.

— Я ўжо ведаю, што ты ў яме. Трэба выбірацца. Я выклікаю таксі.

— Пакінь мяне ў спакоі. Я сама адказваю за сябе.

— Твая маці захварэла. Што я ёй скажу?

Стрыечніца тыцнула цыгарэту ў сподак.

— Скажы, што ў мяне ўсё добра. Я прыеду. Пасля.

— Хто тут цябе, да слова, крышуе? Я хачу з ім пагаварыць. Я бачыў тут людзей, якіх не назваў бы славянамі, як бы ні хацеў. Ты разумееш, што такія людзі спачатку зававліваюць, а потым апускаюць з нечалавечай жорсткасцю? Хіба ты не чула, што беспрытульным дзецям яны выломваюць рукі і ногі, калечаць старых, адбіраюць у іх дакументы, а потым саджаюць на асфальт жабракамі?

— Змоўкні! — стрыечніца раптам затрэслася ў плачы.

— Дзе твае дакументы? Пашпарт пры табе?

— Не. Забралі.

— Ідыётка! Пра што ты думала, калі даверылася?

Раптам слабая надзея абудзілася ў ім.

— Скажы, можа, ты і праўда толькі мамчыш чыёсьці дзіця? Я бачыў у цябе на руках...

— Справа ў тым, што гэта маё дзіця, — праз паўзу выціснула прызнанне стрыечніца.

— Ад каго яно?

— Табе якая справа?

— Ну добра. Забяром і дзіця. Збірайся.

— Не.

— Можа, ты ўсё-такі раскажаш, як сюды трапіла?

— Іншым разам.

— Што ж, тады я сам разбяруся.

— Не хадзі! — паспела азвацца Аня, але ён ужо выскачыў у калідор.

Двое жукаватых качкоў якраз ішлі яму насустрач.

— Гэй, пацаны, — звярнуўся да іх Зміцер Дашкевіч. — Хто тут у вас хату трымае?

Жукаватыя пераглянуліся.

— Навошта табе?

— Значыць, хачу пазнаёміцца. Справа ёсць.

Утраіх яны спусціліся на першы паверх. Паляпаўшы на ўсялякі выпадак яго па кішэнях — як здагадаўся, на наяўнасць ствала, — жукаватыя завялі яго ў бакавы пакой.

За сталом з ноутбукам і некалькімі тэлефонамі сядзеў усходняга тыпу каржакаваты, без аніводнага валаска на галаве, жаўтаскуры мужчына сярэдніх гадоў, амаль карлік, толькі шыракаплечы, з масіўным залатым ланцугом на шыі. Напаўвар'яцкія чорныя вочы яго ўтаропіліся на тых, хто ўвайшоў.

— Гэту хату вы трымаеце? — спытаў яго Зміцер Дашкевіч.

— Хто гэта? Мент? — звярнуўся да качкоў карлік. — Што яму трэба?

— Базар у яго...

— Давай па справе і ў трох словах: што хочаш?

— Я не мент. Сястру маю Аню-«бульбашку» адпусціце з богам, — сказаў Змітрок Дашкевіч. — Пашпарт вярніце, і зараз.

— А-а, вось яно што. Прад'ява, значыць? А ты з «бульбашыі» прыбыў? Ат я радуюся... А ў вас там, як я чуў, не людзі жывуць. А лахі. — (Ён зрабіў націск на апошні склад.) — Гэта праўда?

— Сястру адпусціце...

— А мы яе сюды звалі? Вось няхай табе мае гракі скажуць. У нас — масажны салон. Яна, так бы мовіць, прафесію засвоіла. І — не малалетка. Яна, што — цябе сюды паслала? За пашпартам?

— Усё гэта — вада. Давайце па справе.

— Ну, ты мне ўвесь кайф абламаў. Мо цябе ў карты праіграць? — весяліўся карлік. — Дык ты не парся, усё ўстаканіцца, ха-ха!

Качкі ліслива захіхікалі.

— Аньку сюды! Хутка! — раптам сагнаў усмешку з твару карлік.

Прывялі стрыечніцу Аню. У вачах яе з'явіўся страх, і Зміцер Дашкевіч зразумеў, што дабром усё гэта не скончыцца.

— Значыць, ты, Аня, пашпарт хочаш і зліняць намылілася? Так?

Стрыечніца маўчала.

— А колькі бабла ты нам вінна — ведаеш? Можа, падлічыць?

Стрыечніца Аня раптам затрэслася ў плачы.

— Вы з бабай пра жыццё не вырашайце, — сказаў Зміцер Дашкевіч. — Я за ўсё адкажу.

— Аня, выйдзі.

Стрыечніца выйшла.

— Дваццаць штук. Гатоўкай, — сказаў карлік. — Думай хутчэй.

— Што ж, я пакуль пайду. Пагаворым у іншым месцы.

— Вы чулі, — спытаў карлік, — які мутняк вярзе гэты тормаз? Ён жа мне пагражае! Ён з'ехаў з разьбы, не інакш. Ды навучыце яго жыць, ха-ха.. Праводзьце адпаведна!

Быццам чакаючы гэтага, «качкі» накінуліся на яго і, схапіўшы за рукі, пацягнулі вонкі. У холе да іх далучыўся і «вертухай». Білі ўтраіх ужо на ходніках, потым на асфальце.

* * *

Ачуняўшы, ён з трэцяга разу спыніў таксі. Таксіст неахвотна і падазрона агледзеў яго, але грошы наперад узяў і адразу палагоднеў.

— У бліжэйшы ламбард, — папрасіў Зміцер Дашкевіч.

У ламбардзе яго ветліва сустрэў малады чалавек з прылізаным праборам на яйкападобнай галаве.

Зміцер Дашкевіч зняў з рукі гадзіннік і паклаў на стойку.

— Можна дамовіцца без афармлення, — сказаў ён. — Я наўрад ці сюды вярнуся.

Малады чалавек пачаў старанна вывучаць гадзіннік, паклікаў яшчэ аднаго — пэўна, больш уплывовага дзялка.

— У вас нешта дрэннае з тварам, — заўважыў той. — Урэшце, гэта ваша праблема, хоць мы можам прапанаваць вам асвяжыцца. Вы з кімсьці пасварыліся?

— Я спяшаюся, — сказаў Дашкевіч. — Давайце па сутнасці. Я прапаную вам «ролекс» за палавіну кошту.

— «Штуку» гатоўкай.

— Паўтары. Вы ведаеце лепш за мяне, што гадзіннік каштуе ў дзесяць раз больш. Інакш я паеду ў іншае месца.

Яны пераглянуліся.

— Згода. Няхай па-вашаму.

Зміцер Дашкевіч забраў грошы і выйшаў. Таксіст чакаў яго, як і абяцаў.

— А зараз, — сказаў Зміцер Дашкевіч, — паедзем у бліжэйшую краму, дзе гандлююць зброяй. Дзеці, бач ты, цікавяцца пнеўматыкай.

Крама знайшлася хутка. У гэты час там было адносна пуста. Прадавец, малады мужчына бандыцкага выгляду, не выказаў аніякага здзіўлення, пабачыўшы нецярплівага наведвальніка са свежым крывападцёкам на твары.

— Чым цікавіцеся? — спытаў. — У нас, дарэчы, шырокі выбар. Усё, так бы мовіць, для самаабароны: пнеўматычныя і газавыя вінтоўкі, карабіны, пісталеты, рэвальверы. Ёсць проста пугачы, камуфляж. Ад сапраўднай зброі не адрозніш.

— Мне натура трэба, — сказаў Зміцер Дашкевіч. — Я заплачу, як належыць.

— Ну, не кісла, — усміхнуўся прадавец, але быццам і не здзівіўся. — Вы, гэта, не заходзьце з поўначы. Вы хто? Мент?

— А што — падобны?

— Ды не вельмі. Бачу, што не мясцовы. Акцэнт. Але зараз нікому нельга давяраць. Жыццё такое.

— Рызыка аплачваецца ўдвая.

Запанавала кароткая паўза.

— Што трэба? — раптам, панізіўшы голас, спытаў прадавец. — Коратка. У выглядзе намёку. А я, можа, зразумею, а можа, і не.

— Калісьці з «макарам» сябрукаваў, — сказаў Зміцер Дашкевіч.

— Дзве «штукі».

— Згода. І запасную абойму ў дадатак.

У падсобцы ён атрымаў пісталет, агледзеў, праверыў і адлічыў грошы.

— Тавар не засвечаны. І вы мяне ніколі не бачылі, як і я вас, — сказаў на развітанне прадавец.

* * *

У таксі, па дарозе назад, Зміцер Дашкевіч раптам, на здзіўленне самому сабе, супакоіўся. Уражанне было такое, быццам прыняў двайную дозу транквілізатара. Прычына таму, як адразу зразумеў, простая: пісталет за поясам і запасная абойма ў кішэні. Зараз вернецца да таго двухпавярховіка за агароджай, і настане, як кажуць, момант ісціны. Урэшце, не ён хоча гэтага і не ён павінен ў тым, што адбудзецца. Такое жыццё. Як каму пашанцуе. Можна

пражыць яго ціха, спакойна, трываць прыніжэнні, а можна трапіць у нерат выпадковасці, бо раны могуць і загаіцца, але ж абраза — ніколі. Яму таксама можна вярнуцца дадому і жыць далей з гэтай абразай. Але не здолее. Зміцер недастаткова мяккі чалавек, каб загінуць у барацьбе за існаванне, але ж і не зусім жорсткі, каб прыніжаць іншых і знаходзіць у гэтым асалоду. Ён толькі хоча душэўнага спакою.

Стрыечніца быццам прычына тут. Але хто вінаваты ў тым, што маладых дзяўчат з лёгкасцю аддаюць у чужыя нячыстыя рукі? Ён раптам успомніў, як па дарозе ў Афганістан праязджалі аддаленыя кішлакі на тэрыторыі былога Саюза і там ён бачыў некалькі маладых настаўніц, сваіх зямлячак, скіраваных туды па размеркаванні, і бачыў тое, што з імі сталася. Хто вінаваты, што маладых дурнаватых дзяўчат, такіх самых, як яго стрыечніца Аня, выхоўваюць у дурноце? І яны не ствараюць сем’і, а служаць распусце на карысць хітрым чужынцам ці нараджаюць мяшанцаў?

І гэтая дурнота распаўсюджваецца, і яе становіцца ўсё болей з кожнай гадзінай, з кожным днём.

Так, усё гэта ёсць, але не можа служыць апраўданнем нікому. І тое, што ён вяртаецца назад, каб разлічыцца з той хітрай дурнотай, магчыма, не ўратуе нікога, але чалавек да таго часу застаецца чалавекам, пакуль у стане здзейсніць няхай сабе і маленькі, але такі неабходны крок. Таму ён зараз і спакойны. Абсалютна спакойны.

## *Прытча пра жука-чарнацёлку*

Малады следчы па прозвішчы Локас адамкнуў дзверы ў свой кабінет і адразу адчыніў фортку: у другім крыле будынка знаходзіўся ізалятар, ад чаго ў памяшканні не выводзіўся характэрны пах. Следчы Локас быў даволі высокі, светлавалосы, са звычайнымі абрысамі твару, уласцівымі для жыхароў паўночных раёнаў: шэрымі вачыма, прамым носам і пухлымі губамі падлетка.

Ён выцягнуў з сейфа і пагартаў папку з чарговай справай, з якой апошнім часам разбіраўся, і ўрэшце папрасіў прывесці да сябе падследнага.

Увялі. Следчы Локас бачыў яго ўжо ў трэці раз і адзначыў, што знешні выгляд таго змяніўся не ў лепшы бок: пад вачыма зняволенага з’явіліся цёмныя кругі, а выцягнуты, гарбаносы твар схуднеў і завастрыўся. Падследны тым не менш не хаваў вочы і быў знешне даволі спакойны.

Следчы Локас паказаў зняволенаму куды сесці — урэшце той і сам ведаў гэта.

— Вы — грамадзянін Крэз? Так?

— Так.

— Як я вам ужо гаварыў раней, вы абвінавачваецеся ў забойстве сваёй былой нарачонай і яе сужыцеля, грамадзяніна іншай рэспублікі — таму і затрыманы. Вы прызнаяцеся ў злачынстве? Раскажыце, як усё было, і мы не будзем гуляць у хованкі, прызначым следчы эксперымент, аформім усё як ёсць і перададзім вашу справу ў суд. Ваша шчырае, чыстасардэчнае прызнанне аблегчыць вам ступень пакарання.

Падследны Крэз уважліва выслухаў следчага. Некалькі доўгіх секунд ён абдумваў адказ, а потым сказаў:

— Я па-свойму давяду вам нібыта ўсё як было, але заўважце — нібыта. Можа, было, а можа, і не. А накшталт таго, што я забойца, то вам яшчэ трэба гэта даказаць.

— Дакажам, — сказаў следчы Локас.

— Старайцеся! — падследны Крэз красамоўна пацiснуў плячыма.

— Ну і як, па-вашаму, нібыта было? — праз паўзу спытаў следчы Локас.

Падследны ўсміхнуўся, нават з сарказмам.

— Вы, пэўна, ведаеце пра тое, што такое прамежкавы гаспадар? — нечакана спытаў ён.

Следчы Локас неўразумела ўзняў бровы.

— Тут пытанні задаю я, — удакладніў ён, але з ноткай здзіўлення.

— Згода, згода.

— Урэшце, працягвайце. Што вы падразумяваеце пад тэрмінам прамежкавы гаспадар?

— Ёсць такая навука — біялогія. Дык вось адзін са шматлікіх яе раздзелаў сведчыць: паразіты не толькі прыстасаваліся выкарыстоўваць цела гаспадара як крыніцу харчавання і дабрабыту, але і авалодалі тэхнікай змены стэрэатыпа яго (цела) паводзін у сваіх карысных інтарэсах.

— Ну і што? — спытаў следчы Локас.

— Дык вось цяпер паслухайце кароткую прытчу на канкрэтным, так бы мовіць, прыкладзе.

— А бліжэй да справы нельга? — пацікавіўся следчы.

— Куды ўжо бліжэй! Але слухайце ўважліва. Жыў-быў адзін, ну, скажам, жук-чарнацёлка. Дарэчы, у нас (я маю на ўвазе нашу краіну) іх каля дваццаці відаў. Пэўна, і вы іх часта сустракалі, ды толькі не звярталі асаблівай увагі: пад якой-небудзь калодай, у склепе ці на агародзе. Такі чорны, бліскучы жук-рабацяга. Дык вось наш жук-чарнацёлка нарадзіўся і вырас у звычайным для сябе асяроддзі. Ён рана пазбавіўся сваіх бацькоў і адразу стаў самастойным. Жыццё між тым не вельмі прывабная рэч, хоць той-сёй шчаслівец і сцвярджае, што самае галоўнае шчасце ў тым — каб ... быць. А калі наадварот?

— Што наадварот? — умяшаўся следчы Локас, — няшчасце ў тым, каб быць, ці шчасце ў тым, каб не быць?

— Ваша пытанне не пазбаўлена сэнсу. Хоць, мяркую, тут — што пнём аб саву, што савой аб пень — адзін капыл. Але ж прасочым за нашым героем, жуком-чарнацёлкай. Ён быў рабацяга, кемлівы, старанны, у тэрмін клапаціўся, каб перасядзець небяспеку, не надта высоўваўся днём, каб не здзяўбла якая птушка, вось толькі не любіў вялікай вады. Аднойчы, па жыцці, сутыкнуўся з лічынкай, якую ён, шчыры ідэаліст, наблізіў да сябе, не ведаючы, што гэта лічынка чарвяка-валасаціка. Жук-чарнацёлка працягваў свае звычайныя заняткі, а ў гэты ж час у ім, у яго целе абудзілася іншае, драпежнае жыццё. Лічынка пачала паволі расці і развівацца, карыстаючыся жыццёвай энергіяй і сокамі свайго гаспадара. Часам жук-чарнацёлка цьмяна адчуваў пэўны дыскамфорт, неасэнсаваную трывогу, слабасць, якія паступова павялічваліся, але працягваў ва ўсё большай колькасці здабываць ежу і больш адпачываць, каб аднаўляць сілы. Жук-чарнацёлка баяўся вады: гэта было закладзена ў ім генамі шматлікіх папярэднікаў. Вільгаць у якой зацені, раса на траве цалкам задавальнялі яго патрэбы. Але з часам нашага героя пачынала ўсё больш апаноўваць неасэнсаванае, цьмянае жаданне: знайсці вадаём. І вось жук-чарнацёлка, якога падганяе нейкі глыбока прыхаваны інстынкт, аднойчы адпраўляецца ў свой шлях. Шмат перашкод пераадольвае ён: небяспеку збоку птушак, у якіх самы моцны зрок, ямы і камяні, мінуе ногі людзей, колы машын і конскія капыты, якія ў любую хвіліну могуць пазбавіць яго жыцця, і ўрэшце дасягае вялікай вады. Жук замірае перад ёй у жахлівай трывозе. Нешта супраціўляецца таму, што павінна адбыцца, але ў той жа час нешта іншае ўнутры штурхае яго наперад. Адчуваючы гэты нецярплівы покліч, жук-чарнацёлка па сцябліне спускаецца на дно вадаёма: яму немагчыма без паветра, вада сціскае з усіх бакоў і з вышыні, але ён апантана паўзе ўніз, пакуль не дасягае дна. Смяротная туга раптам авалодвае ім. І вось тут з яго цела і выходзіць валасацік: да дваццаці пяці сантыметраў даўжынёй, тонкі, жвавы. Ён у сваёй стыхіі

і з лёгкасцю пакідае свайго прамежкавага часовага гаспадара. А жук-чарнацёлка, наіўны працаголік, які ўсё сваё жыццё пражыў дзеля карысці ворага, адразу гіне.

— Павучальная прытча, — сказаў следчы Локас. — Вы калісьці вучыліся на бібліятэчным факультэце. Прыгожа расказалі. Ну і што з таго?

Падследны Крэз змрочна зірнуў на яго.

— Часам адбываецца так, што неблагі, шчыры і няхітры чалавек ахвяруе сваім жыццём дзеля цынічнага падлюгі, нават не падазраючы пра гэта. Такімі ахвярамі, да слова, могуць быць не толькі жукі, жывёлы, але і людзі, і нават цэлыя народы. Урэшце, гэта мая думка, так бы мовіць, сваёй гадоўлі.

Абодва змоўклі. Следчы Локас злёгку пастукваў пальцамі па стале, абдумваючы пачутае.

— Я з цікавасцю вас праслухаў, і ў мяне дастаткова мазгоў, каб уехаць ва ўсю гэтую вашу алегорыю, — праз паўзу адзначыў ён. — А цяпер, вярнуўшыся ад жука да нашых баранаў, праслухайце маю версію таго, як усё адбылося, — і я маю дастаткова доказаў, што яна адзіная і сапраўдная.

Падследны Крэз узняў галаву і наструніўся.

— Дык вось, — працягваў следчы, — некалькі год таму вы пазнаёміліся з вашай нарачонай. Закахаліся ў яе. Але ў вас не было матэрыяльнай падставы, грошай, каб пачаць сумеснае жыццё. А між тым мякка і непрыкметна ваша нявеста пачала схіляць вас, каб вы дастаткова забяспечылі сябе і яе: набылі тое, што маюць іншыя паспяховыя людзі: кватэру ў цэнтры горада, аўтамабіль, лецішча каля вады. Толькі вось як? І вы, які вельмі не любіць вялікай вады (так ці не?) — іду ў заклад, што так, завербаваліся ў плаванне. Плаваючы далёка за мяжой, зараблялі неблагія на той час грошы. Прыкладна ў той жа час памерла ваша маці, і вы, узяўшы кароткатэрміновы адпачынак, прадалі яе кватэру і даволі выгадна частку грошай патрацілі на новую кватэру ў цэнтры, афармілі яе на вашу нявесту, вы ж бязмерна давяралі ёй, астатнія пакінулі ёй жа і зноў пайшлі ў плаванне. Усе свае заробкі дасылалі нарачонай. Але вось вы неўзабаве вярнуліся. Толькі на гэты раз на месяц раней. Пэўна, адчувалі нешта неасэнсаванае, нейкую трывогу, пагрозу. Хіба не так? Вы ж нават не паведамілі сваёй нявесце пра тое, што накіроўваецеся дамоў? Хацелі зрабіць ёй прыемны сюрпрыз?

І вось вы дома. Раніца. Уваходзіце ў пад'езд, падымаецеся па лесвіцы. Ключ пры вас. Адчыняеце дзверы і ціхенька ўваходзіце. Тое, што бачыце, прымушае насцярожыцца. Паўсюдна мужчынская вопратка ўперамешку з жаночай. Чамаданы, сумкі. На стале — білеты на самалёт. Тут жа і дакументы. Яго зваць Ашот. Кватэра ўжо прададзеная, заўтра яны высяляюцца і вылятаюць на яго радзіму. Вы па-ранейшаму бязгучна ідзяце да спальні, прыадчыняеце дзверы і бачыце ў ложку абаіх. Яны спяць. Той, каго завуць Ашот, — невялікі, жукаваты, увесь паросла чорнай шчэццю, вам нават становіцца чамусьці крыўдна і агідна. Вы адступаеце на кухню і вяртаецеся з нажом. Далей ужо банальна: ідзе разборка і яе наступствы. У арміі вы навучыліся выдатна валодаць халоднай зброяй, нож і ў плаванні быў для вас асноўным інструментам. Так? Гаварыце!

Следчы Локас змоўк у чаканні.

— У мяне алібі. Я вярнуўся значна пазней.

— Вось як? А калі вас нехта бачыў менавіта ў той дзень?

— Не бярыце на понт, — сказаў падследны Крэз, але з ледзь улоўнай ноткай трывогі. — У вас, дарэчы, шалёная фантазія.

— Я даю вам хвіліну, — патрабаваў следчы Локас. — Пачнём гаварыць праўду?

Ён утаропіўся ў зняволенага і змоўк у чаканні.

— А вось вы — вы хацелі б пражыць сваё адзінае жыццё, а запаснога ж — няма, у якасці жука-чарнацёлкі? — замест адказу спытаў падследны Крэз.

— Хоць я і не ў праве адказваць на вашы пытанні, але адкажу. Вядома, не. Але ж вы вінаватыя не ў гэтым, а ў тым, што парушылі закон.

— Дакажыце.

— І вельмі хутка. Але я даю вам шанц.

— Гэта вы пра чыстасардэчнае прызнанне? Не, грамадзянін начальнік, на лоха вы мяне не развядзеце.

— Што ж, угаворваць — не мая справа. Да сустрэчы.

— Бывайце.

Следчы Локас націснуў кнопку, і падследнага павялі ў камеру.

Застаўшыся адзін, следчы Локас доўга сядзеў за сталом, зрэдку адказваў на тэлефонныя званкі і думаў. У рэшце рэшт ён упершыню аказаўся перад дылемай: знізіць вартасць жыцця чалавека, які толькі што сядзеў перад ім, амаль да нуля ці, наааадварот, даць яму надзею. Жук-чарнацёлка. Следчы раптам уявіў сябе ў такой жа сітуацыі і адчуў непрыемную трывогу на душы і няўпэўненасць. Ён, як і яго падследны, таксама быў малады, сустракаўся з дзяўчынай і неўзабаве таксама збіраўся ажаніцца. Але, меркаваў ён, ці можна быць упэўненым у тым, што так хістка і ненадзейна ў рэальнасці навокал яго, дзе ўсё таксама адносна, як і мараль?

Следчы Локас адкрыў сейф і выцягнуў дадатковую дакументацыю да справы часова зняволенага Крэза, знайшоў і паклаў на стол перад сабой тое, што дагэтуль прытрымліваў як асноўны доказ: пісьмовае сведчанне аднаго з суседзяў нявесты падследнага Крэза: некалькі сказаў на адной старонцы. Гэтымі некалькімі сказамі стары пенсіянер ушчэнт разбіваў алібі Крэза. Ён сцвярджаў, што бачыў Крэза ў пад'ездзе якраз у дзень забойства, хаця апошні ўпарта настойваў на тым, што з'явіўся ў горадзе на некалькі дзён пазней. Гэтае сведчанне, якое ляжала цяпер на стале, і было той казырнай картай, якая магла ці знішчыць яго падследнага, ці, вызваліць, калі не даць яму ходу.

Следчы Локас зноў перачытаў ліст. Якраз суткі таму старога, які сведчыў супраць Крэза, разбіў інсульт. Спаралізаваны, ён цяпер ляжаў у бальніцы, і шматлікія сваякі пэўна рыхтаваліся да непазбежнага. Ён ужо нічога не здолее сказаць, — меркаваў следчы Локас: ні пацвердзіць, ні абвергнуць. Толькі гэтая яго паперка, бадай, здолее.

Следчы Локас думаў. Былая нявеста Крэза і яе сужыцель — мёртвыя. Іх ужо не ажывіць. Нават калі засудзіць гэтага Крэза па максімуме. Што з таго, калі ён, Крэз, альбо загіне на зоне, альбо праз дзесяць-пятнаццаць год вернецца старым інвалідам з туберкулёзам у апошняй стадыі? З іншага боку, што добрага ў тым, калі на ім, следчым, глушцом павісне нераскрытая справа? Тады зняволенага Крэза трэба будзе неўзабаве вызваліць з-за недаказанасці. А закон?

Жук-чарнацёлка...

Следчы Локас выцягнуў з пачкі цыгарэту, дапаліў яе да палавіны, кінуў у попельніцу, а потым, павагаўшыся, сунуў туды ж ліст старога і пстрыкнуў запальнічкай.

«Над жыццём няма суддзі», — раптам успомнілася яму.





Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# «НЕПАЗБЕЖНА ВЫСОКАЕ НЕБА...»

* * *

Сціснуцца часу аковы,
Бразне маркоты засоў...
З намі няма Пісьмянкова,
Саша у вечнасць пайшоў.
Пуста і ў полі, і ў лесе,
Пуста і ўночы, і днём,
Колькі ўжо год без Алеся
Мы ў гэтым свеце жывём.
З кім пажурыцца, памарыць,
З кім падзяліцца душой?
Сёння над ім уладарыць
Вечны халодны спакой.

І не загоіцца рана,
Востры той боль не міне.
Толькі радкі нечакана
Раптам аклікнуць мяне:
*«Хай сабе жыццё і тлум,*
*Але ўсё ж не тло...*
*Добра, што ты ёсць, Навум,*
*І тваё святло».*
І палыхне, як пажарам,
Горкі адчай над зямлёй
І набрыняе на твары
Ціхай самотнай слязой.

* * *

Калі здрада паглядам услед паласне,
Калі засцяць святло непраглядныя хмары,
Я тады папрашу: не шкадуйце мяне,
А шкадуйце ўсіх нас за забітыя мары.

Пашкадуйце за тое, што кветкі цвілі,
Што згарэлі вачэй прамяністыя зоры,

---

***Гальпяровіч Навум Якаўлевіч*** *нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына», «Брама», «Востраў душы», «Струна», «Шляхі і вяртанні», «Святло ў акне», «Голас і рэха», «Гэта ўсё для цябе».*

Пашкадуйце за тое, што слова «былі»
Пра сяброў і каханых, бывае, гавораць.

Пашкадуйце ўсіх нас за правінаў ярмо
І за ўдары пад дых ад надзейных нібыта,
Пашкадуйце, што часам каханне само
Растаптана, зняважана, бытам забіта.

Я, напэўна, дарую ўсім тым, хто маніў,
Тым, хто здрады нажом замахнуўся аднойчы.
Хай віруе жыццё і прадоўжацца дні,
І хай будзе ўсім добра, хто гэтага хоча.

* * *

У купальскую ноч загадаю,
Каб была ты заўсёды са мной
І ў дарованым Богам мне краі
Гаспадарылі мір і спакой,
Каб не знаў ён навалаў суровых
І бядоты яго абышлі,
Каб жыла наша родная мова
І каб кветкі у полі цвілі,
Каб пад небам, асветлена-сінім,
Як пачатак жыцця і выток
Ціхай цэркаўкаю Еўфрасінні
Блаславіляў мяне родны куток.

* * *

Сёння з уловам прыйшлі рыбакі,
Юшку гатуюць.
Птушкі аднекуль з нябачнай ракі
Радасць вяшчуюць.

Вогнішча. Зорак асветлены рой.
Сіняе неба.
Што ў гэтым свеце яшчэ нам з табой,
Любая, трэба?

З неба знікае палоска святла,
Ноч наступае.
Дзякуй за тое, што ў лёсе была
Хвіля святая.

* * *

Калі ты хоць на дзень з'язджаеш,
Становіцца мне сумным свет.
І ты далёкая такая,
Як позіркі начных планет.

І боязна мне, каб не знікла
Ты ў гэтай зорнай вышыні,
Каб не пагасла, быццам знічка,
У грознай вечнасці агні.

Тады цябе ізноў чакаю,
Нібы над прорваю стаю,
І ў думках стоеных гукаю
Цябе, адзіную маю.

Бо ведаю, што ратаванне
Ад злой самоты і тугі —
Доўгачаканае вяртанне
Вачэй і вуснаў дарагіх.

* * *

Вучуся век роднаму слову
Я ў ціхіх лугоў і палёў,
У кветак прыгожых вясновых,
Ў празрыстых прыдзвінскіх гаёў,
У песень, што ноччу купальскай
Над вечнай прасторай плывуць,
Якія крыніцай кастальскай
Бруяцца і вечна жывуць,

У кніжных радкоў запаветных,
Скарынавых мудрых прадмоў,
Ва ўсмешак і позіркаў светлых
Маіх дарагіх землякоў.
І ў Бога прашу блаславення,
Каб Ён між усіх вышніх спраў
Даў роднаму слову натхненне,
Жыццё яму вечнае даў.

* * *

Ад кахання да слова «любіць», —
Як да зыркага ў небе світання,
Да пяшчотнага сонейка ззяння,
Да жадання адвечнага жыць.
Жарсць магутная можа згарэць,
Пакідаючы попел і прысак.
І знікаюць у вечнасці рысы,
І душа пачынае чарсцвець.
Ліст асенні пад ветрам дрыжыць,
Ды захочацца цёплага лета
І сказаць яшчэ «дзякуй» за гэта,
Што світанне надзеяй гарыць,
Што, як сонца, я ўсмешку лаўлю
І з душой трапяткою чакаю,
Каб сказаць разам з ціхім «кахаю»
Запаветнае слова «люблю».

* * *

Над ціхім лецішчам тваім
Салодкіх успамінаў дым.
А я іду па бальшаку,
Табе працягваю руку.
І лісце з дрэваў ападае.
А ты прыгожая такая...

* * *

Гэта ўсё усур'ёз — ад святога кахання загінуць,
Усур'ёз уваскрэснуць, і новую сцежку знайсці,
І на момант адзіны, у ціхую сэрца хвіліну,
Пажадаць сабе шчасця: з табою ісці па жыцці.

Непазбежны працяг! Непазбежна высокае неба,
Непазбежны хвіліны гарачых прызнанняў і слёз,
Непазбежная простая гэта, як праўда, патрэба,
Каб усё, што сапраўднае, стала для нас усур'ёз.

Так салодка згараць, пакідаючы стомлены прысак,
Так салодка кахаць да шчымлівых пранікпівых слёз,
Так салодка чакаць, што нарэшце жаданае прыйдзе
Шчасце, што для пакутнага сэрца ўсур'ёз.

* * *

Я дарма зноў паверыў верасню,
У вачах тваіх патануў:
Гэты верасень зноў не верне мне
Маладосць маю і вясну.

Што ж рабіць... Ды парой асенняю
Ёсць і сонца, і неба сінь,
І туга, як туман, рассеецца,
І пацягне зноў да вяршынь.

І на добрае зноў павернецца,
І хай будзе усё як ёсць...
Так і быць, зноў паверу верасню.
І хай доўжыцца маладосць!..

* * *

Як звычайна і проста,
Нібы дыхаць і піць:
Трэба жыць па-за ўзростам,
Дзень наступны любіць.

І кахаць утрапёна,
І адхланняў шукаць,
Са слязою салёнай
Ля магіл пастаяць.

І адчуць як выснову,
Як натхнення прыліў
Вернасць роднаму слову,
Вернасць роднай зямлі.





**Казімір КАМЕЙША**

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ

Майскія чаромхавыя халады... Даўно апетыя паэтамі, у новай маёй вясне яны здаюцца і не такімі зваблівымі. Ёсць нешта самотлівае і ў халодным пакалыхванні свежазялёных галін і белых дрыготкіх суквеццяў. Няма звонкасці і ў першым голасе зязюлі, і ў вечаровым шчыраванні салаўя недзе за чыгункай. Ніяк не выясніцца шэрае дажджлівае неба. Усё, ад птушынай пярынкі, што нудліва плавае ля самай кроны яблыні, да набухлай пупышкі, якая ніяк не разрэжацца маладым лістком, чакае цяпла. Хіба што ўсцешыць той самы букет чаромхі з гаркаватым пахам, які святочна бялее на тваім стале. Тут, пры яго светласці, цяплее і сама душа.

А можа, міне які дзень, тыдзень, месяц, і мне так будзе не хапаць гэтага здаровага майскага холаду? Ужо заўтра гэты ж букецік проста сумна завяне ды асыплецца...

* * *

Астравок на возеры... Кроны дрэў, пераважна таполяў, яшчэ бязлістых, густа ўлеплены кудлацістымі шапкамі грачыных гнёздаў. Каркатлівы птушыны крык аж рэжа паветра і вушы. Гракамі здалёку здаюцца і рыбаловы, што густа абселі халаднаваты бераг, прывязаўшы з самай раніцы свае позіркі да гультаяватых паплаўкоў. Нават з нейкай пацехай гляджу на іх, нерухомых, і зайздрошчу іхняй цярплівасці. Мне дык яе ніхто ўжо не пазычыць.

* * *

Люстэрка ў адрозненне ад лямпачкі ніколі не перагарае. У яго могуць глядзецца колькі хочаш прыгажунь, і ад гэтага ні яму, ні тым прыгажуням ніколі не будзе сумна.

---

*__Камейша Казімір Вікенцьевіч__ нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя». Цяпер — у часопісе «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы», «Мембрана», «Нектар», «Тут мае вёсны прычалены», «Сябрына», «Плёс», «Галоўная вярста», «Пярэймы дня», «Кубак блакіту», «Лінія лёсу» і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка», «Буслянка», «Дзятлава кузня», «Добры дзень, шафёр», «Крыгагром», кнігі прозы «Духмянае дзіва».*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

* * *

Да ўсяго ў жыцці чалавек даходзіць той жа жыццёвай навукай. А яна, перш чым навучыць цябе, мусіць добра і правучыць. Колькі было тых «правучэнняў» і ў аднаго майго знаёмага пушчанца. Ды ўсё тут жа і забывалася. Пэўна, самі настаўнікі былі не надта якога жыццёвага ўзроўню. А вось адзін урок запомніўся яму надоўга. Як згадае яго чалавек, дык і сёння, праз многа гадоў, няёмка робіцца. І смеху варта, на чым ён аканфузіўся, — на нейкай там мянушцы.

Склаліся неяк нашы навікоўцы па капейчыне, бо моцна захацелі выпіць, і прычына была: першым разам пасля зімы выгналі на пашу кароў. Дык угаварылі яго, маладзейшага ды хутчэйшага на ногі, збегаць у Гуменаўшчыну і купіць там некалькі пляшак пушчанскай.

— Ідзі, — кажуць, — і як мінеш лес і крыху пройдзеш па гасцінцы ўлева, дык уткнешся ў хату. Там Гром жыве. Гарэлка ў яго — во! Градусаў на семдзесят цягне. Збожжуўка!.. Хоць і прадае, а робіць як сабе...

І адправіўся наш ганец у дарогу, знайшоў тую хату. Зайшоў, ветліва павітаўся з гаспадарамі. І, пэўна, упадабаў яго сам гаспадар, чалавек-здаравяк, высокага росту, ажно галава пад столлю згінаецца. Распытаў пра здароўе навікоўцаў, якіх ён добра ведаў, а потым усадзіў хлапца за стол. І наліў у чаркі таго самага сінявата-моцнага напою, нават вяндлінай на стале запахла. А за чаркай наш навіковец, каб дагадзіць шчодраму гаспадару, дужа заліслівіўся: «пане Гром» ды «пане Гром». А той слухае і зласнавата крывіць свае тонкія вусны. Нарэшце не вытрымаў ды як схопіць бедалагу за грудзі:

— Які я табе «Гром»?! Што ў мяне, фаміліі чалавечай няма?.. Вось зараз як грымну!..

І выкінуў небараку за дзверы. Там, за дзвярыма, той адразу і працверазеў.

— Ну што ж вы мяне так? — ледзь не плакаў ён потым, дакараючы вяскоўцаў. — Хай бы сказалі...

— Нічога, другім разам разумнейшы будзеш! — смяяліся сябрукі. — Не ты першы, не ты апошні...

* * *

Людзі, вінаватыя ў нечым, часта шукаюць магчымасці, як бы гэта перакінуць віну са сваіх плеч ды на іншыя. Кладаўшчык заўсёды знойдзе тую мыш, на якую можна спісаць недахоп зерня ў засеку. Пажарнік, як заўсёды, усю віну спіша на праводку. На чыгунцы знойдуць вінаватага стрэлачніка. Цяжэй за ўсё ў падобным становішчы бывае творцу. Яго бяздарны твор на іншага не спішаш. Застаецца прытварацца і даказваць, што твой і самы няўдалы твор вышэй, чым у іншых іх таленавітыя.

* * *

Ксяндзоўскі гумар, мяккі, нязлосны, не крыўдзіць, але ўшчувае:

— Еду гэта я сюды і бачу: на дарозе воўк ляжыць здохлы. Што гэта, думаю, такое? А гэта ты, Казючок, прыйшоў нарэшце ў капліцу, каб памаліцца.

Казючок і сапраўды стаіць бліз алтара, хоць і чырванее, але ўсміхаецца.

* * *

«Ніхто з беларускіх паэтаў яшчэ не заваяваў свету. Дзе ваш гонар», — даводзілася чуць часамі. І адказвалася так:

— Мы не заваёўнікі. Мы — абаронцы.

А гонар?.. Гэтую моцную прыправу мы і праўда рэдка бяром да ўжытку.

* * *

«Мы праз гэта прайшлі!» Наступнікі яшчэ не раз паўтораць звыклую нам фразу. Але «гэта» ў іх будзе сваё, можа, горшае, можа, лепшае. Якое ўжо будзе. Якое Бог дасць.

* * *

Сёння шмат будуецца храмаў, вернуты да жыцця многія некалі знішчаныя. Аднак няверных, злачынцаў на зямлі ўсё больш і больш. Чаму так? Відаць, надта многа пастак наставіў д'ябал, пакуль была яго воля.

* * *

З далёкага цешчынага прырэчнага хутара мой сябра вяртаецца і са смешнымі гісторыямі. Часам «прадае» іх і мне. Нядаўна заходжу ў рэдакцыю, вітаюся, а ён толькі з дарогі.

— Ну ці прывёз што смешнага? — пытаюся.

— А як жа. Слухай!..

Цешча з самай раніцы чаруе над сваімі кроснамі. Дрыготкімі пальцамі памногу раз перабірае ніты. Нешта не атрымоўваецца.

«Мікола, памажы зачаць!» — крычыць нечакана.

Разгубіўся, не разумею. Паўтараецца зноў: «Зачаць памажы»...

«Як зачаць?!

«Ды ручнік зачаць!»

Адразу адлягло, засмяяўся. А калі растлумачыў цешчы, што азначае тое «зачаць», дык на ўсю хату рагатала і яна.

* * *

Як многа сустракаў я ў сваім жыцці тых, хто вельмі лёгка абяцае, а потым... А потым ходу ў тыя ж «кусты». Той, хто абяцае, у вачах тваіх паўстае сама менш чалавекам, пасланым табе Богам. Нават партрэт таго абецара бачу. Во, стаіць ён над самай тваёй душой, крыху схілены, крыху прыўсмешлівы, з прагнай мальбой у вачах. Ды і не абяцар гэта на самым пачатку, а нейкі вымагальны папрашайчык: «Нуналі мне, а я табе потым і... каўбасы, і бульбы, і ў інстытут дапамагу... А то яшчэ і «надрукуй» папросіць.

Абяцанням вераць і абяцанага чакаюць часам усё жыццё.

Зрэшты, памятаю, што абяцанкам тым нас недзе нават вучылі. Мы нават абяцалі «ўрачыста». Адзін дык нават цэлы камунізм паабяцаў нам. І ўсяго праз нейкіх там дваццаць гадоў. А ці дачакаліся? Вунь як трапна пра гэта ў народзе: «Абяцанка-цацанка, а дурному»... Самі ведаеце што.

Чакайце... А хіба сам я камусьці чагосьці не абяцаў, ды... Было-было. Абяцаць заўсёды лёгка.

* * *

Настаўнік, што некалі бегаў у касцёл з выведамі, хто ж там з яго вучняў кланяецца Богу, сёння і сам стаіць перад алтаром на каленях. І так шчыра жагнаецца. Перарадзіўся.

* * *

«А тое радзіннае зерне ўсё сеецца», — кажа жанчына, выціраючы ражком хусткі вільготныя вочы. І пазнае ў плаксівым немаўляці знаёмыя рысы ці то

прадзеда, ці то дзеда, бацькі — то абавязкова. А дзе ж яно дзенецца. Усё на зямлі працягваецца ды паўтараецца.

* * *

Усё не хачу верыць, што тая касмічная пасадка можа быць мяккай. Гэта ж вам не крэсла якое начальніцкае. Адно суцяшэнне, што на гэтую грэшную зямлю Бог адпраўляе кожнага з мяккай падушкай на адным месцы.

* * *

Сёння ссякаў на градзе капусту. Пэўна, самы час для гэтага, бо палова кастрычніка, Пакровы мінуліся. Качаны важкаватыя, але зверху добра-такі падрашэчаныя вусенем. Смачна і свежа храбусцяць на зубах свежыя ахрапкі. У маім пушчанскім дзяцінстве гэта былі не самыя апошнія прысмакі. І тут жа пытанне сабе. А ці бывае што ў дзяцінстве нясмачным?

* * *

Чаму ў беларускіх азёрах такая ціхая і спакойная вада? Ці задумваліся вы калі над гэтым? Кажуць, на месцы большасці з іх некалі стаялі вялізныя храмы, а потым затанулі. А калі добра прыслухацца: недзе з самых глыбіняў, з прадоння можна пачуць і векавечны голас іх далёкіх званоў. У дзяцінстве мне здалося, што пачуў я той звонны кліч і на маім возеры Кромань.

Легенды азёраў вельмі падобныя адна на адну. Мае сваю легенду і наша возера Кромань. Стаяў быццам на гэтым месцы некалі касцёл ды затануў. Але ёсць ва ўсім гэтым і нейкі свой спадзеў:

Кромань паўстане,
А Вільня затане!..

Невядома, да чаго б гэта. А вада і сапраўды ціхая і спакойная.

* * *

Інтэлігент у першым калене яшчэ не інтэлігент. У ім яшчэ моцна сядзіць нутро селяніна.

* * *

Вечарам ён вяртаўся электрычкай з горада і прывозіў з сабой пляшку любімай белай. Тут жа ставіў яе да статуэткі Шаляпіна, дзынкнуўшы яшчэ шклом аб алавянае калена: «Гэта нам на сёння, Федзя!» І статуэтка, здаецца, прымала такое панібрацтва.

* * *

— А ты думаў, што я такая дурная?!
— Не, я не думаў, што ты такая разумная!

* * *

Чатыры разавікі-шпрыцы, кінутыя пад дваровай гарадской аркай, быццам згарнуліся ў нейкі страшнаваты вянок. Пэўна, гэтак жа абдымаліся і тыя чацвёра, што стаялі тут уначы, а потым калоліся тымі іголкамі і, ужо вясёлыя, падаліся далей у ноч і ў сваю безвыходнасць.

* * *

І зусім легкаваты літаратурны прыёмчык: узяў цытату з класіка, дадаў да яе свае «тры капейкі» і адразу ж задраў нос пад генія.

* * *

Мы сядзелі на беразе і сумна глядзелі перад сабой. Я — на маршчыністую іржавую і халодную ваду ў канаве, ён — на халоднае, заімглёнае неба. У пустой бутэльцы пасвістваў вецер. І размова наша атрымлівалася нейкай пустой і вялай.

* * *

Зрокавы падман руху... Да яго прычыняўся кожны, хто сядзеў у адным з двух паралельных нерухомых цягнікоў, чакаючы адпраўлення. І вось адзін з цягнікоў крутнуў коламі і пачаў рух. А табе здалося, што адправіўся менавіта твой, хоць ён і стаіць на месцы.

Так бывае часта і ў літаратуры. Ідуць два паэты, здаецца, і роўна ідуць, а потым адзін як ірване. А другому здасца, што гэта ён ірвануў, а не паплечнік, хоць сам застаўся стаяць на месцы. Падман зроку ды адчування.

* * *

Яшчэ калі жыў мой бацька і завітаў аднойчы да мяне ў сталіцу, захацелася паказаць яму наша мінскае, зусім не глыбокае метро.

Сапраўды, неглыбокае: стаіш на праспекце, а ў пяткі табе пастуквае электрычка. Бацьку нешта застрэнчыла на Камароўку, дзе ён некалі быў частым госцем, дык я і прапанаваў яму метро.

— Не! — упарта запярэчыў бацька. — Паеду лепш на трамваі. Я на трамваі ездзіць люблю. А туды, пад зямлю, не хачу. Ранавата яшчэ. Я і тут, наверсе, яшчэ добра не нахадзіўся.

* * *

Нястрыманым быў наш сусед па кватэры: што трымае ў руках, тым «пад злую руку» і ў жонку можа запусціць. Неяк тая ўрываецца ў нашу кватэру з лямантам:

— Ой, забіў, бандзюга няшчасны!..

Глянула мая жонка і ледзь прытомнасці не страціла:

— Ой, людцы, у яе ж мазгі пацяклі!..

А гэта ён талерку з макаронамі ў яе шпурнуў. У страха, як кажуць, вочы вялікія.

* * *

Пасля жахлівага летняга ўрагану гарадскі двор выглядае і зусім жахліва, нібыта пасля бамбардзіроўкі якой. Бітае шкло, у вузлы пакручаныя абрыўкі бляхі, паламаныя ды з коранем вырваныя дрэвы... А што іх выварочваць, тыя дрэвы, калі яны карэннем ледзьве за зямлю трымаюцца. Вунь нашы, пушчанскія, дужыя, і то стыхія валіць, нібы сякерай высякае.

Паміж дрэвамі стаяць некалькі пабітых машын. Тут таксама выхадкі ўрагану. Бабулі, што выйшлі на пасластыхійны дзённы шпацыр, нават пацяшаюцца:

— Во такое на іх ДАІ трэба. А то панаедуць, панастаўляюць гэтага смярдзючага жалеза.

— Ну і дарма вы так, бабулі, — хочацца не згадзіцца з імі мне, таксама ўжо дзеду. Але ж народ — не ўрад, ён, што думае, тое і кажа.

* * *

Дзве бярозы, дужаватыя ў камлі, растуць з аднаго пня і адзіным карэннем за нашай вясковай хатай. І сок вясной з абедзвюх цячэ аднолькава салодкі. Але цячэ нядоўга — тут жа на дармовую салодкасць спаўзаюцца тутэйшыя мурашы, роем налятаюць мухі. Ну і як ты будзеш шкадаваць ім гэтага Богам пасланага ласунку?!

Чужой піле ўжо былі прыглянуліся мае бярозы. Але пасарамаціў, уратаваў. Ну хто ж без іх некалі прывітае мяне здалёку дзвюма сваімі гаманкімі кронамі?! Іх не тое што здалёк, але і з глыбіні сноў сваіх бачу.

* * *

Прысніўся сёння Пятрусь Макаль. Сустракаю яго чамусьці ў сваёй вёсцы, дзе ён ніколі і не быў, і не збіраўся туды. Кажа, быццам цяпер тут сам жыве, пастаялец. Прачнуўся і падумаў, што паэт наўрад ці сваю родную вёску памятаў, бо па волі ўсё тых жа абставін апынулася яна на чужыне. А тут — у маёй.

У сне Пятрусь сустракае мяне з пляшкай. Запрашаю яго ў нашу хату, шукаю нейкую закуску. А ён і сваю мае, дастае аднекуль скрылі накроенага сала. І больш няма працягу ў тым сне.

Раніцой трывожлівыя здагадкі. Да чаго б той сон? А потым успомніў, што ўчора перачытваў некаторыя яго вершы ў часопісе «Полымя» (1991, № 5). Яшчэ выпісаў для сябе радкі:

...Долі маёй не дай вам Бог,
Не ведаю, хто я і дзе я.
Калі зямля ўцякае з-пад ног,
На неба адна надзея.

У таго ж неба шукаю і разгадку свайму сну. Усё ж, пэўна, існуе нейкая жывая сувязь паміж мёртвымі і жывымі. Але хто гэта ведае?

* * *

На заезджай пляцоўцы адпачынку па дарозе з Масквы на Брэст хтосьці пакінуў жартоўны надпіс на паперчыне: «Тут сядзелі, адпачывалі і добра насвінячылі пасажыры з ВМ...» Гэта і пацвярджае ўсё іхняе смецце: пакамечаныя пластыкавыя пляшкі, недаедкі ды недакуркі.

Цікава было б ведаць і пра аўтара таго запісу.

* * *

Слова «нічога» часта ў нас служыць і вызначальнікам тае ж годнасці.

Хлопец ён — нічога! А бывае, сапраўды, нічога не варты. Тады ўжо адным словам не абыдзешся.

* * *

Хто возьмецца аспрэчваць тое, што ў жыцці не ўсё знікае бясследна.

Многае сыходзіць з добрым следам. А іншае мае звычку пераходзіць з аднаго зместу ці стану ў другі. Часам гэты пераход бывае балючым. Для многіх балючым стаўся той жа пераход ад партыйных узносаў да новых падаткаў.

* * *

У старасці чалавек усё часцей і часцей пачынае думаць пра Час, пра яго хуткацечнасць. Хоць якая там хуткацечнасць? Рухаецца ён, як спрадвеку рухаўся — паверце ўжо гадзіннікам! — дваццаць чатыры крокі ў суткі. І не больш. Ну а калі ўжо каму здаецца, што... Дык няхай здаецца.

Проста многім у ім боязна пачуваць сябе гасцямі, людзьмі часовымі. А гаспадар усё ж — ён сам, час.

* * *

Вёска засынае вельмі рана, асабліва ў час зімовы, калі дзень кароткі, а ноч даўжэзная, як нітка ў клубку папрадухі. Вёска спіць сном моцным, што і сведчыць пра яе здароўе. А прачынацца ёй трэба рана, яшчэ да пеўняў, яшчэ да сонца. Горад жа засынае марудна, а то і зусім забываецца пра сон. Ён і «шуміць і гудзе», б'е ў бубны, звініць чаркамі, шаргаціць падэшвамі і шалёна круціць свае колы... Горад жыве сваім двухмерным жыццём: ноч прагавіта спяшаецца прагуляць усё тое, што зарабіў працаўнік-дзень.

І ўсё ж галоўнае ў самой ночы — гэта сон. Ён і бярэ сваё. Хто з нас у маладыя гады ў імя самага найдарагога ў свеце чалавечага пачуцця, якое завецца каханнем, не ахвяраваў сваімі ночкамі і снамі? Прысядзеш, бывала, з каханаю на нейкай лавачцы ці на тым жа інтэрнацкім падаконні і гэтак прабуркуеш, і не заўважыш, як неба ды шыбіну за тваімі плячыма пазалоціць світанак.

Але ж як потым хацелася спаць. І добра, калі ў цябе ёсць свой ложак. А калі няма? Усюды ў чалавека павінен быць свой ложак: у войску, у бальніцы, у турме... А ў нас, студэнтаў маіх гадоў, былі яны не ў кожнага. І мы знаходзілі выйсце: ссоўвалі адзін да аднаго некалькі ложкаў, клаліся ўпоперак, а то і «валетам», і гэтак пашыралі тую спальную плошчу. Спалі часамі і на падлозе. Малады сон непераборлівы. Я лёгка засынаў на людных вакзалах, у даўнейшых трасунах-аўтобусах, пад цяжкі перастук колаў — у вагонах з драўлянымі сядзеннямі. Хораша спалася на маладым сене ў роднай пуні. У яго духмянасці, здавалася, не ляжыш, а плывеш на нейкіх дзіўных хвалях, галава кружылася ад моцнага траўнага водару і хмелю.

Лёгка спалася пры лугавой чмялінай купіне, пасучы каровы, дзе аднойчы праз аднаго з нас перапаўзла шэрая, як пасак, змяя. Перапалоху было на ўсё жыццё.

А ў войску на першым годзе службы я заснуў нават стоячы, калі «днявaліў» у вучэбным класе. Стаяў ля тумбачкі, глядзеў у нейкую адну кропку на сцяне, слухаў, як кропля за кропляй падзёўбвае над ракавінай дзіравы кран. Так і прыдрамаў. А калі расплюшчыў вочы, бачу: няма тумбачкі. Выскачыў у двор — нідзе нікога. Вось так пажартаваў з мяне дзяжурны па сяржанцкай школе афіцэр. Пакуль я спаў, ён скраў і аднёс тую тумбачку ў штаб. Пад смех салдат ды камандзіраў пайшоў я раніцой у штаб забіраць тую тумбачку. Паўшчувалі мяне там, пасмяяліся ды ўзнагародзілі трыма нарадамі па-за чаргой. Зноў жа пазбавілі сну ажно на тры ночы, бо адпрацоўваў іх на салдацкай кухні: чысціў бульбу, «драіў» печ і падлогу. Ах, як салодка згадваўся тады сон на мядовым сене ў пушчанскай пуньцы! Затое ў сэнсе пільнасці для мяне вунь была якая навука.

Эх, маладосць!.. Сёння б не пашкадаваў за твае бяссонныя гады самага найшыкоўнага ложка. Шкада толькі таго, марна праспанага. Бо пакуль мы спалі, у свеце тварыліся найвялікшыя цуды. А быць сведкам цуду — гэта глядзець вачыма самога Бога.

* * *

Колькі б ні вандраваў, а мяжы душы не знойдзеш (Геракліт). Як жа часта намаганнямі самой душы чалавек ірвецца ў свет, праз мяжу і за мяжу сваёй Айчыны, адкрывае для сябе, а то і для іншых, новыя гарады і абсягі, а душа так і застаецца невядомым, неспазнаным ці мацерыком, ці бязмежжам.

* * *

Калі я ўпершыню завітаў у Ляўкі, было гэта недзе на пачатку сямідзесятых мінулага стагоддзя, бераг Дняпра нагадаў мне вашчыну. Быў ён увесь у сотах гнёздаў ластавак-беражанак. Як жа шчасліва і прыгожа для вока выпырхвалі яны адтуль і стрымгалоў узляталі ў неба, крыху падцененае лёгкімі хмурынкамі. Так і бегаў позіркам па тым беразе і далей да неба, адчуваючы ад гэтага нейкае святочнае задавальненне.

А праз колькі гадоў завітаў сюды і не ўбачыў той «вашчыны». І захацелася прамовіць: «Беражы, Божа, тых беражанак!» Ды, відаць, ужо спазніўся.

* * *

Народная песня, што перадаецца з пакалення ў пакаленне, з вуснаў у вусны, — гэта агучаны пацалунак самой вечнасці. І няма нічога вышэй ад гэтай народнай цнотнасці.

* * *

Ён быў таленавітым кампазітарам, яшчэ лепшым аранжыроўшчыкам. У сямідзесятыя гады мінулага веку яго музычныя творы вельмі часта гучалі па радыё. Але аднойчы ён адчуў, што хворы, а потым даведаўся, што хвароба тая невылечная. І тады запіў. Страшна, штодзённа і беспрабудна. Ледзь не з самай раніцы прыходзіў у кафэ на рагу Чачэрына і Камуністычнай, якое мы, радыйцы, ахрысцілі «Чорнымі скаламі». Прыходзіў з сябрамі-музыкамі, а то і адзін. І прыкладаўся да шклянкі. Піў доўга, марудна, цяжка. Гэтак прыглушаў свой боль, а заадно і спапяляў думкі пра блізкую непазбежнасць. Мне здавалася, што балела больш не яму, а тым, хто бачыў усё гэта і разумеў яго. Тут была яшчэ і своеасаблівая мужнасць. Гэткім чынам ён змагаўся з самою смерцю. Згарэў хутка. Але чамусьці боль ягоны мне адчуваецца і сёння, праз далячынь часу.

* * *

Рэдка сёння ўбачыш у гарадскім транспарце чалавека з кнігай ці газетай у руках. Яго замяніў чалавек са слухаўкамі ў вушах, закладнік плэернай музыкі. Еду нядаўна ў тралейбусе і ніякавею, нават палохаюся. Побач са мной дзяўчына гадоў васемнаццаці сядзіць як быццам бы і нерухома, а галава ходырам ходзіць, не тое што трасецца, як у падучцы, а нейкія такты падхоплівае, рытмова ўздрыгвае. Не адразу і ўцяміў, адкуль той трасун, але тут убачыў у вушах чорныя завушніцы слухавак. Ах, вунь яно што: плэер... Музыку слухае і галавой прытанцоўвае.

Чым яшчэ новым здзівіць заўтрашні дзень? Кішэннымі тэлевізарамі, відэамабільнымі тэлефонамі? Ці яшчэ чым? «Будзем жыць, дык пабачым», — мудра кажа мая мама. Вядома толькі адно: нешта ды мае быць. І неўзабаве. Бо чалавецтва даўно ўжо асядлала вялікія і нават звышвялікія хуткасці сваіх сяганняў.

* * *

— «Ру-бя-ж-ж-эвічы!» — малому мне здавалася, што гэтак выспеўвалі колы воза па жвірыстай дарозе, калі мы нядзельным днём ехалі з бацькам на кірмаш.

— Выдумаў ты ўсё гэта, паэт! — кажа мая хрышчоная маці Ядвіся па мянушцы «ўнучка». — Там і жвіру таго нідзе не было.

Мама мая нібы і падтрымлівае яе:

— Бруку там было з добрых вярсты тры...

І я ўжо дакладней пачынаю ўзнаўляць у памяці тую былую дарогу. Сапраўды, быў гладкі, ужо добра ўтравелы брук, а потым ён саступаў месца каляіністай гліністай дарозе. Яна лёгка апускалася ў лагчыну і адразу брала разгон пад гару. І так разоў тры, да самых Рубяжэвіч. Брук якраз ляжаў у нізіне ля Міхалова. У Рубяжэвічах, пачынаючы ад моста пры млыне, дарога зноў рэзка бралася ўгору, утвараючы на скрыжаванні літару «Т». Там, наверсе, якраз у сярэдзіне літары, і дзень, і ноч шумела славутая забягайлаўка. Букеціста пенілася гаркаватае пасляваеннае піва, адна за адной выкочваліся ў двор спаражнёныя дубовыя бочкі. Часта ў той сталовай усчыналіся такія бойкі, ад якіх бег наўцёкі сам тутэйшы ўчастковы. Гэта з той самай рубяжэвіцкай гары нёс мяне некалі наш спуджаны конь, куляючы наўскід калёсы і ломячы аглоблі. Цудам утрымаўся я тады ў драбінах.

А ў халодным снежні 1943 года пані Ядвіся з панам Антосем неслі мяне на руках праз тую гару да касцёла, каб ахрысціць. Каня і сані прыхавалі ў кустах за млынам: на яго маглі паквапіцца і паліцэйскія, і тыя ж партызаны. Тады, мабыць, і застудзілі, і ратаваў мяне ад хваробы доктар з Ругайца Ладноў.

Горы на рубяжэвіцкім шляху, вядома ж, не зніклі, з гадамі яны, магчыма, яшчэ больш падвысіліся, з кожнай добра праглядваюцца дзве вежы Рубяжэвіцкага касцёла. Дарэчы, нядаўна парафіяне адзначалі стагоддзе свайго храма. Згадвалі і перадгісторыю самога касцёла. Першы каталіцкі храм Дзевы Марыі ў Рубяжэвічах заснаваў князь Дамінік Радзівіл яшчэ ў 1799 годзе. Але ў 1866-м касцёл быў ператвораны ў царкву Антаніна Рымляніна. Пры сцяне ля ўвахода ў сённяшні храм спачывае крануты часам шэры валун. Добра ўгледзеўшыся, на ім можна прачытаць: «Антоні Тур». Гэта ён, Антоні, жыхар Рубяжэвіч, у тым жа 1866 годзе адшукаў валун недзе ля блізкай вёскі Гнецькі (там і сёння вельмі камяніста), прывёз і паклаў на самым выносным месцы, сказаўшы тутэйшаму люду: «Тут будзе касцёл». Гэты ўчынак каштаваў яму высылкі ў Сібір. Але ўжо на пачатку наступнага веку касцёлу было суджана вырасці на тым самым месцы, дзе і сёння спачывае камень Тура:

...Жагнаюць паднеб'е там вежаў крыжы.
О, дзень мой, не станься пахмурным.
І камень сівы ля касцёла ляжыць,
Як сэрца Антонія Тура.

Яно скамянела ад мук і пакут,
Яму і вясной не сагрэцца.
Але пакладзіце на камень руку:
І сэрца, пачуеце, б'ецца.

Храм узводзілі з тых жа крамністых валуноў. Іх калолі і старанна абчэсвалі тутэйшыя майстры. І мой аднавяскоўец Юльян Навіцкі быў у ліку тых каменячосаў, яго імя таксама значыцца на касцельным алтары. Не было тады сучасных кранаў ды машын, усё рабілася мазольнымі рукамі пушчанцаў, а валуны падымаліся на вышыню з дапамогай хітрых прыстасаванняў, якія раскручвалі коньмі, іх маруднай хадою па крузе.

Храм узвялі ўсяго за чатыры гады, ён не мае сабе роўных. Радасна мне ўсведамляць, што і мяне хрысціў ксёндз Тарасевіч у яго святлістых сценах.

Жывуць у Рубяжэвічах добрыя людзі Рамуальда і Тадэвуш Сабалеўскія. Ён — арганісты ў касцёле, яна — настаўніца ў мясцовай школе. Мне і апісаць цяжка ўсё тое добрае, што іх намаганнямі і рукамі зроблена ў тым жа касцёле. Чаго варты каменны алтар у двары храма ці тая ж юбілейная алея, на якую ідуць падзівіцца ўдзячныя вернікі. Рубяжэвіцкія хаты перад касцёлам Свято-га Іосіфа стаяць цеснавата, як бы абняліся адна з адной. Едучы на машыне, я часта праскокваю Тадэвушаву блакітную брамку, тут жа разварочваюся ля касцельнай сцяны і спыняюся насупраць знаёмага дварышча. А гаспадар, калі дома, сам першым выгледзіць госця і абавязкова ўсадзіць за шчодры стол, які і сапраўды бывае крыху прыгнутым ад тых жа пачастункаў. Сабалеўскія — сапраўдныя гаспадары: у іх і кароўка, і пчолы, і гарод. А неяк частаваўся я нават ракамі з тутэйшага азярка. А тое азярко — самае лепшае люстэрка і для касцёла, і для ўсяго берага старых Рубяжэвічаў.

Даўнавата гэта было, здаецца, я і ў школу яшчэ не хадзіў, а і сёння пяшчотна і трывожліва памятаю гукі рубяжэвіцкага аргана. Як грымнуў ён сваімі акордамі, як дадаў яму сваёй боскай урачыстасці хор, дык, здалося, сцены каменныя расступаюцца, неба сваім ясным блакітам перакульваецца праз вочы мае, і нейкая дзіўная хваля наплывае і наплывае і ўздымае цябе недзе высока-высока над самой існасцю. Не, той электрычны арган, з якім Тадэвуш прыязджаў у навікоўскую капліцу, калі адпявалі майго бацьку, такой моцы гучання ўжо не меў.

Ды вось пашанцавала мне. Некалькі гадоў таму на Вялікдзень, едучы з дому, зазірнуў і да Сабалеўскіх. Было гэта ў часе перад вячэрняй малітвай, і Тадэвуш згадзіўся паказаць мне той самы арган, які з самага дзяцінства не змаўкае ў маёй уражанай душы. Асцярожнымі цемнаватымі лесвіцамі мы падняліся на хоры, скрыпнулі старымі дзвярыма... І вось ён, арган, з неа-гатычнай разьбой віленскага майстра Вацлава Бярнацкага (1934). Мне нават пашанцавала панаціскаць на педалі, падаць у мяхі паветра, хоць ногі, пры-знаюся, былі заслабаватыя для тых педаляў, а Тадэвуш на клавішах разбудзіў знаёмую святочную мелодыю. Цяпер я ўжо і на самой справе быў на небе, адкуль неўзабаве давялося спускацца тымі ж цьмянымі старымі сходкамі.

Бываючы ў касцёле ў часе імшы, пры раптоўным наплыве пачуццяў, калі і слёзы не паспяваеш выціраць, не заўсёды засяродзішся і на тым рукатворным святым харастве, якой аздоблена касцельная зала. Неяк заўсёды праплываў паўз маёй увагі і абраз на палатне «Маці Божай Вастрабрамскай», прывезены, як кажуць старажылы, Бянігнай Валасевіч, маці Янкі Купалы. У яркі сонечны дзень, калі вялікія стральчатыя вокны ліюць пад скляпенні святло цэлымі рэкамі, абраз у здзіўлёных вачах, сапраўды, цудатворна ажывае.

У такія хвіліны з'яўляецца жаданне зазірнуць і на хутарок Няшота, што туліўся некалі, ужо на іншай горцы, па дарозе на Івянец. Памятны валун ля старэнькай ліпы на месцы былога хацішча з'явіўся не так і даўно. А сам я толькі пасля гэтага дачуўся, што хата Бянігны Іванаўны стаіць і зараз у Руса-ках. Тры гады правучыўся я калісьці ў Русацкай сямігодцы і толькі сёння даведаўся, што сцены тыя належаць маці песняра. Рамуальда Сабалеўская ўжо даўно выношвае задуму вярнуць сцены на роднае іх месца і стварыць там хатку-музей. Дай Божа не спазніцца. Бо тое, што я ўбачыў, калі нядаўна наведаў будынак былой школы, проста жахнула. У яе сценах глумавала вар-варства. Інакш пра гэта і не скажаш.

Жагнаюся на абраз, які песцілі пяшчотныя рукі пані Бянігны, ды пада-юся ўніз да Сулы, да павароткі на мае Навікі, каб забегчы яшчэ і ў аптэку. Без лекаў у такім разе проста немагчыма.

Рубяжэвіцкую аптэку, не думайце, я не перабольшваю, сёння ведаюць шмат дзе ў свеце. Не заўсёды і ў паэта бывае такая вядомасць, як у нашага траўніка Анатоля Іванавіча Грыгор'ева. Рэдка калі мне ўдаецца не заехаць у нашу аптэпу. Заўсёды ёсць нейкія просьбы, даручэнні ад сяброў, родных ды знаёмых. Дзіўлюся, як завозна бывае ў Анатоля Іванавіча. Нават у млыне такога калісьці не бачыў. З раніцы і да позняга вечара едуць і едуць машыны. Людзі запісваюцца ў чаргу. І тут, як і ў кожнай чарзе, часта сварацца, не хочуць паразумецца. Сам быў сведкам падобнага неаднойчы.

А пачынаў гэту боскую справу некалі мой зямляк Станіслаў Іванавіч Вількоцкі з вёскі Запольцы. Адразу па вайне, калі ён прымаў тую аптэку ад старэнькай бабулькі, з лекаў там мелася толькі некалькі таблетак. І тады ён адправіўся ў пушчу і пачаў варыць тыя самыя «траўкі». І быў уважаны і Богам, і людзьмі. Добра, калі ў важнай справе ёсць і свой харошы працяг.

Рубяжэвічы... У двое абдоймаў узялі вас некалі дзве нешумлівыя рачулкі Перакуль ды Сула. Першая так і не набрала разгону, а другая, больш дужая, падалася ў абдымкі да Нёмана. Цікава было б глянуць з вышыні касцельных вежаў на маю маленькую вёсачку. Можа, там і ўбачылася б усё тое галоўнае, вакол чаго я хадзіў усё жыццё, ды так і не заўважыў.

* * *

Гэтаму вясковаму дзеду час пачынаў адлічваць ужо дзевяты дзесятак. А ён яшчэ няўседны, рухавы, тварам ружовы, як той рыжык. Ды яшчэ на маладзіц ласа паглядае. Усё яго леснікоўскае жыццё і прайшло каля іх ці ў паляванні на іх. Пры размове за чаркай надта і не хавае гэтага. Нават пахваліцца любіць, як ён, зусім яшчэ маладуху, прыціснуў неяк у запеку. Яна прыязджала да яго на хутар у грыбы.

— Дык жа спадабалася ёй! — усміхаўся задаволена, паморгваючы мокрым ад слязін вокам.

Я расказаў яму пра беларускага казачніка Рэдкага, пра якога чытаў некалі ў артыкуле Уладзіміра Калесніка. Казачнік з вёскі Вялікі Рожан пражыў каля ста гадоў, быў у добрай мужчынскай сіле, любіў жанчын. А ўсё таму, што хадзіў па вёсках, пакладаў бараноў-маркачоў, а потым харчаваўся прадуктам таго лягчання.

— Я ў казкі, хоць і рэдкія, не веру! — не зразумеў ён мяне, нават пакрыўдзіўся і тут жа выпаліў:

— Я веру ў сілу прыроды!..

* * *

У дзяцінстве, памятаю, не хапала паперы. А пісаць хацелася. Пісаў я нейкія свае прыдумкі на вокладках падручнікаў, абрыўках газет. А потым прылаўчыўся пісаць на сценах у зале, а калі іх прыбралі ў шпалеры, пісаў і на іх. Пісаў алоўкам. Шпалеры ніхто ніколі не зрываў, новыя наслойваліся і клеіліся на старыя, хаваючы заадно і маю пісаніну. Цікава было б пачытаць яе сёння.

* * *

Перадвясновая вея. То спахмурнее неба, глуха зашуміць сасоннік, як з рэшата, сыпане густым снегам, то раптам выясніцца, і нават сонца прагляне. Зранку на кустах бэзу і язміну было многа вераб'ёў, мітусіліся, раскалыхвалі голле, а потым недзе зніклі. Цяпер на яблыні сядзяць дзве сойкі. Нават пер'ем сваім, яшчэ ўсё падшытым ветрам, чуюць вясну.

* * *

Сённяшнія маладыя дзяўчаткі, на якой бы мове ні размаўлялі, выпрацавалі сваю, нейкую мінорна-санлівую, марудную манеру гаворкі, якая і не зусім паддаецца нейкаму інтанацыйнаму акрэсленню. Хаця ў рухах іх зусім ярка акрэслена свая «інтанацыя».

* * *

Усё часцей і часцей мы схіляемся да думкі, што недзе ў Сусвеце ёсць істоты і больш разумнейшыя за нас, зямлян. Усё больш і больш веры ў тыя ж лятаючыя талеркі і іншапланецян. Ды і сама прырода ніколі, відаць, не вырвецца з павуціння таямніц.

Мы яшчэ нічога не ведаем, што пра нас думаюць тыя ж звяры, на якіх палюем. Не ведаем, што тоіць у сабе іх розум, а ён жа, напэўна, існуе. Той жа жывёльны асяродак, мабыць, здзіўляецца, а можа, і пасміхаецца з нашых вынаходстваў, машын і прыстасаванняў. Тыя ж звяры нічога не ведаюць пра медыцыну, але раны свае вельмі надзейна лечаць травамі. І дзе вы бачылі калі, каб нейкі звер адрокся ад свайго дзіцяці ці здаў яго ў нейкі там інтэрнат? Думкі-думкі... Цяжка мне з вамі.

* * *

Толькі ў вялікім горадзе можна адчуць і зразумець, які ты сам маленькі і нязначны ў гэтым свеце. Тут заўсёды аб чыйсьці вялікі боль трэцца чыясьці вялікая радасць.

* * *

Прырода, вакол якой мы жывём, нараджаемся, расцём і гадуемся, пакрысе дадае нам і свайго падабенства. Чалавек, што жыве пры лесе, больш за іншых пануры, задумлівы, замкнута-ціхі, часам марудлівы, а то і асцярожны. Пры вадзе — ля мора, возера, рэчкі — незвычайна мітуслівы, неспакойны, часта абыякавы. А вось пры дарозе — чуйны, абачлівы, нават палахлівы.

Самае дзіўнае, што на гаспадара таго ж можа быць падобным шмат чаго з ягонай гаспадаркі. Нават яго дом ці нейкае дрэва, ці той жа сабака. Гэта не раз заўважаў сам і чуў падобнае ад іншых.

* * *

Ёсць мноства спосабаў таго, як звярнуць на сябе ўвагу. Не выключаецца і такі, як просты скрып ботаў.

* * *

У старасці нешанцаванняў і няшчасцяў многа не таму, што іх многа, а таму, што мы іх балючэй, чым у маладосці, перажываем.

* * *

Папрацаваўшы ў «Вожыку», ніколі так «ад душы» не смяяўся, як гэтым разам. А смешным было вось што. Прыйшлі да нас у часопіс «практыкавацца» маладыя дзяўчаткі з інстытута. Сустрэлі мы іх хораша і тут жа далі заданне — набраць на камп'ютэры чарговую порцыю тэкстаў. Яны доўга і не цягнулі, тут жа выканалі заданне. І вось пачаў я вычытваць сваю прадмоўку да верша Міколы Мятліцкага. Пазнаю свой сказ «Вёску Перавознікі над Вілі-

яй, радзіму цешчы слыннага паэта М. Мятліцкага...» А далей пайшло такое: «...часта наведвалі вядомыя татара-манголы: А. Вялюгін, М. Лужанін, Б. Сачанка, А. Федарэнка».

І сёння яшчэ рагачу. А вінаваты я сам ці, дакладней, — мой почырк. Менавіта так прачыталі дзяўчаты мае словы «нашы літаратары».

* * *

Адцвіў бэз, і так нязвыкла выглядаюць рыжыя суквецці ў абрамленні зялёных далоністых лісцяў. Адцвіў і язмін, на месцы былых ярка-белых пялёсткаў засталіся светла-жоўтыя чатырохканцовыя зорачкі, якія таксама між зялёнага прыплюшчанага лісця выглядаюць кветкамі. Не сёння, дык заўтра адцвітуць півоні. Пакурчыліся, завялі іх пышнаватыя бутоны. Лета вельмі хутка тушыць адны агні і запальвае другія.

* * *

Ён паказваў мне выданне сваіх новых тварэнняў, на якое недзе ўпаляваў грошай. Найсучаснае, з яркім падкрэсленнем паперы і фарбаў, з фотаздымкамі сваякоў, сваіх і жончыных. А там, паміж вокладкамі, дзе тэкст, — шэравата ды пасрэдна. Што ж, «апранацца» хораша, «па-эўрапэйску» мы навучыліся...

* * *

Забягаў у рэдакцыю ўвесь узрушаны А., які жыве зараз недзе на «малой радзіме» ў хаце бацькоў. Пабегаў па пакоях і калідоры і ад хвалявання нават шапку забыўся. Я паклаў яе на шафу. Ляжыць ужо другі месяц рудаваты вельветавы блінок. Можа, і нядрэнны знак. Вернецца па шапку з добрым новым творам.

* * *

З дзвюма цяжкаватымі сумкамі забег у пуставаты аўтобус, што рухаўся да вакзала. Адну сумку — пад ногі, а другую паклаў на калені, каб і яшчэ хтосьці прымасціўся на сядзенні, якое разлічана на дваіх. На наступным прыпынку ў салон падняліся дзве кірмашовыя цёткі. Адна ўселася ззаду на вольнае месца, а другая да мяне:

— Я каля гэтага дзядзькі сяду!..

— Сядайце сабе на здароўе.

А потым на патрэбным прыпынку я ледзьве выбраўся з-пад цётчынага суседства. Сядзіць, і ўсё. Нібыта і сумак маіх аддаваць не хоча. Ішоў да выхаду і яшчэ доўга чуў за спінай здзеклівае слованестрыманне.

І толькі сышоў з аўтобуса, як лінуў шалёны лівень. А схавацца няма куды, хоць сам сабе пад паху лезь.

Вось так, выязджаў з адным настроем, ехаў з другім, а прыехаў зусім без настрою.

* * *

На творчым шляху могуць падсцерагаць не толькі нейкія выбоіны, а і бязмостыя і бязкладкавыя рэкі і канавы, і пераскокі з адной купіны жанру на іншую, але адчуванне напрамку шляху павінна быць непарушнае.

* * *

«Паміж кубакам і вуснамі» — гэта маё асабістае піццё і пітво, створанае без нейкіх там рэцэптаў, па выпадковай падказцы душы ды самога жыцця. Можа, і не кожнаму яно прыйдзецца да густу. Ну, пэўна ж, не кожнаму. І сам часам зморшчышся ад яго гаркоты. Але кубак наш, пушчанскі, гліняны, зямны.

* * *

Сумныя думкі заўсёды хочацца запіць нейкім вясёлым віном. Але не кожнаму гэта ўдаецца.

* * *

Вось зараз мне прыйдзецца звяртацца да слова «машыністка». Самыя маладыя могуць і не зразумець адразу: «Няўжо будзе пісаць пра нейкую чыгуначніцу, што кіруе цягнікамі?» Не, зусім не пра яе, а якраз пра тую, якіх зараз завуць камп'ютэршчыцамі. Што зробіш, час прымусіў і маіх даўніх знаёмых машыністак перавучвацца, садзіцца за манітор ды гуляць яшчэ ў нейкую там «мышку». Мне ж бегчы за імі пазнавата, таму і застаўся пры сваёй партатыўнай машынцы. Многія, калі нясу яе ў футарале, прымаюць за гармонік, нават падсміхоўваюцца. А маладзейшыя калегі лічаць гэта наогул маёй беднасцю. Хай думаюць сабе, што хочуць, а я застаюся пры сваёй старой стукаванцы-друкаванцы, а тых, хто часам набірае нейкую маю пісаніну, па-ранейшаму называю машыністкамі.

Дык вось пра іх, машыністак. Шчыра прызнаюся, ад самага пачатку, як толькі я далучыўся нейкім чынам да друкаванага слова, машыністак тых пабойваўся. І вінаваты тут не столькі сам, як мой разбэрсаны, нібы старая пуга, почырк. Колькі, памятаецца, давялося пачырванець, калі працаваў у капыльскай раённай газеце. Хлопцы нашы з'ездзяць на раён, тут жа адпішуцца, — і сваё тварэнне адразу на стол машыністцы. Тая адразу пачынае звыклую страляніну на звыклых кнопках. А я сваю неразборлівую пісаніну да нашай Галіны нясу ў апошнюю чаргу. Мне трэба ёй дыктаваць, а яна з маіх слоў усё гэта будзе класці на паперу. Пакуль дыктую, сто разоў пераварымся.

— Пачакай! — крычыць яна. — Не так хутка. Я табе не аўтамат.

А то папракне, што я зусім па слове цаджу ды яшчэ прыдзярэцца, што сказ нейкі нягеглы ў мяне. Скарджуся потым калегам, а тыя выскаляюцца:

— А ты не ведаеш, што рабіць?.. Ласкі трэба, прыгарнуць трэба засядзелую дзявоху.

Ну, дзе я знайду той ласкі, калі ў мяне, зялёнага, яшчэ і на маладых смеласці не хапае?!

Дыктаваць я сяк-так навучыўся. І калі потым працаваў у стаўбцоўскай ды валожынскай газетах, нават пачуваўся звыкла і лёгка ля цёплага пляча машыністкі. Зусім ніякавата адчуў сябе, калі трапіў працаваць на радыё. Тут ужо метад дыктавання не праходзіў. Тут на «эфірнае слова» працавала цэлае машыннае бюро. І ўсе лічылі за шчасце трапіць да пані Юзэфы, самай добрай і самай умелай майстрыхі друкавання. Я і не памятаю, каб хто калі знайшоў пасля яе хоць адну памылку ці апіску. Мала таго, яна абавязкова паправіць цябе, калі ты дзе памыляешся ці не дагледзіш, а то і падрэдагуе. Наш калега Валянцін Мысліўцаў часта карыстаўся гэтым. Нагрузіць пані Юзэфу сваім друкаваннем, як кажуць, пад завязку, а потым аддрукаванае толькі раскладзе па выпускных папках ды распішацца. Папкі можна смела аддаваць начальству — ніхто ў цябе ніякай памылкі не знойдзе.

Да пані Юзэфы насілі свае творы многія нашы класікі, ішлі касякамі маладзейшыя пісакі. Каляжанкі па працы бачылі гэта, зайздросцілі і злаваліся. У жанчын такое бывае.

Радыё мяне паціху прывучыла да акуратнасці. Пачаў я пісаць свае тэксты вялізнымі і размашыстымі літарамі, абзац ледзьве ўмяшчаў на старонку, бо іншага выйсця не было. Хто б цярпеў тут маё дыктаванне?

Добра ведала сабе цану і машыністка з «Маладосці», як належыць магла ацаніць і нашага творчага брата. З пісьменнікаў, здаецца, найбольш паважала А. Карпюка ды У. Дамашэвіча. Нікому ніякіх заўваг не рабіла. Прынясеш напісанае — яна прачытае яго, чырвоным чарнілам падкрэсліць і абвядзе ўсе твае ляпы-памылкі, а надрукуе ўсё, як трэба, падрэдагаваўшы. Пасля гэтага кожны добра, нават залішне ўважліва вычытваў тое, што мусіў аднесці на машынку, каб не асароміцца чарговым разам.

З часам я яшчэ больш запаважаў машыністак і асабліва любіў іх памылкі. Так-так, памылкі. Бо яны часта абарочваліся такімі знаходкамі для аўтара.

Зусім нядаўна сённяшняя наша машыністка памылілася і замест слова «бросня» надрукавала «брыня». Тэкст быў не мой, але, вычытваючы яго, я нават пазайздросціў аўтару Віктару Гардзею. Тут жа прыбегла з пытаннем карэктарка: «Што гэта за слова такое?» А той: «Гэта апіска. Трэба — «бросня». Дасталося і мне за дрэнную вычытку тэксту. А калі карэктарка пайшла, я прызнаўся калегу:

— А ты ведаеш, гэта слова мне спадабалася. **Брыня**, **брыняць**, **набрынялы**. Які каларыт.

— І мне таксама спадабалася, — адказаў ён.

І вырашылі мы тады пакарыстацца словатворам. І ён, і я. А раптам... яшчэ каму спадабаецца ды прыжывецца.

* * *

Зноў гэтая яблыневая галіна, што ківаецца пад ветрам у акне неяк зусім музычна, як рука маэстра Фінберга. Цікава было б зразумець сэнс яе музыкі.

* * *

Пасля сустрэчы з пісьменнікамі дзяўчына падносіць да аднаго з выступоўцаў ягоную кнігу, называе сваё прозвішча і, схіліўшыся над ім, нашэптвае змест самога аўтографа. А той і задаволены: не трэба напружвацца, ламаць галаву над нейкімі там «пажаданнямі ўсяго самага найлепшага». Але дзяўчо жадае не так і мала. Гэта адчуваецца па тым, як марудна пішацца той аўтограф. І ёсць у гэтым нейкая адзнака свайго часу — самаабслугоўванне, ці што...

* * *

Не так і даўно было гэта. Хлопец, крыху пацёршыся ў горадзе, хоча неяк падкрэсліць і сваю гарадскую перавагу над іншымі хоць бы то ў размове. Але размовы «па-гарадскому» ў яго не выходзіць, ён і на трасянку нават не цягне, толькі за кожным словам — «как» ды «как». Не выцерпеў вясковец-бацька:

— Што ты ўсё мне тут какаеш?..

* * *

Прачытаў загаловак верша «Хачу гарэць». «Ну, калі хочаш, дык гары», — хацелася адказаць. А вясковая бабуля сказала б яшчэ мудрэй: «Ах, каб ты згарэў, дзеткі!» Што ж, калі ад сораму, дык няхай сабе і гарыць...

* * *

Каб нарадзіцца, чалавеку дастаткова і дзевяці нейкіх месяцаў. Роды ж паэта часта зацягваюцца на ўсё жыццё.

* * *

Часта і перада мною паўстае гэтае цяжкаватае пытанне: як пазбавіцца кепскага настрою і ляноты? Ну і парачка, скажу вам, — настрой ды лянота... Кепскі настрой часам можна паправіць і той жа чаркай. А на ляноту патрэбен нейкі **прыганяты**, а хутчэй за ўсё — **праганяты**. Трэба шукаць яго ўнутры, у сабе. Так я і раблю.

* * *

Сны свае мы не заказваем, як і надвор'е. «Якія толькі кашалі, — казала яшчэ мая бабуля — не наплятуцца чалавеку за адну ўсяго ноч». Сённячы ні з таго ні з сяго прыснілася даўняя першамайская дэманстрацыя. Прачнуўся, а ў вушах яшчэ гучала маршавая музыка трактаразаводскіх духавікоў. Яна калісьці грымела пад самым акном і, соннага, падымала мяне з ложка, змушала адхінаць фіранку і глядзець у тое акно, як разбэрсана, зусім яшчэ не бадзёра і святочна маршыруе тая змусовая калона. На дэманстрацыю ішлі даўгаватым гарадскім шляхам, далучаючыся да іншых калон, падаграваючыся падпольна і нейкім градусам. Я спачуваў тым, каму выпала «ракою ўлівацца ў рэчышча галоўнага праспекта сталіцы» ды яшчэ нешта крычаць, а іншым нават трымаць у руках добрыя жардзіны з выявамі правадыроў наверсе, разгорты нейкіх лозунгаў.

Вясковец мой маладзейшы, які трапіў на тое шэсце з выпадку перамогі Кастрычніка, дзяліўся потым са мной сваімі ўражаннямі:

— Ну, пайшлі мы ад «Камунаркі» не спяшаючыся, прыпыняючыся. Каб глянуць здалёку, дык паплылі, як марудная рэчка. Падагрэліся перад гэтым чаркай — восень жа позняя, холад, вецер, дождж яму дапамагае. Але трэба ісці, куды дзенешся? Вось наблізіліся да Галоўпаштамта. Спыніліся, чакаем, пакуль рушаць пярэднія калоны.

А тут перада мной хлопец у лёгкай куртачцы стаіць, хістаецца. Не таму, што выпіты, а таму, што трымае на доўгім шасце партрэт Брэжнева. Вецер хістае той партрэт і яго самога. Рукі, бачу, мерзнуць: то адну ў кішэню засуне, пагрэе, то другую, перахопліваючы той шэст. Набярэцца сілы вецер, падзьме на поўныя шчокі, фанера з партрэтам ажно вырываецца з рук і, здаецца, зараз рухне на мяне. Гляджу на яго, а ён — на мяне. Сцяміў, відаць, што гараджанін я яшчэ не абстраляны, вясковасць так і прэ з мяне адкуль толькі можна, нават з твару. Ён і кажа: «Слухай, братка, патрымай гэту штуковіну, а я на хвіліну збегаю, ну... ты ведаеш куды... Так прыспічыла». — «Ну, давай», — кажу. З кім, думаю, не бывае. Узяў дзяржальна і стаю, трымаю, круціць мяне вакол «восі» тая фанера. А хлопец так шуснуў недзе ў задвор'е, што я і згледзець не паспеў. Чакаю хвіліну, другую, трэцюю... А потым і дзесяць прайшло. Дзе там — няма. І след прастыў. І такая злосць узяла мяне. Зараз я, не ведаю, што б з ім зрабіў, калі б дагнаў.

Што ж, думаю, трэба і мне некага падмануць такім жа чынам. І аднаго спыняю, і другога... І колькі ні ўгаворваю, ні ўпрошваю патрымаць тую фанерыну, усе толькі ўсміхаюцца, адварочваюцца, як ад дзівака. Я і насамрэч падобны быў на нейкага дзівака. Во ўліп, хоць ты плач.

А калона паціху рухаецца. Падышлі мы да кафэ «Вясна», і само сабой знайшлося выйсце. Прыхінуў я той шэст з партрэтам да сцяны, а сам пры-

гнуўся, нібы чаравік зашнуроўваю, ды... як ірвануся, як скокну, як дам лататы, толькі і бачылі мяне.

Пасмяяліся мы ўдвух, а я згадаў і іншае. Ці раз бачыў, як падмятаюць вуліцы пасля тых святочнасцей. Але ці варта пра смецце.

Што ж, сны нашы вяртаюць часам тое, да чаго не хочацца вяртацца.

* * *

Паставіў, ледзьве ўціснуў у кніжную паліцу томік нашага класіка. Цесна ім тут, на маёй і не такой раскошнай паліцы. І нечакана падумаў: а можа, яшчэ цеснавацей было многім з іх калісьці пры жыцці на гэтай зямлі. Церліся локаць аб локаць, слава аб славу, зайздрасць аб зайздрасць. А сёння іх на маё месца расстаўляе сам чытач на сваёй жа кніжнай паліцы, па сваім разуменні ды гусце.

* * *

Стол яму накрылі газетай з выявай строгага міліцыянта. Ён падымае чарку, перакульвае яе і кожны раз скоса паглядае на таго капітана, быццам баючыся яго строгага твару. А потым і падміргне яшчэ: «Нічога, братка, як-небудзь паразумеемся».

* * *

Шмат пішацца і кажацца пра капрызы ды сюрпрызы прыроды. То ўраган раз'юшаны наляціць, то разбушуецца страшнае цунамі, то дажджы пальюць аблажныя, і раптам прыцісне мароз... Але калі чалавек скрозь і ўсюды парушае законы пісаныя, дык чаму ёй, прыродзе, гледзячы на яго, не парушаць і свае, няпісаныя?

* * *

Зноў па тэлебачанні несуцяшальны прагноз надвор'я на заўтрашні дзень. Прамільгнулі перад вачыма наш, у мапавым абрысе, беларускі «дубовы лісток» і апенінскі «боцік» і яшчэ больш фігурыстыя, але расплывістыя абрысы нейкіх кантынентаў і мацерыкоў. А ў вачах маіх выразна акрэсліліся зялёныя квадрацікі паўсоннай пушчы, з крывымі ніцямі рачулак, кружочкамі азёр, роўнымі лінейкамі дарог, так, як усё гэта бачыцца з вышыні самалёта, калі ён яшчэ добра не набраў вышыню або ідзе на пасадку. Мой узрост таксама ўжо заходзіць на «пасадку», хоць яшчэ і не траціць сваёй вышыні. Але што ж я шукаю вачыма за гушчынёю тых зялёных квадратаў, чаму так пільна ўглядаюся і напружваю свой зрок? А шукаю і выглядаю я наш, крыху раскіданы двор пры самым лесе. Яго ж добра-такі ачарціла і лінія новай асфальтоўкі з крутым заломам на самой гары.

Можа, і не адшукаю двара, але заўважу слабенькі дымок самагоннага апараціка-партызана, ля якога нехта грэецца адразу двума агнямі, падкідваючы ў адзін паленца дроў, а другі лёгка зачэрпваючы старым алюмініевым кубкам і падносячы да вуснаў.

Гэта пацешна — глядзець на ўсё звысоку. Але ж і страшнавата і, магчыма, небяспечна ўзвысіцца над усім тым зямным, зрабіцца чужым яму. Трэба ісці на зніжэнне!..

* * *

Учора бачыў яго фанабэрыстым, непрыступным, у сваім блішчастым «мерседэсе», і не адным маім намаганнем трэба было яго ўпрошваць, каб

падвёз бабульку да той доктаркі ў суседнюю вёску. Знізу ўверх лупацячыся, ён даводзіў:

— А ты знаш, скока мой бензін стоіць?

А сёння ўжо і сам прыгнуты, косячы вочы зверху ўніз, выпрошвае на ферме заезджанага каняку, каб разараць бульбу. І згадалася тое старое, пушчанскае: «Прыйдзе коза да воза!»

* * *

Захацелася павіншаваць сябра паштоўкай — ён гэтым жа днём ужо і нямала гадоў таму нарадзіўся. Зайшоў у тую ж, некалі нашу, «Кнігарню пісьменніка» і там нічога не купіў. А калі б купіў, то дзе я напішу свае, самыя свае словы віншавання? Там усё ўжо даўно за мяне напісана. Вунь які выбар гэтага віншавальнага «прадукту» — ад 5, 10... і да самага 90-годдзя з дня з'яўлення на свет гэты, а яшчэ — хрэсьбіны, вяселлі, наваселлі (апроч хіба памінак) з гэткім лёгкім бяздарным рыфмаваннем. Павіншаваць гэткім шырпатрэбам — значыць пакрыўдзіць сябе і таго, каго ты віншуеш. Графаманія хлынула і сюды. Ах, за які гэта такі грэх ды так караюць цябе, паэзія?

* * *

Я глядзеў збоку, як знаёміліся гэтыя два літаратары: акрамя прытворлівага ўсмеху і не надта каб адрэпеціраванай позы, была нейкая няўпэўненасць пры патоптванні з адной нагі на другую. Але якая роднасная разнаіменнасць; аднаму — пісаць няма чаго, а другому — няма калі!

* * *

У вольныя ці, можа, «гультайскія» хвіліны на лецішчы, з прыемнасцю перачытваюцца старыя часопісы. Адчуванне часу, ужо страчанага, мінулага, у якім і ты сам быў намнога іншым, дадае тваёй натуры нейкіх асаблівых эмоцый, смутку, плачлівага сантыменту. Усё нечым падобнае на тое, калі ты гартаеш альбом са старымі фотаздымкамі і ўсё яшчэ не можаш пагадзіцца, што маеш справу толькі з памяццю.

* * *

Сёння недзе зусім побач, у амшары, закувала зязюля новай вясны. Нейкай новаю цяплінкай адгукнулася ў душы, нават прывільготніла вочы. Хуценька пабег у хату, схапіў некалькі расійскіх медзякоў, што мінулым летам пакінуў брат «з Піцера», шпурнуў іх як найдалей ад сябе. Гэта — каб вяліся грошы. Так кажа даўні звычай. Э, каб жа яны вяліся!.. Ад самага маленства я патакаю таму звычаю, а ён з мяне толькі насміхаецца. Неяк, праўда, вяртаючыся з грыбоў, падняў той даўні мядзяны пятак, зусім цёмны, пацягнуты зяленівам. Аднак і гэта было шчасцем ад думкі, што ён мой, што я шпурнуў сюды яго некалі сам. Не мог жа з яго вырасці рубель ці сённяшні даляр. Не тое гэта насенне! Аднак верш з гэтага ўсё ж вырас.

* * *

Цёплай і ціхай летняй ноччу люблю глядзець на зорнае неба. Зорная «азбука» заўсёды цяжкая для прачытання, але таямнічасць яе надзвычай прыцягальная. Гэта вам не тэлеэкран. Але адчуванне таямнічасці нябеснай больш уласціва паэту, чым астраному.

* * *

Не ведаю, як будзе ўспрымацца архітэктура нашага Мінска ў веку нейкім там дваццаць трэцім. А сёння яна і надта разнабойная, ды і не заўсёды гарманічна-прывабная. І зусім карыкатурна часта ўспрымаюцца некаторыя нашы будыніны-гмахі. Народ гэта заўважае адразу і тут жа рэагуе гумарам. Звернемся да самога гумару.

Купал цырка паэт наш зусім заслужана назваў «каскай пажарніка», вялізны і доўгі чырвоны гмах па вуліцы Танка ўжо даўно ахрысцілі «кітайскай сцяною», высокія стаўбуны ля Камароўкі сталіся «кукурузінамі», а крыху далей размашысты дом у некалькі выгінаў атрымаў назву «даляра». А вось як толькі вывелі магутную бетонную будыніну Камароўскага рынку, я доўга глядзеў і не мог зразумець, што ж мне нагадвае яе незразумелая страха. Ага, дайшло потым, дык гэта ж — цюбецейка, бетонная цюбецейка. Нейкі сімвал тут, вядома, ёсць. Было некалі на Камароўцы шмат гандляроў у цюбецейках і ў вялізных аэрадромападобных кепках. Цяжкаватая ты, рынкавая цюбецейка, не раўня нават шапцы Манамаха!

* * *

Цяпер падобнае ўжо не спяваецца:

Сюды лугі, туды лугі —<br>
Недзе каню напіціся.<br>
У мяне, маладое, роду многа,<br>
Ды к некаму прыхіліціся.

Песня запісана ў нас, на Стаўбцоўшчыне. Як на сённяшні дзень, дык і зусім суадпаведнае. І тое, што і каню няма дзе напіць (павысахлі ўсе рэчкі), і тое ў сэнсе чалавечага адзіноцтва. А ў вёсцы сваёй чуў ад старэнькае кабеты: «Радні, дзеткі, здаецца, і многа, а прыхінуцца няма да каго». Вось яна жыццёвая праўда. А праўда, як вядома, ніколі не старэе.

* * *

Навука творчасці — справа вельмі непрадказальная, спрэчная і нават асабістая. Але чаму ж, той жа літінстытут існуе ўжо даўно. Ды і паэт вунь напісаў:

Художник! Научи ученика,<br>
Что б было у кого потом учиться...

Вучоба, напэўна, павінна быць, ды не на ўзроўні той самай «фабрыкі зорак». Сапраўднага паэта ніякай фабрыкай не сфабрыкуеш. Ім трэба нарадзіцца. Апошняе сцвердзілі ўжо да мяне.

* * *

У старасці ў чалавека памяці значна больш, чым здароўя. І адчувае сябе ён з кожным годам, а можа, і днём, усё больш музейна, бо вельмі ж утульна бывае яму паміж старых, даўно забытых рэчаў, старых здымкаў, пісьмаў і незабытых сяброў. А што ж вы хацелі ад старасці?

* * *

Адзін па жыцці пройдзе як чалавек і памяць пасля сябе добрую пакіне. А іншы прашуміць, як той ураган, і столькі ўсяго наломіць. І таксама пакіне пасля сябе памяць, але ўжо іншую.

* * *

Чым бы чалавек ні займаўся, у любой яго справе вопыт — рэч самая найкаштоўная. Але вопыту нельга пазычыць. Гэта не грошы. Яго трэба здабываць працай, потам і ўсім сваім жыццём.

* * *

Горкая праўда ўсё-такі лепш, чым салодкая хлусня, хоць многія, пражыўшы жыццё, з гэтым так і не пагадзіліся.

* * *

Мастак у параўнанні з пісьменнікам заўсёды бывае ў выйгрышы: яму не патрэбен пераклад.

* * *

І тыя, хто жыць не можа без пахвальбы, так званыя хвалькі, таксама не замыкаюцца ў адной толькі катэгорыі самахвалаў. Адны любяць хваліць самі сябе, аж меры не ведаюць, але больш, відаць, тых, хто любіць, каб іх хвалілі. Апошнія самыя небяспечныя, асабліва тады, калі ты пачынаеш іх няславіць. Іх, на жаль, сярод нашага пісьменніцкага брата сустракаў я нямала.

* * *

Усе мы, вядома ж, ходзім пад небам, пад Богам, а яшчэ кожны нясе свой крыж.

Крыж — старажытны магічны знак, сімвал культу, які здаўна служыў чалавеку і абярогам. Але ёсць і іншае вытлумачэнне крыжа: самыя найдалёкія нашы продкі, здабываючы агонь, церлі дрэва ад дрэва, складваючы кавалкі накрыж, крыжам.

З дзяцінства памятаюцца вечаровыя майскія малітвы пад крыжам маіх засцянкоўцаў-католікаў. Пачыналі малітву пад крыжам у адным канцы вёскі,а заканчвалі ў другім. Было ў тых вечарах столькі загадкавай таямнічасці, што часам дух займала, а потым усё гэтак жа таямніча паўтаралася ў сне. Нават сёння, калі прыслухоўваюся да веснавой вечаровай пушчанскай цішыні, здаецца, чую, як урачыста гучыць у ёй і тая далёкая малітва.

Я служыў тады ў войску і не бачыў, як крыжы ля дарог і вёсак бязлітасна ламалі і сцягвалі трактарамі на вогнішча. Вясковыя вернікі станавіліся жывою сцяною перад тымі крыжамі, нават малыя дзеці кідаліся адбіваць іх з рук тутэйшых варвараў. Пра гэта мне расказвала потым мама. Мне крыўдна, але сярод тых глумліўцаў быў і адзін мой знаёмы, з якім сядзелі ў адных рэдакцыйных сценах. Добра, што ў свеце і ў часе шмат чаго памянялася, крыжы тыя зноў вярнуліся на сваё месца. Гэта добра, што зніклае аднойчы вяртаецца. Так яно і бывае, калі гэтага жадаюць людзі ды іх памяць і вера.

* * *

Хто прыйшоў, той мусіць пайсці. Шчаслівы той, хто зусім не нараджаўся. Як не хочацца згаджацца і з тым, і з гэтым, але трэба.

* * *

Малыя вельмі лёгка ловяць з экрана фразы пашлаватага тэлевізіённага гатунку і тут жа «страляюць» імі нават па старэйшых.

— Ты хто? Я — конь у паліто, — забягае і крычыць трохгадовае хлапчанятка. «Ну, які ты конь, — хочацца сказаць яму. — Ты проста яшчэ маленькі папугайчык. Але ўжо і цяпер трэба думаць, што будзе з табой, калі выпусцяць цябе з гэтай аднапакаёвай клеткі».

* * *

Слухаць яго было нецікава, як і біць на ўласнай лысіне назойлівых камароў. Кроў усё адно ж мусіць быць тваёй.

* * *

Мой добрапаважаны ксёндз, якому Бог даў і добрае пачуццё гумару, на гэты раз пачаўшы малітву ў тутэйшай капліцы, нават крыху злаваўся. Малітву ён мусіў раз за разам перапыняць усё з-за таго ж пеўня. Толькі пробашч завядзе сваё, а певень за вокнамі як сыпане галасістае «ку-ка-рэ-ку». Ды так, аж шыбіны звіняць. І ўсе спакваля пачалі заслухоўвацца пеўнем, а маладзейшыя дык нават і «падхіхікваць».

— Ідзіце вы хто ды супакойце яго, — не вытрымаў ксёндз.

Не ведаю як, але пеўня ўсё ж утаймавалі.

* * *

Наліла яна так шчодра малака ў той трохлітровік, што палілося праз верх. Дык жа трэба было яшчэ і аблізнуць краёчкі слоіка. Усё гэта на вачах дачніцы, якая хоць і купіла той сырадой, але есці не захацела.

А я не адважыўся купляць яго ў паўтарачкавым пластыку з-пад мінералкі. Бачыў, як выграбаюць тыя пляшкі са смеццевых кантэйнераў.

* * *

У старасці, калі не пішуцца вершы, многія часта ратуюцца памяццю: пішуць мемуары. Гэта часам бывае куды цікавей, чым сама паэзія. Але ёсць творцы, якіх і памяць не здольная выручыць. Пражылі яны свой век замкнута, неяк аднаасобна, як у скалярушчы. Яны і ў застоллях сяброўскіх амаль не былі, бо шкадавалі ўсё тую ж капейчыну.

Ведаў у жыцці і тых, хто і надта часта пазычаў грошы, і амаль ніколі не вяртаў іх. І дзіўна, злосці ніякай за гэта не меў, бо рабілася ўсё вельмі шчыра, нават з жартам. Аказваецца, і пазычыць трэба ўмець. І не кожнаму ж пазычаць.

* * *

Усё намагаюся зразумець жанчын, якія, бегаючы, менавіта бегаючы ля тых жа прылаўкаў, увесь час паглядаюць на гадзіннік: «Як гэта не прапусціць чарговую порцыю любімага серыялу?» І разам з тым суцяшаю сябе — гэта ж яны, серыялы, ды яшчэ рэклама зрабілі нас ворагамі з тым самым экранам.

Падумаю так ды згадаю раптам сваё дзяцінства, на якое і прыпала ўсяго нейкіх чатыры ці пяць фільмаў. І радуюся, што было так, а не іначай — бо колькі ж забраў бы ў мяне той экран маіх любімых кніг.

Гэта я сёння так разважаю. А тады... А тады, у бедным пасляваенным дзяцінстве, паглядзець нейкі фільм лічылася за вялікае шчасце. Наша кіно было

з прыгодамі. Яно перазджала на скрыпучым сялянскім возе з вёскі ў вёску, і першымі яго сустракалі мы, тутэйшыя басаногія «падшыванцы». Цягалі ў нейкую вясковую хату цяжкаватыя скрынкі з апаратурай, клеілі на засцянковых сценах прымітыўныя афішы. І доўга чакалі жаданага вечара. Ах, як хораша стракатаў потым пад вокнамі «дзвіжок», як заварожана глядзелі мы на тую таямнічую прасціну на сцяне, з якой проста на нас імчаліся колы вагонаў і разгарачаныя тачанкі. Праз хвілін колькі на прасціне-экране бліскалі нейкія мільготныя зорачкі, нешта іскрылася і тут жа гасла. Тады «кіншчык» па прозвішчы Дрозд мяняў новую бабіну са стужкай, і кіно працягвалася. Сёння гэтакім жа чынам перапыняюць фільмы на тэлеэкране занудлівай рэкламай. А тады, у тых часам кароткіх, а то і даўгаватых рэкламах, было многа тутэйшага каментару, кшталту: «Ну, як ён яго?» ці ««Во, каб цябе, Зося, гэтак!» Горш было, калі стужка рвалася ці даваў збоі той жа «дзвіжок». Тады кіно зацягвалася за поўнач.

Усё тая ж бедната давала пра сябе знаць — людзі шкадавалі нейкіх дваццаці капеек на той жа білет, многія хацелі атрымаць насалоду проста «за так», але «кіншчык» Дрозд быў няўмольны. За тую няўмольнасць яго аднойчы і пакаралі: нехта з пакрыўджаных сыпануў у бензінавы бачок «дзвіжка» добрую жменю солі. «Кіна» не адбылося, а тое, што адбылося, нагадвала таксама нейкае кіно. Кіншчык мацюкаўся, біў кулакамі і нагамі па «дзвіжку», а той так і не завёўся. Давялося вяртаць гледачам сабраныя грошы.

Кіншчык для нас, малечы, быў найвялікшым аўтарытэтам.

Дарослыя, думаю, так не лічылі.

— Дзе гэта на гэных кіншчыкаў вучаць? — пытаўся я ў бацькі.

Той, махнуўшы рукой, адказваў:

— Гэта, сынку, не хлеб!..

Пра свой хлеб мы тады яшчэ не думалі.

* * *

Мы б маглі і не сустрэцца, калі б я не ўздумаў пацікавіцца раскладам чыгуначнага руху, а па гэтай прычыне, толькі сышоўшы з электрычкі, падаўся на станцыю да падслепаватага табло. Тут яна і пераняла мяне пытаннем:

— Казік! Ты помніш мяне? Прызнайся, ці помніш? Я — Эма...

Я не пазнаў, але напружыў памяць і ўспомніў. О Божа, як даўно гэта было і якую салодкую ноч падарыла нам некалі пушчанскае лета. Мы блудзілі ў нейкім вішняку, каля чужых вокан, а потым заміралі да забыцця на нейкай дрымотнай лавачцы, і сама сабой нашэптвалася ды паўтаралася нейкая дзіўная малітва, словы якой ведае толькі сам Бог. То была яна, дачка настаўніка, які паважаў мяне і якога паважаў я лепш за ўсіх педагагічных шчыруноў на свеце. Гэта ёй я падпісаў, але так і не ўручыў свой юнацкі фотаздымак. Ён і сёння захоўваецца ў маім дамашнім альбоме.

І разгубіўся я, нешта не тое пачаў вярзці, нават апраўдвацца. А тут падышоў яе цягнік, і Эма назаўсёды знікла ў старым зялёным вагоне, махнуўшы яшчэ колькі разоў рукой на развітанне. Але ж так балюча, да слёз, нагадала пра сябе, што і сёння хочацца бегчы наўздагон таму цягніку.

* * *

Міхась Лынькоў... Шмат начытаўся пра яго мемуарнага, нават пацяшаўся з яго любімага «ўюнаш». І падумалася, што ён, бывалы рыбак, прыбярэжаны да Нарачы, прамаўляючы тое «ўюнаш», меў на ўвазе гэткіх хуткіх, жылістых і вяртлявых уюноў, а можа, і вугроў, якіх лавіў на возеры.

Памятаю, запісвалі яго на радыё. Ён чытаў свае згадкі пра Купалу і вельмі выдатна імітаваў голас песняра, чытаючы яго «Песню будаўніцтву». Мы добра-такі разгаварылі пісьменніка і ўсё падводзілі размову да загадкавай смерці Купалы, таямніцу якой, як і сёння я думаю, ён ведаў, аднак гэты момант Міхась Ціханавіч як бы стушоўваў, спасылаючыся на вядомае. Ці варта дакараць яго за тое? Думаю, што не. Крыўдна толькі, калі тую таямніцу ён панёс з сабою.

Шмат напісана пра вогнепаклонніцтва Міхася Лынькова. Такія вогнішчы, якія шугалі вечарамі перад вокнамі Дома творчасці ў Каралішчавічах, мог распальваць толькі ён. Я і сам некалькі разоў меў шчасце грэцца душой ля тых вячорных вогнішчаў. Лынькоў ля агню пачуваўся сапраўды чарадзеем. Агонь контурна паўтараў яго самога, над яго пламеннем успыхвалі самыя лепшыя словы і згадкі.

Сівы, як лунь.
Ды гэта ж сам Лынькоў,
Аж полымем яго берэт бярэцца.
Але бярэ нямоглаю рукой
Цяпла ляснога лёгкае бярэмца.

Пісьменніцкія берэты пайшлі ці не ад яго, Лынькова. І ў лодцы на Нарачы ён сядзіць у сваёй неразлучнай «берэтцы».

Зачытваўся некалі яго аповесцю «Міколка-паравоз» і апавяданнямі. А вось эпапея «Векапомныя дні» чамусьці чыталася цяжка. Я колькі разоў адкладваў яе. А падзеі вунь якія векапомныя. Эпапеі, як правіла, цяжкавата даюцца і аўтару, і чытачу. А сам вобраз пісьменніка для мяне застаецца векапомным.

* * *

На Нарачы, ля Мікольцаў, я, можна сказаць, не плаваў, а поўзаў па светлым, залацістым дне, бо да глыбіні трэба ісці добры кіламетр, дзе пачынаецца і цягнецца цёмна-блакітная хвалістая паласа. Глыбіня заўсёды цёмная.

Тут, на мелкаводдзі, мне было хораша гуляць з мітуслівымі касякамі плямістых акунёў, спіны якіх можна было нават пакратаць рукой. Але прага глыбіні заўсёды мацнейшая, чым тое мелкаводдзе, хай і залатое, і з пярсцёнкавым выгібам акунька. Да яе, глыбіні, часам трэба ісці ўсё сваё жыццё. Тут сябе не падманеш.

* * *

У творчым жыцці здараюцца дні, а то і месяцы пустыя: не слухаюцца словы, хаваюцца ці гуляюць у жмуркі самі думкі, нават за сталом не сядзіцца. Гэта сама душа падказвае, што яна прытамілася. Ці варта змушаць яе на рабскае «Душа обязана трудиться и день и ночь, и день и ночь» (М. Забалоцкі)? Тут выратаваннем можа быць хіба толькі добрая кніга, проста выхапленая вокам з кніжнай паліцы. Толькі яна здольная ўсё тваё ў табе ўраўнаважыць, надаць магнетызму, а то і добрай творчай зайздрасці.

* * *

Досціп мастака-гумарыста часта апераджае досціп гумарыста-літаратара. Добра, калі яны ідуць поплеч. Гэтага якраз і бракуе нашаму «Вожыку».

* * *

Зноў самотнае і доўгае блуканне па знаёмых і даўно здзічэлых сцяжынах, паміж высокіх імхоў і верасу, ламачча ды пластыкавага смецця, пустых цыгарэтных пачкаў ды нейкіх, ужо невыразных ад часу прыпамінаў. Усё мае далёкае вельмі блізка бачыцца толькі адсюль. І як прыемна паблудзіць сярод далёкага.

* * *

Калі тэкст апрануты ў нейкі легкаваты рытм і абуты яшчэ ў рыфму ўзроўню лапцяў — гэта яшчэ не паэзія, як многія думаюць, а хутчэй за ўсё паэтычнае жабрацтва.

* * *

З самага маленства, чуючы слова «калоцце», лічыў, што гэта нейкі калатун калоціць, а гэта, аказваецца, тое, што коле (колікі). Дай Бог яго не ведаць.

* * *

Многа сёння развялося так званых «баянов всея Руси». Ім часта даюць лепшыя залы, тэлеэкраны. А што баяны? Самахваляцца. Бачыў, як на афішы аднаго нехта напісаў усё тое, чаго той заслугоўвае. Сапраўды, «не кожны той Баян, хто грае на баяне» (А. Вялюгін).

* * *

Колькі сябе помню, танцорам я пачуваўся неважнецкім. Не буду наракаць на тое, вядомае народнае, што заўсёды перашкаджае дрэнным танцорам. Спішам усё на сялянска-вясковую сарамлівасць. Суцяшаю сябе тым, што не адзін я такім «таўкачом» быў. Згадваю танцы ў студэнцкім інтэрнаце на Свярдлова, а іх мы там ладзілі ледзь не кожны вечар, і смяюся сам з сябе, маладога. Стаю, аціраю сцяну, парываюся запрасіць нейкую прыгажуню, а сцяна нібы трымае мяне. Смеласці і рашучасці дадавала сяды-тады хіба што лішняя чарка.

А неяк у Вінніцы на літаратурна-застольнай вечарыне выманілі мяне вясёлыя ўкраінкі на «гапака». Во, гэта былі скокі! Не сем, а намнога больш патоў вылілася тады з мяне. Але трымаўся мужна, да апошняга акорда. І якім жа лёгкім потым вяртаўся ў гатэль. Адскакаў я ў той вечар за ўсю сваю нясмелую маладосць. І сёння прыемна. Дык да чаго гэта я ўсё? Лепш позна, чым ніколі.

* * *

Тое наша лясное азярко, недагледжанае, па берагах даўно зарослае, цягне мяне да сябе як магнітам. Дзе ні блукаю ў нашай лясістасці, заўсёды выйду і да яго. Добра ўсё ж, што на самай сярэдзіне яшчэ засталося крыху глыбіні, якую ўвесь час падлечвае ці не сама крыніца. Там часцей і боўтаюцца малыя гараджане, каго на канікулы адправілі да сваіх вясковых бабуль і прабабуль. А часам заскочыць на сучаснай машыне і нейкі дзівак, закіне вуды і сядзіць, чакае, морыць сябе цэлымі гадзінамі, хоць клёву аніякага. Бывае, падражніцца нейкі хітрун-малёк, дый той не церпіць чужых. І адкуль у чалавека столькі цярпення — гадзінамі сядзець і трымаць у вачах той самы паплавок? Ні адзін рыбак вам пра гэта ніколі не скажа, бо і сам таго не ведае.

Гэтым разам я нават не пакупаўся, хоць дабравата такі прыпякала сонца. Проста пасядзеў на вытаптаным беражку, паглядзеўся ў гэта дзіўнае люстэр-

ка, добра разгледзеўшы ў ім і свае немаладыя гады, ды паплёўся дахаты. А па дарозе думаў і пра яго, і пра сябе. Ат, нічога вясёлага.

* * *

Лілі частыя і працяглыя дажджы. Зямля была, як у невадзе. Але неўзабаве яна выпіла ўсё тое, што лілося з неба. І зноў прыпякло, прыпарыла. У лес не сунешся — заедзь закусае. Шалі прыроды так і хістаюцца з адной крайнасці ў другую і ўсё ж ураўнаважваюцца. Ды не патлумачыш гэта малой унучцы з горада, якая зноў бяжыць на горку з мабільнікам і раз-пораз крычыць у яго: «Ды забярыце вы мяне дадому, мне марожанага хочацца!..»

* * *

З маўчання заўсёды вырастае яшчэ большае маўчанне.

* * *

Хоць твор гэты і напісаны «на адным дыханні», але адчуваецца, што ў аўтара была «задышка»: вельмі ж багата недагавораў, шматкроп'яў, нудлівых ці пыхлівых «охаў» і «ахаў».

* * *

Ці лічыў сябе панам Янка Купала, калі падвозіў на сваёй хуткай машыне маркі «форд» ляўкоўскую дзятву, частаваў яе цукеркамі? Пэўна, што не лічыў. А ў ніжэйшых ад яго таленту і годнасці гэтага «панства» колькі хочаш. Толькі самі дзеці і могуць ім сказаць пра тое.

* * *

Што ў летняй пушчы грыбніку можна знайсці акрамя грыбоў? Сёння, калі вяртаўся з Гумяноўскага лесу, цяжка спыняючыся, каб перахапіць цяжкаваты кошык з адной рукі ў другую, недзе пры самай супрацьпажарнай, добра прааранай лініі, наткнуўся на каляровы палотністы каляндар. І абмінуў яго, секаннуўшы вокам па слупку вялізных літар. Каляндар быў мінулагодні. Але дайшоўшы да вялізнага хваёвага выварату, што шлагбаумам перагарадзіў мне шлях, усё ж вярнуўся, падняў той каляндар. Пад лічбамі цешыла вока каляровая выява зусім голай прыгажуні. Адгарнуў старонку — там ужо іншая прыгажуня і ў іншай позе. Ну і **НЮ**. Парнаграфічны той каляндар выдадзены недзе ў замежжы. Цікава, хто ж яго тут гартаў ды і пакінуў? Во, грыбнікі пайшлі.

Ну, натрапіць на пустую пляшку ў лесе — не дзіва. І шкляных, і пластыкавых іх тут нарасло больш, чым грыбоў. Што ж яшчэ адшукаў я ў сёлетнім жнівеньскім грыбным лесе? Пад нізенькай, але густалапістай ялінай адзічэла ляжалі дзверцы нейкага «Масквіча», ужо добра перашытыя пажаўцелаю травою. Можна было б яшчэ сабраць цэлую калекцыю пустых пачкаў нашых і замежных цыгарэт.

Ну і нарэшце самая экзатычная знаходка, якая нейкім чынам стасуецца з той самай першай, — календаром. Не верыце? Гэта бліскучы жаночы станік. Нейкі жартаўнік вельмі ўдала апрануў яго на «грудзі» маладой хваінкі, акрэсліўшы тыя два грудкі, якіх заўсёды прагне мужчынская рука.

Пастаяў, падзівіўся, паўсміхаўся. Пачаў нават уяўленнем маляваць нейкія там чужыя прыгоды. Цікава ж, каго гэта распранулі, ды забылі апрануць. Эх, прырода!.. Колькі цікавага творыцца часам у шатах тваёй цішыні і таямнічасці...

* * *

Студэнцкія дыялектычныя экспедыцыі часта надавалі нашай народнай творчасці і элементу сваёй яшчэ маладой, не заўсёды каларытнай і дасціпнай прыдумкі. Гэтак потым і з'яўлялася ў некаторых друкаваных зборніках не запісанае ў пэўнай мясцовасці, а прыдуманае самім запісоўцам. Вядома, нічога тут страшнага я не бачу. Хіба ж той запісоўца, студэнт, сам — не народ? Хіба ён не мае права на свой голас? Ну, вядома ж, мае. Але як жа яму даравацъ тое, што страчана па яго маладой абыякавасці ды лянoце?

Пачаў згадваць сваю, ужо далекаватую па часе ды і адлегласці дыялектычную вандроўку, на маладзечанскія, не гэткія і далёкія абсягі.

Ехалі да месца прызначэння з настроем, як сёння кажуць, прыўзнятым, зусім яшчэ добра не ўяўляючы, як там і што будзе. Далі кожнаму сшытачак з пералікам нейкіх траў, кветак. І якая тут цяжкасць — запісаць ад тутэйшых насельнікаў сінонімы іх назваў? Трэба сказаць, што пасялілі нас вельмі хітра: дзяўчат накіравалі ў адну вёску, а нас, хлопцаў, — у далекаватую, зарэчную. Гэта, каб менш займаліся залётамі ды заляцаннямі, а больш часу аддавалі справе. А дзе ўжо каму атабарыцца ў сэнсе жыхарства, шукалі самі. Нас, траіх, згадзілася ўзяць на пастой адзінокая кабета на ўскрайку вёскі за невялікую па студэнцкіх магчымасцях плату, дзе адразу было агаворана і харчаванне. Вясковая хата на два пакоі выглядала чыстай і ўтульнай: вымытая, аж прасвечваецца кожны сучок, падлога, светлыя, хоць і без шпалераў, драўляныя, гладка абчэсаныя сцены, ручніковы куточак з абразамі, а яшчэ мноства рамак з фотаздымкамі на сценах, акуратна засланыя саматканымі дзяружкамі драўляныя ложкі, падвышаныя добра ўзбітымі рагатымі падушкамі. Тыповая вясковая хата шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Нічога, што магло б здзівіць чужога чалавека, тут не было. З такіх амаль самых хацін паходзілі і мы самі. І каб не дужа надакучаць сваёй прысутнасцю жанчыне, начаваць мы папрасіліся ў яе гуменца, на свежае сена. Нам і трэба для поўнага шчасця ўсяго начлег ды нейкі там перакус. Гаспадыня пагадзілася, але адразу папярэдзіла:

— Калі, хлопчыкі, не дай Бог, хто з вас курыць, дык няхай тытунь і запалкі адразу пакіне ў хаце.

Гэтым, дзякаваць Богу, мы тады яшчэ не грашылі і тут жа пацвердзілі тое, вытрасаючы пустыя кішэні.

Сон у гуменцы з ластаўчынымі гнёздамі здаваўся цэлай раскошай. Зашыешся з галавой, утопішся ў маладым сене і быццам няма цябе на гэтым свеце, нават не чуваць дыхання сяброў. Толькі навальніца, калі ўсходзіцца сярод начы, надасць крыху страху. І то ненадоўга, шапаткі лагодны дождж потым усё згладзіць, і ты зноў апынешся ў доўгім і моцным сне.

Але пра сон я крыху перабольшваю. Калі і было яго, дык вельмі мала. Ужо недзе на другі ці трэці вечар падаліся мы ўсім гуртам у зарэчную вёску да дзяўчат, якія ўжо і стол паспелі накрыць у адной з тамашніх хатаў. Што мы толькі не вытваралі ў тую ноч! Закружыліся маладыя галовы ад віна і падпольнага вясковага «бімберу». Скокі ў двары пад гармонік змяняліся п'янлівымі падвывамі нейкіх модных песень, асмялелі і самыя нясмелыя, нейкімі зусім сваімі сталіся нашы аднакурсніцы. А вёска на ўсё гэта ціха глядзела ды пацяшалася: такіх пагулянак тут яшчэ не здаралася.

Ноч прабегла як адна хвіліна. І не ўсё добра з яе запомнілася. Не лезла ў рот раніцой і смачная яешня, прыгатаваная гаспадыняй. У кішэні звінелі апошнія медзякі. І тады нехта ўспомніў пра летнюю «вялікую» стыпендыю, якую абяцалі выдаць акурат праз дзень. Па яе і адправіўся наш стараста Хведар Чэрня, а нам прыйшоў час падумаць пра тое, дзеля чаго мы сюды

прыехалі. У сшытках нашых было пуста. Больш за ўсіх здзівіў тады Валодзя Януковіч. Днём, прысеўшы на лавачцы, ён, прыпеўваючы, чытаў нам тое, што запісаў ад тутэйшага люду:

А ў гародзе авёс родзе,
Ядраныя каласы.
Люблю тога кавалера,
Што угору валасы.

— Здорава, га?! — смяяўся ён і тут жа казаў: — А цяпер паслухайце другі варыянт:

А ў гародзе авёс родзе,
Ядраныя кветкі.
Люблю тога кавалера,
Што носе канфеткі.

Мы зайздросцілі: яму пашанцавала. Я ж запісаў хіба толькі некалькі новых назваў ужо знаёмых травак. І тады пачаў шукаць у памяці нешта сваё, нашавясковае. Згадаў чамусьці вось гэта:

Самалёт ляціць,
Адкрыта фортачка.
А ў калгасніка
Збоку торбачка.

— Гэты твой фальклёр не прымуць, — казаў мне Януковіч.
— Чаму гэта не прымуць?
— Разумееш, для чаго ў калгасніка «збоку торбачка»? Каб украсці таго ж зерня.
— Ну, правільна, каб не галадаць, — казаў я.

Праз дзень вярнуўся з Мінска Хведар Чэрня. Тут жа, сабраўшы ля вясковай студні ўсіх хлопцаў-аднакурснікаў, раздаў грошы, а сяму-таму і білеты на чарговы футбольны матч. Мы любілі наш футбол не менш, чым паэзію. Мінскае «Дынама» ў тыя гады «грымела».

Тым днём у вясковай краме была нядрэнная выручка, усё дзякуючы той жа стыпендыі. А надвячоркам, калі пачало шарэць, Хведар Чэрня ўскінуў на плечы свой цяжкаваты акардэон, і мы падаліся зноў да нашых мілых дзяўчат.

А яшчэ праз дзень сядзелі ў прыгарадным цягніку, які мчаў нас на Мінск. Трэба было паспець на стадыён. Тым жа днём у вёску завітае кіраўнік нашай экспедыцыі. Ён будзе злавацца, пырскаць слінаю і крычаць, але мы ўжо гэтага не пачуем.

З гадамі мае адносіны да фальклору рэзка перамяніліся. Кожнае трапнае, недзе пачутае слова, я тут жа занатоўваю, шмат запісваю ад маці, сваіх аднавяскоўцаў, якіх на гэтай зямлі засталіся адзінкі. А гартаючы часам фальклорныя зборнікі, лёгка знаходжу і тую студэнцкую «прыдумшчыну», хай яна часам і ўдалая. І тут жа весела згадваю адну нашу далёкую студэнцкую прыдумку з тых самых летніх вясковых вечароў:

А найболей у гародзе
Хрэн, казала мама, родзіць.
Хай расце!
Ён нам не шкодзіць!..

* * *

Ці многа сёння людзей, якія чытаюць? Баюся, што мала. Хоць рынак кніжны перанасычаны. «А было ж», — скажа нехта. Было, што вымоўе «без фігі не да носа» смела замянялі на тое ж «без кнігі не да носа». Было... А ці было?

Баюся, што тут толькі пяцьдзесят працэнтаў самой праўды. Астатняе належала модзе. Мода патрабавала мець амаль у кожнай кватэры сваю кніжную паліцу ці, як іх называлі, секцыю. І ў той секцыі абавязкова павінны былі стаяць прэстыжныя кніжныя тамы, а яшчэ дарагі крышталёвы посуд. І гэта было патрэбным знакам абывацельскай прыстойнасці. Класікаў ад літаратуры і ад Бога хавалі ў кніжных пыльных «трунах». На вокладках залатога ціснення часам і адбіткаў гаспадаровых пальцаў нельга было адшукаць. Не лепш пачуваў сябе і крышталь па суседстве з тамамі. Тых не чыталі, з гэтага — не пілі.

А ў некаторых, кажуць, на блішчастых замежных паліцах замест кніг стаялі муляжы, толькі вокладкі. Вось так яно.

А сёння самая чытацкая краіна кінулася ў іншую крайнасць. Тут ужо не мода, а хутчэй хвароба. Сёння ледзь не кожны хацеў бы падацца ў пісьменнікі. У пісьменнікі «пруцца» і далёкія ад пісьменства людзі. І гэта, як бачым, не так ужо і складана. Маеш грошы ці ўмееш іх шукаць, дык ідзі і выдавай што хочаш. Ніякага табе рэдактара, ніякай цэнзуры. Чытаў нядаўна важкі том аднаго такога «пісьменніка». Сабрана там усё — ад віншаванняў, тэлеграм да начальніцкіх загадаў. Не хапае толькі рэцэптаў ад урача. Распладзілася і мноства «выдаўцоў». Яны проста адлоўліваюць грашовага пісаку.

Сумна толькі самому пісьменніку. Яго напісанае, можа, і застаецца, але застаецца без кнігі.

* * *

Дзве пушчанскія вёсачкі з ляснымі назвамі — Беламошша і Падляскова. Наконт іх і прымаўка тутэйшая мелася: «Проша — з Беламошша, а з Падляскоўвага і самі прыйдуць». Некалі я заблудзіўся ў грыбным лесе і толькі пад самы захад сонца выбіўся ўбок Беламошша, а позна вечарам праз Астравы дабраўся дадому.

А другая згадка пра вёску такая. Неяк яшчэ з цёмным выправіўся ў грыбы. А па дарозе сустрэў п'янаватага мужчыну з каровай на повадзе. Мужчына кіраваўся на Рубяжэвіцкую дарогу. Якое ж было маё здзіўленне, калі таго мужчыну з каровай ды яшчэ пад канвоем міліцыі сустрэў потым зноў. Карову ён украў з хлява нейкага гаспадара ў тым жа Беламошшы. Вось вам і «проша».

* * *

«І дарма вы, маладзейшыя паэты, часта бываеце такімі няўважлівымі да роднага фальклору!» — кажу я сёння. Эх, ведалі б, на што здольная тая ж народная песня! Ці раз, змахваючы з вачэй слязінку пасля таго, як заціхала чароўная мелодыя той жа «Перапёлачкі», я ўдзячна згадваў тое, што аднойчы пачуў ад незабыўнага Станіслава Пятровіча Шушкевіча.

Здарылася яно ў час яго вядомай сібірскай высылкі, калі ён служыў у Рыжкаўскім пошукавым геалагічным атрадзе. Свой расповед Станіслаў Пятровіч пачаў яго любімым «вы ведаеце» і тут жа запаліўся, падагрэты маёй зацікаўленасцю і ўвагай. Адчувалася, што ў памяці пісьменніка гэта самае незабыўнае, а магчыма, і самае ўражлівае:

— Я працаваў тады бухгалтарам геалагічнай партыі. Была халодная сібірская зіма, і вось службовы абавязак змушае мяне адправіцца ў няблізкую дарогу. Трэба атрымаць і прывезці заробак для ўсяе экспедыцыі. Запрагаю каня і выпраўляюся ў шлях. Некалькі дзесяткаў таежнай зімовай дарогі — гэта, вядома ж, не жартачкі. Даехаў да месца добра, атрымаў тыя грошы — і адразу пакіраваўся ў зваротным кірунку. Пачынае вечарэць, сінія цені ад дрэў усё гусцей кладуцца на снег. Прылёг я набок ды раз-пораз падганяю каня, думаю нешта сваё. Разам з халадком і нейкі страх забіраецца пад адзежу: усё ж такі вязу казённыя грошы. А ў тайзе зараз усялякі люд швэндаецца. Толькі падумаў такое, а з-за дрэў проста на дарогу выбягае чалавек. Даганяе і без слоў куляецца ў сані. Конь неяк насцярожана пастрыг вушамі, я сцебануў яго ляйчынаю. Едзем і маўчым. Ён ні слова, і я — таксама. Час як быццам пачынае замаруджвацца. Я нешта і загаварыць спрабаваў, але ён гаворкі не падтрымаў. Невядома, чаго чакаць ад гэтага чалавека. Я сяджу спераду, ён — за маёй спінай. Едзем так, можа, з гадзіну, а можа, больш. Напружанне ўвесь час нарастае. І тут я не вытрымаў і зацягнуў «Перапёлачку». Праспяваў і пачаў нейкую іншую, азірнуўся некалькі раз на яго — а ён маўчыць ды слухае. Прыпыніў я спеў, а ён ззаду: «Давай, пой». Так праспяваў увесь свой «рэпертуар», усё, што ведаў, нават паўтарацца пачаў. Неўзабаве паказаліся агні пасёлка. Тады ён папрасіў спыніцца. Паляпаў мяне па плячы і сказаў: «Ты і не здагадваешся, што цябе чакала. Цябе выратавалі твае песні... Спяваеш ты хараша. Бывай здароў...» Тут жа саскочыў з саней і падаўся недзе ў іншы бок.

Я перажагнаўся. Вось так мяне выратавала наша народная песня.

* * *

На сметнік гісторыі выкідваюць часам і саму гісторыю. Са слязьмі на вачах расказваў мне археолаг Пятро Русаў пра сваю бяду. Тое, што яны шукалі і знаходзілі за час шматгадовых раскопак у Мінску, нехта вельмі лёгка выкінуў на сметнік з падвальнага памяшкання, дзе яно захоўвалася. А рэчы ж тыя неацэнныя.

* * *

Сярод творчага люду трапляюцца і зусім выдатныя расказчыкі. Слухаюць іх зазвычай, не стрымліваючы смеху, а то і раскрыўшы рот. А вось калі справа даходзіць да паперы, слова тое тут жа мярцвее.

Былыя «вожыкаўцы» часта згадваюць свайго славутага мастака Валянціна Ціхановіча, заядлага рыбалова і паляўнічага. Такіх расказчыкаў, якім быў ён, сапраўды, мала. Як жа вобразна ўмеў мастак акрэсліць сваё слова, паддаць яму «жарку», нават чыстых іскрынак позірку. Слухаць яго можна было бясконца, не стамляючыся. І расказваць мог гадзінамі. На жаль, тое, што расказвалася, зусім па-іншаму пачувала сябе на паперы.

Сябры аднойчы схітрылі. Зарадзілі магнітафон, добрага падпітку далі самому аўтару і ўключылі запіс. Сам ён і не здагадваўся, што яго запісваюць. А калі потым знялі тэкст з магнітафоннай стужкі, усё тое жывое, што натуральна лілося з вуснаў, увесь «эфект» (ну што ты будзеш рабіць?) зніклі. У голасе часта ёсць тое, што зусім не падуладнае пяру.

* * *

Мы пазнаёміліся неяк неспадзявана. Ён адрамантаваў штосьці ў нашай ваннай, падкруціў нейкія краны, і я запрасіў яго да стала на чарку. А калі ён

дабравата завесялеў, дык кінуўся раптам да сваёй сумкі ў парозе і выцягнуў адтуль таўставатую і не дужа свежую па вокладках запісоўку. Гэта было спеўнікам, дзе яго рукой акуратна і ўборыста запісаны тэксты ўсяго таго, што яму падабалася спяваць. Праўда, зацягнуць хоць адну з любімых мелодый я так і не дазволіў яму, спаслаўшыся на злосных суседзяў. Ён, здалося, крыху пакрыўдзіўся, але ўсё ж дазволіў пагартаць той спеўнік. Рэпертуар быў і не такі прымітыўны — ад «Рябины кудрявой» і аж да славутага «Бродяги». І тады ўявіў я, як сядзіць ён за сталом у нейкай сваёй кампаніі, трымаючы перад носам той бывалы спеўнік, адчуваючы сябе ці не галоўным запявалам у гэтым свеце.

* * *

Сёння спілавалі сухую рыжую яліну, што «псавала пейзаж» у амшары насупраць нашых вокнаў. Расла яна двухствола з маладым танклявым адросткам. Так і засохла. За адну толькі зіму. Мінулым летам яшчэ стаяла зялёнай. Высыхае пушчанскі ельнік. Відаць, беднаватымі на вільгаць сталіся самыя верхнія зямныя слаі.

Не шанцуе і бярозе. Шмат дрэў паваліў апошні ўраган. Яшчэ і сёння сцяжыны і лініі густа завалены бярозавымі вываратамі. Падчышчаць іх не спяшаюцца. Лес просіць сваёй увагі.

* * *

Недзе ў Мастах на дубах, на іх лісці, паявіліся раптам яблыкі. Во цуд! Пасля першага ліўня плады пачалі асыпацца. Прыйшлі падзівіцца на той цуд з суседніх вёсак. Святое ўсё ж дрэва, той самы дуб.

Чалавек усё часцей і часцей здзіўляе нас сваімі вынаходствамі, але да таго, на што здольная прырода, самаму вынаходліваму вынаходніку далекавата. Не так і проста сапернічаць з прыродай. Ды і не трэба гэтага рабіць.

* * *

Мне заўсёды прыемна было знаёміцца, а потым за нейкім сталом нават чаркавацца з мастакамі, кампазітарамі, спевакамі. Але ёсць у гэтых сустрэчах адчуванне нейкай мяжы, дзе тваё здаецца і не такім важным ды патрэбным, як іхняе. «Што гэта, — заўважаеш потым за сабою, — няўжо я кленчу перад імі?» Назаўтра дакараеш сябе за тую сваю ціхую прыніжанасць, ведаеш, што гэта не так. Проста стушаваўся, сціхаваў ты і не змог сказаць тое, што павінен быў сказаць. Але ўменне «падаць сябе» — гэта хутчэй за ўсё прыём гандлярскі, а не творчы.

* * *

Перавяліся вясковыя кашаплёты. Некалі ў кожным двары можна было пабачыць мужчыну, абкладзенага вязанкамі вербалозу ці хвойнага каранястага, які шчыруе са сцізорыкам, выплятаючы па радочку той самы кошык. І пастух рэдка калі вяртаўся з пашы без новага кошыка ці нейкіх нарыхтовак да яго. Усё змянілася ў гэтым свеце. Цяпер толькі на Стаўбцоўскім кірмашы яшчэ сустрэнеш дзядзьку з кашамі, часам сплеценымі з таго ж дроту. Ды яшчэ адзін з нашых калег не цураецца гэтага здавённага занятку. І тут ён пачувае сябе зусім някепскім майстрам. А сплесці кош, як думаецца, мог бы нават той жа няўмека. Толькі, як кажуць, захацець. Але хто гэтага надта хоча?

* * *

Жыццё наша акрамя сумнага падкідвае і шмат смешнага, кур'ёзнага. Адчыняю нядаўна дзверы ў свой рабочы пакой, а было гэта халодным перадзімовым днём, і бачу: сядзіць мой калега за сталом у кашулі, прычым лёгка-летняй. Ну і разагрэўся, думаю, бо ў нашым вялікім пакоі, як на дварэ, холадна. А ён, заўважыўшы маё здзіўленне, прызнаецца ці апраўдваецца:

— Не паверыш, так мітусіўся і спяшаўся на працу, што і пінжак забыў апрануць, накінуў куртку на плечы — і за дзверы. Толькі тут, на працы, і адчуў, што нейкі залегкаваты я.

Мы пасмяяліся.

— Ды гэта што, — яшчэ больш павесялеў ён і расказаў наступнае:

— Гэтаксама вось спяшаўся на працу. Не ўключаючы святла, сунуў ногі ў пантофлі і пабег. Іду, мінуў ужо свой двор, выйшаў на вуліцу, пыхкаю сабе цыгаркаю, а тут твар у твар сутыкаюся з суседкаю па пад'ездзе. Павітаўся. Змерала яна мяне позіркам з верху да нізу і пабегла, усміхаючыся, колькі разоў яшчэ азірнулася. «Што за чорт?» — думаю. Пачаў аглядаць сябе ўсяго. А калі глянуў на ногі, дык і сам рассмяяўся: пантофлі то ў мяне розныя: левы — жоўты, а правы — чорны. Пабег хутчэй пераабувацца.

І тут мне прыгадалася сваё. Забягае да мяне на кватэру неяк раніцой мой добры знаёмы. Працаваў ён тады ў школе міліцыі. Да заняткаў, кажа, яшчэ далекавата. А таму можна выпіць кавы. Пачаў распранацца. Гляджу: на ім новенькі мундзір. Але прыгледзеўся больш пільна, і разабраў мяне смех. Адзін маёрскі пагон, як і трэба, сядзіць на левым плячы, а другі — на спіне.

— Што гэта ў цябе за форма такая? — не вытрымаў я.

Паглядзеўся ён у люстэрка ды як мацюкнецца:

— Гэта ж жонка раніцой прышывала. І так прышыла. Добра яшчэ, што на занятку такім не заявіўся. Во смеху б было...

І пабег дамоў пераапранацца.

* * *

Прозвішча Мікола Чырык, магчыма, сённяшнім маладым і мала што скажа. А яшчэ гадоў дзесятак таму чысты і звонкі дыктарскі голас Міколы Максімавіча раніцой будзіў усю Беларусь. «Не трэба нам пеўні ды будзільнікі — у нас ёсць Чырык», — жартавалі сябры. Засеў у маёй памяці адзін прыпамін з яго дзяцінства, які паспрабую перадаць яго ж словамі:

— Неяк калгасны брыгадзір Маня, як яе называлі ў нашай вёсцы Дуброва (прозвішча ўжо забылася), папрасіла мяне, малога, падвезці харчы касцам ва ўрочышча Доўгае. Быў якраз час касавіцы. Урочышча далекаватае, вёрст за дванаццаць ад вёскі. Касцы туды выязджалі на добры месяц, жылі ў буданах, аж пакуль не высушаць ды не адстагуюць скошанае сена.

Памятаю, запрэглі мне парку коней, пагрузілі на воз мяхі з харчамі, і я паехаў. Дарога ішла праз лес, вёску, потым зноў пераходзіла ў лес. А ў палескае спякотнае лета ў лесе лепш не паказвайся: не будзеш ведаць, як адбіцца ад аваднёў, сляпнёў, камароў, самай球 рознай машкары, асабліва небяспечных для жывёлы. Дарогу да балота праехаў без асаблівых клопатаў, бо выехаў рана, яшчэ цёмначы. А вось днём, калі вяртаўся і на ўсю моц прыпякло паўдзённае сонца, уся тая кuслівая заедзь роем накінулася на коней. І яны ўздыбіліся, пачалі зварочваць у кусты, дзе можна было ў тым жа гollі хоць крыху адбіцца ад назойлівых крывасмокаў. Я з усяе сілы нацягваў лейцы, ды так і не ўтрымаў ашалелых коней. Той, што быў у прыпрэжцы, ірвануў пастромкі, і... толькі яго бачылі.

Я спалохаўся. Выкіраваў таго, што застаўся ў аглоблях, на дарогу і, падганяючы, выглядваў за паваротам вёску. А яе ўсё не было. Вельмі баяўся за свайго ўцекача, за тое, каб яго не злавілі цыганы. Калі трапіць у іх рукі, тады, як кажуць, шукай ветру ў полі. А конь жа калгасны. Усё гэта проста так і мне, і маці маёй не сыдзе.

З цяжкасцю дабраўся да вёскі, да калгаснага двара. Гляджу, а ўцякач мой стаіць у двары, у цяньку, сам знайшоў дарогу дадому. Трэба ведаць, як я абрадаваўся. Нібы гара з плеч звалілася. А перапалохаўся добра-такі.

— А ці здаралася падобнае, страшнае потым у жыцці? — неяк зусім наіўна запытаўся я.

— Было, здаецца, — уздыхнуўшы, адказаў ён. — І нядаўна. Ішоў я на дачу, і ў лесе напаткалі двое, з нажом. Давялося аддаць апошнія грошы...

І больш нічога не сказаў. А хутка Міколы не стала. Памёр ён раптоўна, сышоўшы з электрычкі і кіруючы на тую ж дачу.

* * *

Яшчэ адна згадка пра Міколу Чырыка. Ужо наўздагон. Пачуў яе ад салісткі нашага вядомага ансамбля «Бяседа».

— Разам з Міколам былі на гастролях у Туапсе. Выступалі там перад ветэранамі. З харчамі было тугавата. І раніцой Мікола адправіўся на рынак. Прыйшоўшы, сказаў: «Праз два дні будзем частавацца». Праз два дні кліча ў нумар і кладзе на стол добры брус свежапрасоленага сала. Беленькае, з чырвонай смакавітай праслоечкай. Перш чым накінуцца на яго, пытаемся: «Дзе ж ты саліў яго, Мікола?» А ён, усміхаючыся, адказвае: «А ў мяне тут у стале шуфлядка добрая адшукалася. У ёй і пасаліў». Вось яна, сялянская ды гаспадарская, знаходлівасць.

* * *

Трэба, відаць, хоць бы тым жа «дэкрэтам Саўнаркома» забараніць пісаць вершы пра вершы. А іх усё працягваюць пісаць, нават тыя, хто толькі пачынае прымервацца да паэтычнага слова. Няўжо гэта ад тэматычнай беднасці?

* * *

Дзед мой па маці Казімір Радзівон на самым пачатку вайны, калі ўжо па тутэйшым гасцінцы рухаліся немцы, закапаў дзесьці на сваім хутары цэлую бібліятэчку кніг. Вядома ж, савецкіх. Што гэта былі за кнігі, ніколі не казаў. Пасля вайны ўспомніў пра іх, пачаў адкопваць, але так нідзе нічога і не знайшоў. Нават слядоў. Няўжо хто адкапаў? У тое, што кнігі ператтлелі, не верыў.

* * *

У дзённіках Максіма Танка вычытаў і здзівіўся прызнанню Аркадзя Куляшова аб тым, што ён збіраецца пісаць паэму пра Фелікса Дзяржынскага. Згодзен з Максімам Танкам: «тэма — трэба сказаць, не з лёгкіх. І ў нейкай меры — не яго». Можа, класік, як часам кажуць, толькі «падражніўся», каб паддаць камусьці зайздрасці. І я ж, наіўны, некалі хацеў здзівіць некага паэмай пра свайго звышславутага земляка. І потым, калі пахваліўся сваёй задумай А. Вялюгіну, той асудзіў мой гарачы пыл: «Не трэба, карнет! Буду пісаць я». Ну, будзе дык будзе. Не стану ж я спаборнічаць з мэтрам. Узлаваўся крыху на свайго настаўніка. Мне тады думалася, што лепш за мяне пра «жалезнага» земляка ніхто не напіша. Бо я ж «нюхам

пушчы» чую Фелікса, сам нарадзіўся бліз ягонага хутара. Вялюгін жа лічыў, што я, малады, загублю тэму. А ён можа даць нашай літаратуры яшчэ адзін паэтычны ўзор пасля сваёй вядомай паэмы «Вецер з Волгі». Да тэмы самой Анатоль Сцяпанавіч ужо нават падступіўся, калі працаваў над фільмам «Там, за ракой — Дзяржынова», а яшчэ мастацкай двухсерыйкай «Рэха ў пушчы».

Але на ўсё ёсць Божы суддзя Час. Ён адгаварыў і Вялюгіна ад задумы. І нічога наша літаратура ад гэтага не страціла.

Быў нядаўна ў музеі Дзяржынскага ў Івянцы, наведаў і адноўлены хутар Дзяржынова. Чаму ж, хапае славы «жалезнаму» земляку. Шануюць у нас яго імя. Але я ўжо ніколі не напішу пра яго паэмы. Усё з вышыні сённяшняга дня выглядае надта празаічна. Хоць тэма застаецца.

* * *

Вялізны павук-раскірэка, што заснаваў свае красёнцы пад калодзежнай стрэшкай, кідаецца часамі да вядра, як быццам ён ужо гаспадар гэтага глыбокага калодзежа. А можа, у сваім царстве і нешта нават значыць. Бо адзнакі кароны ў яго праглядваюцца надта выразна. Ці толькі здольны ён парадаваць мяне якой вялікай навіной?

* * *

Алесь Ставер некалі казаў: «Паэт павінен піць. Але толькі 15 гадоў. Пасля гэтага пара ставіць кропку. Я так і зрабіў, завязаў».

Вядома, гэта патрабуе пэўнай мужнасці. Але так рабілі і некаторыя іншыя мае знаёмыя. А вось, каб адчуўшы, што пішацца ўжо не тое, ды набрацца мужнасці і завязаць з паэзіяй? Хай сабе і праз дваццаць год. Але чаму ж, прыклады ёсць. Той жа Лявон Галубовіч завязаў і там, і тут. Хаця з паэзіяй мог бы і пачакаць — пісаў ён якраз тое.

* * *

Знікла дзесьці з экрана вельмі патрэбная перадача «Падарожжа дылетанта». Хоць не ўсё мне ў ёй падабалася. Не трэба пра нашу гісторыю распавядаць крыўляючыся. Яна патрабуе, каб пра яе казалі са слязьмі, з дрыгатой у сэрцы.

* * *

Узоры сённяшняга постмадэрну:

Калі доўга стукаць
Галавою
аб бетонную сцяну,
бетон стане цёплым.

Верш называецца «Бальніца». Зразумела, пра якую бальніцу тут ідзе размова. Але дзе ж тут паэзія?

* * *

На тым даўнім пушчанскім вяселлі, якое нідзе не парушала даўніх тутэйшых традыцый, нават у зацятай начной бойцы навікоўскіх ды беламошскіх дзецюкоў, меркавалі і мне ўсватаць нейкую дзяўчыну, але яна пазнілася, а як потым аказалася, нават не прыехала. Але лішняе месца за сталом тут жа было занята нейкай курносай мінскай школьніцай, што гасцявала на хутары Грань.

Дзяўчыне вельмі пасавала доўгая да пояса каса, а блакітныя вочы я разгледзеў толькі потым, бо не маю звычкі заглядаць у чыесьці вочы, а часам і саромеюся гэтага. Быў я ўжо студэнтам, нават пісаў і друкаваў вершы, але ў кішэні не аказалася нават нейкай паперчыны, каб запісаць адрас дзяўчыны. І тады я намацаў у кішэні свой пашпарт і, доўга не думаючы, запісаў у яго просценькі мінскі адрасок, які і запомніць няцяжка было. Відаць, падзейнічаў той жа хмель ці так ужо ўпадабаў тую прыгажуню. Потым, калі працверазеў, спахапіўся: «Што ж я нарабіў? Дакумент усё ж, ды не абы-які». Спрабаваў сцерці той адрас, але чарніла ўелася ў паперу намёртва. А потым, добра падумаўшы, махнуў рукою — мне ж вось-вось ісці ў войска. Пашпарт той усё роўна забярэ ваенкамат. А вярнуся — выдадуць новы.

І здарылася так, што дзяўчына тая сталася маёю жонкай.

«Вось так, — смяялася яна потым. — Нам і шлюбу не трэба — ты з першай сустрэчы запісаў мяне ў свой пашпарт!» І на ўсё жыццё запомнілася мне тое пушчанскае вяселле. Мне і сёння здаецца, што было яно маім.

* * *

Кажуць, што немцы з усіх дрэў перавагу аддаюць бярозе. Згадваюць, што ў вайну яны і на лаўках бярозавых любілі пасядзець, і бярозавым плотам абгароджваліся, і крыжы на магілах сваіх вояў ставілі таксама бярозавыя. Нават неакораныя.

А мы, беларусы, таксама любім нашу бярозу не горш за тых немцаў. Але — жывую. Нам трэба, каб яна цешыла сваім белым, шумела ды спявала сваім зялёным, а яшчэ каб вясной паіла сваім салодкім. А які прыемны той самы духмяністы венічак у лазні! Няма лепшай насалоды, чым яго вясёлая ды гаючая сцябанка.

Але ёсць і крайнасць — мы надта ж любім цяпло бярозавых дроў. Вось і перавядзём хутка ўсю нашу красуню на дровы. Апамятаемся, мілыя людзі!

* * *

Яшчэ невядома, кім бы мы былі сёння, калі б прырода пашкадавала нам тых жа дзвюх рук, а пакінула ўсё так, як было напачатку. Спрэчак і барацьбы на гэтым свеце, думаю, было б напалову больш. І войнаў таксама. Хоць і так іх ці не залішне!

* * *

Люблю перачытваць чужыя дзённікі, вядома, калі на гэта ёсць дазвол ці аўтара, ці часу. Гартаў нядаўна старонкі жыццёвых запісаў Пімена Панчанкі ў «Полымі». Спыніўся на гэтым:

«(Студзень 1976). Нядаўна запісаў на сваёй студыі новыя вершы («Чорны бусел» і г. д.), а таксама для Масквы на рускай мове. Трохі збіваўся, але слаўная была дзяўчына-аператар».

І згадаў я тут жа той зімовы дзень. Зайшоў Пімен Емельянавіч у наш рэдакцыйны пакой, крыху ўзбуджаны. Расправуў дублёнку і адразу кінуў:

— А што гэта Казімір такі зласнавата-хмуры сёння?..

Я пацеў над нейкім нарысам, які мне не даваўся, а можа, і дома крыху настрой прыпсавалі. Аказваецца, ад вопытнага вока таленавітага паэта нічога не схаваеш. Словы класіка змусілі вышэй узняць галаву. А ён дастаў з кішэні пачак «Орбиты», закурыў сам, пачаставаў цыгаркаю мяне. А потым мы пайшлі ў «драмблок» на чацвёрты паверх запісвацца. А «слаўнай дзяўчынай-аператарам» была наша Таня Сідарава, як заўсёды, ветлі-

вая, далікатная. Запіс спачатку не клеіўся. Такое часта бывае і ў вопытных выступоўцаў. Але некалькі ласкавых дзявочых слоў — і ўсё пайшло як па масле. Ва ўсялякім разе, калі мы потым развіталіся, я зразумеў па вачах Пімена Емельянавіча, што ён задаволены. Ды і ў мяне, рэдактара, настрой адразу палепшыўся.

* * *

У Самары ў музеі Леніна заўважылі здань Уладзіміра Ільіча. Чулі, кажуць, нават ягоныя крокі, пахла яшчэ кавай і любімымі піражкамі Ільіча з капустай. А яшчэ Ільіч «пакамячыў» свой ложак. Што ж, калі гэта звычайная рэклама — таксама някепска. А калі нейкі іншы, можа, нават небяспечны знак? Тады варта задумацца...

* * *

Твардоўскі пра бездара-паэта: «Недарэка — усё жыццё цягне лодку па сухім».

Як многа іх сёння на нашым беразе, бурлакоў ад паэзіі, што цягнуць сваю лодку па сухім ды яшчэ прытанцоўваюць «ад задавальнення».

* * *

Палахліўцы заўсёды, ці амаль заўсёды, выратоўваюцца ў нейкай небяспечнай сітуацыі. У іх абвостранае адчуванне небяспекі. Але тая ж палахлівасць у пэўных абставінах можа перарасці ў смеласць.

* * *

На Дзяды гэтак жа цяжка запаліць свечку, як і стрымаць слязу. Гэта памінальнае свята прыходзіць з ветрам, смугой, дажджом. Плачнае надвор'е задае адпаведны сумны настрой і самой душы.

З некалькі спробаў свечка мая ўсё ж загарэлася. Затрымцела, замітусілася на ветры лёгкае вастраватае полымя. І нібы пачалі ажываць на помніку вочы дачкі. Куды калыхнецца полымя, куды павярнуся сам, туды і вочы Яе, як жывыя, глядзяць.

І раптам з прыдарожных, ужо амаль бязлістых бяроз, сумна апавітых туманом, выпырхнула сінічка. Пакружылася над помнікам і прысела на папяровую кветку ў куточку агароджы. Пасядзела гэтак з хвіліну і тут жа паляцела і знікла зноў недзе за бярозамі.

«Ці не душа гэта самой дачкі?», — як заўсёды думаецца ў такім разе. І зноў добра, шчыра, па-чалавечы паверылася ў сустрэчу жывых і мёртвых, у вечную повязь чалавечай памяці.

* * *

Зноў грыміць за дачнымі гародамі вечаровая электрычка. Як быццам хтосьці мяхамі рассыпае нейкае жалеззе. А думкі мае журліва цягнуцца да гарадской адзінокай кватэркі, а то да тых родных бацькоўскіх вокан ці проста недзе далёка ў памяць, дзе ўсё ў тваім жыцці было ў адзінстве, добрапаразуменні, нібы сшытае нейкімі нябачнымі ніцямі, якія яшчэ і сёння праз час і адлегласць засталіся непарыўнымі.

Які ўсё ж ён магутны інструмент, чалавечая думка. З яе дапамогай ты можаш, нікога не баючыся, тварыць самае нечуванае. Можаш сягаць у неда-

сяжнае, вяртацца, знікаць. Што жадаеш, тое і можаш. Чалавек часцей за ўсё і моцны сваімі думкамі.

* * *

**Арытмія** і **арыфмія** ў паэзіі відаць і неспрактыкаванаму воку. Тут не патрэбна нейкая кардыяграма. Як ні дзіўна, грашаць гэтым часам і старэйшыя паэты. А многія сённяшнія маладыя на рыфму і рытм проста не звяртаюць увагі. Як тут не згадаць Антона Бялевіча, які неяк, слухаючы спрэчкі крытыкі пра белы верш, не вытрымаў:

— Белы верш — то белы, але і беламу не пашкодзіць рыфма.

* * *

Не трэба ўцякаць ад сваёй старасці, хай сабе яна сама і спяшаецца. Трэба прыпыніцца, падаць ёй руку і ісці разам туды, куды наканавана. Гэта — закон прыроды, самы найсправядлівы з усіх зямных законаў, таму трэба быць законапаслухмяным. А падміргнуць маладосці часам і не грэх, калі дазваляе сэрца і тое ж тоўстае шкельца акуляра на воку.

* * *

Як хутка мяняецца час і як лёгка мяняе ён нас, яго часовых. Здаецца, толькі ўчора трапіў я ў яго абсурдны дзікаваты тэатр простым хлопчыкам-свінапасам, а сёння ўжо сяджу ў чарзе да доктара, заціснуўшы пад пахай сумны зборнік выбранага маіх хвароб. Чытач тут ва ўсіх толькі адзін, толькі ён лекар.

* * *

Амаль кожны творца ў гады сваёй сталасці адчувае сябе так, быццам ён адправіў ліст у вечнасць і вось сядзіць, чакае не дачакаецца адказу. А яшчэ і думае, ці дайшло яго пісанне да адрасата, а калі дайшло, ці згодзіцца, ці палічыць патрэбным той ліставацца. Часцей за ўсё пісьмы застаюцца без адказу.

*Мінск—Рудзенск—Малыя Навікі*





## Рагнед МАЛАХОЎСКІ

### ПЕСНЯ АЧА

*Паводле падання пра Нарач.*

У бездань блакіту Нарочча гляджу
Многія сотні гадоў
І з Нарай у снах да вытокаў імчу
Пяшчоты і музыкі слоў.

Каханая,
Чую бязгучны твой плач,
Поўны адчаем густым.
О, Нара,
Я твой заварожаны Ач,
Свет без цябе — едкі дым.

На мокрым пяску
Стыне цёплы твой след.
Сустрэчы жаданай прашу.
Мне голас падання,
Старога, як свет,
Зноўку вярэдзіць душу.

У чуткіх чаротах купальскіх начэй
Лёс нас аднойчы звядзе.
І кветкай чароўнай, за месяц ярчэй,
Ты ўзыдзеш на срэбнай вадзе.

---

*Малахоўскі Рагнед Юр'евіч* *нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). У 1987 годзе сям'я вярнулася на радзіму ў Нарачанскі край. Сночыў Нарацкую сярэднюю школу. Цяпер вучыцца ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце на факультэце фінансаў і банкаўскай справы.*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Беражніца».*

* * *

Дзе рачулка Нарачанка
Дрэмле ў хмелевым балоце,
Раптам пырхне чарацянка
І схаваецца ў чароце.

Ўсе чароўнасці сусвету
Акунаюцца ў бяздонне.
Легкакрылы подых ветру
Берагоў цалуе ўлонне.

Вечаровая заранка
Млее над азёрным краем.
Заспявала нарачанка,
Увянчаўшы голаў маем.

## НАТХНЕННЕ

Спарахнеюць вярыгі сумнення
На дасвецці дрыготкай цішы,
Запалоніць пачуцці натхненне —
Рамантычнасць свабоднай душы.

Упадуць ланцугі самазману,
Што імкнуліся думку скаваць.
Час загоіць душэўную рану —
Дзеля творчасці варта трываць.

Гэтай споведзі тайнай праменне
Асвятляе шчымлівы парыў.
Палымнее заранкай натхненне,
Каб душу творчы плён запаліў.

## РАСЧАРАВАННЕ

Цалуюць шыбу
Клічнікі дажджу,
Пытальнікам
Скруціў лістоту вецер.
Найлепшы час
Прызнаць,
Што не жыву —
Страшнейшае
Расчараванне ў свеце.

Тунель з аскепкаў
Дзённай мітусні
Не выпусціць,
Пакуль не згасне вечар.
Удары сэрца
Прагнуць цішыні,
Калі хвіліны
Траціцца на вецер.

Трымценне зор —
На палатне акна,
Спакою кроплі
Змыюць думак смецце.
Ад безвыходнасці —
Глыток віна,
І не задасць пытанняў
Нудны вецер.

## КАХАННЯ РАДОК

Глухія крокі ўзрушылі ўспаміны,
Крамяны вечар песняй прагучаў.
Я верыў непаўторнасці хвіліны,
Калі сказаў табе,
Што пакахаў.

На вейках цалаваліся сняжынкі —
Імгненні грэшнай вечнасці ў гульні.
Прызнанні,
Палымяныя абдымкі —
Самоты патаемнай прамяні.

Жывая радасць тоіцца ў пачуццях,
Расстання боль —
Сняжынкі матылёк,
Што растае.
І не паспеў адчуць я
Кахання мімалётнага радок.

Не страшна ўспамінаць,
Чаго не будзе,
Няўмольны лёс не стане назіраць
За крыўдаю,
Што напаўняе грудзі,
За памяццю,
Што змушана ўміраць.

Я блытаўся ў бязладдзі з хіжым словам,
Агорклы голас, бы струна, дрыжаў.
Даверыўся тваім бяздушным ловам,
Калі казаў табе,
Што пакахаў.

* * *

Тлее горад начнымі агнямі,
Мы стаім на праспекце восеньскім.
І, здаецца, каханне між намі,
Але сэрца на волю просіцца.

Зіхаціць пазалота месяца —
Для пачуццяў недасягальная.
Ліст апошні на клёне свеціцца,
Нібы зорка душы світальная.

Хоць няма пагляду трывожнага,
Ды баімся словам параніцца.
З-за туману
Насцярожанага
Сонны горад не ўспомніць раніцу.

## ЭСКОРТ ІМГНЕННЯЎ

*Беражы імгненне — збераджэш душу.*
Змітрок Марозаў

Імгненняў сэнс
У восені зямной
Ва ўбранні
Спадзяванняў і хлусні.
Чужая ноч
Пад чорнай прасцінай
Рассейвае жаданняў прамяні.

Імчаць імгненні,
Растае душа.

Святла і ценю танец, —
Як палёт.
Але ў душы —
Асенняя імжа.
І часу несупынны калаўрот...

Бязлітасныя
Вочы забыцця
У новы свет
Заманьваюць мяне.
Ды колькі там
Адмерана жыцця,
Калі эскорт імгненняў праміне?

* * *

Гарацць забытых летапісаў скруткі,
Струменіць поўня крохкае святло,
Пад горыччу хвілін
Рыпяць прыступкі —
Аслепла рэчаіснасць мне на зло.

У сне шарэе раніца пустэчы —
Прытулак адзіноты і трывог.
Хімерныя прымаюць формы рэчы,
Дрымота ночы
Ступіць за парог.

Надзеі паміраюць у руціне.
Так невыносна бессэнсоўна жыць.
У храме,
Нібы з бацькавай карціны,
Жалобная мелодыя гучыць.

## ШЧАСЦЕ ПААСОБКУ

Сэрца стыне —
Атрымаў твой ліст.
Іх цэлы стос
Марнуецца ў шуфлядзе.
З надзеяй адагрэць душу
Кладу ў камін.
І толькі полымя
Засведчыць небу
Імгненні праўды,
Быццам напамін
Аб тым, што ёсць,
І тым, што будзе.

Цяплей не стала,
Але заранка
Заружавела
На халодных шчоках
Самотнай праўдай
Непадзеленых пачуццяў.

У полымі лістоў
Гарыць каханне.
Вогненная восень
Сагрэе нас
І наша шчасце
Паасобку.

* * *

Я быў закаханы ў багіню пяшчоты
І верыў, што лета маё не міне,

Не змоўкнуць духоўнай мелодыі ноты
І ружа не звяне ў самотным акне...

Багіня пяшчоты —
Адчаю багіня —
Пакутным агнём апякла мне душу.
Калі мімалётнасць кахання загіне,
Нятленнага шчасця ў багоў папрашу.

Ды цені прытворныя
Нішчаць сумленне,
Чарнее аслеплай душы абярог.
Багіня адчаю —
Жыцця сутарэнне —
Спакусніца свету майго.

Забыцца ў пялёстках сузор'яў мы рады,
А сэрца тваё апусцела да дна.
Багіня ганебнай імгненнасці здрады —
Адна.

* * *

Калі душа ператвараецца ў анёла,
Калі нябёсы ахінаюць цемрай нас, —
Расчараванняў запавольваецца кола,
І надыходзіць першапачатковы час.

Калі пачуццяў усе повязі мацнеюць,
Нібыта снайперскімі кулямі — грахі, —
Зямныя сэрцы ад пакутаў не чарсцвеюць,
Не памірае соладзь мараў ад тугі.

Гучаць нябёсныя мелодыі наўкола,
Далёкіх продкаў чуцен клятвенны наказ.
Калі душа ператвараецца ў анёла,
Яна расказвае Ўсявышняму пра нас.

* * *

Сыходзяць зімовыя мары,
Душу працінае спакуса
Сустрэцца з вясной на Нароччы.

Пяшчотна-падманлівы ранак
Вітае жывой чысцінёю
Праменне панурага сонца.

Ступаю на бераг пустэльны,
Вясна неспакойнаю чайкай
Кружляе над Нараччу соннай.

Цяпло неспазнаных пачуццяў,
Нястомнасць эмоцый кіпучых
Растопяць нямую прастору.

Суровае трэсне прадонне
Надрыўна-прастуджаным басам,
Што сам бы Пярун пазайздросціў.

Вятрыскі дыхнуць цеплынёю,
І чайка запальчывым крыкам
Абвесціць вясну на Нароччы.







Іван КАПЫЛОВІЧ

# ЧОРНАЯ ПАЛАСА

***Апавяданне***

Зубрыцкі ўзяў сабе за прывычку ўставаць завідна. Жонка з сынам яшчэ спалі, і ён, каб іх не разбудзіць, ціхенька, як не крадучыся, ступаў у залу, дзе перад акном быў пісьмовы стол.

Перш за ўсё рассоўваў шторкі, затрымліваўся-стаяў колькі хвілін каля акна, аб нечым напружана думаў, бы і не заўважаў таго, што рабілася ў гэты час на дварэ: ні легкавікоў, ад якіх няма рады, ні сабакароў, якія ні свет ні зара паўставалі, павыводзілі сваіх бульдогаў-бультэр'ераў на прагулянку.

Яго кватэра на першым паверсе. Гэта і добра, і дрэнна. Добра, бо адразу, выйшаўшы з кватэры, не трэба адольваць лесвічныя маршы, у пяціпавярховым доме ліфтаў не бывае, і кожны дзень па некалькі разоў падымацца-апускацца з пятага паверха на першы — хіба ж лёгка і проста? Дрэнна, бо гэта ж першы паверх — бойся пакінуць фортку адчыненай.

Зубрыцкі распісаўся... З таго часу, як атрымаў двухпакаёвую кватэру ў новым мікрараёне і перабраўся сюды з жонкай і пяцігадовым сынам, у яго заўсёды прыўзняты настрой, яму добра пішацца, і ён ужо амаль заканчваў сваю чарговую кнігу. Гэта быў раман. Летась прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Падчас прыёму адны з калегаў хвалілі, другія наадварот — знайшлі за што зачапіцца, казалі, што яму трэба яшчэ шмат вучыцца, напружвацца, працаваць, бо ягоная проза блізкая да журналістыкі, пахне газетай, лёгкаважкая, часам з фальшывінкай, а сягонняшняму чытачу дагадзіць цяжка, сягонняшні чытач удумлівы, пераборлівы, яму падавай што-небудзь арыгінальнае, сур'ёзнае, глыбока псіхалагічнае. І калі Зубрыцкага прымаюць у Саюз, то авансам, са спадзеўкай, што да яго дойдзе сэнс слоў, сказаных у час прыёму.

Канечне, ён і радаваўся, і хваляваўся, быў расстроены, бо разумеў: калі ўшчуваюць, то ёсць за што. Разумеў ён і другое: калі друкуюць часопісы,

---

***Капыловіч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. У 1962 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля службы ў войску і заканчэння вучобы ва універсітэце працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную аварыю, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка. Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003).*

выдавецтвы прымаюць рукапісы, то ўжо не такі ён пустагаловы, нешта ўсё ж у яго атрымліваецца.

За плячыма ў Зубрыцкага хай і не такі вялікі жыццёвы багаж, але яму ўжо трохі за трыццаць, выгадаваўся ў вёсцы, гадаваўся ў маці адзін, без бацькі, які не вярнуўся з вайны, і таму рос у працы, нястачы, пакуль трохі падняўся на ногі, то хапіла ліха. Ды і ў арміі паслужыў. Вучыўся ва універсітэце. Праўда, вучоба ягоная атрымалася перарывістая, бо з трэцяга курса ўзялі ў войска, і заканчваць альма-матэр давялося пасля службы, калі трэба было ўжо думаць аб заўтрашнім дні, аб тым, куды ісці працаваць, дзе жыць. А тут і жаніцьба, нараджэнне сына...

Хоць і лета, але ж гэта першы паверх, зямля блізка, трава ў расе, золка, а ён толькі ў майцы, у спартыўным зялёным трыко, у тапачках на босую нагу, і таму адыходзіць ад акна, расчыняе шафу, дзе вісіць адзенне, здымае з вешалкі сіні махровы халат, засоўвае рукі ў шырокія рукавы, падпяразваецца паяском, адчувае, што адразу стала больш утульна, садзіцца за стол.

Перачытвае старонкі, напісаныя ўчора, адкладвае іх убок, бярэ ручку і пачынае пісаць...

Пакуль падняліся жонка з сынам, то паспеў, як ён сам казаў, нашкрабаць колькі старонак.

— Адвядзі Сашуню ў садзік сам, мне трэба спяшацца, — жонка, Ванда, увайшла ў залу, убачыла мужа за сталом, наблізілася да яго, нахілілася, абняла за плечы, пацалавала ў галаву, у непрычэсаныя светла-русыя валасы. — Калі ты спіш? — спытала любоўна-ласкава. — Не надакучыла гэтая твая пісаніна?

Ванда маладзейшая за Зубрыцкага на пяць гадоў. Яна ў меру высакаватая, танклявая, пастрыжаная пад хлопчыка, у яе шэра-зялёных вачах Зубрыцкі заўсёды бачыў спагаду, дабрыню, каханне, павагу да сябе, да яго працы і занятку, да якога прыкіпеў душой і сэрцам, — ягоная работа, бачыла, разумела, канечне ж, тое Ванда — добраахвотная салодкая катарга. Жонка даражыла тым, што ёй пашэнціла з мужам: не п’е, як некаторыя яго сябрукі, не курыць, выдаў ужо дзве кніжкі і трэцяя на падыходзе. Любіць сына, яе, хоча, каб нарадзіла яшчэ адно дзіця.

— Вось выдам раман — і куплю «Волгу», — Зубрыцкі паклаў ручку на спісаны аркуш, глядзеў у акно, за якім пачынаўся, абуджаўся летні дзень. — Тады часцей буду бываць у маці. Немаладая яна ўжо, а ў вёсцы жыць адзінокай жанчыне хіба проста? Паеду — хоць дроў нарыхтую, трохі травы ўкашу — сянца карове зімою давай ды давай.

— Што ты прывязаўся да гэтай вёскі? — быццам папікнула Ванда. Яна ўжо стаяла каля авальнага люстра, што тут, у зале, на дзверцах шафы з унутранага боку. Апраналася, спяшалася, бо яе працоўны дзень у Навукова-даследчым інстытуце архітэктуры пачынаецца а восьмай гадзіне. Да таго ж, аб гэтым Ванда гаварыла яшчэ ўчора вечарам, нейкая канферэнцыя, і спазняцца непажадана. — Жывеш столькі часу ў горадзе, а пішаш усё пра вёску, — скончыла Ванда.

— Мо калі-небудзь напішу яшчэ і пра горад, а пакуль пра вёску... Я і сам часам задумваюся: немалую частку свайго жыцця пражыў у горадзе, але сапраўды — чаму мне больш удаецца тое, што пра вёску?

Неўзабаве Ванда пакінула яго аднаго, нават не выпіўшы свой любімы кубак кавы, напаследак толькі нагадала:

— Будзі Сашуню, пара яму ў садзік.

Збылася даўняя мара Зубрыцкага: вось яна, беленькая, новая, што яшчэ пахла завадскою фарбаю, «Волга». Не змог бы набыць яе, каб к таму часу,

калі ў аўтамагазін паступіла партыя гэтага тавару, не выйшаў з друку ягоны раман. У касе выдавецтва атрымаў шэсцьдзесят працэнтаў авансу, а потым, калі трэба было ісці ў аўтамагазін, выдалі і разлік. І ўсё адно трохі не хапіла, бо «Волга» — гэта не які-небудзь задрыпаны «Запарожац» ці «Масквіч». І нават не «Жыгулі», якія пачалі выпускаць у Тальяці і на якія паўсюль на рабоце запісваліся ў чаргу. Чэргі былі доўгія, не на адзін год, і ў Саюзе таксама. Яно і вядома. Людзі, дый пісьменнікі, хіба жылі надта багата, хіба раскашавалі? Таго, што зараблялі, хапала на адзенне, харч, на сякую-такую мэблю... Словам, зарплата ішла на самае неабходнае, а каб купляць «Волгі»... Канечне, багацеі былі і сярод пісьменнікаў, але колькі іх? То вунь каўказцы — тыя, здавалася, не ведалі, куды дзяваць свае грошы. Яны так і палююць за ўладальнікамі «Волгаў», любыя грошы згодны заплаціць за гэтае прэстыжнае аўто. Незразумела — адкуль, з чаго ў іх гэткія нямераныя фінансы?

Жонка нават пасварылася з Зубрыцкім, што ён уздумаў купіць «Волгу».

— Людзям хапае і «Жыгулёў», а ты ўжо надта з пыхай, — з крыўдаю ў голасе сказала, калі зразумела, што муж прыняў рашэнне канчаткова і беспаваротна. — Я выцягваюся ў нітку, на ўсім эканомлю, берагу кожную капейку, а ты трациш не задумваючыся.

Спрабуючы адгаварыць мужа ад гэтай пакупкі, Ванда прывяла свой апошні аргумент:

— Ты не любіш мяне. Паглядзі, у што я апранутая. Жонка пісьменніка, а як тая старчыха.

Гэта яна ўжо, канечне, перабаршчыла. Старчыха яна... Поўная шафа блузак, сукенак розных, спадніц, не адзін плашч, футра — хай не самае шыкоўнае, але ж ёсць, боты зімовыя, асеннія, не адна пара туфляў...

— Ванда, мілая, каханая! — узмаліўся Зубрыцкі. — Як у цябе язык паварочваецца такое гаварыць?! Не люблю я... Хіба ты не бачыш, не заўважаеш, не разумееш? Мне ніхто з жанчын, апроч цябе, не трэба, я нікога больш не хачу: ты мая ўцеха і натхненне на ўвесь мой век. Ты і Сашуня.

Зубрыцкі, калі яны вялі гэтую размову, сядзеў за пісьмовым сталом, а жонка ў крэсле каля кніжнай шафы. Ён устаў, падышоў да жонкі, стаў наўколенцы, аддана зірнуў у вочы, паклаў галаву ёй на калені:

— Канечне, твая праўда — мо хапіла б і «Жыгулёў». Але я так усё гэта разумею: «Жыгулі» — кансервавая бляшанка, матор у ёй добры, сучасны, на любым марозе заводзіцца лёгка, а вось кузаў... Ён згніе, саржавее за дзве-тры зімы, а «Волга» болей надзейная, трывалая машына. Я — мужчына, сачу за аўтамабільнай вытворчасцю і нешта ў гэтым кумекаю, павер мне.

Жонка слухала моўчкі, адна яе рука ляжала на ягоным левым плячы, а другая міжволі ласкава расчэсвала ягоную густую, з жорсткімі валасамі, як трава-мычка, чупрыну.

— Увесь ганарар з наступнай кніжкі аддаю табе, — дадаў Зубрыцкі. — Купляй што хочаш, ідзі хоць у «Бярозку» — там жаночага імпарту заваліся.

На хвілінку ён прымоўк, нават перастаў дыхаць, бо падалося, што зараз якраз той момант, калі між імі ўсталявалася згода, паразуменне, і што б ён ні папрасіў, то жонка, думалася, павінна пагадзіцца.

— Давай, Ванда, родзім яшчэ адно дзіцятка, — амаль па-змоўніцку, шэптам гаварыў Зубрыцкі. — Ну што ты — хочаш спыніцца на адным Сашуні? Я пішу, зарабляю нядрэнна, а з'явіцца другое дзіця, то й кватэру большую атрымаем, у мяне будзе свой асобны пакой, дзе я змагу пісаць заўсёды, у любы час, бо цяпер жа я магу рабіць гэта ці досвіткам, ці ноччу, калі ты і Сашуня спіце. Разумееш — я магу думаць, пісаць у цішыні, калі сканцэнтраваны ў сабе, калі я сам-насам і з сабой, і з тым светам, пра які пішу.

— Ты — непапраўны індывідуаліст, эгаіст — вось што, — рашуча прамовіла Ванда, паднялася з крэсла і падалася на кухню. — Ты — нецярпімы індывідуаліст, хочаш, каб усё было так, як табе трэба, а як гэта будзе для іншых — табе ўсё адно.

Нядоўгае маўчанне, і зноў яе голас:

— Я часам думаю — няўжо пісьменнікі ўсе такія, як ты? Няўжо яны ўсе індывідуалісты, эгаісты?

Ён па-ранейшаму наўколенцах, перад крэслам, пазіраў услед жонцы, слухаў тое, што яна казала, і думаў: хоць і жывуць разам колькі ўжо гадоў, але ж якія яны розныя людзі, па-рознаму ўспрымаюць жыццё і тое, што адбываецца ў гэтым жыцці.

Першы, хто павіншаваў яго з дарагой пакупкай, быў Адам Часлававіч — сусед па доме. Пэўна, такога ж узросту, як і Зубрыцкі, трохі вышэй сярэдняга росту, з густам апрануты, круглашчокі, набрыялінены, у доўгім, зашпіленым не на ўсе гузікі цёмна-сінім плашчы, чырвона-блакітным гальштуку на белай сарочцы, ён кожны дзень дзесьці а восьмай гадзіне выходзіў з пад'езда, курыў, і тым часам у двор каціліся ягоная службовая «Волга». Адам Часлававіч азіраўся на свой балкон на трэцім паверсе, што выходзіў у двор, бачыў там жонку з дзвюма яшчэ малымі дочкамі, якія наведвалі садзік, шчаслівa ўсміхаўся, садзіўся ў «Волгу» і выпраўляўся на работу. Потым, калі добра пазнаёміліся, Зубрыцкі даведаўся, што Адам Часлававіч меў прозвішча Сасна, родам ён, як і жонка Зубрыцкага, недзе з-пад Баранавічаў, паляк. Скончыў інстытут народнай гаспадаркі, атрымаў прафесію тавараазнаўцы і цяпер працаваў намеснікам начальніка ўпраўлення сталічнага гандлю. Пасада, здавалася, не такая ўжо і высокая, але было відаць, што Адам Часлававіч пасадай задаволены, аб чым сведчылі яго заўсёдны цудоўны настрой, хітры прыжмур вачэй, якія ніколі не сумавалі, гарэлі вясёлымі, жыццярадаснымі агеньчыкамі. Яно і вядома — людзі ягонай прафесіі былі запатрабаваны, да іх ішлі ўсе, да іх звярталіся, ім кланяліся, іх прасілі, калі трэба было купіць што-небудзь вартае з адзення, абутку, мэблі. Людзі мелі на руках грошы, а тавару, асабліва шыкоўнага, хадавога, моднага, тым больш імпартнага, было не надта, таму і даводзілася заводзіць знаёмствы з патрэбнымі людзьмі, даводзілася, хочаш не хочаш, шукаць чорнага хода. Зубрыцкі адразу і не зразумеў, якая для яго знаходка гэты Адам Часлававіч.

Прыгнаўшы з аўтамагазіна «Волгу» і паставіўшы яе на часовую стаянку каля пад'езда свайго дома, Зубрыцкі адчыніў капот, падняў яго, зазірнуў у маторны адсек, нібы хацеў пераканацца, што ўсё тут новенькае, не падмененае, толькі што з завода, з заводскай пломбай, новенькімі таблічкамі-надпісамі, на якіх красавалася: «Зроблена ў СССР».

— Віншую! — гэта прамовіў Адам Часлававіч, які, мабыць, прыехаў на абед, убачыў Зубрыцкага, падышоў, загаварыў. — Як вам удалося набыць гэтакае аўто?

Пазнаёміліся, разгаварыліся, і Зубрыцкі, даведаўшыся, хто размаўляе зараз з ім, запрасіў Адама Часлававіча ў госці:

— Трэба абмыць пакупку, каб мой жалезны конь утомы не знаў.

Адам Часлававіч, дазнаўшыся, што Зубрыцкі — пісьменнік, аўтар першага, што яшчэ пахнуў друкарскай фарбай, рамана, надта і не аднекваўся, а толькі спытаў:

— У шахматы гуляеце?

— Канечне, — адказаў Зубрыцкі і падумаў, што нездарма аднойчы ў кнігарні агледзеў і набыў кнігу пад назвай «По следам дебютных катастроф». Купіў і новыя шахматы з драўлянымі фігурамі, разыгрываў сам з сабою

камбінацыі з гэтай кніжкі, а потым, наведваючыся ў рэдакцыі часопісаў, выдавецтваў, гуляў з іх супрацоўнікамі ў шахматы, амаль усіх лёгка абгульваў і разумеў, што чытанне кніжкі «По следам дебютных катастроф» дарма не мінулася, бо, што ні кажы, а ён усё ж быў ужо трохі знаёмы з шахматнай тэорыяй.

Той жа вечар Адам Чеслававіч і завітаў да яго. Ванда цвіла ад радасці — з такім карысным чалавекам пашэнціла пазнаёміцца Зубрыцкаму! Пры сённяшнім дэфіцыце амаль на ўсё — гэта больш як знаходка. Гэта, можна сказаць, нават як шчасце.

Ванда накрыла стол, выставіла з халадзільніка самыя лепшыя стравы: марынаваныя маладзенькія грыбы-баравікі, чырвоную ікру, падсмажыла карпа, зрабіла салату з перцу, свежых агуркоў, зялёнай цыбулі, таматаў, нарэзала кружочкамі лімон... З такое нагоды Зубрыцкі адкаркаваў бутэльку армянскага каньяку, які купіў з ганарару за апошнюю публікацыю ў часопісе.

Адам Часлававіч быў не надта падкі ні да страў, ні да выпіўкі: ці то прыкідваўся гэтакім строгім, стрыманым, ці быў перанасычаны далікатэсамі: у яго дамашнім халадзільніку, мабыць, і птушынае малако ёсць. Як жа — чалавек гандлю, дый не радавы... А мо Адам Часлававіч знарок стрымліваў сябе ў выпіўцы, бо якія яшчэ яго гады, усё жыццё наперадзе, і калі не стрымлівацца, то хіба чаго даб'ешся ў кар'еры? А кар'ера, пэўна, свяціла яму нядрэнная: не так даўно скончыў інстытут, а вунь ужо дзе. Намеснік начальніка ўпраўлення сталічнага гандлю тое ж самае, што і намеснік міністра.

Потым яны згулялі колькі партый у шахматы. Зубрыцкі доўга не раздумваў, рабіў хады, якія запомніў з кнігі «По следам дебютных катастроф», ставіў свайго госця раз за разам у цяжкое, безвыходнае становішча, здавацца так хутка і лёгка Адам Часлававіч не хацеў, падоўгу думаў, цяжка ўздыхаў, закурваў, уставаў са свайго месца, праходжваўся, але, зрабіўшы не болей дзесяці хадоў, мусіў прызнаць сваё паражэнне. Гэтак некалькі партый запар.

Зубрыцкі, мабыць, захапіўся, страціў пачуццё рэальнасці і меры, тое, што ягоны госць можа і пакрыўдзіцца, а таму знарок пачаў нібыта памыляцца, «празяваў» перш адну фігуру, потым другую... Было прыкметна, што Адам Часлававіч чалавек самалюбівы, а Зубрыцкі сваім безаглядным выйгрышам наносіў па гэтым самалюбстве жорсткі ўдар.

Нарэшце, калі зраўняўся лік, усталявалася нічыя, яны паціснулі адзін аднаму руку, падняліся. Адам Часлававіч, задаволены прыёмам і гасцяваннем, пакіраваўся да выхаду. Развітваючыся, ён не забыў нагадаць:

— Калі што якое, Ігар Аляксандравіч, звяртайцеся, я ў вашым поўным распараджэнні.

Тое, што госць называў яго, Зубрыцкага, па бацьку, лішні раз сведчыла, што Адам Часлававіч — чалавек афіцыйных колаў, дзе ўсё вакол сухое, казённае, строгае, статутнае, падпарадкаванае розным службовым інструкцыям, няпісаным правілам і законам. Гэта ўсё было відавочна. Аднаго, праўда, не мог зразумець Зубрыцкі: чаму Адам Часлававіч гэтак лёгка прыняў яго запрашэнне, прыйшоў у госці? Няўжо надакучылі кампаніі калегаў? Захацелася блізка пазнаёміцца з пісьменнікам, атрымаць з ягоных рук толькі што выдадзены раман з аўтографам? Хто яго ведае.

Адам Часлававіч трымаў дыстанцыю. Пры сустрэчы ён па-ранейшаму называў Зубрыцкага па бацьку, знарочыста падкрэсліваў значнасць сваёй асобы, работы, без якой, пэўна, здавалася яму, гэты свет загіне. Гэтая знарочыстая афіцыйнасць, адчувалася, былі яму не ўласцівая, штучная, прыдуманая ім самім невядома дзеля чаго. Адчувалася, што ён — чалавек добрай натуры, сардэчны, спагадлівы, гатовы адклікнуцца на любую просьбу Зуб-

рыцкага, неадкладна выканаць яе без усялякага намёку на падзяку, на тое, што Зубрыцкі яму нечым абавязаны, перад ім у даўгу. Проста яму, мабыць, было прыемна рабіць некаму дабро. Але ж і не адняць ад яго гэтую знарочыстую афіцыйнасць, гэтую дыстанцыю-мяжу паміж імі, якая не знікала. Гэта злавала Зубрыцкага, бо ён сам — чалавек шчыры, сумленны, не цярпеў ніякай штучнасці, нацягнутасці паміж людзьмі, тым больш калі гэтыя людзі станавіліся ледзь не сябрамі.

Зубрыцкаму часам хацелася выказаць тое, што думаў пра Адама Часлававіча, яму ў вочы: «Ну што ты, даражэнькі, нешта строіш з сябе? Канечне, твая работа запатрабаваная, гандаль сягоння... Без гандляроў нам нікуды — гэта праўда. Да цябе, мабыць, шмат хто ідзе, звяртаецца, просіць... Але чаму? Ці не таму, што ў гэтым гандлі ледзь не на кожным кроку дэфіцыт, які вы, гандляры, самі штучна ствараеце?»

Але думаць — гэта адно, а рэальнасць — зусім іншае. Не змог сказаць Зубрыцкі Адаму Часлававічу ўсяго, што пра яго думаў. Калі б Зубрыцкі гэта зрабіў, то Адам Часлававіч, напэўна, пакрыўдзіўся б, не размаўляў бы з ім, і Ванда хіба даравала б Зубрыцкаму такую неабачлівасць? Яна не нарадуецца, што ў іх зусім нечаканна з'явіўся гэтакі знаёмы, яна, аказваецца, як і многія маладыя жанчыны, не ўяўляе сябе без моднага сучаснага імпартнага адзення, абутку, парфумы. Дый сам Зубрыцкі... Ледзь што, то адразу звяртаецца да Адама Часлававіча, і той хоць раз адмовіў у якой-небудзь просьбе? Даведаўся Зубрыцкі, што ля цэнтральнага гарадскога рынку ўзвялі крыты гараж-стаянку з усім неабходным аўтасервісам: мыйкай, станцыяй тэхабслугоўвання, то адразу ж з'явілася думка прыстроіць туды сваю «Волгу». Не векаваць жа ёй пад адкрытым небам каля дома. Але паспрабуй у гэты гараж-стаянку ўлезь: жадаючых многа, а гараж адзін. Ад ветэранаў няма адбою, а Зубрыцкі хіба ветэран? Хочаш не хочаш, а давялося прасіць Адама Часлававіча, і дзесьці мо праз тыдзень пасля таго, як Зубрыцкі выказаў сваё пажаданне, той накіраваў яго да дырэктара гаража-стаянкі са словамі: «Скажыце, Ігар Аляксандравіч, што вы ад мяне, я яму званіў, ён у курсе, для вашай «Волгі», паабяцаў, месцейка знойдзецца». — «Чырканіце хоць кароценькую запіску, — папрасіў Зубрыцкі, — бо раптам узнікне замінка». — «Не ўзнікне», — пры гэтых словах Адам Часлававіч дабрадушна ўсміхаўся, што сведчыла: рабіць яму гэтую паслугу Зубрыцкаму адно задавальненне, уцеха, разуменне, што ён на гэтым свеце далёка не апошні чалавек.

Блізілася зіма, у Зубрыцкага ні вартай зімовай шапкі, ні дублёнкі. А ганарары так і сыпаліся. Выйшла кніга ў Маскве, Зубрыцкі перад яе выхадам асабіста два разы ездзіў у сталіцу СССР, узгадняў з перакладчыкам адно, другое, падпісваў дагавор, і вось першая перакладная кніга на рускай мове ў ягоных руках, а ганарар прыслалі па пошце. Зубрыцкі пахваліўся Адаму Часлававічу, зноў запрасіў яго ў госці...

Праз нейкі час Зубрыцкі па накіраванні Адама Часлававіча наведаў цэнтральны сталічны універмаг не з галоўнага ўвахода-выхаду, а са службовага, падняўся на трэці паверх, да дырэктара, той ужо чакаў яго, і тут жа ў дырэктаравым кабінеце Зубрыцкі прымераў дублёнку, югаслаўскі, з ніткай-бліскавінкай, касцюм. Ні дублёнкі, ні такога вось касцюма ў свабодным продажы не было, і Зубрыцкі яшчэ болей зразумеў, як гэта добра мець такіх знаёмых, як Адам Часлававіч...

Такім жа чынам, праз Адама Часлававіча, набыў ён каляровы тэлевізар, пральную машыну-аўтамат, шарсцяны, ручной работы, в'етнамскі дыван... Багацеў Зубрыцкі, абстаўляўся, інтэр'ер кватэры мяняўся на вачах, але нейкай асаблівай радасці ад гэтага на душы ў Зубрыцкага не было. Ён сам сябе не разумеў: набываў дарагую рэч праз Адама Часлававіча і адчуваў нібыта

нейкі душэўны дыскамфорт, нібыта ўдушша мучыла яго. Колькі разоў збіраўся аб гэтым напісаць у сваім новым творы, але ж хіба гэта магчыма? Цэнзуры асаблівай за сабой не адчуваў, але хіба пра парадкі ў гандлі прапусцяць у выдавецтве? Усе, літаральна ўсе шукаюць гэты чорны гандлярскі ход, і калі знаходзяць, то адно толькі радуюцца. Зубрыцкі не раз думаў: да чаго ж гэта ўсё нас прывядзе, чым яно скончыцца?

Нешта незразумелае адбывалася ў краіне. Адразу, як памёр Брэжнеў, многія нібыта нават радаваліся гэтаму: надакучыла слухаць яго бясконцыя шапялявыя прамовы. Відаць было, што ў чалавека непарадак з галавой, а ён кіраваў вялікай краінай... Зразумела, што за ім хаваліся нейкія сілы, якія чакалі моманту, каб звярнуць краіну з выверанага курсу.

Калі месца генсека заняў Гарбачоў, то ўсе з палёгкай уздыхнулі — нарэшце кіраўнік дзяржавы яшчэ даволі малады, энергічны, рухавы, а як хараша гаворыць — нібы салавей спявае. Ну, думалася, гледзячы на новага генсека і слухаючы яго, цяпер зажывём.

Пісьменнікі таксама віталі прыход Гарбачова: цяпер будзе больш свабоды ў творчасці, бо да таго ўжо надакучылі ідэалагічныя рамкі, цэнзура, што часам рукі апускаліся. Зубрыцкі, праўда, надта не адчуваў таго, што яму нехта ўказваў, як і пра што пісаць. Вядома, былі нейкія абмежаванні, не без гэтага, на тое, мабыць, і дзяржава існуе, каб стрымліваць дысідэнтаў, ад якіх не было адбою. Героі твораў Зубрыцкага — простыя людзі, яны нявыдуманыя, з жыцця, і ўсё, аб чым ён пісаў, друкавалася, выходзіла асобнымі кніжкамі.

Думаючы пра цэнзуру, ідэалагічныя рамкі, Зубрыцкі заўважыў, што пярэчыў сам сабе. Адзін раз ён як бы згаджаўся з тым, што абсалютнай свабоды няма і не павінна быць, інакш што з гэтага атрымаецца? Хаос, неразбярыха.

Яго душа пратэставала, калі думаў пра дысідэнтаў, якіх у Маскве гаць гаці і якім Гарбачоў даў неабмежаваную свабоду. Вось яны і бушавалі, нападалі на партыю, на ўсё святое, на тое, на чым трымалася дзяржава. Адны з іх жылі ў Заходняй Еўропе, Амерыцы, Ізраілі... Выдавалі сваю паклёпніцкую літаратуру, ганілі ўсё савецкае... Зубрыцкі разумеў: да дабра гэта не прывядзе.

У Саюзе пісьменнікаў дысідэнтаў таксама хапала. Гэта былі другарадныя, безаблічныя пісьменнікі, але гарластыя, яны не злазілі з трыбуны, настройвалі пісьменніцкую грамаду супраць улады, прад'яўлялі свае рахункі ўсяму савецкаму, Сталіну, падвяргалі перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне сумненню... Дзіўна было, што сярод дысідэнтаў і тыя, хто насіў званне народнага, быў Героем Сацпрацы. Вось і выходзіла, што дзяржава прыгрэла гадзюку за пазухай... Пакрысе, спакваля Зубрыцкі прыходзіў да высновы: так, у ранейшым жыцці былі недахопы, перакосы, але хіба іх можна было параўнаць з той анархіяй, хаосам, што ўсталяваліся з прыходам да ўлады Гарбачова, які развязаў рукі варожай сіле? Не адзін ён гэта ўбачыў і зразумеў — многія. Але час быў упушчаны, а дысідэнты ў шапку не спалі... І краіна, і народ аказаліся каля разбітага карыта зусім нечакана, неспадзявана...

З прылаўкаў магазінаў знікалі тавары, тое, што яшчэ ўчора было ў свабодным продажы, чаго хапала і што было па даступнай цане. Усюды стаялі чэргі, людзі праклíналі ўладу — гэтую, сённяшнюю, згадвалі добрым словам тую, мінулую, якую ў іх укралі, якая аднавіла краіну пасля разбуральнай вайны, дала ўсім работу, магчымасць зарабляць на кавалак хлеба, дала магчымасць вучыцца, авалодваць запатрабаванай прафесіяй. Людзі самі сябе пыталі: чаго ж ім не хапала раней? І адказвалі: хіба што далікатэсаў, імпартнага барахла. І дзеля гэтага трэба было пазбаўляцца вялікай краіны?!

Неразбярыха, хаос у жыцці неўзабаве закранулі і Зубрыцкага, узялі за горла. Яго чарговы раман былі прынялі для перакладу ў Маскве ў паважаным, салідным выдавецтве, рукапіс атрымаў станоўчую рэцэнзію, і Зубрыцкі ўжо бачыў той дзень, калі раман выйдзе на рускай мове немалым тыражом, ён, аўтар, будзе адзначаны добрым словам і вартым ганарарам. Ганарар прышлюць па пошце, ён, канечне, не малы, бо за прозу, няхай сабе і перакладную, у Маскве плацяць добра. З гэтай нагоды, вядома, і Ванда не нарадуецца, яна заўсёды радуецца і чакае, калі выйдзе яго кніга, а разам з ёю ў выдавецкай бухгалтэрыі яму выплацяць ганарар. Выхаду чарговай мужавай кнігі жонка, здаецца, чакае нават больш, чым сам Зубрыцкі. На гэта ў яе дзве прычыны. Першая: Ванда пахваліцца ў сваім працоўным калектыве гэтай навіной, нават угаворыць Зубрыцкага, каб ён выбраў дзень і час, прыйшоў у інстытут, выступіў, адказаў, як, адкуль у яго ўзяўся сюжэт, задумка напісаць гэтую кнігу, як доўга пісаў яе, якія творчыя планы на будучыню. І, само сабой, каб падпісаў кнігу, бо кожны хоча мець яго твор з аўтографам. Зубрыцкі, вядома, аднекваўся, бо надта не любіў выступаць перад чытачамі, думаў, што гэта лішняе, сапраўднаму аматару мастацкага слова, мабыць, не гэта самае важнае, а іншае, тое, што аб сённяшнім дні, аб людзях, з якім кожны сутыкаецца ў жыцці, напісана цікава, займальна, глыбока, без фальшывінкі. Але й адмовіць жонцы ён не мог, бо сустрэчы з чытачамі нешта давалі, наводзілі на нейкія думкі.

У часе размоў-дыскусій з жонкай Зубрыцкі як бы міжволі казаў:

— Я раблю ўсё так, Ванда, як табе хочацца, выконваю любы твой капрыз, а ты? Чаму ты...

— Ігарок, мілы, дарагі, хіба я цябе не кахаю? Няўжо ты гэтага не бачыш, не адчуваеш?

Зубрыцкі ўжо больш не нагадваў жонцы, як ён хоча, каб у іх нарадзілася яшчэ адно дзіцятка. Але які толк з таго? Жонка, мабыць, і сама не супраць была ўжо, але не можа, штосьці з ёй здарылася, яна не раз хадзіла ў паліклініку, у жаночую кансультацыю, скардзілася, што не можа загрубець, ёй нагадалі пра аборты, якія зрабіла Ванда, суцяшалі, раілі паехаць у Крым на гразелячэнне, магчыма, яно дапаможа зняць запаленне прыдаткаў, бясплоддзе, якое пачалося ў Ванды пасля абортаў...

Але парадавацца выхадам новай кнігі ў Маскве Зубрыцкі не змог: рукапіс неўзабаве вярнулі з суправаджальным, несуцяшальным лістом, з якога вынікала, што выдавецтва села на фінансавую мель. Вярнулі рукапісы з выдавецтваў не толькі маскоўскіх, а і сваіх, тутэйшых. І не аднаму Зубрыцкаму, а многім. Вось толькі тады да ўсіх, нарэшце, дайшло, што такое дысідэнты і Гарбчоў, якім на кожным сваім сходзе пісьменнікі пляскалі ў ладкі, радаваліся цяперашняй неабмежаванай свабодзе, ад якой кружыліся галовы.

Фінансавыя запасы канчаліся, і Зубрыцкі не ўяўляў, як жыць далей. Паранейшаму ўставаў завідна, садзіўся за пісьмовы стол, апантана пісаў. У рукапісе ў яго ўжо дзве кніжкі, але яны нікому не патрэбны, ні адно выдавецтва не бралася іх выдаваць.

Апошнім часам ён нічога новага не купляў сабе з адзення, абутку, даношваў усё старое, набытае раней. Дублёнка, якую займеў дзякуючы Адаму Часлававічу, паднасілася, знутры злямцавалася, і не шкодзіла б замяніць яе на што-небудзь новае, больш прыстойнае. Але за якую трасцу набыць тую новую дублёнку ці скуранку? Усё падаражэла, інфляцыя была такая, што грошы абясцэніліся, ад цэнаў ці то ў магазіне, ці на рынку вочы на лоб лезлі.

Ён на нешта ўсё ж спадзяваўся, не верылася, што гэтак будзе працягвацца бясконца. Павінен жа, думалася, наступіць нейкі парадак, у рэшце рэшт павінна ўсё ўсталявацца, увайсці ў свае берагі.

Добра, што яшчэ Ванда працавала, атрымлівала нейкі заробак, з таго і жылі.

Прынёсшы неяк дадому палучку, Ванда ледзь не заплакала:

— Патрачу — і тады што? Ісці да царквы з працягнутаю рукою?

— Трэба яшчэ трохі пацярпець, — супакойваў Зубрыцкі жонку, — от у часопісе абяцаюць надрукаваць мой новы твор. Выкруцімся, не можа таго быць.

— Як бы ты мне гаворыш гэта ўпершыню. Чула ўжо.

Яно мо і не без таго, мо і сапраўды надрукуюць ягоны новы твор. Але які цяпер ганарар? Раней за гэтакую публікацыю ён атрымаў бы не адну тысячу, а цяпер... Ранейшыя грошы і цяперашнія — неба і зямля...

Зубрыцкі некалькі разоў наведваўся ў выдавецтва мастацкай літаратуры, спадзяваўся, што там, нарэшце, усталяваўся нейкі фінансавы штыль, а раз так, то мо і возьмуцца за ягоны рукапіс. Ён над ім столькі пасядзеў, папрацаваў як ніколі, давёў усё да ладу. Тое, што ўключыў у яго, вострасюжэтнае, надзённае, чытэльнае, то чаму б такую кнігу не прапанаваць чытачу? Але выдавецтва перажывала па-ранейшаму не самую лепшую пару. Яно поўнасцю знаходзілася на самаакупнасці. Дык раней кнігі разыходзіліся вокамгненна. Класіка не залежвалася ні дня. За ёю заўсёды былі чэргі. Дый яго, Зубрыцкага, кнігі, што выдаваліся заўсёды двайным тыражом, хіба пыліліся на паліцах кнігарань? Хіба іх спісвалі калі-небудзь? Людзі з ахвотай чыталі і класіку, і сучасную беларускую літаратуру, асабліва прозу. Чытачы былі ненатольныя.

Дырэктар выдавецтва, адных гадоў з Зубрыцкім па ўзросце, таксама празаік, чалавек як быццам дабрадушны, спагадлівы, згледзеўшы Зубрыцкага на калідоры выдавецтва, падышоў да яго сам, павітаўся за руку, нагадаў:

— Шукай, Ігар, спонсараў. Без спонсараў нічога не будзе, дзяржава сёння фінансуе толькі сацыяльна значную літаратуру. Канечне, і твой раман можна было б уключыць у гэты спіс, але ж тады ўсе пачнуць браць мяне за горла: чаму Зубрыцкага ўключылі, а нас не?

Зубрыцкі зразумеў, што дарма ён абівае парогі выдавецтва. Мабыць, і сапраўды ў словах дырэктара ёсць доля праўды — без спонсараў не абысціся.

І яшчэ ў той момант ён аб адным падумаў: хітрун дырэктар выдавецтва, ой, яшчэ й які хітрун! Адкуль гэта бралася ў невысокім чалавеку з коратка стрыжаныміваласамі, чорнымі, як воранава крыло, пышнымі вусамі, сухімі, вострымі, як свярдзёлкі, вачамі? Да таго, як стаць дырэктарам, ён, здавалася, быў просты, шчыры, без аніякай хітрынкі, даступны... «Шукай спонсараў»... Лёгка сказаць. «А чаму ты сам, пан дырэктар, іх не шукаеш? — хацелася спытаць Зубрыцкаму. — Чаму твае кніжачкі гэтак акуратна з году ў год выходзяць? Яны ўсе сацыяльна значныя? Ці таму, што свая рука ўладыка?»

Але таго, што падумалася, Зубрыцкі гаварыць не стаў: які толк? Як бы гэта навіна: хіба калі-небудзь літаратурнае начальства, як, дарэчы, і любое начальства, само сябе не любіла, не пеставала, абдзяліла нейкімі жыццёвымі дабротамі? Ніколі яно, шаноўнае начальства, не крыўдзіла сябе ні прэміямі, ні пуцёўкамі ў санаторый, ні лечкамісіямі...

— Не ведаю, з чаго і пачынаць, — не ўтойваючы раздражнёнасці, выказаўся Зубрыцкі. — Сёння ўсе банкруцяцца, а ты гаворыш пра спонсараў.

— Твая праўда. Але ж праўда і тое, што прадпрымальных людзей таксама хапае. Адны банкруцяцца, а на другіх залаты дождж сыплецца, трэба толькі іх знайсці, звярнуцца, — заспакоіў яго на развітанне дырэктар, павярнуўся і шпарка пайшоў убок свайго службовага кабінета, даўшы зразумець, што

размова скончана, і калі Зубрыцкі сам нічога не прадпрыме, то ягоны рукапіс так і не пабачыць свету.

Можа б, так усё і засталося, не стаў бы ён шукаць ніякіх спонсараў-фундатараў, калі б не выключныя абставіны.

Вярнуўшыся з выдавецтва недзе к абеду, Зубрыцкі заспеў дома Ванду і дужа гэтаму здзівіўся:

— Рабочы дзень у разгары, а ты што — устроіла сабе выхадны?

Ванда была на кухні. Сядзела перад акном на зэдліку, уперлася локцямі ў падаконнік, далоньмі ў падбародак. Згледзеўшы мужа, пачуўшы яго словы, павярнулася тварам, але не прамовіла ні слова, зноў уперылася ў акно абыякавым, апустошаным позіркам і каменна маўчала. Сэрца ў Зубрыцкага ёкнула: у такім вось стане жонку ён бачыў упершыню, і было зразумела, што здарылася нешта дужа нядобрае, непрадбачанае. Але што? Мо з Сашунем...

— Ванда?! Што з табою? — ціха, як спалохаўшыся свайго голасу, спытаў Зубрыцкі.

Ванда раптам зарагатала, бы вар'ятка:

— Можаш мяне павіншаваць, мужанёк, з сённяшняга дня я беспрацоўная.

Услед за гэтымі словамі яна заплакала. Скрозь слёзы гаварыла:

— Я ведала, душой чула гэта, але не думала, што ўсё адбудзецца так хутка і неспадзявана. Навукова-даследчыя інстытуты зачыняюцца адзін за адным, дайшла чарга і да нас.

Яна раптам замоўкла, зноў пазірала ў акно і маўчала тым маўчаннем, ад якога на душы ў Зубрыцкага зрабілася халодна і змрочна. У гэты момант Зубрыцкі згадаў, што ўвесь час быў дужа задаволены тым, што Ванда — інжынер-будаўнік, архітэктар. Заўсёды думаў, што ў жонкі, як і ў яго самога, творчая работа, і гэта, мабыць, яднала. Ванда заўсёды разумела яго з паўслова, разумела яго перажыванні, тыя моманты, калі ў яго нешта не ўдавалася, не атрымлівалася, надараліся няўдачы, і Зубрыцкі праклінаў сам сябе, тое, што выбраў гэтакі хлеб, гэтакае жыццё. Але калі выходзіла кніга, з'яўляліся часопісныя публікацыі, весялеў, святкаваў, і Ванда радавалася разам з ім, з пяшчотай прыхіналася да яго, аддана пазірала ў вочы і ціхенькім, ласкавым голасам казала:

— Ну от, бачыш... А ты, ледзь што, адразу панікуеш.

Ён у адказ усміхаўся і не разумеў, чаму, калі не-не, ды і з'яўлялася чорная паласа, у запале праклінаў сваю работу, гаварыў, што кіне пісаць. Ды ён без гэтай работы, мабыць, і дня не пражыве. Бывае, канечне, калі месяцамі не піша. Але ж у гэты самы час ён абдумвае свой новы твор. Усё, што потым клалася на паперу, перш за ўсё нараджалася ў галаве, у думках...

Здавалася, канца гэтаму не будзе. Ванда звякуе ў сваім навукова-даследчым інстытуце архітэктуры, а ён, няхай сабе з перажываннямі, ваганнямі, але ад пісьмовага стала нікуды да скону дзён. І от на табе...

— Я сёння быў у выдавецтве, дырэктар кажа, каб я шукаў спонсараў-фундатараў, — бы адчытваўся перад жонкай Зубрыцкі. — Ідучы дадому, ведаеш, да чаго я дадумаўся?

Ванда кінула ў яго бок халодна-абыякавы позірк, але не вымавіла ні слова.

— Пайду да Адама Часлававіча. Ён — чалавек багаты, гэта факт. Гандляры ва ўсе часы былі з грашыма, гэта не мы, папяровыя пацукі. Гандляры заўсёды на мяху з грашыма сядзяць, чорнай паласы ў іх, мабыць, ніколі не бывае.

Памыляўся Зубрыцкі, думаючы, што ў гандляроў ніколі не бывае чорнай паласы. Бывае. Зразумеў гэта Зубрыцкі толькі тады, калі пераступіў парог

кабінета дырэктара Цэнтральнага сталічнага універмага, на ўваходных дзвярах якога красавалася вузкая таблічка, на якой сонцам гарэла прозвішча, поўнае імя Адама Чеслававіча. Так, так, Адам Часлававіч ужо каторы год не ва ўпраўленні сталічнага гандлю, а вось тут, за гэтымі дзвярыма, перад якімі ў нерашучасці стаяў Зубрыцкі і чамусьці не адразу рашаўся адчыніць іх. Быццам ён, Зубрыцкі, — чалавек смелы, валявы, настойлівы, але вось у гэты момант ён адчуў, зразумеў, як гэта складана ісці, звяртацца да некага з няпростай просьбай. Зубрыцкі на нейкую хвілю быццам здранцвеў.

— Заходзьце, Адам Часлававіч вас чакае, — нагадала сімпатычная, маладога веку, з моднай прычоскай-стрыжкай шэра-попельнага колеру, сакратарка з тонкімі, густа напамаджанымі бэзавага колеру памадай вуснамі, вялікімі, чорнымі вачыма. Паспяшайцеся, бо ў дырэктара праз паўгадзіны планёрка, часу ў вас у абрэз, — яшчэ дадала яна.

Зубрыцкі слухаў яе, думаў, што Адам Часлававіч ведаў, што зрабіў, перасаджваючыся з кабінета намесніка начальніка ўпраўлення гандлю во ў гэты, дзе ўтульная прыёмная з раскошнай сакратаркай, немалы працоўны калектыў, мабыць жа, і зарплата тут не абы-якая. Дый, урэшце, ён тут сам сабе гаспадар, а не нейкі намеснік...

Згледзеўшы яго, Адам Часлававіч шырока, непрытворна ўсміхнуўся, падняўся па-маладзецку са свайго скуранога крэсла на жалезнай ножцы, на калёсіках, зрабіў некалі крокаў насустрач Зубрыцкаму.

— Ігар Аляксандравіч! Вось што не чакаў, то не чакаў! Вітаю, вітаю! Як даўно мы не бачыліся — мо цэлы век! Як даўно мы не гулялі ў шахматы!

Ён гаварыў і ўсміхаўся, і ўсё, што гаварыў, адчувалася, ішло ў яго ад душы, ад сэрца, усе словы простыя, шчырыя, без кроплі фальшу ці найгрышу.

— Што праўда, то праўда, — вітаючыся за руку, пагадзіўся з Адамам Часлававічам Зубрыцкі. — З таго часу, як вы пераехалі на новую кватэру, мы не бачыліся ніводнага разу.

Бы толькі от зараз, у гэты момант, Зубрыцкі ўспомніў, што Адам Часлававіч з'ехаў з таго двара, дзе яны часта сустракаліся, дзе іх дамы-кватэры былі ўпобачкі, быццам і не так даўно, але ж часу мінула з тае пары... Ён сіліўся згадаць, менавіта ў якім годзе Адам Часлававіч атрымаў новую, большую па плошчы, кватэру недзе бліжэй да цэнтра. Але так і не згадаў, не прыпомніў, нібыта і зусім забыў пра яго, бо апошнім часам ніякіх дарагіх пакупак не рабіў, было не да таго, не выдаваўся, ганарараў не атрымліваў, жыў з тых запасаў, што засталіся ад ранейшых публікацый і кніжак.

— То як вам на новай кватэры? — Зубрыцкі ўжо сядзеў за доўгім сталом, з двух бакоў якога пастаўлены ў рад крэслы з бардовай абіўкай, Адам Часлававіч па правай руцэ ад яго зноў умасціўся ў сваім крэсле. — Суседзі цяпер у вас добрыя людзі? Ходзіце ў госці, гуляеце ў шахматы?

— Дзе там! — скрывіўся, як ад зубнога болю, Адам Часлававіч. — Цяпер такі час...

Ён раптам замоўк, зірнуў у акно, дзе знаходзілася платная стаянка для легкавых аўтамабіляў. За гэтым акном быў той самы час, тое жыццё, да якога яны абодва дажылі, і, зразумеў Зубрыцкі, якому яны абодва не надта рады.

— Вы — пісьменнік, чалавек назіральны, — з сумам у голасе працягваў Адам Часлававіч. — Хіба не заўважылі, што ў горадзе, вакол горада растуць рынкі, як грыбы пасля дажджу?

— Хіба гэта дрэнна? — само сабой сарвалася з языка ў Зубрыцкага.

— Як для каго, — Адаму Часлававічу, мабыць, у гэтую хвіліну было дужа няўтульна ў сваім крэсле, ён чамусьці лёгенька крутнуўся ў адзін бок, у другі, стаў задуменны, заклапочаны. — Гэтыя барахолаўкі — нашы канкурэнты. Апошні грунт з-пад ног выбіваюць.

Адразу стала зразумелым, чаму Адам Чеслававіч такі сумны, невясёлы. Апошнім часам у яго, Зубрыцкага, хіба ўзнікала патрэба звяртацца да Адама Чеслававіча, каб купіць нешта моднае, дэфіцытнае з адзення, абутку для сябе ці для жонкі, для сына? Цяпер абы грошы. На рынках-барахолаўках чаго толькі няма ледзь не з усяго белага свету: з Турцыі, з Заходняй Еўропы, Кітая, Амерыкі... Тавару заваліся, а ў кішэнях гуляе вецер. Раней вяліся грошы, а цяпер... Раней Зубрыцкі мусіў кланяцца Адаму Чеслававічу, шукаў чорны ход во ў гэты універмаг, а сягоння трэба ён яму? От гэта, мабыць, і турбавала Адама Чеслававіча, не давала жыць спакойна. Дый пакупнікоў, мабыць жа, паменшала, а раз так, то як выконваць план, зарабляць на зарплату, з чаго плаціць падаткі?

— Многія прамтаварныя магазіны збанкруціліся, а што ж вы хацелі — на барахолаўках усё танней намнога, а ў нас... Чаўнакі хіба плацяць гэтакія падаткі ў казну, як мы? Не плацяць яны і за камунальныя паслугі, іхні гандаль вулічны, яны ў любую пару года на дварэ, мёрзнуць, на спякоце, затое й маюць, — усё з тым жа сумам працягваў Адам Чеслававіч.

Ён пазіраў некуды паўз Зубрыцкага, але ягоная задуменнасць і на гэты раз цягнулася нядоўга. Адам Чеслававіч, мабыць, успомніў нешта прыемнае, добрае, пра якое ён нібыта забыўся, але ўсё ж успомніў і ўжо больш вясёлым голасам гаварыў:

— Які з мяне быў бы камерсант, каб я спасаваў перад барахольшчыкамі? Пакупніка сёння трэба ўмець заманіць, паказаць сябе, свой тавар. Я правёў рэканструкцыю універмага, хоць на гэта і пайшоў увесь наш прыбытак...

«Усё... Мабыць, нічога не будзе... Дарма я прыйшоў... Адам Чеслававіч, пэўна, здагадаўся, чаму я наведаўся да яго, — падумаў Зубрыцкі. — Інакш дзеля чаго згадаў гэту рэканструкцыю?»

Але як бы сабе ні было, трэба было раскрывацца: не вяртацца ж назад ні з чым. Што ўжо будзе...

— Ведаеце, Адам Чеслававіч, што мяне прывяло да вас?

Зубрыцкі нібы папярхнуўся: словы пераселі ў горле, і нейкае імгненне ён, быццам тая рыбіна, якую хваля выкінула на бераг, не мог вымавіць ні слова. Во як, аказваецца, нешта ў некага прасіць. Ды калі яшчэ ад таго залежыць вельмі шмат у жыцці, а можа, нават і далейшы твой лёс.

Адам Чеслававіч, мабыць, зразумеў, здагадаўся, што ягоны сённяшні госць прыйшоў не проста так. Але чаго? Калі б ён раней звярнуўся да яго, то і гадаць не давялося б: чалавеку захацелася нейкага дэфіцыту, а цяпер...

— Гаварыце, што вы спалохаліся? — нібы падахвоціў Адам Чеслававіч, паказваючы сваё нецярпенне хутчэй даведацца пра мэту візіту Зубрыцкага. Дзіўна яшчэ было тое, што Адам Чеслававіч па-ранейшаму трымаў дыстанцыю між сабой і Зубрыцкім, называў яго па бацьку. Мабыць, у яго гэтая прывычка ўжо ў крыві. Адмовіцца, напэўна, ад ранейшае звыкласці не так проста, не так проста прыстасоўвацца да новага часу, у якім ужо ўсё другое, не ранейшае.

Няскладна, з хваляваннем, але ўсё ж Зубрыцкі змог намаляваць карціну таго, у якім незайздросным становішчы сёння выдавецтвы і яны, пісьменнікі... Скончыў тым, што ягоны новы раман без спонсарскай падтрымкі свету не пабачыць.

Было нават дзіўным тое, як успрыняў ягоныя словы Адам Чеслававіч. Ён, здавалася, нават абрадаваўся, што Зубрыцкі зноў заявіўся да яго, каб нешта папрасіць. Калі ўжо не хадавы тавар, як раней, то хоць бы грошы.

— Я вам дапамагу, — гэтыя словы Адам Чеслававіч вымавіў з усмешкай на твары. — Давайце рахунак выдавецтва, я і распараджуся: сёння ж пера-

вядзём пэўную суму, няхай выходзіць ваша кніжка, толькі не забудзьце адзін экземпляр з аўтографам асабіста мне.

— Пра што вы кажаце?! Ды як толькі яна выйдзе з друку...

Зубрыцкі не ведаў, што казаць і рабіць: гэта ж трэба! Сам Бог некалі пазнаёміў яго з Адамам Часлававічам. І раней, у часы суцэльнага дэфіцыту, і цяпер ён для яго як знаходка, як выратаванне.

Зняўшы тэлефонную трубку і даўшы ўказанне галоўнаму бухгалтару перавесці патрэбную суму на рахунак выдавецтва, Адам Часлававіч зірнуў у вочы Зубрыцкаму: ці ацаніў ён ягоную дабрыню, яго шырокі жэст? І ўбачыў, вядома, што Зубрыцкі ад такога павароту ў размове сам не свой.

— Вось яшчэ што, — нечакана загаварыў аб іншым Адам Часлававіч. — Юбілей у нас на носе: паўвека універмагу, то мы хочам выпусціць кнігу, можа, вы возьмецеся напісаць яе? Заключым дагавор, нядрэнна заплацім.

Ну і дзянёк сягоння! Удача за ўдачай. І раман цяпер, безумоўна, выйдзе. Апрача таго, яшчэ вось наклёўваецца выгадная здзелка: напісаць кнігу пра універмаг. Канечне ж — гэтая кніга не раман, не мастацкі твор, а звычайная журналістыка. Хіба Зубрыцкі не напіша? Левай нагой усё зробіць, капейчыну ў сямейны бюджэт займее.

Ванда, пачуўшы ад мужа гэтую навіну, горка ўсміхнулася: яна ўжо звыклася з думкай, што лепшыя мужавы часы адышлі ў мінулае. Яна, нядаўняя супрацоўніца навукова-даследчага інстытута, стала чаўнаком. Шмат хто з дзяўчат і маладых жанчын з яе ўстановы памянялі навуковую дзейнасць на прафесію гандляра. На першым часе гэтага яе занятку Зубрыцкі ніяк не мог даўмецца: як жонка магла гэтак лёгка памяняць любімую работу на нейкі базар? Канечне, прыйшлі не лепшыя часы, але няўжо гэта надоўга, навечна? Можа, як-небудзь перацярпелася б, перамалолася, а з часам зноў усё вярнулася на ранейшыя кругі? Вось жа ён не кідае свайго занятку, піша, няхай у стол, але ж піша. Прыйдзе час, то, дасць Бог, разбагацеюць выдавецтвы, тады ён дастане свае рукапісы, панясе іх — няхай выдаюць, няхай чытач ведае, што пісьменнікі ў самыя цяжкія моманты свайго жыцця ў шапку не спалі, Богам дадзены талент не прападаў дарма.

А з іншага боку, калі б Ванда не стала займацца прыватным гандлем, то з чаго б яны жылі? Трэба кожны дзень нешта зварыць сабе, Сашуню, які ўжо немалы, ён у іх студэнт, будучы юрыст, ужо ўхлёствае за дзяўчатамі, хоча не абы-як апранацца, мабільнік ужо ў яго, за які толькі паспявай плаціць... І гэта ўсё з таго, што Ванда ўгандлюе. Яна часам скардзіцца, цягаючы на сабе непад'ёмную паклажу з таварам. Часам прасіла, каб Зубрыцкі дапамог, але ён упарціўся: як гэта так — ён, пісьменнік, стане барахольшчыкам? Ды хутчэй, мабыць, неба ўпадзе на зямлю, чым здарыцца такое.

Канечне, у душы ён спачуваў жонцы, часам быў гатовы памагчы, але ніводнага разу гэтага так і не зрабіў: нешта быццам трымала, стрымлівала яго, не пускала, ён злаваў на самога сябе за гэтую сваю зацятасць, але перайначыць не мог, і ўсё тут. Можа, трэба было іншы раз падкінуць жонку з яе таварам на рынак, але ж, як на тое, нешта здарылася з «Волгай», нешта з рухавіком: «Волзе» нямала ўжо гадоў, наматала болей за паўтары сотні тысяч кіламетраў, вось і сапсавалася нешта ў ёй, на рамонт трэба немалыя грошы. Але дзе іх узяць, калі на жыццё, на самае неабходнае і то няма?

— Адам Часлававіч нават і авансу выдаў трохі, — пахваліўся жонцы Зубрыцкі. — Няшмат, але на сённяшні дзень і гэта хлеб.

— Не смяшы мяне, Ігар, — жонка якраз была сёння дома: прадала свой тавар, а за новай партыяй трэба ехаць у Польшчу або ў Турцыю, або яшчэ куды-небудзь. З гэтымі паездкамі яна звыклася, пакідала мужа з сынам адных,

і Зубрыцкі мусіў мірыцца з гэтым, бо куды дзенешся — на жончыным заробку трымалася цяпер уся сям'я. — Якія гэта грошы? Слёзы, — сказала Ванда.

— Яшчэ ж і раман выйдзе ў выдавецтве, таксама нешта атрымаю. Хіба я не казаў табе, што скончыцца мая чорная паласа.

— Дай Божа нашаму цяляці воўка спаймаці, — уздыхнула жонка і падалася на кухню: быў абедзенны час, трэба нешта зварыць, пакарміць мужа, сына, які вось-вось з'явіцца дадому.

Зубрыцкі праводзіў яе сумным позіркам. Чуў, як Ванда бразгала каструлямі, лыжкамі, уключыла электрамясарубку: мабыць, рабіла фарш на катлеты. Ён не разумеў, чаму Ванда ніколькі не абрадавалася таму, што візіт да Адама Часлававіча аказаўся болей удалым, бо той і выданне рамана праспансіраваў, і заключыў з ім дагавор на кнігу пра універмаг. Зубрыцкі сам не чакаў, што ўсё гэтак павернецца.

Нядобры жончын настрой перадаўся і яму. Чагосьці раптам забалела, заныла сэрца, і ён падаўся да жонкі на кухню: дзесьці ў кухоннай шафе ёсць настой глогу. Апошнім часам ягонае сэрца ўсё часцей дае аб сабе знаць, то ён ратуецца гэтым настоем: вып'е чайную лыжачку, зап'е вадой — і спакайнее.

Зубрыцкі як забыўся на тое, што ў яго асабістым жыцці шмат непаладак, няўвязак, ляжаць без аніякага руху ягоныя рукапісы. Цалкам аддаўся рабоце, якую даручыў Адам Часлававіч. Ніколі да гэтага Зубрыцкаму не даводзілася бываць у архівах. А тут давялося. Адкрываў новую старонку ў сваёй творчасці.

Архіўныя супрацоўніцы, маладзенькія дзяўчаты, прывыклі да таго, што ён заказваў пратаколы партыйных і прафсаюзных сходаў універмага, юбілей якога набліжаўся. Апроч таго, Зубрыцкі ў архіве кінафотафонадакументаў натрапіў на шмат здымкаў пра адраджэнне горада пасля вайны. Усё было навіной, нязведанай старонкай, цікавай таямніцай! Адкрывалася гістарычная панарама, за якой былі імёны, прозвішчы, падзеі, людскія лёсы і чалавечыя страсці. Зубрыцкі нават не ўяўляў, што ў нетрах універмагаўскага гандлю яму адкрыецца столькі ўсяго новага. Трэба было толькі ва ўсім гэтым як след разабрацца.

Што ён ведаў пра гандаль? Тое, што і ўсе. Хіба можна было калі-небудзь знайсці ў магазінах неабходнае? На ўсё быў дэфіцыт. Праўда, калі заводзілася блізкае знаёмства з кім-небудзь з гандляроў, то што-небудзь дэфіцытнае магло перапасці і табе. З чорнага хода, думаў Зубрыцкі, можна было набыць і птушынае малако. Нездарма ж у свой час даражыў сяброўствам з Адамам Часлававічам. Мабыць, не ён адзін шукаў знаёмства з гандлярамі. Такі быў час.

Не забыць Зубрыцкаму і свайго сельпоўскага вясковага лавачніка — дзядзьку Васіля. Высокага, магутнага, рана палысelага, са стрыманай, хітраватай усмешкай, за якой таіліся задаволенасць жыццём, тым, што ён нібы ўзвышаўся над усімі сваімі пакупнікамі. Здаецца, не меў аніякай гандлярскай адукацыі, а вось жа не пакідаў прылаўка сельпоўскага магазіна да самага выхаду на пенсію. Дзядзьку Васілю Зубрыцкі, як і ўсе вясковыя хлапчукі, здаваў сушаную лазовую кару, чарніцы, сушаныя грыбы-баравікі на доўгіх нізках, курыныя яйкі, анучкі: сельпоўская лаўка прымала утыльсыравіну, вяла нарыхтоўкі, а ім, хлапчукам, выпадаў які-ніякі заробак сабе на падручнікі, на абутак, адзенне, цукеркі. Дзядзька Васіль заўсёды рабіў скідку на ўсушку, на ўтруску, каля цукру і солі ў яго стаяла вядро з вадою: дзядзька Васіль добра знаў, на чым і як можна было зарабіць сабе, нават пальцам не паварушыўшы, таму і жыў нябедна.

Мабыць, нешта агульнае існавала паміж дзядзькам Васілём і Адамам Часлававічам. Як перад адным, так і перад другім людзі раскланьваліся, імкнуліся як-небудзь іх задобрыць, бо, не задобрыўшы, хіба можна было купіць-набыць хоць бы за свае кроўныя рубельчыкі неабходную адзежыну ці абутак? Праўда, дзядзька Васіль — саматужны гандляр, а Адам Часлававіч — адукаваны. Розніца між імі яшчэ і тая, што дзядзька Васіль — адмысловы майстар. Залатыя рукі ў яго. І мэблю вырабляў-выстругваў, і прыклад для стрэльбы рабіў такі, што ўбачыш — залюбуешся, і нават скрыпкі, як Страдзівары, майстраваў. Заўсёды ў яго паветцы пах струганай драўніны, лаку, якім ён пакрываў-фарбаваў свае скрыпачкі. І для сябе зрабіў адну, іграў на ёй ці на вяселлі ў каго, ці на провадах у армію, ці проста так: сядзе ў сябе ў паветцы на лавачку і водзіць, водзіць смыкам па струнах. Такая жаласная, такая сумная ды тужлівая, што за душу бярэ, выходзіла ў яго музыка. Хлапчуком тады быў Зубрыцкі. Бывала, ідзе міма хаты дзядзькі Васіля, пачуе, як той іграе на сваёй самаробнай скрыпачцы, забудзе пра ўсё на свеце, стаіць, слухае, думае. На душу нагортвалася нешта трывожна-балючае, мройнае.

Зубрыцкі не разумеў, чаму раптам згадаўся дзядзька Васіль, калі ён з'яўляўся ў архіў, чытаў пратакол прафсаюзнага сходу універмага, на якім разглядалася персанальная справа камерцыйнага дырэктара, асуджанага на добры дзесятак гадоў турэмнага зняволення за злоўжыванне службовым становішчам.

— Я пра гэта буду пісаць, — пры сустрэчы з Адамам Часлававічам сказаў, як пра вырашанае, Зубрыцкі. — Калі хочаце, каб кніга атрымалася праўдзівай, надзённай, з інтрыгай, то трэба болей праўды. Няхай яна і горкая, балючая, але чытач — ён такі, яму болей падавай сенсацыйныя факты, вы ўжо, калі ласка, паверце мне, Адам Часлававіч, я толькі тое і знаю ўсё сваё жыццё, што пішу, то каб кніга атрымалася чытэльнай, трэба...

Адам Часлававіч звузіў свае добрыя, лагодныя вочы і паглядзеў на Зубрыцкага халодным, адчужаным, бы не сваім, позіркам. Зубрыцкі хутчэй адчуў, чым зразумеў: ён дапусціў недаравальную памылку. Але дзе, у чым ён памыліўся? Так стараўся, увесь апошні час не вылазіў з архіваў, хацеў, каб Адам Часлававіч застаўся задаволены яго работай, не пашкадаваў, што менавіта яму, а не каму іншаму, даверыў напісаць юбілейную кніжку.

— Тое, аб чым вы зараз сказалі, не толькі словы? — удакладніў Адам Часлававіч. — Вы падрыхтавалі ўжо адзін-другі раздзел?

— Стараюся, Адам Часлававіч, я вас не падвяду, не сумнявайцеся, не пашкадуеце, што я — аўтар вашага юбілейнага выдання, — хоць Зубрыцкі і адчуў нейкі душэўны дыскамфорт, улавіўшы тое, як Адам Часлававіч успрыняў яго словы пра змест кнігі, але не губляў надзеі, што ўсё будзе добра. Мо ён, Зубрыцкі, недзе і перагнуў трохі палку, то хіба нельга папраівіць. Кніга — не жыццё, якое не вернеш, не перакрэсліш, рукапіс не адзін раз можна і змяніць, і перакрэсліць, перапісаць, папраівіць.

Не, ён не чакаў, што ўсё скончыцца менавіта так. Канечне, было адразу зразумела, што работа над кнігай пра універмаг — занятак не вельмі цікавы. Але ён не каяўся, што ўзяўся за гэта, бо ўпершыню сутыкнуўся з невядомым, насычаным пластом жыцця. У гандлі быццам тыя самыя людзі, пра якіх пісаў і да гэтага, але ўжо і не тыя. Тут свае правілы і нормы, і мысленне ў тых, хто стаяў за прылаўкам, адкрывалася не адразу, а паступова, спакваля, па меры таго, як Зубрыцкі ўсё далей і глыбей ужываўся ў новую абстаноўку, знаёміўся з архівамі, якія таілі панараму чалавечых лёсаў, падзей — даўніх, ужо трохі забытых, але ад якіх ішла-вілася дарога ў сённяшні дзень.

Урэшце, Зубрыцкі яшчэ бліжэй убачыў Адама Часлававіча — чалавека, з якім сутыкнуўся на жыццёвай сцежцы нечакана, ды так і не змог з ім размінуц-

ца. Зубрыцкі яшчэ нават і не здагадваўся, не думаў, што гэтыя перажыванні за універмагаўскую кнігу, гэтыя ягоныя паходы па архівах праз нейкі час забудуцца, але ўсё ж усплывуць, і ён зразумее: не, нездарма ўсё тое... Нездарма...

Было напісана мо ўжо болей за палову задуманага. Вырашыў паказаць сваю работу Адаму Чеслававічу зноўку: хай ведае, бачыць, што Зубрыцкі не сядзіць, склаўшы рукі. Патэлефанаваў, сказаў, што з'явіцца з творчай справаздачай.

Адама Чеслававіча заспець на рабоце няпроста: вечна то ў камандзіроўках, то з'едзе на сваю малую радзіму ў Заходнюю Беларусь, дзе ў вёсцы жыве старая, адзінокая маці. А сёння ён у сваім службовым кабінеце на трэцім паверсе універмага. Сакратарка прызвычаілася, мабыць, ужо да нечаканых з'яўленняў Зубрыцкага: то яму трэба зазірнуць ва універмагаўскі музей, што тут жа, на трэцім паверсе, дзе сабрана столькі ўсяго, што гаворыць і сведчыць пра універмагаўскі гандаль, пра людзей, якія прыйшлі сюды маладымі, дужымі, прыгожымі і, нават дачакаўшыся пенсіі, не могуць развітацца з работай. Зубрыцкі разумеў: з імі адыходзіць гісторыя. Тая, якую ён быццам ведаў, але не ўсю, не да канца. І вось цяпер яна, тая гісторыя, як бы вярталася і паварочвалася да яго дасюль нябачанымі, стоенымі гранямі...

Сакратарка нібыта пранікласся павагай да Зубрыцкага, заўсёды была да яго ветлівай. І ўсё ж у кожным яе слове, руху, як і ў тых, хто стаяў за прылаўкам, як і ў самога Адама Чеслававіча, адчувалася нейкая дыстанцыя, з якой гандляры нібыта звысоку, з гонарам у голасе размаўлялі з ім, Зубрыцкім, з людзьмі, якія прыходзілі ва універмаг за пакупкамі. Гэтая дыстанцыя захавалася, засталася ў іх з нядаўняга, яшчэ таго часу, калі на ўсё быў дэфіцыт, калі чорны ход у гандлі шукалі многія, бо ён, мабыць, быў святлейшы і больш важны за парадны. Цяпер час другі, чорны ход па волі жыцця знік, напэўна, навечна, усё навокал змянілася непазнавальна, а вось гандляры прыстасавацца да новага часу яшчэ не паспелі, не змаглі. Гандляры, тое добра ўбачыў Зубрыцкі, вельмі балюча перажывалі, што раптам сталі нікому не патрэбнымі, з імі ўжо ніхто не шукаў знаёмства: жыццё — рэч суровая і неаспрэчная, і ад гэтага нікуды не падзецца.

— Праходзьце, — сакратарка падхапілася са свайго крэсла, адчыніла дубовыя дзверы кабінета Адама Чеслававіча.

Зубрыцкі толькі паспеў заўважыць, што яна сягоння нейкая стрыманая, нешматслоўная, не ўсмешлівая, як заўсёды, і гэта настройвала на нядобры лад. Няўжо між ёю і Адамам Чеслававічам перад яго, Зубрыцкага, з'яўленнем, адбылася нейкая размова, што была цяпер не на яго карысць?

З такімі вось думкамі і ўвайшоў у кабінет, павітаўся з гаспадаром за руку, сеў за доўгі, чорны, паліраваны стол, паклаў бліжэй да Адама Чеслававіча шэра-белую, з матузкамі папку, зазначыў:

— Тут тры раздзелы, яшчэ тры ў чарнавіку, амаль гатовыя, калі вы адобрыце гэтыя, то неўзабаве і тыя скончу, можна будзе здаваць рукапіс у набор.

— Куды такая спешка? — Адам Чеслававіч выглядаў панурым, стомленым, неахвотна развязаў папачку, учытваўся ў назвы раздзелаў, неахвотна, быццам размова ішла не аб тым, што яму блізка, дорага, а аб чымсьці пабочным, што яго не датычылася, не хвалявала.

Зубрыцкі зразумеў: ён зрабіў штосьці не тое і не так. Але ў чым памылка? Губляўся ў здагадках, але да чагосьці пэўнага дадумацца так і не змог.

— Што вам даўся гэты чорны ход? — Адам Чеслававіч выказаўся нарэшце больш яснаю мовай. — Як быццам у гандлі ніколі не было нічога добрага. Калі б гэта так, то я ў сваім крэсле доўга не сядзеў бы. Нас правяраюць і правяраюць, але нічога супрацьзаконнага не знаходзяць.

Зубрыцкаму так і хацелася ў гэты момант сказаць: «А за што ж пасадзілі за краты камерцыйнага дырэктара? Ды не яго аднаго. Няўжо вы, Адам Чесла-

вавіч, забылі, што ледзь не ўсё кіраўніцтва універмага, тагачаснае, якое бы і не заўважала, а мо і ведала пра ўсё, ды маўчала, бо мо нехта нешта і меў з таго маўчання, чаму ж тагачаснае кіраўніцтва толькі ад следчых «дазналася», хто ён такі быў, камерцыйны дырэктар? У адстаўку тады вымушаны былі пайсці многія, вельмі многія...»

Але Зубрыцкі змаўчаў. Усё тое, аб чым ён зараз падумаў, ёсць у рукапісе. Гартаючы рукапіс, Адам Часлававіч хоць і бегла, але заўважыў, што Зубрыцкі надта ж уедлівы, праз меру ўедлівы, падрабязна выпісаў і пра чорны ход, і той судны дзень, які, аказваецца, хоць і мінуўся, але ў архіўных дакументах, вось у гэтым рукапісе Зубрыцкага, жыве і нагадвае...

— Не ведаеце вы гандаль, — Адам Часлававіч загарнуў папку, утаропіўся сумным, нічога добрага не абяцаючым позіркам у Зубрыцкага. — Прызнацца, мне шкада, што вы патрацілі столькі часу дарма.

Унутры ў Зубрыцкага закіпела. Яму вельмі хацелася шмат што сказаць Адаму Часлававічу, бо нарэшце дайшло: Адам Часлававіч чакаў ад яго, Зубрыцкага, юбілейную кнігу не пра гісторыю універмага і тых, хто яго некалі будаваў, адчыняў у няпросты час, наладжваў работу, а пра самога сябе. Хутка, не паспееш азірнуцца, трэба будзе ісці на пенсію, і юбілейная кніга, мабыць, бачылася яму як нейкая вяршыня, на якой ён, дырэктар, з усіх бакоў асветлены сонцам, удзячнымі людзьмі са шчаслівымі ўсмешкамі, тымі, хто прыходзіць ва універмаг, як у Храм, дзе ёсць усё для душы і для жыцця.

Па-рознаму бачылі яны змест кнігі. Адсюль і гэтае непаразуменне. У адзін момант рухнулі ўсе надзеі Зубрыцкага, што нарэшце ён выберацца з цяжкага фінансавага становішча, супакоіцца, возьмецца пісаць свой чарговы твор няспешна, у глыбокім роздуме пра час, калі пад нагамі ўсё менш і менш цвёрдага грунту. І на табе...

— Можа, давайце, Адам Часлававіч, я тое-сёе перараблю, перапішу занава? — Зубрыцкі нават узрадаваўся, што раптам прыйшла ў галаву гэтая выратавальная думка: а раптам Адам Часлававіч памякчэе, пагодзіцца? А ён, Зубрыцкі, не будзе ўжо надта настырным і прынцыповым, зробіць усё такім чынам, як таго хочацца Адаму Часлававічу. Які толк з таго, што ён будзе настойваць на сваім? Праўда — гэта добра, свет без яе, мабыць, перавярнуўся б, але ж часам гэтая праўда вылазіць такім бокам...

— Не, мы з вамі прыпыняем дагавор, — суха і цвёрда заявіў Адам Часлававіч. — Я ж вам сказаў, я добра бачу: не разумееце вы гандаль, бо калі б інакш...

Развітаўшыся з Адамам Часлававічам, Зубрыцкі не ведаў, што рабіць, куды падацца. Насупраць універмага — сквер са скульптурамі, фантанам, з лавачкамі, бярозкамі, якія ўжо распусціліся, зазелянелі. Канчалася вясна, было даволі цёпла, на лавачках усцяж выкладзеных узорыстай пліткай дарожак сядзелі людзі. Любаваліся фантанам, будынкам універмага, які пасля рэканструкцыі вонкава змяніўся, папрыгажэў, свяціўся рэкламай, што зазывала, гаварыла аб новым часе, аб жыцці. У людзей, што бавілі час на лавачках і ў скверы, напэўна, быў добры, адпаведны вясне настрой. А ў Зубрыцкага на душы было цёмна і холадна, балюча. Што ён цяпер скажа жонцы? Дзе выйсце з гэтай заблытанай, беспрасветнай сітуацыі?





**Вячаслаў АР-СЯРГІ**

# ДАМОЎЛЕНАЯ СУСТРЭЧА

Так у перакладзе з удмурцкай мовы называецца адна з кніг паэзіі Вячаслава Ар-Сяргі. Народны пісьменнік Удмурціі, аўтар сцэнарыя першага ўдмурцкага мастацкага фільма, таленавіты празаік, чые творы перакладзены і выходзілі асобнымі выданнямі на самых розных мовах свету, для мяне ён яшчэ і паплечнік па вайсковай службе ў няпростай Туркестанскай ваеннай акрузе. Трэба ж такому было здарыцца, каб сышліся ў адной вайсковай часці, якая, змяніўшы некалькі месцаў дыслакацыі, слаўная яшчэ і тым, што вызваляла Беларусь, Лепельшчыну, удмурт і беларус... І гэта толькі адна з цікавых выпадковасцей. Дывізія тая ў Вялікую Айчынную фарміравалася паблізу Іжэўска, служыла ў ёй нямала ўдмуртаў. У тым ліку — і Міхаіл Лямін, які пасля вайны напіша кнігу «Чатыры гады ў шынялі». Многія яе старонкі — пра Лепель, Віцебшчыну. З кнігай я пазнаёмлюся ў музеі сваёй дывізіі ў Туркестане. Тады, у сярэдзіне 1980-х, Слава Сяргееў — пісьменнік Вячаслаў Ар-Сяргі, які да вайсковай службы паспеў закончыць універсітэт, меў ужо кніжку апавяданняў на роднай удмурцкай мове. Вярнуўшыся дадому, настойліва і апантана працягваў сваю творчую работу. Некаторы час працаваў галоўным рэдактарам дзіцячага часопіса. Мы ліставаліся, цікавіліся творчымі справамі адзін аднаго.

А цяпер вось Вячаслаў Ар-Сяргі — адзін з рупліўцаў, якія ўкладваюць свае намаганні ў работу па пашырэнні беларускай літаратурнай прасторы ў Удмурціі. Перакладае вершы нашых сучасных паэтаў для часопіса «Кенеш». Шукае беларусаў у Іжэўску, у роднай сваёй старонцы, каб добрае слова сказаць пра нашых суайчыннікаў у друку. Такі вось ён беларускі пасол у Іжэўску...

Што мяне асабіста прываблівае ў творчасці Вячаслава? Найперш — у прозе... Яго настойлівая прывязанасць да народнай філасофіі, жаданне праз фальклор, ды і этнаграфічны матэрыял таксама, вывесці мастацкія формулы існавання ўдмуртаў у свеце, важкасць іх прысутнасці на Зямлі. Такі шлях эстэтычных вышукаў уражвае і выклікае надзвычайную павагу. Ствараючы біяграфію свайго народа, пішучы ўласны жыццяпіс, пісьменнік закладвае падмуркі нацыянальнага веравызначэння, узвышае ўдмуртаў, выказваючы ўпэўненае спадзяванне на доўгі іх век у прасторы і часе.

Можа быць, яшчэ так здарыцца, што следам за паэзіяй да беларускага чытача дойдзе і проза Вячаслава Ар-Сяргі. Спадзеючыся на гэта, я думаю зараз пра тое, што нам калі-нікалі трэба ўглядацца і ў лёсы, здавалася б, невялікіх народаў Расіі, ды і не толькі Расіі... Таму, што патрэбна дома, можна яшчэ вучыцца і ў свеце — далёкім і блізкім.

***Алесь Карлюкевіч***

## РАССТАВАННЕ

Эх, і не па-людску разышліся...
На душы яшчэ не адлягло.
Слоў, якімі ў вернасці кляліся,
Узгадаць і спробы не было.

Дык няўжо ж усе яны — падман?
Як міраж, як ранішні туман,
Растварыліся ў паветры без пакутаў,
І дарогі павярнулі крута.

Але зналі, зналі мы даўно:
Колькі б ярка ні свяцілі зоркі,
Прыйдзе тэрмін, як заўсёды, горкі,
І патухнуць зоркі ўсё адно.

Зорцы кожнай з гаснучым святлом
Век не стаць маёю ці тваёю:
Як з цяплом вясновым крыгалом,
Сутыкнецца з матухнай Зямлёю.

Патаемны ўздых, як і дакор,
Прыдае абоім засмучэння,
І любы бліскучы метэор
Стане валуном пасля падзення.

Дзе яму ляжаць ні давядзецца —
На градзе, ля весніц, пры сцяне, —
Нехта,
Зачапіўшы,
Чартыхнецца,
Хтосьці пракляне і адпіхне...

Валуном не стаць бы прыдарожным!
Не хачу,
Каб смех былой любві
Павярнуўся рогатам бязбожным,
Бойкай пеўняў —
Грэбень у крыві...

Ты даруй...
І я табе дарую...
Адкажу даверам
На давер...
Бо і там, у цемры,
Незямную,
Шчыра абдыму, як і цяпер.

## УНІЗЕ

Прыгожыя,
Звыродлівыя,
Вясёлыя і сур'ёзныя,
З валасамі чорнымі, рыжымі і як лён,
Старыя і юныя,
Худыя і тоўстыя — розныя,
Што тарэшчацца на мяне з вакон, —

Я паўзу побач з імі —
Нікім не заўважаны —
Галава кружыцца, ледзь гляну на іх.
Занябесная далеч —
Я змалку быў ёю ўражаны —
Не прываблівае інстынктаў маіх.

У сябе ўнутры чую пушыстага вусеня,
Які матылём не жадае стаць.
Лічыць ён, што не ўзвысіцца нічагусенькі,
Калі будзе вышэй над страхою лятаць.

Там, угары,
Вецер халодны, неба імжыстае,
Там жалезныя птушкі і шум вінта.
...А тут, унізе,
Дзе жыве мая існасць пушыстая,
Боязь палёту і такая ж, як у высях, слата.

Вось таму я і кукалкай сёння не стану,
Папаўзу ў тваю норку, дзе не стыла нічуць.
Разам пушыстыя лапкі, і стан — да стану.
...А што мы як быццам кахаць не ўмеем —
Пра тое ілгуць!

## «ЮНОНА І АВОСЬ»

— Ты помніш
Бедную з рок-оперы Канчыту?
Яна з-за мора чакала свайго Разанава
Роўна трыццаць пяць год
І ў тлуме, згрызотах быту
Прайсці праз пакуты згадзілася б нанава.
Гэта многа ці мала,
Чакаючы марна?
Ты здолела б, мілая,
Вось так — пустатой —
Сябе атуліць самаахвярна,
Як быццам цябе пахавалі жывой?

...Цяжкія пытанні
Задаў я зусім незласліва.

Светла і цёпла было,
І на душы не мярзотна.
Птушкі спявалі пра штось,
Пеўні крычалі пыхліва,
Зрэшты, на мове курынай
Гэта не груба гучыць, а пяшчотна.
Дзень быў поўны кахання.
Аднак у вачах тваіх смутных
Раптам патухла надзея,
Змяніўшыся думкай свавольнай.
І ясны твой позірк
Стаў нечакана туманіста-мутны,
І вейкі міргнулі,
І рукі апалі бязвольна.

...Ты рашуча ўстаеш,
І агнём тваe дыхаюць губы.
Разумею: не тыя задаў я пытанні.
— Ты вазьмі мяне проста цяпер,
Ну, бяры ж мяне, любы...
Час імклівы такі,
І таму ён каварны ў каханні.

## АКВАРЭЛЬ

Лес вераснёвы ўвесь шоргату повен.
Мы жаўталістам прыкрыты.
Вецер асенні, як быццам Бетховен,
Душы,
Якія забыты
І для кунегі, спакою, натхнення,
І для кахання —
Не збудзіць,
Свечкі патушыць
І ў тое ж імгненне
Холадам снежня астудзіць.

Час развітацца...
Бывайце,
Бывайце!
Вясёлку не празявайце!
Віснуць пад ёю надзеі з нудою,
Як на каромысле вёдры з вадою.
...Толькі застаўся на акварэлі
Белай бярозы і клёна
Вобраз двух ценяў, калі мы згарэлі
Побач ад страсці шалёнай.

## ЛАБІРЫНТ

Нервы ў мяне напятыя, бы правады.
Я сцерагуся часцей тупіка, а не болю.
Вось бы падняцца і ў ранне пайсці — туды,
Дзе ад слупоў тэлеграфных не рымсціцца полю.

Там, у смузе, твой растаў сілуэт.
Я і не ведаў, што ўмею быць жорсткі і грубы.
Тайнай не стаў для цябе веснавы першацвет,
І прашапталі «бывай» мае цвёрдыя губы.

З ранку таго я сумую за бедным сталом.
Пісьмаў не шлеш ты. А час уцякае.
Памяць даўно пакідае гасцей за вуглом.
І адрасата самота свая не лякае.

А над ракой лес асенні дажджамі прамок,
І крумкач распасцёр над балотамі крылы —
Кінь, Арыядна, да храма любові клубок:
Гэты ж мой лабірынт, ён і цёмны, і стылы.

## БОЛЬ

Не сказалі ні слова,
Хоць і блізка паглядам.
Валасы твае ветрык рассыпаў з плячэй.
Стала жоўтай трава.
Лес шумеў лістападам.
І асенняй вадзе
Рад быў кожны ручэй.

І зіма надышла.
Але мы як знямелі.
Лёд стаіць на рацэ.
Снег пры чым? Не віні.
Многа слоў,
Не прамоўленых намі,
Зіхцелі,
Быццам іней,
У золкай начной цішыні.

Дзіўна мне:
А куды ж то яны прападаюць —
Словы ўсе,
Што сказаць я табе спрабаваў?
І ў якой вышыні неагляднай лунаюць
Песні тыя,
Якія табе не спяваў?

Можа быць,
Словы ўсе,
Найважнейшыя ў лёсе,

Што сагрэлі б каханнем у слоту і золь,
Болем сталі дзесь там,
У міжзорным хаосе...
І маўчаннем
Цяпер адгукаецца боль.

## АНТОНІМЫ ЗІМЫ

З вечара печ аддае цеплынёй.
Толькі душы нешта зімна маёй.

Любая,
Я замярзаю,
Здымі
Лёгкі халацік,
Мяне абдымі,
Ад небывалай маркоты скарэй
Інеем вуснаў сваіх адагрэй...

Месяц быў светлым у небе начным.
Зранку я зараз успомніў аб тым:
Слёзы сняжынак, сняжынкі слязінак,
Марным зрабілі ўвесь наш паядынак.

## МЯДЗВЕДЖАЕ ЗАЛЯЦАННЕ

*(Песенька какеткі)*

Во нахабнік! Прыстаў жа, прыстаў да мяне!
Кліча ў хату сваю ці на сена ў гумне.

Шакаладам ушчэнт закарміў... Жанішок!
Ох! І грошай, напэўна, спатрэбіў — мяшок...

Серэнады спрабуе мне пець і дудзець,
Любіць ноччу раўці пад акном, як мядзведзь.

Ну, а ў скоках заціснуў абдымкамі так,
Што ад сораму я чырванела, як мак.

І шкада: басаножкам каюк без пары.
Зноў абутак прасіць у старэйшай сястры?

Ну, мядзведзь! Голас грубы. І поўсць на грудзях...
Ды якой там культуры хацець ад бадзяг?

Э... Куды ж, касалапенькі, зачыкільгаў?
Ну, вядзі ўжо ў бярлогу сваю... Даканаў!

Хай няўклюдны, калматы, без гожых адзеж, —
Між людзей без мяне ты зусім прападзеш!

***Пераклад з удмурцкай***
***Віктара Гардзея.***



Пятро САБІНА

# СПАЖЫВАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА

У гэты дзень адбылася прыемная нечаканасць. І не толькі для мяне...

Сталася так, што чай, без якога ў нашай сям'і ніхто не садзіўся за стол, скончыўся. Жонка, як толькі гэта заўважае, рыхтуючы сняданак, адразу ж пасылае мяне ў магазін. Ні слова не кажучы, бягу, прызнаючы сябе вінаватым, — на мне ж ляжыць абавязак сачыць, каб чай у доме не пераводзіўся.

У магазіне да чаю ставяцца з асаблівай павагай. Яму тут месца адведзена адно з самых пачэсных. А на выбар колькі яго тут: чорны, зялёны, індыйскі, кітайскі, цэйлонскі... Такое ўражанне, што самы папулярны сёння ў Беларусі безалкагольны напой — чай, любы іншы ў параўнанні з ім вытрымаць канкурэнцыю не здольны, нават кава. Доўга блукаю поглядам па яркіх, маляўнічых замежных упакоўках і ўсё вагаюся, ніяк не магу спыніць на чым-небудзь свой выбар. І раптам звяртаю ўвагу на чайны напой вытворчасці Мінскай агародніннай фабрыкі — сумесь раслiннай сыравіны і чаю. Вырашыў на свой страх і рызыку купіць.

Усёй сям'ёй спрабуем чарадзейны напой. Так, чарадзейны! Духмяны, смачны, гаючы. Усім падабаецца, усе ў захапленні, рады адкрыццю. «З гэтага дня, — кажа, усміхнуўшыся, жонка, — нічога іншага не купляй».

Цяпер чайныя напоі атрымалі шырокае распаўсюджанне. Мінская агародніннная фабрыка купіла адпаведнае абсталяванне па расфасоўцы сыравіны ў разавыя пакецікі. Яна адзіная ў рэспубліцы, хто гэтым займаецца. Асартымент чайных напояў — вялізны. Яны прапануюцца пакупніку ў прыгожых упакоўках і «асарці» іх камбінуецца з малін, пладоў шыпшыны, зверабою, мелісы, мяты, лісцяў крапівы, ягад чарнаплоднай рабіны і шмат чаго яшчэ, што расце ў нашых лясах, садах і на лугах. Распрацоўшчык цудоўных напояў — Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па харчаванні. І гэта толькі невялічкая кропля з таго, чым ён сёння здзіўляе. Калі ў цэлым браць дзейнасць цэнтра, то яго навуковыя сілы ахопліваюць усе галіны харчовай прамысловасці: мяса-малочную, кансервавую, кандытарскую, масла-тлушчавую, харчаканцэтратную, цукровую, саляную, бульбаперапрацоўчую, лікёра-гарэлачную, вінаробчую, півабезалкагольную і іншыя.

Навукова-практычны цэнтр НАН Беларусі па харчаванні створаны на базе былога РУП «Беларускі навукова-даследчы і праектна-канструктарскі інстытут харчовых прадуктаў». У якасці даччыных унітарных прадпрыемстваў у яго ўвайшлі Інстытут мяса-малочнай прамысловасці, Інжынерна-тэхнічны цэнтр «Плодаагароднінапраект», вытворчыя прадпрыемствы «Тэхнахарч» і «Марыз».

Дзейнасць Цэнтра арыентавана на распарацоўку і ўкараненне на падпрыемствах харчовай прамысловасці новых відаў прадуктаў, сучасных рэсурсазберагаючых і імпартазамяняючых тэхналагічных працэсаў і абсталявання па перапрацоўцы плодаагароднінай прадукцыі і бульбы. Акрамя таго, ажыццяўляе навуковае суправаджэнне пры рашэнні надзённых тэхналагічных і тэхнічных задач прадпрыемстваў, распрацоўвае нарматыўна-тэхнічную дакументацыю для абнаўлення асартыменту харчовай прадукцыі. Ён таксама праводзіць экспертызу якасці і бяспекі прадуктаў харчавання,

сертыфікацыю тавараў, выконвае праектна-канструктарскія работы па стварэнні, мадэрнізацыі і пераабсталяванні вытворчасцей харчовай прамысловасці, эканамічныя даследаванні і складае бізнес-планы для вытворчасцей.

Дзейнасць даччыных прадпрыемстваў рознабаковая. Інстытут мяса-малочнай прамысловасці ажыццяўляе навуковае забеспячэнне прадпрыемстваў мясной і малочнай прамысловасці, распрацоўвае тэхнічныя нарматыўныя прававыя акты на разнастайныя віды мясной і малочнай прадукцыі, мае акрэдытаваны рэспубліканскі выпрабавальны цэнтр якасці і бяспекі харчовых прадуктаў, орган па сертыфікацыі абсталявання для мясной, малочнай і птушкаперапрацоўчай прамысловасці, канструюе і вырабляе абсталяванне, праектуе рэканструкцыі і тэхнічнае пераўзбраенне перапрацоўчых і харчовых вытворчасцей. У яго абавязкі ўваходзіць нарміраванне энерганосьбітаў, вады, сыравінных рэсурсаў і дапаможных матэрыялаў.

Інжынерна-тэхнічны цэнтр «Плодаагароднінапраект» распрацоўвае новыя перспектыўныя тэхналогіі захавання плодаагароднінная прадукцыі і бульбы, канструктарскую дакументацыю на машыны і комплексы тэхналагічнага абсталявання для захавання і перапрацоўкі плодаагародніны, здзяйсняе выраб, мантаж і наладку ўзораў новай тэхнікі, нестандартнага абсталявання для прадпрыемстваў галіны, робіць і манціруе каркасы цяпліц.

«Марыз» спецыялізуецца на вытворчасці абсталявання для харчовай прамысловасці: стварае эксперыментальныя і доследныя ўзоры, асобныя агрэгаты і цэлыя тэхналагічныя комплексы, манціруе іх і забяспечвае пусканаладку. Высокі прафесійны ўзровень работнікаў прадпрыемства дазваляе рашаць дастаткова складаныя канструктарскія і тэхналагічныя задачы, надаваць дынамізму вытворчасці, паскараць працэс вырабу абсталявання.

«Тэхнахарч» з'яўляецца свайго роду доследным палігонам цэнтра па харчаванні, дзе адпрацоўваюцца новыя тэхналогіі вытворчасці прадуктаў харчавання, вядуцца доследныя выпрабаванні абсталявання. Прадпрыемства спецыялізуецца на выпуску паўфабрыкатаў і абсмажанай бульбы (чыпсаў, бульбапрадуктаў «Арыгінальныя», «Ласунак» і г. д.), харчовых фарбавальнікаў з натуральнай сыравіны, сушанай агародніны, піццявой вады «Мар'янка» і інш.

Сустракаюся з генеральным дырэктарам Навукова-практычнага цэнтра па харчаванні, доктарам тэхнічных навук, прафесарам Зянонам Лоўкісам. Чалавек ён — прыемнай знешнасці, далікатна-інтэлігентны. Ну а што ў сваёй галіне дасведчаны, спецыяліст вышэйшай пробы, славутая асоба — пра гэта ў Цэнтры кожны скажа.

Нарадзіўся Зянон Валянцінавіч у вёсцы Мажэйкі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Там ён атрымаў сваю першую працоўную загартоўку і адукацыю. Пасля заканчэння сярэдняй школы наважыўся паступаць у Маладзечанскі політэхнікум. Але якраз падаспелі сябры. Прывезлі вестку аб заканчэнні на «выдатна» Гарадоцкага тэхнікума механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Ды так правялі прафарыентацыю, што ягоныя планы імгненна памяняліся і прадвызначылі далейшы лёс.

Увогуле ўсё жыццё трымаецца на выпадковасцях, якія потым нейкім цудоўным чынам выстройваюцца ў лагічную заканамернасць. Вярнуўся пасля заканчэння тэхнікума Зянон Лоўкіс у родны калгас імя Мічурына і стаў працаваць інжынерам-механікам. У 1966 годзе атрымлівае павестку з ваенкамата аб прызыве ў армію. І здарылася ж так, што ў гэты самы момант кладзецца ў бальніцу старшыня калгаса. У райкоме партыі вырашаюць, што часова гаспадарку павінен узначаліць Лоўкіс. У армію прызываюць? Нічога, перанясуць на восень. Вось такім чынам ды манерам на плечы Лоўкіса ў 19 год узвалілі цэлы калгас. Другі б разгубіўся, за галаву хапіўся... А ён і сяўбу правёў у тэрмін, і з нарыхтоўкай кармоў не падкачаў. І таму, калі старшыня выйшаў з бальніцы і памяркоўна ацаніў сітуацыю, дыягназ яго быў адназначны: «Трэба табе, хлопча, вучыцца далей». Гэта быў як загад. І не выканаць яго ён палічыў бы за ганьбу.

На наступны дзень Зянон Лоўкіс прыязджае ў БІМСГ. Але дакументы ў яго не прымаюць. Спазніўся. Прыём скончыўся. Параілі пачакаць годзік. Гэта яму, з яго няўрымслівасцю — пачакаць! Не, не з тых Зянон Лоўкіс. Раніцой наступнага дня ён быў ужо ў Маскве, абіваў парогі ў Інстытуце інжынераў сельскагаспадарчай вытворчасці імя Гарачкіна. І хоць там прыём дакументаў таксама закончыўся, убачыўшы яго чырвоны дыплом і выдатную характарыстыку з калгаса, дэкан сказаў: «Бяры ў камендан-

та, хлопец, матрац, пераначуеш у спартзале, а ў панядзелак прыходзь на экзамен». Вось так Лоўкіс стаў студэнтам.

Зрэшты, пасля заканчэння інстытута яго лёс мог бы скласціся інакш. Прапаноўвалі вярнуцца ў Беларусь. Пакуль ён вырашаў — зноў павестка ў армію. Інстытуцкі сакратар парткома вылавіў яго ў ваенкамаце і доўга ўгаворваў паступаць у аспірантуру. І ўгаварыў-такі. Гэта рашэнне стала вызначальным у ягоным лёсе, а навука — справай усяго жыцця.

Менавіта ў інстытуце Гарачкіна Лоўкіс паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю. Тут быў закладзены падмурак навуковых і педагагічных прынцыпаў, тут адбылося яго станаўленне як вучонага.

Да 35 гадоў жыццё Лоўкіса складвалася паспяхова. Толькі ж сэрцу не загадаеш — сумаваў па Радзіме, ды пастарэўшай маці патрабавалася дапамога. З уласцівай яму рашучасцю ў 1982 годзе Зянон Валянцінавіч разам з сям'ёй пераязджае ў Мінск, пачынае працаваць у Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі, тым самым, у якім 16 год назад у яго не захацелі прыняць дакументы.

На радзіме ён працягвае свае навуковыя даследаванні ў галіне гідраўлічных сістэм, стварыў і ўзначаліў кафедру гідраўлікі і гідраўлічных машын, прыняў актыўны ўдзел у стварэнні новай сельскагаспадарчай тэхнікі. У выніку за распрацоўку і асваенне серыйнай вытворчасці бульбаўборачных камбайнаў Зянон Валянцінавіч у ліку сааўтараў атрымлівае прэмію Савета Міністраў СССР.

Сапраўдны вучоны не спыняецца на дасягнутым, ён у пастаянным пошуку. Так і ў Лоўкіса. За час працы ў ВНУ Масквы і Мінска назапасіў немалы вопыт, прытым не толькі навуковы, але і кіраўніцкі. Таму калі ў 1997-м яму прапанавалі ўзначаліць Галоўнае ўпраўленне адукацыі, навукі і кадраў Мінсельгасхарчу рэспублікі, ён доўга не вагаўся.

Праблем у аграрнай асвеце па тым часе «настагавалася» нямала. Знацьмо, у пачатку і сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя галоўныя намаганні былі накіраваны на пераадоленне глыбокага крызісу ў галіне. На падрыхтоўку кадраў і звязаныя з ёй праблемы глядзелі скрозь пальцы. І ўсё ж Зянон Валянцінавіч вымусіў кіраўніцтва АПК звярнуць на іх увагу, нават падтрымку атрымаў. І як ні цяжка было, аднак рэфармаванне аграрнай адукацыі ажыццявіў.

У 2001 годзе жыццё Зянона Валянцінавіча крута мяняецца. У зноўку створаным канцэрне «Белдзяржхарчпрам» яму прапануюць узначаліць Галоўнае ўпраўленне па навуцы, адукацыі, кадрах і сертыфікацыі прадукцыі. Як кажуць — з агню ды ў полымя. Складанасць у тым, што кадры да распаду СССР у Беларусі не рыхтаваліся і навуковае забеспячэнне галіны здзяйснялі галоўным чынам расійскія інстытуты. Па сутнасці, усім гэтым на працягу дзесяці год у нас практычна не займаліся. Безумоўна, гэта адмоўна паўплывала на стан галіны і канкурэнтаздольнасць яе прадукцыі.

Лоўкіс з апантанасцю ўзяўся за новае для сябе «рамяство». За сціслыя тэрміны ў беларускіх ВНУ былі адкрыты новыя спецыялізацыі, дасягнута дамова аб падрыхтоўцы спецыялістаў у Маскве. Важнай з'явай стала стварэнне Беларускага навукова-даследчага і вопытна-канструктарскага інстытута харчовых прадуктаў, які пасля Зянон Валянцінавіч і ўзначаліў. Цяпер можна з упэўненасцю сцвярджаць, што гэты навуковы цэнтр адбыўся. Яго станаўленне сцвярджалася шляхам развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы, укаранення камп'ютэрных тэхналогій, фарміравання навуковага калектыву, здольнага рашаць самыя складаныя задачы. Як праграму для дзеяння ўспрымае калектыў яго выказванне: «Фундаментальная навука павінна апярэджваць усе прыкладныя распрацоўкі, каб мы не былі сляпымі кацянятамі і рухаліся ў правільным напрамку». Гэты прынцып і для самога вучонага пажыццёвы, ён ніколі ад яго не адступаў.

На пасадзе генеральнага дырэктара Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па харчаванні работы і праблем у Зянона Валянцінавіча паболела. Але ён поўны энергіі і энтузіязму. Пад яго ўмелым кіраўніцтвам ажыццяўляецца мэтанакіраваная дзейнасць на павышэнне навукаёмістасці харчовых вытворчасцей: укараняюцца навейшыя тэхналогіі і рэцэптуры прадукцыі, узмацняюцца метады кантролю якасці і бяспекі прадукцыі, ствараюцца прадукты лекава-прафілактычнага харчавання на аснове натуральнай айчыннай сыравіны, праектуюцца, рэканструююцца і будуюцца новыя вытворчасці. Паспяхова выконваюцца заданні дзяржаўных навуковых і навукова-тэхнічных праграм.

Важны напарамак у рабоце Навукова-практычнага цэнтра па харчаванні — стварэнне новых машын і абсталявання на аснове сучасных рашэнняў. Зянон Валянцінавіч зазначае:

— Сярод распрацовак нашых канструктараў асобнае месца займаюць унікальныя ўзоры абсталявання для харчовых вытворчасцей, якія не маюць аналагаў у рэспубліцы: хуткамаразільны агрэгат тунельнага тыпу для замарожвання плодаагароднінннай сыравіны і фармовачная аўтаматычная машына карусельнага тыпу для вытворчасці традыцыйных страў беларускай нацыянальнай кухні — дранікаў з начынкай і без начынкі, а таксама камплект абсталявання па вытворчасці напітку з бульбы, камплект абсталявання па вытворчасці фруктовых і агароднінных чыпсаў, укаранёныя на даччыным прадпрыемстве «Тэхнахарч». Па заяўках перапрацовачных прадпрыемстваў сканструяваны машына рэзальная для атрымання «карэйскай саломкі» (Глыбоцкі кансервавы завод), камплект абсталявання для вытворчасці яблычнага воцату (Слуцкі воцатны завод). Для Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гематалогіі і трансфузіялогіі распрацаваны канструктарская дакументацыя на вопытны ўзор устаноўкі для растварэння сыпучых рэчываў з мяшалкай і доследны ўзор устаноўкі для пастэрызацыі альбуміну.

У рамках дзяржаўнай праграмы імпартазамены створаны універсальны комплекс для вытворчасці фарбуючых рэчываў з натуральнай мясцовай сыравіны: морквы і буракоў і ўстаноўка водападрыхтоўкі. Айчынныя машыны спраектаваны з улікам асаблівасцей нашых харчовых прадпрыемстваў і каштуюць прыкладна ў 2-3 разы меней, чым аналагічнае імпартнае абсталяванне.

Па заданні дзяржаўнай праграмы «Агракомплекс — адраджэнне і развіццё вёскі 2006—2010» сумесна з Навукова-практычным цэнтрам па механізацыі сельскай гаспадаркі ажыццяўляецца распрацоўка абсталявання для сушкі зерня з выкарыстаннем азонутрымліваючага сушыльнага агента з мэтай павышэння энергаэфектыўнасці сушкі пры паляпшэнні тэхнахімічных і фізіялагічных уласцівасцей збожжа. Распрацаваны арыгінальны камплект абсталявання для перапрацоўкі плодаагародніннай прадукцыі і бульбы, які дазваляе знізіць вытворчыя затраты на гэтых аперацыях у 2,4 раза.

Спецыялісты Цэнтра вядуць пастаянную работу па мадэрнізацыі і паляпшэнні эксплуатацыйных характарыстык распрацаваных раней машын і апаратаў, тэхналагічных ліній па перапрацоўцы гародніны і бульбы. Абсталяванне, распрацаванае і вырабленае ў Цэнтры, паспяхова эксплуатуецца не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, а і ў Расійскай Федэрацыі, на Украіне, у краінах Балтыі, Польшчы, Індыі, Іране.Толькі ў 2006 годзе на прадпрыемствах рэспублікі ўкаранёныя 33 віды новага айчыннага абсталявання.

Усё часцей ад вучоных можна пачуць такія выразы: «функцыянальнае харчаванне», «прадукты функцыянальнага прызначэння», «абагачаныя прадукты харчавання». Многія нават не здагадваюцца, што за гэтымі лаканічнымі прамаўленнямі стаяць нярэдка цэлыя напрамкі ў навуцы па стварэнні прадуктаў новага пакалення — з пэўнымі, загадзя прадугледжанымі ўласцівасцямі. Сёння стварэнне абагачаных прадуктаў функцыянальнага прызначэння з'яўляецца адным з прыярытэтных шляхоў дзейнасці Навукова-практычна цэнтра НАН Беларусі па харчаванні. Чым жа абумоўлена з'яўленне функцыянальнага харчавання, што яно сабой уяўляе і наколькі актуальна? Прашу патлумачыць вучонага сакратара цэнтра, кандыдата тэхнічных навук Ірыну Сцігайла:

— Упершыню канцэпцыя была сфармулявана ў Японіі ў 1984 годзе, калі быў прыняты Нацыянальны праект функцыянальнага харчавання. Менавіта ў ім упершыню з'явілася вызначэнне — «функцыянальны прадукт». Галоўная ідэя гэтага праекта — распрацаваць такія прадукты харчавання, рэгулярнае ўжыванне якіх дазволіць аздаравіць арганізм, знізіць рызыку сур'ёзных захворванняў. Паступова растучая цікавасць да гэтай праблемы прывяла да з'яўлення зусім новых «функцыянальных» прадуктаў.

Усім вядома неабходнасць паступлення ў арганізм чалавека цэлага шэрага рэчываў для яго нармальнага функцыянавання. Спектр жыццёва неабходных кампанентаў, адсутнасць якіх сказваецца на здароўі чалавека, дзякуючы развіццю навукі, пастаянна пашыраецца. Сёння мы гаворым не толькі пра вітаміны ці такія вядомыя элементы, як кальцый або ёд, але і фоліевую кіслату, насычаныя тлушчавыя кіслоты, бо іх адсут-

насць адмоўна ўплывае на дзейнасць сардэчна-сасудзістай сістэмы, пра флаваноіды, цынк, магній і многія іншыя.

Хачу падкрэсліць: функцыянальныя прадукты харчавання — гэта традыцыйнага карыстання прадукты, у звычайнай для ўсіх нас форме, якія пры пастаянным іх ужыванні аказваюць аздараўленчае дзеянне на арганізм за кошт наяўнасці ў іх саставе фізіялагічна функцыянальных харчовых інгрэдыентаў. Напрыклад, паляпшаюць функцыі імуннай аховы, садзейнічаюць прадухіленню спецыфічных захворванняў. У сувязі з гэтым такія прадукты яшчэ называюць прадуктамі прафілактычнага прызначэння. Для абагачэння прадуктаў могуць скарыстоўвацца вітаміны, мінеральныя рэчывы, амінакіслоты, поліцукрыды, пратэіны, малочнакіслыя бактэрыі, насычаныя тлустыя кіслоты, мінералы, антыаксіданты. У такім выпадку словы Гіпакрата «... каб ваша ежа стала здароўем» набываюць літаральны сэнс.

— Пэўным чынам адбываецца эвалюцыя харчавання, ці не так?

— Памяняліся ўмовы і рытм жыцця сучаснага чалавека, скарацілася доля фізічнай працы, узровень яго энергазатрат значна знізіўся. У сувязі з гэтым ён менш ужывае ежы і як вынік — аргангізму не хапае вітамінаў і мінеральных рэчываў. Але патрэба чалавека ў мікра-, макранутрыентах, у адрозненне ад энергетычнай каштоўнасці рацыёну, не зменшылася. Кепскія экалагічныя ўмовы, усё нарастаючы рытм сучаснага жыцця, пастаянныя стрэсы выклікаюць павышаную патрэбу ў вітамінах і мінеральных рэчывах.

З другога боку, моцна памяняліся састаў і структура нашага харчавання. У першую чаргу трэба адзначыць рэзкае павелічэнне ўжывання рафініраваных прадуктаў (цукар, расліннае і сметанковае масла, ачышчаныя ад шалупінак і абалонкі зярняты і насенне раслін і г. д.) Укараненне ў тэхналогію тэрмічнай апрацоўкі кампанентаў, спрыяючых працягламу захаванню харчовых прадуктаў, а таксама шырокае выкарыстанне ў XX стагоддзі антымікробных прэпаратаў як у медыцыне, так і ў быце (напрыклад, хларыраванне вады) парушылі баланс малочнакіслых бактэрый. Усё гэта стварае схільнасць людзей да вострых і хранічных захворванняў. Дарэчы, дэфіцыт тых або іншых важнейшых харчовых субстанцый абумоўлены таксама збядненнем глеб. Па меркаванні расійскіх вучоных, калі 75—100 год назад для задавальнення чалавекам сваіх патрэб у жалезе дастаткова было з'есці 1-2 яблыкі, то ў сучасны момант для пакрыцця сутачнай патрэбы ў гэтым мікраэлеменце іх трэба штодзённа з'ядаць да 10—15.

Апошнія даследаванні медыкаў сведчаць аб нерацыянальным характары харчавання насельніцтва і незбалансаваным паступленні біяэлементаў, калі дэфіцыт адных мікранутрыентаў суправаджаецца лішкам другіх. Шматлікія назіранні спецыялістаў паказваюць, што такое становішча характэрна для насельніцтва ўсіх краін. Вывучэнне ўтрымання вітамінаў і мінеральных рэчываў ў рацыёнах харчавання насельніцтва Рэспублікі Беларусь, праведзенае супрацоўнікамі РНПЦ гігіены сумесна з Рэспубліканскім цэнтрам гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, паказала недастатковае ўтрыманне ў рацыёнах большасці абследаваных груп вітамінаў А, Д, С, $B_1$, $B_2$, фоліевай кіслаты, кальцыю, магнію, жалеза, ёду, селену. Крытычнымі групамі па ўзроўні ўтрымання кальцыю з'яўляюцца дзеці школьнага ўзросту (асабліва падлеткі), людзі пажылога і састарэлага ўзросту, жанчыны.

У асобных выпадках існуючы дэфіцыт папаўняецца за кошт медыкаментозных прэпаратаў у выглядзе вітамінных комплексаў, біялагічна актыўных дабавак. Альтэрнатыўным рашэннем праблемы карэкцыі дэфіцыту жыццёва неабходных арганізму элементаў з'яўляецца функцыянальнае харчаванне. Калі ежа робіцца лякарствам. У сучаснай канцэпцыі захавання здароўя і зніжэння рызыкі захворванняў менавіта харчаванне разглядаецца як ключавы і найбольш магутны фактар. «Чалавек ёсць тое, што ён есць».

Стварэнне новых харчовых прадуктаў з аздараўленчым дзеяннем ужо шырока распаўсюдзілася ў Азіі і ЗША. Напрыклад, у Японіі, адзінай краіне са спецыяльным законам аб функцыянальным харчаванні, маюцца гатовыя супы супраць парушэнняў крывазвароту, шакалад супраць інфаркту міякарда і піва супраць захворвання клетак.

У цесным супрацоўніцтве з медыкамі спецыялісты НПЦ па харчаванні працуюць над стварэннем прадуктаў харчавання павышанай харчовай каштоўнасці (абагачаюцца натуральнымі інгрыдыентамі) як для разнастайных груп насельніцтва, якія адрозніваюцца па стане здароўя, узросту, так і для масавага спажывання.

Беларуская кандытарская галіна заўжды славілася сваёй прадукцыяй. І сёння яна захоўвае лідэрства сярод рэспублік былога Саюза. Фабрыкі «Віцьба», «Камунарка», «Слодыч», «Спартак» і шмат іншых яскрава ў гэтым пераконваюць. У цэхах душу вярэдзіць ад незлічоных прысмакаў: выбар цукерак — не панесці, шакаладу — сіл не хопіць перакаштаваць. Зефір, мармелад, піражныя, кексы, крэкеры, пячэнне, абаранкі, здобныя булачкі... Міжволі задаешся пытаннем: «Няўжо хапіць густаў, каб спажыць гэта багацце, як хапіла ў кандытараў прыдумаць яго і вырабіць»?

Сёння ў рэспубліку ўвозіцца палова з таго, што вырабляецца ў ёй, а маглі б самі сябе забяспечыць і паўсвету накарміць. Уся наша кандытарская прадукцыя для масавага спажыўца карыстаецца павышаным попытам, асабліва шакаладная, бо патрабаванні да яе застаюцца нязменнымі, як у старыя добрыя часы. Ніхто не вытрымаў выпрабаванне часам — знайшлі замену какао-маслу. Толькі Беларусь не здаецца, выкарыстоўвае яго па-ранейшаму столькі, колькі трэба, каб шакалад не зняважыў сябе — быў натуральным. Ні ў якае параўнанне не ідзе пальмавае масла — заменнік какао. У яго зусім іншыя фазы плаўлення, структура...

Аддзел тэхналогій цукровай, кандытарскай, харчаканцэнтратнай і масла-тлушчавай прадукцыі НПЦ распрацаваў звыш 70 тэхналагічных умоў на сваю прадукцыю, у тым ліку на выраб рафінíраванага дэзадарыраванага рапсавага масла. Сярод распрацовак асаблівую цікавасць уяўляюць новыя віды масла-тлушчавай прадукцыі прафілактычнага прызначэння — маянэзы і спрэды з серыі «Сіла прыроды», абагачаныя тонказдробненымі пладамі шыпшыны, спіруліны, фукусу, эхінацэі і смакаводарнымі дабаўкамі з часнаку, перцу салодкага, перцу чонага, кропу, пятрушкі. Гэта абжыты напрамак быў працягнуты да распрацоўкі эмульсійных соусаў, у якіх у якасці смакавых напаўняльнікаў выкарыстаны як агароднінныя і фруктова-ягадныя канцэнтраты, так і расліны-біякарэктары (шыпшына, спіруліна, фукус). Напаўняльнікі на базе фруктаў і агародніны (ківі, вішня, абрыкос, журавіны, папрыка, цыбуля, морква) распрацаваны такім чынам, каб максімальна захаваць усе спажыўныя складаючыя, прыдаць гатовай прадукцыі прывабны смак і колер, а лекавыя расліны і гідрабіёнты дадаткова абагачаюць састаў соусаў вітамінамі і мікраэлементамі. Дакументацыя для вытворчасці бескарысна перададзена Гомельскаму тлушчаваму камбінату і Мінскаму маргарынаваму заводу. Рыхтуюцца па ёй да выпуску Баранавіцкі і Лагойскі малочныя камбінаты. Спадабаюцца спажыўцам рэцэптурныя саставы новага дла айчыннай харчовай індустрыі прадукту — спрэдаў як аналагаў сметанковага масла, вырабленых з сумесі раслiннага і малочнага тлушчу. Сметанкова-раслінныя спрэды (40 і 60 працэнтаў тлустасці) абагачаны дробнадысперснымі парашкамі шыпшыны, фукусу, біялагічна актыўнымі дабаўкамі серыі «Вітаман» (аснова — фукус і шыпшына з дабаўкай пладоў ягадных кустарнікаў), «Руская поўнач» (фукус з пладамі ягадных кустарнікаў). Для павышэння функцыянальнасці прадукцыі ў састаў далучаны вітамінныя прэміксы фірмы «DSM Nutritional Product», утрымліваючыя 12 вітамінаў. У адрозненне ад прадукцыі аналагічнага прызначэння вытворчасці РФ, абагачанай экстрактамі раслін, у састаў распрацаваных відаў уведзены натуральныя расліны-біякарэктары, прайшоўшыя мінімальную апрацоўку: сушку і здрабненне да дысперснасці не болей 50 мкм. Узоры маянэзаў і спрэдаў даследаваны па арганалептычных, фізіка-хімічных і мікрабіялагічных паказчыках, прааналізавана ўтрыманне абагачальных інгрэдыентаў. Устаноўлена, што пры дазіроўцы фукусу колькасцю 0,5 працэнта ўтрыманне ёду ў 100 грамах гатовага спрэду роўна 75 мкг, што складае 25 працэнтаў сутачнай нормы.

200 рэцэптур і норм расходу сыравіны спраектавана метадам матэматычнага мадэлявання, які дазволіў усебакова ўлічыць паказчыкі якасці, харчовую каштоўнасць у адпаведнасці з аналагамі прадукцыі фірм «Гербер» ЗША, «Віні» Расія, «Номе» Чэхія.

Надзвычайнае значэнне ў сучасны момант набывае дзіцячае харчаванне. Яму шмат прысвяцілі найноўшага ў сваёй рабоце спецыялісты аддзела тэхналогій цукровай, кандытарскай, харчаканцэнтратнай і масла-тлушчавой прадукцыі. Сярод іх ёсць і значныя дасягненні. Сакрэтамі аднаго з іх дзеліцца намеснік загадчыка аддзела Лініла Філатава:

— Фенілкетанурыя і цэліакія — спадчынныя захворванні, у аснове якіх ляжыць парушэнне працэсаў у арганізме. Шэрагам замежных і айчынных даследчыкаў даказана, што практычна адзінае эфектыўнае лячэнне для такіх хворых — строгае захаванне дыеты з поўным выключэннем прадуктаў, утрымліваючых бялок. З рацыёну харчаван-

ня выключаюцца мяса, рыба, малако, яйкі, хлеб і мучныя кандытарскія вырабы — асабліва для хворых цэліакіяй. Дзецям, якія пакутуюць гэтымі хваробамі, дазваляюцца сыр, фруктовыя сокі, расліннае масла. Складанасць лячэння дыетатэрапіяй заключаецца ў тым, што гэта працяглы працэс. Ён можа доўжыцца ад 5 год і ўсё жыццё.

У нашай краіне безбялковыя кандытарскія вырабы і сухія сумесі не выпускаюцца, што ўскладняе харчаванне і лячэнне дзяцей, асабліва ва ўмовах стацыянара, а 1 кг падобных вырабаў з Германіі каштуе каля 20 у.а., што робіць іх недаступнымі для многіх бацькоў хворых дзяцей.

У выніку праведзеных даследаванняў намі падабрана сыравіна і асноўныя інгрэдыенты (з улікам утрымання ў іх фенілаланіна) для нізкабялковых ласункаў у выглядзе пячэння і пернікаў, сухіх сумесей і каш хуткага прыгатавання для харчавання гэтай катэгорыі дзяцей.

Распрацаваны рэцэптуры нізкабялковых ласункаў «Поспех», «Дзецям», «Надзея», «Радасць», «Сонейка», «Арыгінальныя», сухіх сумесей і пячэння «Здароўе» для дзяцей хворых фенілкетанурыяй, а таксама рэцэптуры кекса «Чароўны» і кашы «Любімая» хуткага прыгатавання для хворых цэліакіяй (шматкі грэчневыя, фрукты сушаныя, арэхі, пекцін)

У Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры гігіены Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь праведзены даследаванні па паказчыках якасці і бяспекі нізкабялковых ласункаў, паўфабрыкатаў сухіх сумесей, каш хуткага прыгатавання для дзяцей, хворых на фенілкетанурыю і цэліакію. Атрымана станоўчае заключэнне.

Навізна новых прадуктаў у тым, што ў іх адсутнічае асноўны від сыравіны — пшанічная мука, а ўтрыманне бялку для гатовых прадуктаў складае меней як 1,3 г на 100 г прадукту.

Аддзел тэхналогій кансервавання харчовых прадуктаў складаецца са спецыялістаў дзвюх груп — тэхнолагаў і лабарантаў. Вельмі ўдала падабраны і скіраваны сімбіёз. Распрацоўка харчовых тэхналогій надзейна абапіраецца на канкрэтныя, комплексныя вынікі даследаванняў сыравіны, прамежкавых і канчатковых прадуктаў. Без гэтага нават самы вопытны ў аддзеле тэхнолаг, старшы навуковы супрацоўнік Валянціна Стрыга, не змагла б абысціся. Яна адна з нямногіх харчавікоў рэспублікі валодае школай класічных тэхналагічных разлікаў, якая вельмі карысная і для стваральнікаў функцыянальных прадуктаў, без якіх сёння не абыходзіцца амаль ні адна сям'я.

Распрацоўка тэхналогій вытворчасці першых і другіх абедзенных страў у мяккай упакоўцы ажыццяўляецца непасрэдна пад кіраўніцтвам Дзіяны Сафонавай. Гэтай абаяльнай жанчыне, узнагароджанай медалём «За працоўную адзнаку», шматлікія спажыўцы павінны быць вельмі ўдзячны за тое, што для іх існуе вялікі выбар харчовых прадуктаў зручнага і хуткага прыгатавання, смачных і значна болей карысных, чым раней. Прадукты ў мяккай камбінаванай упакоўцы утрымліваюцца, што вельмі важна, без кансервантаў, бо герметычна праходзяць высокатэмпературную апрацоўку — «укамплектаваны» пакецік можа вытрымліваць тэмпературу звыш 120 градусаў. Купіў такі ў магазіне і за лічаныя хвіліны будзеш мець спажыву на стале. Яна ж, лічы, гатовая. Ні варыць, ні смажыць не трэба. Застаецца толькі падагрэць на пліце. І хутка, і зручна, і эканомія часу — неверагодная.

У сучасны момант у адзеле адбываецца шокавая рэвалюцыя — так тут называюць стварэнне нарматыўнай базы на сокі і сокавую прадукцыю ў адпаведнасці з сусветнай практыкай. Справа ў тым, што да гэтага часу цяжка было адрозніць падробку, фальсіфікат ад сапраўднага прадукту. Не існавала дакладных крытэрыяў, характарыстык ацэнкі соку, напітку, нектару. Асаблівыя цяжкасці ўзнікалі з вызначэннем соку — натуральны ён альбо не. Нярэдка за яго можна было прыняць звычайны напітак. Асобныя замежныя, а здаралася, і нашы фірмачы ўмела карысталіся такой недасканалай сістэмай кантролю і нямала на гэтым нажываліся. За кошт падманутых спажыўцоў, вядома. З утварэннем цэнтра, калі навуковыя распрацоўкі і практычная іх рэалізацыя набылі цеснае ўзаемадзеянне, супрацоўніцтва, было вырашана паставіць рашучы і надзейны заслон фальсіфікату. Цяпер сокі і сокавая прадукцыя ў строгай адпаведнасці будуць падраздзяляцца на падставе дакладна распрацаваных рэгулюючых дакументаў. Іх падрыхтоўка завершыцца ў канцы года і дазволіць адсекчы прадукцыю няякасную, дасць рычагі кантралюючым органам на самым высокім узроўні правяраць тое, што ідзе да нас на рынак з-за мяжы і што прапануюць свае

вытворцы. Адначасова стаіць мэта — вымусіць нашых прамыслаўікоў падцягнуць тэхнічную аснашчанасць да лепшых сусветных узораў. Гэтай работай з поспехам кіруе Наталля Лаўрыненка.

Па міжнароднай класіфікацыі згодна з Еўрапейскай дырэктывай і стандартам Кодэкса сокамі могуць называцца прадукты, у якіх утрыманне соку складае ад 100 да 85 працэнтаў. Іх падраздзяляюць на сокі фруктовыя, атрыманыя непасрэдна адцісканнем, цэнтрыфугаваннем або праціраннем са свежых ці захаваных свежымі пладоў і ягад, і сокі з канцэнтратаў, выробленыя шляхам узнаўлення канцэнтрыраваных сокаў або пюрэ пітной вадой да масавай долі раствaральных сухіх рэчываў, уласцівых дадзенаму віду фруктаў.

У Цэнтры прынята спецыяльная праграма, якая прадугледжвае істотна павысіць вытворчасць сокаў, шырока разнастаіць іх з разлікам на розныя густы і катэгорыі насельніцтва.

Небывалымі тэмпамі адраджаецца ў рэспубліцы садаводства. Пераважная большасць плошчаў цяпер адводзіцца гатункам яблынь уласнай селекцыі, добра адаптаваным да нашых умоў, здольным штогод даваць высокія ўраджаі высакаякасных пладоў, якія па ўтрыманні цукру і смакавых якасцях у рэшце рэшт павінны задаволіць капрызную харчовую прамысловасць. Наперабой заяўляюць аб сабе грушы, слівы, вішні, алыча, чарэшня (наша не саступае малдаўскай), абляпіха. Лёгкія на ўспамін чырвоныя і «беларускі вінаград» — чорныя парэчкі, агрэст. А дзікарастучыя ягады: суніцы, брусніцы, чарніцы, буякі, журавіны... Ім жа раўні няма па вітамінах і лекавых уласцівасцях. Беларускія лясы — багацейшая, невычэрпная іх кладоўка. Ніводзін лясны масіў Еўропы не можа сапернічаць з ёй. Так што НПЦ па харчаванні сыравіны для атрымання сокаў і самых розных экстрактаў на іх аснове больш чым дастаткова. І недалёкі той час, калі нашы айчынныя сокі стануць любімымі нацыянальнымі напоямі, элексірамі сілы і здароўя нацыі. І, вядома ж, пойдзе толькі на карысць, калі да ўсяго свайго яшчэ і экзотыку далучыць — апельсіны, мандарыны, персікі, грэйпфруты, ківі... Паколькі цытрусавыя ў нас не растуць, то іх заменяць канцэнтраты, з якіх шляхам купажыравання добра асвоена вытворчасць сокаў. Праўда, для гэтага патрабуецца адпаведная вада. Аднак і яна ўжо не ў дэфіцыце. Распрацавана, адпрацавана і ўжо дзейнічае тэхналогія тонкай яе ачысткі.

У Цэнтры актыўна вядзецца работа па стварэнні новых відаў сокаў, сокаўтрымліваючых і безалкагольных напіткаў, багатых на фізіялагічна важныя рэчывы: вітаміны, макра- і мікраэлементы, амінакіслоты, харчовыя валокны, пекцін і іншыя. Багацейшай крыніцай такой сыравіны служаць раслінная сыравіна, раслінныя канцэнтраты, экстракты, настоі, сокі. Па распрацоўках аддзела тэхналогій кансервавання на прадпрыемствах галіны выпрацоўваюцца сокі з павышаным утрыманнем вітамінаў (яблычны неасветлены з цукрам і фоліевай кіслатой, спрыяючы прафілактыцы атэрасклерозу і развіцця малакроўя; яблычны з утрыманнем брусьнічнага, журавіннага, чорнапарэчкавага пюрэ; алычова-клубнічны, журавінны, морква-журавінны, чарнічны, чарнічна-клубнічны; сок бярозавы, настоены на хвоі, ячменю і інш). Для здаровага харчавання наладжана вытворчасць пладаагароднінных сокаў, нектараў, напіткаў, чаю, кафейных напіткаў і сіропаў з выкарыстаннем востра-водарных, лекавых, дзікарастучых раслін. Новыя сокі і напіткі, утрымліваючыя ў сваім саставе востра-водарныя травы, валодаюць антыаксідантнымі ўласцівасцямі, што асабліва актуальна для жыхароў Беларусі. На аснове радыяпратэктарнага бальзаму «Граалль» былі распрацаваны танізіруючыя безалкагольныя напіткі гэтай серыі з рознабаковымі лячэбна-прафілактычнымі ўласцівасцямі і антыалкагольным дзеяннем.

Адзін з важнейшых кампанентаў танізуючых напіткаў і кактэйляў — экстракт лімонніку кітайскага. Ён шырока выкарыстоўваецца ў якасці сродка, стымулюючага цэнтральную нервовую сістэму пры фізічнай і разумовай стомленасці, павышанай санлівасці, паніжанай працаздольнасці.

Кандыдат тэхнічных навук Ганна Лілішэнцава, якая ўзначальвае выпрабавальную лабараторыю аддзела тэхналогій кансервавання, з радасцю адзначае, што з утварэннем Цэнтра працаваць стала намнога цікавей, бо з'явілася менавіта тая творчая прастора, якой усім хацелася і не хапала. Цяпер праяўляць сябе можна не ад выпадку да выпадку, а штодзённа, пастаянна. Магчымасці для гэтага існуюць неабмежаваныя. І яны скарыстоўваюцца.

Напрамую ажыццяўляецца сувязь з прадпрыемствамі-вытворцамі. Яны ў сучасны момант актыўна тэхнічна пераўзбройваюцца. Укараняецца новае абсталяванне. Гэта патрабуе пэўных намаганняў ад навуковых работнікаў аддзела. Адна з першасных і галоўных задач для іх — навуковае суправаджэнне важнейшых праектаў рэканструкцыі прадпрыемстваў. На Віцебскім плодаагародніннным камбінаце, Гродзенскім малочным камбінаце запускаліся ў эксплуатацыю зусім новыя цэхі па вытворчасці кансерваў для дзіцячага харчавання з выкарыстаннем бельгійскага і італьянскага абсталявання. Яго наладка і выпрабаванне ажыццяўлялася з непасрэдным удзелам супрацоўнікаў аддзела тэхналогій кансервавання. Па іх патрабаванні былі ўнесены змены ў канструкцыю станцыі дазіравання. Для прадпрыемстваў Віцебска і Маларыты распрацаваны тэхналагічныя інструкцыі, прапанавана для вытворчасці звыш 35 відаў прадукцыі, створана мноства рэжымаў стэрылізацыі.

Для кансервавікоў менавіта стэрылізацыя прадукцыі з'яўляецца галоўным тэхналагічным працэсам, бо ён забяспечвае яе дабраякаснасць, гарантуе, што яна абсалютна бяспечная для ўжывання. Вялікая адказнасць пры распрацоўцы гэтай тэхналогіі працэсу. Нарміраваная дакументацыя рэгулюе і вызначае правілы рэжымаў стэрылізацыі.

Вельмі сур'ёзная ўвага надаецца адпрацоўцы тэхналагічных параметраў у час наладкі. Шэф-мантажныя работы ажыццяўляюцца непасрэдна пастаўшчыкамі абсталявання. У іх свой інтарэс — хутчэй здаць аб'ект у эксплуатацыю. У вытворцаў няма практыкі прыняць яго з дастатковым узроўнем запасу надзейнасці і дакладнасці. Таму на гэтай стадыі спецыялісты аддзела аказваюць вельмі вялікую дапамогу. Яны выязджалі ў Віцебск, Маладзечна, Клецк і ў працэсе пуска-наладачных работ уносілі карэкціроўку ў тэхналагічныя цыклы і ставілі нават умовы вытворцам абсталявання для ліквідацыі недахопаў. У прыватнасці, у Віцебску фірма-пастаўшчык забрала дэталі напаўняльніка і адправіла ў Бельгію для ператочкі з умовай, каб яны забяспечвалі дакладнасць дазіроўкі прадуктаў. Італьянцы таксама паехалі дадому з заўвагай навукоўцаў і ў сябе на радзіме адпрацоўвалі матэматычныя алгарытмы закладкі прадуктаў у аўтаматычным рэжыме і ўносілі ўдакладненні ў камп'ютэрнае кіраванне.

Шмат зроблена для стабільнай, паспяховай работы прадпрыемстваў. Аддзел забяспечыў іх усёй неабходнай дакументацыяй, якая цяпер з'яўляецца для іх пуцяводнай, вызначальнай ва ўсім тэхналагічным ланцужку вытворчасці. Разам з тым сувязь з імі не спыняецца. Па любым запатрабаванні спецыялісты аказваюць ім дапамогу.

У гэтым годзе аддзел выконваў работу па тэхнічным і тэхналагічным суправаджэнні пуску ў эксплуатацыю цэха ў КСУП «Брылёва» па перапрацоўцы спаржавай фасолі. Яго будаўніцтва ініцыяніравана Прэзідэнтам пасля чарговага наведання ім Гомельскай вобласці. Да гэтага перапрацоўкай спаржавай фасолі ў рэспубліцы не займаўся ніхто. І для Расіі гэты прадукт новы, хаця ў Еўропе шырока выкарыстоўваецца.

— Нам давялося вывучаць уласцівасці спаржавай фасолі, яе хімічны састаў праз нашу лабараторыю, — расказвае начальнік аддзела тэхналогій кансервавання харчовых прадуктаў Людміла Паўлоўская. — Гэта тэма выконвалася ў рамках Дзяржпраграмы «Імпартазамена» сумесна з Цэнтрам па бульбаводстве і плодаагародніцтве. Была пастаўлена задача вызначыць гатункі прыдатныя для кансервавання. Цэнтр вылучыў трынаццаць і правёў іх выпрабаванні. Потым мы таксама іх выпрабоўвалі. Некаторыя гатункі забракавалі па смакавых якасцях і нетэхналагічнасці. Тыя, што вытрымалі нялёгкі экзамен, класіфікавалі ў залежнасці ад тэрмінаў сяўбы для таго, каб ураўнаважыць нагрузку на тэрміны перапрацоўкі. Для прадпрыемства «Брылёва» намі распрацавана дастатковая колькасць асартыменту. Гэта і фасоля натуральная, і пікантная, і смачная з часнаком і дабаўкай кіслаты, у таматнай залівцы, два віды асарці: з таматамі і агуркамі.

Я вось цяпер праўлю тэхналагічную інструкцыю, якую падрыхтавалі мае спецыялісты для Маладзечанскага харчовага камбіната. Вельмі складанае абсталяванне скарыстоўваецца на высокааўтаматызаванай вытворчай лініі: аўтаклавы французскай фірмы, фасовачныя агрэгаты — італьянскай. З імі сумесна строга нармалізуем тэхналагічныя параметры. Камбінат будзе выпускаць сокі, стэрылізуемае закусачнае і абедзеннае харчаванне ў мяккай упакоўцы, гарошак. Асартымент прадукцыі даволі шырокі. Нам таксама даручылі праводзіць экспертызы тэхналагічных праектаў на прадпрыемствах Гродна, Турава, Быхава і іншых.

У рэспубліку завезена шмат стэрылізацыйнага абсталявання. Яно патрабуе дастаткова сур'ёзнага падыходу пры распрацоўцы рэжымаў стэрылізацыі. У вытворчых умовах здымаем тэрмадынамічныя характарыстыкі, закладваем сумесна з вытворцамі вопытныя партыі кансервавай прадукцыі. Раней скарыстоўваліся толькі вертыкальныя вадзяныя аўтаклавы. Цяпер жа з'явіліся і пара-паветраныя: бельгійскай вытворчасці з поспехам працуюць на Віцебскім плодаагароднінным камбінаце, турэцкай — на Маларыцкім агароднінасушыльным камбінаце, венгерскі гідрастатыстычны вадзяны стэрылізатар няспыннага дзеяння добра зарэкамендаваў сябе ў Тураве.

Пакупніцкі попыт у немалой ступені залежыць ад таго, у якой тары прапануецца прадукт. Дарэчы, яго якасць таксама нярэдка вызначае — яна. Трэба забыць той час, калі ў кансервавай вытворчасці выкарыстоўваўся толькі адзін абкатны шкляны слоік. У сучасны момант многія прадпрыемствы набылі абсталяванне па ўкупорцы на вінце, ёсць укупорка прай-твіст (РТ), для грыбоў — шкляная. Мінскі завод безалкагольных напіткаў выпускае сокі і сокаўтрымліваючыя напіткі ў ПЭТ тары і без кансервантаў.

Каля дзвюх тысяч рэцэптур прапанавана ў вытворчасць аддзелам тэхналогій кансервавання Цэнтра, з іх 200 — дзіцячага харчавання, якое прызвана забяспечыць аптымальнасць і збалансаванасць дзіцячага рацыёну. Сярод апошніх распрацовак шырокі асартымент плодаагароднінных кансерваў павышанай харчовай каштоўнасці, што дасягнута ў выніку падбору натуральных плодаагароднінных кампанентаў і абагачэння прадукцыі крупянымі і малочнымі складаючымі, вітамінам С, ß-карацінам. На аснове матэматычнага мадулявання распрацаваны плодаагароднінныя кансервы, абагачаныя бялкамі кісламалочных прадуктаў (з дабаўкай ёгуртаў). Створаны такія віды абагачанага дзіцячага харчавання, як пюрэ з морквы і марской капусты з манкай, смятанкамі і вітамінам С; пюрэ з морквы і абляпіхі з цукрам; пюрэ з морквы і марской капусты з манкай, смятанкамі і вітамінам С; пюрэ «Здаравяк» з чарніц з аўсянымі крупамі і вітамінам С; сок «Здаравяк» яблычна-чарнічны з мякаццю, цукрам і вітамінам С; сок гарбузна-яблычны з мякаццю, цукрам і вітамінам С і г. д. У сувязі з заяўкамі спажыўцоў распрацаваны кансервы для дзіцячага харчавання як з паніжаным утрыманнем цукру, так і без яго. Асвоены рэцэптуры плодаагароднінных кансерваў і сокаў для дзіцячага харчавання з фітадабаўкамі з мясцовай востра-водарнай сыравіны, якая садзейнічае прадухіленню захворванняў страўнікава-кішэчнага тракту, сардэчна-сасудзістай сістэмы, верхніх дыхальных шляхоў і ўзмацняе імунную сістэму арганізма (сок яблычны з мякаццю з цукрам і кмінам; пюрэ з яблык з настоем мяты, пюрэ з яблык і сліў з настоем рамонак).

Распрацоўваюцца і ўкараняюцца ў вытворчасць плодаагароднінныя кансервы лячэбна-прафілактычнага прызначэння для папярэджання жалезадэфіцытнай анеміі (з выкарыстаннем грэчневых круп, яблык пэўных гатункаў), прафілактыкі захворванняў шчытападобнай залозы (з чарнаплоднай рабінай, буракамі, марской капустай), агульнаўмацоўваючага дзеяння (з выкарыстаннем натуральнага мёду, прарошчанага зерня, сухафруктаў), а таксама для вывядзення небяспечных рэчываў з арганізма (з прымяненнем пекціну, альгінату натрыю).

Не пакінуты без увагі вучоных будучыя мамы. Супрацоўнікамі Цэнтра сумесна з вучонымі Віцебскага медыцынскага універсітэта ўпершыню ў рэспубліцы распрацаваны айчынныя плодаагароднінныя прадукты для цяжарных жанчын. Яны створаны па рэкамендацыях вучоных-медыкаў з улікам патрэбы арганізма ў пэўных нутрыентах. Плодаагароднінныя кансервы дадаткова ўзбагачаны жалезам, кальцыем, магніем, ёдам, вітамінамі С і Д. Плодаагароднінныя кансервы для цяжарных жанчын серыі «Ноўка» хутка з'явяцца на прылаўках нашых магазінаў.

Упершыню вытворчасць дзіцячых кансерваў на плодаагародніннай аснове была асвоена ў 1957 годзе на Маларыцкім агароднінасушыльным заводзе. Тут на спецыялізаванай лініі, якая размяшчалася ў кансервавым цэху, была ўкаранёна тэхналогія вытворчасці маркоўнага і маркоўна-яблычнага соку. Затым вытворчасць пашыралася і даабсталёўвалася тэхналагічным абсталяваннем, што дазваляла павялічыць асартымент выпускаемай прадукцыі.

У 1975 годзе ўведзены ў эксплуатацыю першы спецыялізаваны цэх дзіцячага харчавання на Клецкім кансерва-вінаробчым заводзе. У рамках прэзідэнцкай праграмы «Дзеці Беларусі» ў 2001 годзе завершана яго рэканструкцыя. Закуплена ў італьянскім аддзяленні амерыканскай карпарацыі FMC тэхналагічнае абсталяванне па падрых-

тоўцы цукру, масла, дазіраванні і змешванні кампанентаў, лінія фасоўкі дзіцячага харчавання, лінія афармлення гатовага прадукту. Устаноўлена лінія па фасоўцы прадукцыі ў шклотару з разьбовым спосабам укупоркі, набыта імпартнае абсталяванне па вытворчасці паўфабрыкатаў метадам асептычнага кансервавання.

У 2005 годзе пушчаны ў эксплуатацыю другі спецыялізаваны цэх па вытворчасці дзіцячых плодаагароднінных кансерваў на Віцебскім плодаагароднінным камбінаце. Гэта высокатэхналагічная вытворчасць, выкананая ў адпаведнасці з апошнімі патрабаваннямі да вытворчасці дзіцячага харчавання. Цэх абсталяваны паточна-механізаванай лініяй з элементамі аўтаматызацыі і камп'ютэрнага кіравання асобнымі працэсамі, такімі, як дазіраванне і змешванне кампанентаў, падрыхтоўка мукі, цукру, малака, масла, цукровага сіропу, дапаможных інгрэдыентаў і г. д. Усё тэхналагічнае абсталяванне італьянскай і бельгійскай вытворчасці.

На прадпрыемстве маецца цэх па вытворчасці паўфабрыкатаў для дзіцячых кансерваў, кансерваваных самым прагрэсіўным у сучасны момант метадам — асептычным. У мінулым годзе адбылася замена састарэлага блока разліву і стэрылізацыі.

На Маларыцкім агароднінасушыльным камбінаце ў 2006 годе замест аджыўшай лініі дзіцячых кансерваў з'яўляецца спецыялізаваны цэх дзіцячага харчавання. Ён аснашчаны абсталяваннем айчынных вытворцаў, расійскіх, украінскіх і балгарскіх фірм. Асаблівая ўвага пры праектаванні цэха была нададзена такім вызначальным тэхналагічным працэсам, як стэрылізацыя, праціранне агароднінафруктовай масы, тэрмічнай і санітарнай апрацоўцы з прымяненнем сістэмы цэнтралізаванай мыйкі.

У рамках Праграмы развіцця кансервавай галіны за кошт інавацыйнага фонду канцэрна «Белдзяржхарчпрам» на Маларыцкім агароднінасушыльным камбінаце набыта аналагічнае абсталяванне, як для Клецкага кансервавага завода.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што ў рэспубліцы створаны сучасны высокатэхналагічны вытворчы патэнцыял, які дазваляе выпускаць якасную, адпавядаючую сусветнаму ўзроўню плодаагароднінную прадукцыю для дзяцей.

Прадукцыя дзіцячага харчавання айчынных вытворцаў неаднаразова пацвярджала высокую якасць на міжнародных выстаўках, кірмашах, дэгустацыях. У прыватнасці, на конкурсе «Залатая банка-2006» усе тры заводы ўзнагароджаны дыпломамі пераможцаў, а распрацоўкі дзіцячага харчавання НПЦ па харчаванні ўдастоены залатога медаля.

Аналіз асартыменту імпарцёраў дзіцячага харчавання паказвае, што айчынным вытворцам неабходна больш увагі надаваць асваенню новых відаў кансерваў натуральных з паніжаным утрыманнем цукру, агароднінных кансерваў з прымяненнем шпінату, каляровай капусты, іншых відаў сыравіны, якая мала выкарыстоўваецца ў рэспубліцы, з дабаўкай мяса і рыбы.

Айчынныя заводы па вытворчасці дзіцячых кансерваў выпускаюць, у асноўнай масе, аднатыпную прадукцыю і выступаюць адзін перад адным на таварным рынку канкурэнтамі. Хацелася б бачыць каардынацыйную ролю вышэйстаячых арганізацый у спецыялізацыі вытворчасцей на канкрэтныя таварныя групы. І трэба абавязкова карыстацца на рынку той перавагай, вельмі, дарэчы, істотнай, што цэны айчыннага дзіцячага харчавання значна ніжэй імпартнага.

Рэалізацыя кансерваў ажыццяўляецца праз буйныя оптавыя базы, рознічную сетку гандлю, оптавыя камерцыйныя арганізацыі. Вялікім недахопам у рэалізацыі прадукцыі дзіцячага харчавання з'яўляецца адсутнасць добра арганізаванай таваpаправодзячай сеткі саміх прадпрыемстваў як у рэспубліцы, так і за яе межамі. Адсутнічае гібкая сістэма адваротнай сувязі попыту-прапановы. Гэта з'яўляецца асноўнай прычынай затаваранасці прадпрыемстваў-вытворцаў нерэалізаванай прадукцыяй. Практычна не прымяняюцца эканамічныя рычагі росту аб'ёмаў продажу. Сістэма скідак за прадстаўленне дылерскіх паслуг не заўжды эфектыўна спрацоўвае ва ўмовах таварнай перавытворчасці.

Надзвычай шырокі спектр прадукцыі функцыянальна-прафілактычнага прызначэння распрацаваны спецыялістамі Інстытута мяса-малочнай прамысловасці. Ён уключае шэраг рэцэптур вітамінізаваных малочных прадуктаў (малако вітамінізаванае «АСДЕ», малако пітное, вітамінізаванае фоліевай кіслатой, кактэйль малочны «Фруктовы», вітамінізаваны фоліевай кіслатой, і г. д.), а таксама мноства кісламалочных прадуктаў, якія ўжо першапачаткова ўяўляюць сабой карысныя для нашага

арганізма прадукты — напіткі, абагачаныя малочным бялком, усемагчымыя кефіры, ёгурты.

З'яўляюцца першыя распрацоўкі функцыянальных мясных прадуктў, напрыклад, тэхналогія вытворчасці сечаных мясных і мясараслінных паўфабрыкатаў прафілактычнага прызначэння з прымяненнем біялагічна актыўных рэчываў і функцыянальных харчовых дабавак. Па выніках работы створана 8 новых відаў паўфабрыкатаў, абагачаных селенам і прыроднымі ёдаўтрымліваючымі кампанентамі. Прапанаваны новыя віды прадуктаў дзіцячага харчавання (кансервы, каўбаскі, сасіскі), спрыяючыя прафілактыцы жалезадэфіцытных анемій, каўбасныя вырабы прафілактычнага прызначэння, абагачаныя фоліевай кіслатой, прыроднымі біялагічна актыўнымі дабаўкамі і харчовымі дабаўкамі на аснове раслiннай сыравіны, прадукты дзіцячага харчавання на мясной аснове з выкарыстаннем лактулозы. У бягучым годзе прадугледжваецца асваенне вытворчасці айчыннай лактулозы па распрацаванай Цэнтрам тэхналогіі, што дазволіць эканоміць больш як 1 мільён долараў ЗША ў год за кошт імпартазамены.

Асобна варта адзначыць распрацоўкі саміх «абагачальнікаў», так бы мовіць рэчываў ці комплексаў, якія выкарыстоўваюцца для абагачэння прадуктаў харчавання. На базе Інстытута мяса-малочнай прамысловасці створана калекцыя прамысловых штамаў малочнакіслых і біфідабактэрый. Яна налічвае каля 2000 культур з неабходнымі клініка-біялагічнымі і тэхналагічнымі ўласцівасцямі. Выкарыстанне калекцыйных культур дазволіла распрацаваць тэхналогіі вытворчасці 22 відаў бактэрыяльных заквасак і 10 відаў бактэрыяльных канцэнтратаў для вытворчасці шырокага асартыменту малочнай і мясной прадукцыі. Акрамя гэтага спецыялістамі інстытута распрацавана серыя прабіятычных канцэнтратаў і кісламалочных прабіятычных прадуктаў на іх аснове, у прыватнасці, лячэбна-прафілактычнага кісламалочнага прадукту «Біфідабакт». За адносна невялікі час на вопытна-тэхналагічным участку інстытута выпушчана болей як 800 тон «Біфідабакт-0», прызначанага для харчавання дзяцей з нараджэння і рэалізаванага ў Мінску і Барысаве. Утрыманне бялку, тлушчу, вугляводаў, а таксама суадносіны сывараткавых бялкоў і казеіну, вітамінаў і мікраэлементаў у гэтым прадукце адпавядае лепшым імпартным аналагам. На 36 заводах рэспублікі арганізавана масавая вытворчасць прабіятычных прадуктаў «Біфітат», «Біятат», «Біякефір дзіцячы», «Біякефір Троіцкі», «Біякефір Люкс».

Працягвае разнастаіцца асартымент сыроў як традыцыйных для Беларусі, так і новых, у тым ліку з «буйнымі вочкамі» — «Белая Русь», «Духмяны», «Тызенгауз». Варта адзначыць, што вытворчасць практычна ўсіх тварожных сыроў ажыццяўляецца ў рэспубліцы па распрацоўках Інстытута мясной і малочнай прамысловасці.

Сярод апошніх найбольш значных распрацовак варта адзначыць тэхналогію вытворчасці капрэцэпітату, прызначанага для абагачэння харчовых прадуктаў малочным бялком, у тым ліку спецыяльнага харчавання для спартсменаў, работнікаў са шкоднымі ўмовамі працы.

Другім хлебам называюць бульбу беларусы. І гэта сапраўды так. У сваім саставе бульба ўтрымлівае вітаміны, амінакіслоты, мікра- і макраэлементы. І вельмі дарэчы і аптымістычна гучыць: «Бульба — суп і бульба — каша, бульба — гэта радасць наша».

Увесь сабраны ў бульбе «букет» дае ні з чым не параўнальныя духмянасць і смак свежапрыгатаванай бульбы, няхай гэта суп, бульбяное пюрэ, абсмажаная бульба і многае іншае. Аднойчы з'явіўшыся, бульба ніколі не знікне як прадукт харчавання са стала беларуса. І ў НПЦ па харчаванні на яе звяртаецца павышаная ўвага.

Беларусь з'яўляецца сусветным лідэрам у вытворчасці бульбы на душу насельніцтва, а таксама па ўжыванні бульбы ў натуральным выглядзе — каля 120 кг на чалавека.

Шырокая папулярнасць бульбы як нацыянальнага прадукту паспрыяла пашырэнню спектра прамысловых спосабаў яе перапрацоўкі. У прыватнасці назіраецца актыўнае развіццё новай таварнай групы — паўфабрыкатаў і гатовых да ўжывання прадуктаў перапрацоўкі бульбы. У значнай ступені гэта звязана з тым, што памяняліся адносіны людзей, і асабліва сацыяльна актыўных слаёў насельніцтва, якія адчуваюць востры недахоп свабоднага часу, да «хуткага харчавання». Адзін з самых перспектыўных напрамкаў развіцця бульбаперапрацоўчай галіны — вытворчасць хутказамарожанай прадукцыі, дазваляючай на працягу ўсяго года задавальняць спажыўцоў

вітамінамі і мінеральнымі рэчывамі. Хутказамарожаныя прадукты, паўфабрыкаты і гатовыя стравы карыстаюцца папулярнасцю ва ўсім свеце.

Для нас, радавых спажыўцоў, прывабнасць хутказамарожаных прадуктаў заключаецца, у першую чаргу, у хуткасці прыгатавання і «безадыходнасці». Найбольш вядомыя замарожаныя прадукты па тэхналогіях НПЦ — бульба фры, клёцкі, варэнікі, цэпеліны, дранікі і другія. Асаблівасцю гэтых прадуктаў з'яўляецца тое, што яны могуць захоўвацца без страты смакавых і харчовых якасцей на працягу 6-9 месяцаў.

Не меншую цікавасць у спажыўцоў выклікаюць і сухія бульбапрадукты. Напрыклад, сухое бульбяное пюрэ, абагачанае бульбяное пюрэ хуткага прыгатавання. Гэтыя прадукты здольны захоўвацца на працягу года. Сухое бульбяное пюрэ, да таго ж, вельмі зручны прадукт як па хуткасці прыгатавання, так і па сваіх арганалептычных і іншых якасных паказчыках — не саступае хатняму. Сухі прадукт варта толькі заліць гарачай вадой, перамяшаць, і праз 2-3 хвіліны апетытнае, духмянае, смачнае бульбяное пюрэ гатова. З такога сухога прадукту можна гатаваць і першыя, і другія абедзенныя стравы — супы, баршчы, клёцкі, піражкі, аладкі, запяканкі і т. п. Яго зручна скарыстоўваць у паездках, камандзіроўках, на дачы, турыстычных комплексах, прадпрыемствах хуткага харчавання.

Пэўна, самымі папулярнымі і любімымі насельніцтвам з'яўляюцца абсмажаныя бульбапрадукты: чыпсы, храбусткая бульба. Гэта поўнасцю гатовыя для ўжывання прадукты — смачныя, спажыўныя, хрумсткія. Іх ужываюць у якасці сухога сняданка, а таксама можна смакаваць з малаком, сокам, півам ды і проста з асалодай пахрумкаць «на хаду».

Сёння безалкагольныя напіткі на аснове натуральных кампанентаў у ліку самых запатрабаваных. Сярод іх пачэснае месца займае «Мікола». Гэты вабны газіраваны карычневы напітак мае надзвычай арыгінальны і прыемны смак і духмянасць і, што цікава, як па колеры, так і па смакавых адчуваннях нагадвае хлебны квас, хаця ніякіх зернявых кампанентаў у яго саставе няма. Асновай для яго прыгатавання з'яўляецца сокавы канцэнтрат бульбы. Пры ўдалым спалучэнні бульбяной сыравіны з настоямі беларускіх знакамітых траў удалося ў выніку атрымаць такі незвычайны напітак. У НПЦ упэўнены, што «Мікола» неўзабаве заменіць кока-колу. Дзеці ў першую чаргу аддадуць яму перавагу, бо ён не ўтрымлівае кафеіну і пойдзе ім толькі на здароўе, што нельга сказаць пра кока-колу.

У сваю чаргу ў НПЦ па харчаванні вялікую занепакоенасць выклікае адна з самых парадаксальных акалічнасцей — рэспубліка апошнім часам востра адчувае недахоп крухмалу. Палова яго, каб задаволіць патрэбы, завозіцца з-за мяжы. Улічыце, гэта не дзе-небудзь адбываецца, а ў Беларусі, дзе небывалыя ў свеце прыярытэты аддаюцца бульбе.

Вырашана карэнным чынам і неадкладна мяняць сітуацыю. Тэрмінова рэканструююцца і будуюцца новыя крухмальныя заводы, іх магутнасці разлічваюцца на тое, каб поўнасцю задаволіць сыравінай шматлікіх спажыўцоў: харчовую прамысловасць, фармацэўтычную, папяровую і інш — звыш 15 аб'ектаў набіраецца, якім жыццёва патрэбен крухмал. Бульбаводаў трэба арыентаваць, каб яны смялей браліся за вырошчванне высокакрухмалістых гатункаў бульбы, запэўніваць, што са збытам яе ў іх не будзе ніякіх праблем. А выгада ўзаемная — і дзяржаве і вытворцам.

Бадай, з усіх напояў, прыдуманых чалавецтвам, ніводзін так не бударажыць уяўленне, як віно. Разнастайнасць він і іх складанасць да гэтага часу застаюцца вялікай загадкай прыроды, якая залежыць ад прыхільнасці сонца, спрыяльнасці глебы і цеплыні чалавечай душы. Ні адно свята, ніводная эпахальная падзея ў жыцці чалавека не абыходзіцца без гэтага боскага напітку, аднак пры гэтым варта помніць цудоўныя словы Спінозы пра закон меры: «Мудраму чалавеку ўласціва пры карыстанні рэчамі атрымліваць ад іх радасць — але не да перанасычэння, бо яно выключае радасць».

За апошнія дзесяцігоддзі ў сусветным прамысловым вінаробстве адбыліся карэнныя перамены. Традыцыйныя метады мадыфікуюцца і спрашчаюцца дзякуючы сучасным тэхнічным магчымасцям. Попыт расце адначасова з патрабаваннямі спажыўцоў да якасці він. Каб задаволіць іх, у сусветнай практыцы пастаянна ўдасканальваецца вытворчасць. Смакавая палітра распасціраецца ад лёгкіх сталовых да паўнацэнных, насычаных дубільнымі рэчывамі чырвоных він, ад гатунковых да купажных. Для дасягнення поспеху ў рэалізацыі гатовай прадукцыі з улікам эканамічных аспектаў

недастаткова проста знайсці аптымальнае смакавае спалучэнне, неабходна таксама пастаянна падтрымліваць стабільную якасць прадукцыі.

Гісторыя вінаробства развівалася паралельна гісторыі цывілізацыі. Аб карысці і лекавых уласцівасцях якасных він вядома спрадвеку. Гэты тэзіс бясспрэчны і доказу не патрабуе. У віне маюцца ўсе патрэбныя чалавеку вітаміны і рэчывы. Яно станоўча ўздзейнічае на нервовую сістэму, дабратворна ўплывае на страваванне, на функцыянаванне сардэчна-сасудзістай сістэмы. Віно выводзіць шлакі і радыенукліды з арганізма, у сувязі з чым чырвоныя віны цэняцца асабліва.

Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па харчаванні ў сваёй навукова-даследчай дзейнасці арыентуецца ў першую чаргу на біялагічныя і гігіенічныя аспекты пладовых і вінаградных він, выкарыстоўваючы ўвесь арсенал навуковага патэнцыялу пры ўкараненні новых тэхналогій.

За апошнія гады сумесна са спецыялістамі вядучых вінаробчых прадпрыемстваў рэспублікі створаны унікальны асартымент пладовых він, прыгатаваных на аснове незаменных нутрыентам пладовай і ягаднай сыравіны — яблык, буякоў, чарніц, чорных парэчак, малін і іншых, валодаючых непаўторнай, устойлівай духмянасцю, каштоўнымі біялагічна актыўнымі рэчывамі, здольнымі станоўча ўплываць на ўзмацненне ў арганізме чалавека ўзнаўленчых працэсаў, нармалізацыю яго ахоўных сіл, аказанне радыеахоўнага эфекту.

Прыярытэтным напрамкам работы НПЦ з'яўляюцца натуральныя фруктова-ягадныя віны, пладовыя віны палепшанай якасці, марачныя віны і віны спецыяльнай тэхналогіі ( з выкарыстаннем тэхналагічных прыёмаў мадэрнізацыі, прымянення кампанентаў дубу і цеплавой апрацоўкі).

У сучасны момант распрацавана 47 стандартаў, больш за 50 галіновых тэхналагічных і кіруючых дакументаў, 52 найменні новых відаў пладовых і натуральных фруктова-ягадных він, аўтарамі якіх з'яўляюцца супрацоўнікі Цэнтра. Акрамя таго, рэцэптуры і тэхналагічныя інструкцыі, распрацаваныя сумесна з прадпрыемствамі галіны, налічваюць сотні найменняў вінаробчай прадукцыі разнастайных груп — у тым ліку віны вінаградныя і каньякі.

Піва — старажытнейшы народны напітак. Першае ўпамінанне аб ім засведчана амаль 5000 год назад у шумерскім клінапісе. Асартымент піва, якое выпускаецца ў рэспубліцы, складае 15 найменняў.

Доследы апошніх год ясна паказваюць, што ўмеранае спажыванне піва можа аказваць станоўчае дзеянне на здароўе чалавека: памяншаецца рызыка ўзнікнення інфаркту міякарда і захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, садзейнічае памяншэнню адкладання тлушчаў, дабратворна ўплывае на загусальнасць крыві, ахоўныя функцыі халестэрыну, паніжае ўзровень цукру ў крыві. Беларускае піва — неаднаразовы ўдзельнік Міжнародных конкурсаў-дэгустацый, якія праходзілі ў Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы, дзе яно атрымлівала высокія ўзнагароды за выдатную якасць.

Спецыялісты НПЦ па харчаванні распрацоўваюць новыя віды безалкагольных напіткаў з выкарыстаннем новай айчыннай падсалоды «Вартаміл», вывучаюць тэхналагічныя тонкасці вырабу такіх напіткаў. У выніку будзе зэканомлена значная колькасць валютных сродкаў на закупку цукру-сырцу і падсалодаў за мяжой.

Вядуцца работы па стварэнні новай лікёра-гарэлачнай прадукцыі, прэстыж якой у вядучых прадпрыемстваў і без таго высокі, яна адпавядае міжнародным стандартам якасці.

Велізарная зала ў адміністрацыйным будынку Цэнтра адведзена дэманстрацыі прадуктаў, якія выраблены па яго тэхналогіях. Чаго тут толькі няма... Выбар багацейшы! І ён прадстаўлены лаканічным і шматсэнсоўным заклікам над уваходам: «Спажывайце, калі ласка!» А на развітанне Зянон Валянцінавіч Лоўкіс дадае: «І няхай усім нашым людзям пойдзе толькі на карысць». Што гэта сапраўды будзе так — сумненняў не ўзнікае.



**Анатоль МЯСНІКОЎ**

# «НАС ВЕДАЛА ГРАМАДСТВА, ЦАНІЛА ДЗЯРЖАВА...»

## I

...Жывуць побач з намі людзі, такія ж, як і мы. Толькі ці такія?! Што ведаем мы пра чалавека, якога бачым ледзь не кожны дзень, ды не чулі пра яго справы... А можа, і незнарок штурхнулі яго аднойчы ў грамадскім транспарце ці, наадварот, пазналі, ды не ўступілі яму месца... А той, другі, можа, і «дзіўны» чалавек з суседняга пад'езда: учора ён нібыта не выйшаў, як і раней, на вуліцу; а сёння, наадварот, пайшоў так рана няведама куды...

Дзесяткі, калі не сотні нашых суайчыннікаў мы штодзень сустракаем, бачым і пазнаём! Ёсць час, магчымасць ці «выхаванасць»: паклонімся ім нізка-нізка... Няма ні таго, ні другога, ні трэцяга — прабяжым-пройдзем міма, найперш, прабачце, міжволі засведчыўшы: маўляў, ну што ты значыш і наогул хто ты такі...

### *З біяграфіі героя*

Барысевіч Мікалай Аляксандравіч (нарадзіўся 21 верасня 1923 года ў пасёлку Лучны Мост Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці) — беларускі фізік. Акадэмік Акадэміі навук Беларусі (1969), Акадэміі навук СССР (1981, з 1992 — Расійскай акадэміі навук) і шэрага замежных акадэмій навук. Доктар фізіка-матэматычных навук (1965), прафесар (1967). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1994). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Скончыў БДУ (1950), аспірантуру Ленінградскага дзяржаўнага аптычнага інстытута імя С. Вавілава (1953). З 1955 года намеснік дырэктара Інстытута фізікі, у 1969—1987 гадах прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі. З 1992-га — ганаровы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі і старшыня камісіі па гісторыі навукі.

Навуковыя працы па люмінесцэнцыі і спектраскапіі складаных малекул, квантавай электроніцы і інфрачырвонай тэхніцы. Даследаваў рассеянне выпрамянення дысперснымі сістэмамі, стварыў (разам з супрацоўнікамі) новы клас аптычных фільтраў для інфрачырвонай вобласці спектра. Адкрыў (разам з Б. Непарэнтам) з'яву стабілізацыі-лабілізацыі электронна-ўзбуджаных шмататамных малекул (зарэгістравана ў 1977 годзе). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980), Дзяржаўнай прэміі СССР (1973) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1998).

## II

Чэрвеньскія дні 1941-га 17-гадоваму Мікалаю Барысевічу запомніліся на ўсё жыццё. Перш за ўсё — сваімі падзеямі. Першай з іх стала заканчэнне з адзнакай Селібскай сярэдняй школы Бярэзінскага раёна; другой — чорная вестка аб



вераломным нападзенні гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз і пачатку Вялікай Айчыннай вайны...

Мара, якой жыў у той час няўрымслівы юнак, атрымлівала, такім чынам, вымушаную адтэрміноўку. А была яна ў Міколы адна-адзіная: паступіць на вучобу на фізіка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, стаць фізікам.

Аднак замест падручнікаў і канспектаў у рукі давялося ўзяць зброю...

— 1941—1945 гады пазначаны ў маёй біяграфіі ўсяго толькі дзесяццю словамі: «Падпольшчык, партызан, воін Чырвонай Арміі ў гады Вялікай Айчыннай вайны», — глыбока ўздыхнуўшы, гаворыць мой субяседнік. — Амаль паўтары тысячы дзён і начэй жыццё было запоўнена не толькі пастаяннай небяспекай і рызыкай, але і выбухамі, стралянінай, крывёй і смерцю... Гэта зусім не перабольшанне: так было на самой справе!

Ён перавёў дыханне, на імгненне задумаўся...

— Аднак я ніколькі не шкадую аб тым часе, бо, паверце, шчыра ганаруся, што, будучы зусім маладым чалавекам, выбраў адзіна правільны шлях і ў меру сваіх магчымасцей змагаўся з акупантамі і іхнімі прыслужнікамі за нашу свабоду і незалежнасць...

Я ведаю: Мікалай Аляксандравіч надзвычай уважліва сачыў, сочыць і будзе сачыць за ацэнкамі і высновамі аб падзеях Вялікай Айчыннай. І трэба бачыць, якім гневам, праведным і спаўна абгрунтаваным, пачынаюць бліщчэць яго вочы, калі ён разважае аб наступным:

— Сцвярджэнні асобных пісак, што ў Беларусі падчас вайны ішла грамадзянская вайна, не маюць аніякіх падстаў. Грамадзянская вайна ідзе паміж грамадзянамі адной краіны, пры адсутнасці акупантаў. А калі народ змагаецца супраць прыгнятальнікаў сваёй Бацькаўшчыны, — гэта зусім іншае. Кожны чалавек у такой барацьбе — патрыёт. А служкі прыгнятальнікаў — здраднікі!

...Адзін пералік яго ваенных узнагарод — два ордэны Айчыннай вайны, два — Чырвонай Зоркі, медалі «Партызану Айчыннай вайны І ступені», «За ўзяцце Берліна» і «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне» — сведчаць, што ў партызанскіх лясах і вайсковых акопах 18—22-гадовы патрыёт Мікалай Барысевіч не адседжваўся, а насмерць змагаўся з акупантамі.

Змагаўся і, дзякуй Богу, выжыў, выстаяў, перамог. Чым насамрэч мае права не толькі даражыць, але і ганарыцца!

І ці толькі Ён мае тое права?! А мы — яго нашчадкі, спадкаемцы, паслядоўнікі? Няўжо «маем права» ахайваць, зневажаць, нарэшце — здзекавацца з той сапраўды святой і праведнай Справы, якой верай і праўдай (і ні пры чым тут ні так зв. савецкая ідэалогія, ні чые-небудзь «памкненні» з вышэйшага дзяржаўнага кіраўніцтва Савецкага Саюза перыяду 40-х гадоў!) служыў (ды не служыў, а праліваў за яе кроў!) такі вось Чалавек (а іх былі мільёны!), як Мікалай Барысевіч!

Ці патрэбны тут каментарый?!

## III

Вайсковая часць, у якой служыў Мікалай Барысевіч, знаходзілася на нямецкай зямлі да самага канца 1945-га. І толькі ў лістападзе надышла яго чарга на дэмабілізацыю. Камандзір падраздзялення маёр Бязрукаў не адзін раз гутарыў з маладым байцом:

— Ты, Барысевіч, не рабі прамашку. Ты — малады і ад прыроды здольны. Твой далейшы шлях — у ваеннае вучылішча. Скажам, у Смаленскае, дзе я табе

паспрыяю, даўшы характарыстыку-рэкамендацыю. Не рабі, Мікалай, глупства. Ідзі па вайсковай лініі, у цябе ўсё яшчэ наперадзе...

Аднак сяржант Мікалай Барысевіч гэтак жа настойліва, як прапаноўваў камандзір, ад яго парад ...адмаўляўся. «Фізмат і толькі фізмат!» — мроіліся, не давалі яму спакою, думкі.

Напрыканцы лістапада 45-га дэмабілізаваны воін Савецкай Арміі прыбыў у Мінск. Мікалай Барысевіч літаральна бягом накіраваўся ў БДУ. Пашанцавала: трапіў на аўдыенцыю да самага прарэктара універсітэта. Той уважліва выслухаў дэмабілізоўца, прапанаваў прывезці дакументы...

— 12 снежня я зноў з'явіўся перад прарэктарам, — успамінае Мікалай Аляксандравіч. — «Вы што, жартуеце?! — узрушыўся ён. — Ужо ж ідуць залікі за першы семестр, студэнты спаўна асвойваюць матэматычны аналіз, начартальную геаметрыю... Ідзіце на гістарычны, філалагічны факультэты...» Але я, што называецца, таксама быў не лыкам шыты. І прапанаваў прарэктару кампраміс: маўляў, давайце паспрабуем, калі не спраўлюся, адлічыце...

Учарашні вайсковец справіўся і з гэтым, першым грамадзянскім, выпрабаваннем. Засеўшы за падручнікі на дні і ночы, першы курс фізмата БДУ ён закончыў па сутнасці экстэрнам...

Наступныя чатыры гады вучобы на фізіка-матэматычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта Мікалай Барысевіч пастаянна атрымліваў павышаную, так званую сталінскую, стыпендыю...

Гэтаксама, як і дзесяцігодку, універсітэт ён закончыў з адзнакай.

— Вучоба, спецыяльныя фізіка-матэматычныя дысцыпліны мяне захапілі спаўна, — працягвае ён. — З'явілася зусім не вядомае раней, нейкае неўтаймоўнае жаданне-прага да новых ведаў. Аднак я разумеў, што атрымаць іх ва ўмовах тагачаснай Беларусі нерэальна: не хапала ні спецыялістаў — у рэспубліцы не было ніводнага доктара фізіка-матэматычных навук, ні эксперыментальнай базы, ні абсталявання...

У Белдзяржуніверсітэце, дзе малады спецыяліст быў пакінуты на працу, усё гэта выразна бачылі і разумелі. І, нягледзячы на цяжкасці з фінансаваннем, там знайшлі магчымасць накіраваць маладога навукоўца Мікалая Барысевіча на вучобу ў аспірантуру Ленінградскага дзяржаўнага аптычнага інстытута імя С. Вавілава.

У 1954-м ён вярнуўся ў Мінск, у тагачасны Інстытут энергетыкі Акадэміі навук Беларусі, кандыдатам фізіка-матэматычных навук.

— У той час Акадэмію навук узначальваў вядомы біёлаг, чалавек незвычайнага лёсу Васіль Феафілавіч Купрэвіч, — гаворыць Мікалай Аляксандравіч. — Гэта быў вялікі вучоны і неўтаймоўны арганізатар навукі. У свой час у Мінску ў Інстытуце біялогіі ён закончыў аспірантуру, але потым апынуўся ў Ленінградзе, дзе падчас Вялікай Айчыннай вайны абараніў доктарскую дысертацыю. Пасля вайны аб ім успомнілі, запрасілі на малую радзіму, і Васіль Феафілавіч, вярнуўшыся, на працягу 17 гадоў узначальваў Акадэмію навук Беларусі. Менавіта пад яго кіраўніцтвам і пры самым актыўным удзеле пачаўся бурны рост як самой акадэміі, так і яе навукова-тэхнічнага патэнцыялу. Пры Купрэвічу, дзякуючы ягоным неверагодным намаганням, былі створаны новыя акадэмічныя інстытуты: фізікі і матэматыкі (яны неўзабаве сталі самастойнымі), генетыкі і цыталогіі, цепла- і масаабмену, ядзернай энергетыкі, тэхнічнай кібернетыкі і іншыя. З навуковых устаноў Масквы і Ленінграда ў Беларусь на працу і сталае жыхарства пераехалі фізікі М. Ельяшэвіч, М. Сірата, Б. Сцяпанаў, матэматыкі М. Яругін і В. Крылоў, спецыялісты ў галіне тэхнікі і энергетыкі А. Красін, А. Лыкаў, В. Севярдзенка і іншыя, якія неўзабаве былі абраны акадэмікамі. Яны праславілі нашу рэспубліку на ўвесь навуковы свет.

Паступова, крок за крокам, у іхнія рады ўваходзіў і ён — Мікалай Барысевіч.

## IV

Менавіта тады, у сярэдзіне 50-х гадоў, у нашай рэспубліцы надзвычай імкліва і шырокае развіццё набылі новыя накірункі навукі: генетыка і мікрабіялогія, кібернетыка і электроніка, вылічальная матэматыка і лазерная фізіка... Дзякуючы стварэнню і пашырэнню новых галін прамысловасці — перш за ўсё радыёэлектронікі і прыборабудавання, рос і павялічваўся вытворчы патэнцыял Беларусі ў цэлым, рэспубліка ўпэўнена выходзіла на вядучыя пазіцыі ва ўсёй тагачаснай савецкай эканоміцы.

...У 1969-м яго Вялікасць Лёс вылучыў на ролю аднаго з галоўных арганізатараў і кіраўнікоў гэтых насамрэч маштабных пераўтварэнняў у беларускай навуцы і тэхніцы менавіта яго — Мікалая Аляксандравіча Барысевіча.

Ужо 14 гадоў — з 1955-га — ён з’яўляўся намеснікам дырэктара Інстытута фізікі і матэматыкі (з 1959 года — Інстытута фізікі) Акадэміі навук, загадчыкам адной з лабараторый, што займалася распрацоўкай праблем вялікай дзяржаўнай важнасці і значэння. У саставе дэлегацый СССР і Беларусі Барысевіч шматкрат выязджаў на міжнародныя навуковыя форумы па атамнай энергіі — перш за ўсё пад эгідай Міжнароднай арганізацыі па мірным выкарыстанні ядзернай энергіі (МАГАТЭ) і малекулярнай спектраскапіі: у Аўстрыю, Чэхаславакію, Швейцарыю, Венгрыю, ГДР, Іспанію, Польшчу... У 1964 годзе ён бліскуча абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара фізіка-матэматычных навук на тэму: «Даследаванне ўзбуджаных станаў складаных і паўскладаных малекулаў у газавай фазе», а праз два гады быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук рэспублікі. Гэта было першае вялікае прызнанне яго заслуг як вучонага.

— Наколькі нечаканым стала вылучэнне маёй кандыдатуры на пасаду прэзідэнта Акадэміі навук? — перапытвае мой суразмоўца. — Скажу шчыра: было вельмі нечаканым. За тры месяцы да таго я стаў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі. І тут паўстала пытанне аб выбранні новага прэзідэнта... У акадэміі мяне ведалі — і не толькі навукоўцы з інстытутаў фізічнага, матэматычнага, хімічнага профіляў, але і з гуманітарных устаноў. Зайшоў аднойчы да мяне акадэмік Мікалай Паўлавіч Яругін і прама сказаў: «Мікалай Аляксандравіч, мы вас добра ведаем, вам гэта па сілах, вы зусім малады: вам усяго ж толькі 49 гадоў...»

— Мікалай Паўлавіч, — перапыніў яго Барысевіч, — мне сорак пяць, толькі вы нікому пра гэта не кажыце...

Тады «такі» ўзрост для «такой» пасады, як кіраўнік Акадэміі навук, і сапраўды быў ледзь ці не юначы...

За Мікалая Барысевіча, толькі напярэдадні абранага акадэмікам, падчас выбараў на пасаду прэзідэнта Акадэміі навук прагаласавалі надзіва дружна і арганізавана: усяго тры правадзейныя члены АН БССР амаль з 70 галасаваўшых былі супраць!

## V

— Навука ў цэлым, яе прадстаўнікі — навукоўцы ў той час карысталіся ў нашым грамадстве неверагодна вялікай павагай і аўтарытэтам. — У голасе Мікалая Аляксандравіча я адразу ж адчуў нейкія ноткі смутку і скрухі па тых, ранейшых, гадах. — Была добрая заработная плата, высока ацэньваліся навуковыя адкрыцці, вынаходствы, распрацоўкі. Не было праблем з жыллём... Ну а аб павелічэнні навукова-тэхнічных магчымасцей, паглыбленні патэнцыялу і пашырэнні вытворчых магутнасцей наогул не было размовы...

Новы прэзідэнт Акадэміі навук прадоўжыў, так бы мовіць, унутраную навуковую палітыку ў рэспубліцы, распачатую згаданым вышэй ягоным папярэднікам В. Купрэвічам. З «падачы» М. Барысевіча кіраўнікі Беларусі, і перш за ўсё першы сакратар ЦК КПБ Пётр Міронавіч Машэраў, падтрымлівалі і «прабівалі» ў Маскве шматлікія новыя ідэі і ініцыятывы. Яны былі ўзважаныя і рэальныя для

ажыццяўлення. У прыватнасці, прадоўжыўся працэс стварэння новых устаноў, і на навуковай карце Беларусі на працягу сямідзесятых-васьмідзесятых гадоў з'явілася яшчэ восем інстытутаў: геахіміі і геафізікі, фотабіялогіі, электронікі, біяарганічнай хіміі, заалогіі, радыёбіялогіі і інш.

Абгрунтаваць неабходнасць стварэння кожнай такой новай навукова-даследчай установы было справай няпростай і шматэтапнай. Ад навукоўцаў патрабавалі навізны, непаўторнасці, а іншым разам — і арыгінальнасці ў будучай рабоце.

— Развіцця і паглыблення навукова-тэхнічнага прагрэсу патрабавалі само жыццё, складаная і неадназначная міжнародная абстаноўка, унутрыгаспадарчая сітуацыя ў краіне ў цэлым і ў нашай рэспубліцы ў прыватнасці, — дзеліцца Мікалай Барысевіч сваімі згадкамі-развагамі. — Таму і ўзрасталі патрабаванні да Акадэміі навук, народная гаспадарка адчувала вострую неабходнасць у навінках навукі і тэхнікі. Стварэнне яшчэ васьмі новых інстытутаў у сістэме АН Беларусі, якія вы згадалі вышэй, я асабіста лічу адным са сваіх галоўных набыткаў на пасадзе кіраўніка акадэміі. І асабліва — утвораны ў 1987 годзе, неўзабаве пасля трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, Інстытут радыёбіялогіі...

Важнымі, востра неабходнымі момантамі ў тагачаснай дзейнасці Акадэміі навук стала і стварэнне пры многіх інстытутах, асабліва фізічнага і тэхнічнага профіляў, спецыяльных канструктарскіх бюро з вопытнай вытворчасцю. «За мінскай кальцавой дарогай, — успамінае Мікалай Барысевіч, — мы атрымалі 160 гектараў зямлі для будаўніцтва спецыяльнага акадэмгарадка. Там і ўзводзіліся новыя інстытуты, СКБ...»

Колькасны, а найперш — якасны рост акадэмічнай навукі спрыяў хуткаму фарміраванню ў нашай рэспубліцы шэрага навуковых школ, якія неўзабаве атрымалі прызнанне ва ўсім свеце. З гонарам сведчыць сёння Мікалай Аляксандравіч, што менавіта тады сусветным прызнаннем поспехаў нашых суайчыннікаў стала дасягненне імі вынікаў, што маюць у навуцы вышэйшы статус навуковай значнасці, — статус навуковых адкрыццяў. Іх аўтарамі сталі акадэмікі А. Ахрэм, В. Вацякоў, Ф. Фёдараў, а таксама ён — М. Барысевіч.

Нягледзячы на вялікую штодзённую арганізацыйную працу, Мікалай Аляксандравіч шмат увагі надаваў асабістай практычнай дзейнасці. Сапраўдны вучоны, ён разумеў, што адна справа — на словах заклікаць калег да пошукаў, няўхільнай работы, і зусім іншая — той самай справай, асабістай працай дасягаць практычных вынікаў, даказваць іх неабходнасць і значнасць усяму грамадству. Няпроста было рабіць гэта, сумяшчаць адміністрацыйную дзейнасць ледзь ці не са штодзённымі эксперыментамі і пошукамі непасрэдна ў лабараторыі, аднак акадэмік-практык, прэзідэнт-кіраўнік Акадэміі навук паспяваў і там, і тут, умеў практычна ўсё!

І вынікі, як кажуць у такіх выпадках, не прымусілі сябе чакаць.

У пачатку 70-х гадоў разам з В. Верашчагіным і іншымі сваімі вучнямі Мікалай Барысевіч вынаходзіць новыя аптычныя фільтры для інфрачырвонага спектра, наладжвае іх серыйны выпуск у Цэнтральным канструктарскім бюро з доследнай вытворчасцю Акадэміі навук Беларусі. Гэтых фільтраў выпускалі звыш 6 тысяч штук у год, а заказаў на іх было яшчэ больш: у прыборах, створаных на іх аснове і прызначаных для масавага спектральнага аналізу малекулярнага саставу і якасці розных рэчываў і вырабаў, мела патрэбу ўся краіна!

Дзяржаўная прэмія СССР 1973 года была для распрацоўшчыкаў гэтага фільтра заслужанай і высокай узнагародай.

А за стварэнне новага навуковага накірунку — спектраскапіі свабодных складаных малекул — М. Барысевічу, Б. Непарэнту, В. Грузінскаму і В. Талкачову ў 1980 годзе была ўручана высокая ўзнагарода — Ленінская прэмія.

За перыяд работы Мікалая Аляксандравіча Барысевіча на пасадзе прэзідэнта Акадэмія навук Беларусі набыла сапраўдны росквіт, стала адным з буйнейшых навуковых цэнтраў тагачаснага Саюза ССР. Агульная колькасць супрацоўнікаў

павялічылася больш чым у два разы, пры гэтым кандыдатаў і дактароў навук стала больш у 2,7 раза. Сам прэзідэнт выхаваў каля 40 кандыдатаў навук, 10 яго вучняў сталі дактарамі фізіка-матэматычных навук, двое — акадэмікамі. На базе створанай ім лабараторыі ў Інстытуце фізікі сфарміраваліся чатыры новыя лабараторыі, якія сёння з поспехам працуюць па новых, самых сучасных накірунках фізічных і матэматычных даследаванняў. За той жа перыяд — 1971—1986-я гады — вучоныя Акадэміі навук Беларусі атрымалі дзве Ленінскія прэміі, 14 Дзяржаўных прэмій СССР, 43 Дзяржаўныя прэміі Беларусі, 19 прэмій Ленінскага камсамола... За поспехі ў развіцці навукі, эканомікі і культуры, падрыхтоўцы высокакваліфікаваных навуковых кадраў Акадэмія была ўганаравана ордэнамі Леніна (1978 год) і Дружбы народаў (1975).

— Такія прэміі, дзяржаўныя ўзнагароды ў той час, як кажуць, за прыгожыя вочы не давалі! — цвёрда перакананы і сёння Мікалай Аляксандравіч Барысевіч.

І з ім сапраўды нельга не пагадзіцца!

## VI

— Навука ніколі не стаяла, не стаіць і не будзе стаяць на месцы, — услых разважае зараз Мікалай Аляксандравіч. — Яна патрабуе пастаяннага развіцця і росту. Тое, што пяць гадоў назад было навінкай, ужо сёння становіцца звычайным, з'яўляецца не навуковай праблемай, а штодзённай з'явай. Гэта ж адбылося, напрыклад, з лазерам. Акадэмікі Басаў і Прохараў першымі ў свеце адкрылі яго (дарэчы, першапачаткова ён называўся не лазер, а мазер), сталі лаўрэатамі Нобелеўскай прэміі, а неўзабаве іншыя вучоныя на іншых рэчывах і іншымі метадамі атрымалі лазернае выпраменьванне... Мы ў Інстытуце фізікі Акадэміі навук Беларусі таксама не спалі ў шапку: займаліся і оптыкай, і выпраменьваннем, і люмінесцэнцыяй. І дасягнулі вялікіх поспехаў...

Упэўнены акадэмік Барысевіч і ў вялікай будучыні беларускай нацыянальнай навукі. Ён верыць, што, нягледзячы на дыскусію ў цяперашнім нашым грамадстве, Нацыянальная Акадэмія навук будзе захавана як адзіны галоўны, каардынуючы цэнтр яе развіцця і ўдасканалення:

— Пасля вядомых падзей канца 80-х—пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ўсё было разбурана і раскрадзена, наша акадэмія нарэшце стала на ногі. Усё больш і больш паглыбляюцца і пашыраюцца яе сувязі з вытворчасцю, з практыкай, — гаворыць ён, — выхоўваюцца і растуць новыя маладыя таленавітыя кадры. Асноўныя намаганні вучоных свету ў апошнія гады накіраваны на даследаванні нанаструктур і распрацоўку нанатэхналогій, стварэнне новых матэрыялаў, што дазволіць далей развіваць электроніку, іншыя сучасныя галіны ведаў, а таксама на развіццё навук аб Жыцці: біяхіміі, біяфізікі, генетыкі, медыцыны... Ну і вядома ж — фізіка, матэматыка. Ва ўсім гэтым мы, беларускія вучоныя і даследчыкі, можам і павінны зноў і зноў праявіць сябе! А зрабіць гэта можна толькі, вобразна кажучы, пад дахам Акадэміі навук...

* * *

Вось такі ён, Мікалай Барысевіч: наш сучаснік, Чалавек і Вучоны. Сёння, як і ўчора, і пазаўчора, ён на рабочым месцы: у Прэзідыуме НАН Беларусі ці ў адной з лабараторый Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Акадэміі навук, якую, дарэчы, Мікалай Аляксандравіч узначальвае роўна 50 (!) гадоў...



## Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ:

# «Я ЗАЎСЁДЫ ІДУ АД ФАКТА...»

**26** снежня 2007 года спаўняецца 70 год з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка, доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзіміра Васільевіча Гніламёдава. Уладзімір Васільевіч належыць да тых айчынных даследчыкаў, тэарэтыкаў і гісторыкаў літаратуры, якія сваёй карпатлівай, ахвярнай працай на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў закладвалі фундаментальныя асновы, духоўна-метадалагічныя прынцыпы развіцця сучаснай беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Яго манаграфіі «Традыцыі і наватарства» (1972), «Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Ля аднаго вогнішча» (1984), «Іван Мележ: нарыс жыцця і творчасці» (1984), «Класікі і сучаснікі» (1987), «Праўда зерня: творчы партрэт Васіля Зуёнка» (1992), «Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію» (2001), «Янка Купала: жыццё і творчасць» (2002) і іншыя прысвечаны вывучэнню самых складаных і актуальных праблем гісторыі беларускай нацыянальнай літаратуры. Яны ўражваюць багаццем факталагічнага матэрыялу, смеласцю і арыгінальнасцю тэарэтыка-метадалагічнага мыслення, аналітычным асэнсаваннем ідэйна-мастацкіх з'яў, падкрэсленай важкасцю ацэнак і заключэнняў. Мы ведаем, даўняе імкненне таленавітага крытыка аператыўна і аб'ектыўна рэагаваць на падзеі бягучага літаратурнага працэсу, здольнасць дзейсна ўплываць на яго развіццё заўсёды высока ацанілі і цэняць самі пісьменнікі, напрыклад, Максім Танк, Іван Мележ, Іван Шамякін, Іван Навуменка, Іван Чыгрынаў, Мікола Мятліцкі і іншыя.

Зусім нядаўна Уладзімір Гніламёдаў заявіў пра сябе і як выдатны празаік, аўтар цікавых і пазнавальных раманаў «Уліс з Прускі», «Усход», «Вяртанне» і інш. На першым рэспубліканскім конкурсе па выяўленні лепшых літаратурных твораў, які праводзіўся ў рамках Дня беларускага пісьменства-2007, яго раман «Уліс з Прускі» (Мінск: Мастацкая літаратура, 2006) заслужана адзначаны першай прэміяй у галіне прозы.

Акадэмік У. В. Гніламёдаў з'яўляецца таленавітым педагогам, кіраўніком аспірантаў, мудрым выхавацелем літаратурных кадраў. Стасункамі з ім, дачыненнямі да яго каларытнай і шматграннай асобы сёння ганарацца многія кандыдаты і дактары навук, якія на розных этапах сваіх навуковых пошукаў і прафесійнага станаўлення спазналі высокую настаўніцкую сілу яго памочлівага слова і чулай падтрымкі. Ён нікому не шкадуе зычлівасці і дабрыні, заўжды выпраменьвае лагоду, цеплыню і шчырадушнасць, умее падбадзёрыць чалавека, удыхнуць у яго жыццядайныя імпульсы спакаю, раўнавагі, веры і аптымізму, настроіць на выніковую, прадуктыўную працу.

Уладзімір Васільевіч — глыбокі філосаф, мудры жыццялюб, светлая, дасціпная, пяшчотная душа, тонкі, адмысловы смакун высокай эстэтыкі чалавечага духу. Усё гэта добра пацвярджае наша гутарка, асобныя старонкі якой прапануюцца чытачам «Полымя».

*— Уладзімір Васільевіч, як жывецца на парозе свайго 70-годдзя чалавеку, які ўсяго сябе прысвяціў справе служэння роднай літаратуры? Што вам падымае настрой, надае смаку да жыцця, натхняе на творчасць?*

— Дзякуй за пытанне, Мікола Уладзіміравіч. Мне хацелася б крыху падправіць ваш высокі стыль, як бы паднізіць яго. Я не толькі служу роднай літа-



ратуры, роднаму інстытуту і роднай краіне, але, як і кожны чалавек, люблю жыццё, люблю жыць. Мае паводзіны і ўчынкі кантралюе думка аб тым, што жыць даводзіцца толькі адзін раз — другой магчымасці не будзе. А калі так, то ты павінен увесь час шукаць нейкія стымулы, цікавае ўспрыманне жыцця, імкнуцца да радасці ад сустрэчы з людзьмі, з пэўнай парой года, прыродай, сонцам, ветрам, дажджом. За ўсё сваё некароткае жыццё я выпрацаваў у сабе якраз такі характар светаўспрымання, такія адносіны да людзей, з'яў і прадметаў, калі хочаце, такую філасофію. Давялося зразумець, што з узростам многае змяняецца, беззваротна адыходзіць у мінулае, але і з'яўляюцца новыя жыццёвыя стымулы, якія нясуць задавальненне, падымаюць настрой, абуджаюць душэўныя і творчыя сілы, як бы мацуюць цябе духоўна. Калі я быў малады, натуральна, сённяшні ўзрост мне быў незнаёмы і незразумелы. Маладому чалавеку — нават самаму ўдумліваму і пранікліваму — цяжка ўявіць і прадбачыць, што такое старасць, якія яе адчуванні, беды і радасці. А калі сутыкаешся з ёю насамрэч, то ўсведамляеш, што адно можа ўстрывожыць і засмуціць, а другое, наадварот, узрадаваць і абнадзеіць.

Калісьці я гартаў альбом знакамітага мастака Рэмбранта, які пакінуў пасля сябе шмат аўтапартрэтаў. Яго спадчына вельмі багатая, мы знойдзем у ёй і біблейскія сюжэты, і побытавыя, і карціны прыроды, але, па-мойму, больш за ўсё ён працаваў у гэтым жанры. Жанр аўтапартрэта Рэмбрант вёў з маладосці да старасці, уважліва назіраючы за сабой, за тымі зменамі, якія адбываліся ў яго знешнім і ўнутраным абліччы. На твары становіцца ўсё больш і больш маршчын, неяк вузеюць, меншаюць вочы.

Мяне здзівіў і ўразіў адзін з самых апошніх аўтапартрэтаў Рэмбранта, на якім ён — стары, шчарбаты і ўсміхаецца. Якраз скрозь усмешку і відаць, што ён шчарбаты. Рэмбрант смяецца сваім шчарбатым ротам... Гэта такая загадкавая ўсмешка. Можа, такой жа самай загадкавасці і значнасці, як усмешка Моны Лізы Леанарда да Вінчы.

Гэтая ўсмешка шчарбатага Рэмбранта мяне аж скаланула...

Таму не трэба крыўдаваць на ўзрост, на старасць — дай Бог кожнаму да яе дажыць. Дзякуй Богу, што Ён абярог цябе, абараніў, даў магчымасць дайсці да гэтага перыяду, дацягнуць да старасці. Усміхайся, як Рэмбрант, сустракай маладое пакаленне, як пісаў, памятаеце, Пушкін: «Здравствуй, племя младое, незнакомое...» У гэтым пакаленні ў чымсьці і сябе маладога пазнаеш, а штосьці бачыш і новае, незнаёмае. Словам, жыццё застаецца цікавым і на парозе сямідзесяцігоддзя.

*— Здаецца, Віктар Шклоўскі заўважыў: «Талент ёсць адчуванне часу». Што б вы маглі сказаць пра час, у якім вам выпала жыць і працаваць?*

— Віктар Шклоўскі быў чалавекам таленавітым, дасціпным, з вострым, парадаксальным мысленнем. Іншы пісьменнік з яго пакалення Веніямін Каверын прысвяціў яму свой раман «Скандаліст з Васільеўскага вострава». Для тых, хто цікавіцца 20-мі гадамі ў развіцці савецкай літаратуры, гэта вельмі адметны і паказальны твор. Адчуванне часу — добрае адчуванне, але варта памятаць, што не мы выбіраем час, а ён выбірае нас. Час — ці назавіце гэта — эпоха, лёс, неяк яшчэ — выбірае нас і будуе лінію нашага жыцця, жыцця грамадства, цэлых краін і кантынентаў. Паглядзіце, сёння сярод нас жывуць магутныя, аўтарытэтныя палітыкі, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы, дужыя, уплывовыя людзі, але законы дыктуюць не яны, іх усталёўвае час. Ён распараджаецца, каму, як і колькі жыць, якому быць чалавеку і свету, куды заўтра павярнуць сацыяльныя працэсы — улева, управа ці

некуды яшчэ. Ва ўсякім выпадку, я лаўлю сябе на такой містычнай думцы. Можа, яна не ва ўсім абгрунтаваная, але часам падпільноўвае мяне.

Нас выбірае час, і ён нас ужо аднойчы выбраў — калі мы былі маладыя. Наша пакаленне называюць пасляваенным, сярэднім, філалагічным. Думаю, галоўнае мы ўжо зрабілі і сёння з'яўляемся людзьмі з мінулага. І не трэба засмучацца такой дэфініцыі. Катэгорыя «чалавек з мінулага» з'яўляецца ў пэўным сэнсе катэгорыяй імперфект, але яна не страціла сваёй актуальнасці і значэння. Гэта цікавая катэгорыя, якая напоўнена ёмістым зместам, валодае багатым гістарычным вопытам і здольна перадаць яго наступным пакаленням — нашчадкам, моладзі. Як бы некаторым з нас ні хацелася зноў ступіць у раку часу — не атрымаецца, гэта ўжо не наш час. Наша рака недзе дасягае акіяну і раствараецца ў водах, якія атуляюць увесь зямны шар. Няхай у кожнага будзе свая роля, сваё месца ў жыцці і свой час. Трэба цаніць і паважаць сённяшняе маладое пакаленне, не ісці з ім у рожкі, а імкнуцца падтрымаць яго на добрых пачатках. Тады і яно лепш зразумее нас.

*— Што вам прыходзіць на памяць з дзяцінства?*

— Старасць — гэта той узрост, для якога дзяцінства становіцца асабліва блізкім і зразумелым. Нездарма пра пажылога чалавека часам пачуеш: здзяцінеў на старасці. Цяпер дзяцінства часцей усплывае ў маёй свядомасці, прычым лепшымі, светлымі бакамі і якасцямі, часцей асэнсоўваюцца яго асобныя моманты і параметры. Я ўспамінаю гульні, у якія мы, вясковыя пастушкі, гулялі: пікар, чыжык, хованкі, розныя забавы з мячом — не надуўным, а з шэрсці. Гэта былі гульні дзяцей перыяду існавання Вялікага княства Літоўскага і ранейшых часоў.

Маё дзяцінства прыпала на гады вайны, з 1941 па 1944 год я знаходзіўся ў акупацыі. Тады ўсімі намі валодала пачуццё страху. Калісьці прызнавацца ў гэтым было няёмка, лічылася, што мы, савецкія людзі, з'яўляемся людзьмі гераічнага светаўспрымання і характару. Мы баяліся небяспекі, немцаў, нямецкай адміністрацыі, якая магла зрабіць з намі ўсё, што хацела. Ну і з лесу прыходзілі людзі — таксама не заўсёды лагодныя, хутчэй наадварот. Вядома, там быў снег, холад, мароз, не хапала прадуктаў харчавання, вопраткі і г. д. Але сяляне — людзі небагатыя, хто з іх меў пяць кажухоў? — звычайна адзін. Але даводзілася здымаць і яго, падтрымліваць лясных братоў.

Успамінаюцца нашы гульні і забавы, аблiччы сяброў, клопаты і праблемы. Я вам скажу, гэта такая пазітыўная, дабратворная энергетыка, якая сілкуе жыццё ў старасці, нездарма пісьменнікі вельмі часта звяртаюцца да дзяцінства, да яго адчуванняў і перажыванняў. Бліжэй да старасці ахвотна пісалі пра дзяцінства многія беларускія, рускія, польскія і іншыя аўтары.

Паміж пастухамі розных вёсак здараліся спрэчкі і бойкі. Для гэтых боек мы спецыяльна рыхтавалі такія замашныя бярозавыя кіі. Я быў маладзейшы за сваіх сяброў-пераросткаў і не мог далёка і дакладна кінуць кій, каб трапіць ім у праціўніка (ды неяк і пабойваўся гэтага), дык мне не давяралі кідаць, адвёўшы ролю своеасаблівага падносчыка. У старажытналітоўскім войску кожны воін меў сваё, трывала замацаванае, месца ў страі, кожны з іх ведаў, чым ён павінен займацца падчас небяспекі і бою. Хто быў стралком, лучнікам, хто мечнікам, і г. д. Нешта падобнае назіралася і ў нас.

*— Уладзімір Васільевіч, у вашым жыцці, як і ў жыцці кожнага ці амаль кожнага чалавека, я мяркую, былі каларытныя, аўтарытэтныя асобы, якім вы шмат чым абавязаны. Хто яны? Хто аказаў самы значны ўплыў на ваша станаўленне і развіццё як крытыка і літаратуразнаўцы?*

— Я нарадзіўся і жыў у дзедавай хаце і застаўся там, з дзедам і бабаю, калі ад іх аддзяліліся мае бацькі. Дзед і баба — мае духоўныя бацькі, яны мяне выхоўвалі, і я ім за гэта бясконца ўдзячны. Усім, што маю, я абавязаны ім. Калі ўспамінаю іх, дык часам і слязу змахну — дужа нялёгкім і клопатным было іх жыццё.

Дзед і баба любілі сваю працу, сваю гаспадарку, вёску, і гэта іх трымала на свеце. Я, калі бываю ў сваім Кругелі, дык абавязкова наведваю іх магілы, як і магілы іншых родзічаў і аднавяскоўцаў. Мінула шмат часу, як яны пайшлі ў лепшы свет, але пачысціш, пратрэш травою надмагільныя помнікі, і становяцца выразнымі надпісы, а за імі — дарагія аблічча...

— *У якім годзе яны памерлі?*

— Бабы Фёклы не стала ў 1959 годзе. Ранняй восенню мяне забралі ў армію, а яна памерла недзе позняй восенню. Яна вельмі любіла мяне, перажывала, што мне там кепска, цяжка, трывожылася за маё здароўе, хоць для гэтага і не было вялікіх падстаў. Ну, а тады армія звязвалася яшчэ і з вайною. Усё гэта на яе, канечне, паўплывала.

Дзед Лявон перажыў бабу, нават паспеў яшчэ раз ажаніцца. Трэба сказаць, ён жыў добра і з другою жонкаю.

— *Ці адпусцілі вас з арміі на пахаванне бабулі?*

— На жаль, мне вельмі позна паведамілі, што яна памерла. Я ўжо зімой узяў адпачынак, прыехаў... Хацелася пабыць на яе магіле, убачыць дзеда Лявона. Вельмі добра помню тыя мінуты і сёння. Ну, але такое жыццё. Час лечыць душэўныя раны.

Чалавек павінен быць удзячны ўсім, хто рабіў яму дабро. Гэта ўзбагачае яго духоўна, робіць шчырым, сумленным і высакародным. Нашы людзі разумеюць дадзеную акалічнасць, чаму не ў малой ступені дапамагае і рэлігія, царква, касцёл. Сёння мы значна глыбей успрымаем усё, чым пры савецкай уладзе. Тады мы мыслілі аднaлінейна, імкнуліся да канкрэтных каштоўнасцей.

Я добра памятаю тых людзей, якія ў розныя часы падтрымалі мяне і маральна, парадамі, і практычна. Найперш хачу назваць Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Ён не толькі выдатна выкладаў літаратуру, але і быў здольны на блізкую, шчырую, адкрытую гутарку. Мне зараз прыгадваецца аповесць Горкага «Мае універсітэты», дзе ён апісвае сваё дзяцінства, падлеткавы ўзрост, юнацтва. Там ён выказвае ўдзячнасць людзям, настаўнікам, якія вучылі яго жыццю, раілі, як паводзіць сябе ў тых ці іншых абставінах і сітуацыях. Я ўжо не помню, хто казаў яму: «Горек будешь — расплюют, сладок будешь — расклюют...» Горкі гэта і многае іншае запомніў. Нешта падобнае даводзілася чуць мне ад Калесніка: «Калі ты гаворыш з кім-небудзь адным, то можаш быць шчырым да канца, а калі ўжо вас трое, то асцерагайся, бо пасля да цябе могуць быць розныя прэтэнзіі і прыдзіркі». Дужа каштоўная парада чалавека, які прайшоў партызанку, не раз быў на валасок ад смерці, пра што мы даведаліся ў тым ліку і з яго кнігі «Доўг памяці». Вельмі глыбокай, змястоўнай, вынашанай кнігі мемуараў, якая ўздымаецца да «Былога і думаў» Герцэна.

Я вельмі ўдзячны Рыгору Саламонавічу Бярозкіну — глыбокаму, мудраму беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу. У яго быў свой метад, сваё патрабаванне, якое заключалася ў тым, што ў паэзіі нельга хлусіць, сцвярджаць, прапагандаваць тыя ісціны, у якія ты, аўтар, сам не верыш. А гэта ж было тады вялікай праблемай. Паэты натхнёна пісалі пра партыю, Сталіна, камунізм, але калі пагаворыш з імі, то высвятлялася, што не кожны з іх верыў у тое, пра што пісаў. Бярозкін лічыў, што пісаць трэба пра тое, што ты ведаеш, што з'яўляецца табе блізкім, у чым ты ўпэўнены. Я намагаўся вывучаць асновы яго метаду і выкарыстоўваць у сваіх працах.

У першай палове 70-х гадоў я працаваў у ЦК КПБ, і было мне там часам вельмі нялёгка. Разам з тым я не мог, як у звычайнай установе, падаць заяву, звольніцца і перайсці ў іншае месца. Работнік ЦК, партыйная наменклатура, абавязаны выконваць распараджэнні партыйнага кіраўніцтва. Сёння ты з'яўляешся дырэктарам лазні, а заўтра цябе могуць прызначыць дырэктарам тэатра. Бярозкін бачыў мае цяжкасці і аднойчы кажа: «Валодзя, чаго ты баішся, а калі і без работы будзеш. У цябе на руках ёсць фах, ты заўсёды сябе пяром пракорміш. Ты можаш пісаць артыкулы, рэцэнзіі, умееш аналізаваць мастацкі твор, літаратурны працэс. Газет шмат, часопісаў даволі — чаго ты баішся?..»

Бярозкін працаваў тады ў «ЛіМе», галоўным рэдактарам якога быў Нічыпар Пашкевіч. Пашкевіч пакідаў сваю пасаду, а той, хто ішоў на яе, папрасіў яго звольніць людзей, якіх ён некалі браў на працу. Сярод звольненых аказаўся і Рыгор Саламонавіч. Я спрабаваў дапамагчы яму знайсці новую працу, але нічога не атрымлівалася, пакуль у гэтую сітуацыю не ўмяшаўся Аркадзь Куляшоў. Ён пагаварыў з самім Машэравым, і неўзабаве Бярозкіна ўладкавалі адказным сакратаром толькі што ўтворанага бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Бярозкін шмат мне расказваў пра сваё жыццё, свой лёс, сваю долю. Ён быў вельмі цікавым, глыбокім чалавекам, зведаў рэпрэсіі, многае перажыў. У 1938 годзе яго, студэнта педінстытута, забралі прама з цягніка, на якім ён вяртаўся, здаецца, з Беластока. Бярозкін прайшоў вайну ад Сталінграда да Берліна, узнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі. Ну, але яго жыццёвая доля была спалучана з місіяй крытыка. А пісьменнікі нас, крытыкаў, не вельмі шануюць. Калі яшчэ хваліш яго, дык нічога, і то, хвалі яго, а другога не, а калі робіш нейкія, нават бяскрыўдныя, заўвагі...

Я вельмі ўдзячны Саюзу пісьменнікаў, таму саюзу, які існаваў пры савецкай уладзе. Да мяне добра ставіліся і старшыня Максім Танк, і першы сакратар Іван Шамякін, і сакратары Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў, Анатоль Грачанікаў, Віктар Рабкоў, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак. Усіх іх я ўспамінаю з вялікай цеплынёй і павагаю.

*— Уладзімір Васільевіч, вы з'яўляецеся аўтарам грунтоўных манаграфічных прац, прысвечаных даследаванню тэарэтычных асноў праблемы традыцый і наватарства ў беларускай паэзіі, складанага ўзаемадзеяння творчай індывідуальнасці і літаратурна-мастацкага працэсу, асэнсаванню асаблівасцей жыцця і творчасці Янкі Купалы, гістарычнага развіцця беларускай паэзіі ад старажытнасці да нашага часу і інш. Над якімі з іх вам працавалася лягчэй, а над якімі — цяжэй? Чаму? Якіх асноўных прынцыпаў і палажэнняў прытрымліваецеся вы пры аналізе мастацкага твора, творчасці пісьменніка, літаратурнага працэсу?*

— Цяжэй мне працавалася над артыкуламі і манаграфіямі, як кажуць у нас на Брэстчыне, за савецкім часам. Значна лягчэй — у перыяд вядомай перабудовы і пазнейшыя гады, і зразумела чаму. Там я быў рэгламентаваны жорсткімі патрабаваннямі савецкай метадалогіі, прынцыпамі сацыялістычнага рэалізму. Ну вось пішаш у часе застою пра традыцыі і наватарства, а наватарства фактычна няма, усе «зверху» настроены супраць яго. Але ж пісьменнік, літаратура пастаянна шукаюць новага, імкнуцца да наватарства. І вось спалучыць гэтыя два пачаткі, традыцыю і сучаснасць, было надзвычай складана. Мае кнігі «Янка Купала: новы погляд», «Ад даўніны да сучаснасці» і некаторыя іншыя ў тую пару проста не маглі выйсці.

Працуючы ў Інстытуце літаратуры, я займаўся тым, чым скажуць, што даручаць, бо гэта дзяржаўная навуковая ўстанова. Тут хочаш не хочаш, а павінен падымаць тыя тэмы, якія з'яўляюцца актуальнымі і важнымі. Ужо ў другой палавіне 80-х гадоў мы імкнуліся спалучаць стары савецкі ідэйны змест з агульначалавечым пачаткам. Усё жыццё чалавека цікавае і каштоўнае, нават і тады, калі ён думае не пра грамадскае і гераічнае, а пра сваё, асабістае. Што датычыць майго індывідуальнага метаду, дык я заўсёды імкнуўся спалучаць гістарычнае з тэарэтычным, пранікнуць у абсягі эстэтычнага аналізу, паказаць адметнасць вобразнасці, вабнасць, прыгажосць, рэльеф мастацкага твора з тым, каб можна было палюбавацца той духоўна-эстэтычнай рэальнасцю, якая складае яго змест. Мне здаецца, што літаратурная крытыка каштоўная якраз гэтым, хоць, зразумела, важнымі з'яўляюцца і сацыялагічныя, і філасофскі, і маральныя ракурсы даследавання. Яна найперш павінна даць глыбокі эстэтычны аналіз твора, раскрыць усё індывідуальна-аўтарскае ў ім. Я, напрыклад, вельмі рады, што і сёння чытаюць маю кнігу пра Янку Купалу, якая выйшла гадоў два-

цаць таму, цікавяцца некаторымі іншымі працамі. Праўда, крыху ўстарэла кніга пра Мележа, хоць многае захавала сваю актуальнасць і, асабліва тое, што датычыць пачатку XX стагоддзя, нашай класікі. А захавала актуальнасць таму, што я звяртаў увагу на духоўны, эстэтычны вектар мастацкага твора, пошукаў пісьменніка.

*— А вы не збіраецеся кнігу пра Мележа дапрацаваць, падлепшыць і перавыдаць?*

— Такой настойлівай думкі ў мяне няма; я не ўпэўнены, што яе перавыданне істотна ўзбагаціць літаратуразнаўства. І тут мяне вучыць вопыт самога Івана Мележа: ён многа разоў перапрацоўваў свой раман «Мінскі напрамак», але першы варыянт твора ўсё роўна з'яўляецца лепшым. Гэта старое, як свет, правіла: два разы ў адну і тую ж раку ўвайсці нельга, тая вада ўжо паплыла. Фактычна другім «Мінскім напрамкам» стаў у Мележа раман «Людзі на балоце», дзе выявіўся новы жыццёвы і мастакоўскі вопыт пісьменніка, пра які Алесь Адамовіч заўважыў: «Вяртанне наперад». Вяртанне ў часы калектывізацыі стала для яго вяртаннем наперад.

Некаторыя аўтары захапляюцца перапісваннем, вяртаюцца да сваіх старых твораў, імкнуцца палепшыць іх. Максім Лужанін дык, відаць, усяго сябе перапісаў, пакінуўшы ранейшыя даты. Навошта?!. Навошта кранаць старое — пішы новыя, цікавыя шырокай грамадскасці творы.

*— А як здарылася, што вы напісалі кнігу «Іван Мележ: нарыс жыцця і творчасці»? Звычайна вы пісалі і пішаце пра паэтаў і паэзію...*

— Кнігу пра Мележа мне заказала выдавецтва «Народная асвета». Пісьменнік нечакана памёр у росквіце сваіх творчых сіл і магчымасцей, а мы з ім шмат сустракаліся, гаманілі на розныя тэмы. Ён быў сімпатычны мне сваёй чалавечай, духоўнай сутнасцю. Мележ шмат чытаў, думаў, ведаў многае з таго, чаго іншыя не ведалі, глыбока глядзеў у час і ў гэтым сэнсе з'яўляўся вельмі цікавай асобай. І вось так раптоўна памёр, дарэчы, вярнуўшыся з Ялты. А да гэтага быў на шостым з'ездзе пісьменнікаў СССР у Маскве, дзе і мне давялося прысутнічаць. Ежы Путрамент на гэтым з'ездзе нападаў на Шолахава, і Мележу хацелася абараніць свайго любімца. У памяць пра Івана Паўлавіча я і напісаў пра яго кнігу.

«Людзі на балоце», Чарнобыль, нукліды — трагічны лёс палескай зямлі, Хойніцкага, Брагінскага, Нараўлянскага раёнаў. Цяпер пра Мележа трэба пісаць скрозь прызму таго, што там адбылося і адбываецца ў наш час. Ставіць у заслугу пісьменніку яго вяртанне наперад сёння ўжо недастаткова.

*— Што вы можаце сказаць пра сучасны стан беларускага літаратуразнаўства? Якая яго роля і значэнне ў тых сацыякультурных працэсах, што адбываюцца?*

— Філолаг, літаратуразнаўца — адна з самых старажытных прафесій. Як толькі ўзнікла пісьменнасць — і не на паперы, а на гліне, папірусе, бяросце і інш. — адразу ж з'явіліся і каментатары, расшыфроўшчыкі, германеўтыкі, багасловы, тэолагі, якія пачалі вывучаць, асэнсоўваць літаратуразнаўчыя праблемы. З цягам часу гэта ператварылася ў цэлую свецкую навуку. І, несумненна, яна застанецца, як казаў Леў Аннінскі, застанецца нават тады, калі не будзе літаратуры, бо павінна будзе адказаць на пытанне: чаму няма літаратуры? Дарэчы, сёння наша айчынная крытыка і літаратуразнаўства павінны былі б адказаць на пытанне: чаму няма сучаснай беларускай літаратуры? Але нешта я не бачыў і не чытаў прац, у якіх бы яно ставілася. Ну, вядома, сучасная беларуская літаратура ёсць, але, паглядзіце, у якім яна стане...

Я вось разгарнуў сёмы том «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», на 973—979 старонках змешчаны артыкул Сяргея Аверынцава «Філалогія». «Адна з галоўных задач чалавека, — чытаем у ім, — зразумець іншага чалавека, не ператвараючы яго ні ў рэч, якая паддаецца «падліку», ні ў адлюстраванне ўласных эмоцый. Гэта задача стаіць перад кожным асобным чалавекам, але таксама перад

кожнай эпохай, перад усім чалавецтвам. Філалогія ёсць служба разумення і дапамагае выкананню гэтай задачы». Я вам скажу — выдатнае вызначэнне філалогіі і літаратуразнаўства. Каб яны паспяхова выканалі гэтую сваю місію, нам трэба глыбока зазіраць у мастацкі тэкст, у свет пісьменніцкага слова. На маю думку, многія прадстаўнікі маладзейшых пакаленняў беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў недастаткова зазіраюць у слова, недастаткова выпяраюць яго на смак і колер. Бывае, чытаеш працу — ідуць цэлыя абзацы агульшчыны, рыторыкі, цытат, а канкрэтнага, тым больш глыбокага, аналізу, разбору твора, яго зместу і формы няма. Гэта хвароба, бяда нашага сучаснага літаратуразнаўства. Няма, каб даследчык падзяліўся нейкай сваёй знаходкай, адкрыццём у пісьменніка цікавага мастацкага вобраза, сюжэтнага ходу і інш. Ну, а гонару ў многіх маладых крытыкаў шмат, ледзь не кожны з іх называе сябе брэндам. Але ці ёсць ён такі — я ў гэтым вельмі сумняваюся.

У незайздросным стане нашага сучаснага літаратуразнаўства на 50 працэнтаў вінаватыя самі літаратуразнаўцы, якія часта проста не ўмеюць пісаць змястоўна і цікава. Я чакаю, калі мне давядзецца змяніць гэтую сваю думку на лепшую, зразумела, пры наяўнасці дастатковых падстаў.

*— Уладзімір Васільевіч, але ж узровень развіцця навукі пра літаратуру залежыць ад узроўню самой літаратуры...*

— Вядома, залежыць, усё гэта звязана. Сёння беларуская літаратура развіваецца ў якасна новых, нязвыклых для яе рынычных умовах, калі з'явілася шмат альтэрнатыўных крыніц пазнання і асэнсавання жыцця і чалавека. Сучасны пісьменнік павінен ведаць і тое, што друкуюць газеты і часопісы, і тое, што публікуецца на інтэрнетаўскіх сайтах, і тое, што змяшчаюць даследаванні гісторыкаў, філосафаў, мовазнаўцаў, сацыёлагаў. Але галоўнае — мець талент, па-свойму, адметна глянуць на жыццё, падвергнуць сумненню, разбурыць нешта звыклае, традыцыйнае ва ўспрыняцці свету. Вось мы, чытачы, у нечым цвёрда перакананыя, а пісьменнік нам кажа: тое, у што вы верыце і што цэніце, выедзенага яйка не варта, і прапаноўвае сваю, індывідуальна-аўтарскую лінію бачання з'яў і прадметаў, працэсаў і рэчаў. Выйдзі вечарам на вуліцу, стань ля дрэва, памацай яго галіны, лісты, паглядзі на неба, на зоры, якія ўзышлі. Ці ведаеш ты вунь тую зорку, што яна з сабою нясе? Вось дзе энцыклапедыя, кніга прыроды, кніга быцця. Пісьменнік павінен весці за сабой чытача, нечым яго здзівіць, уразіць, усхваляваць, памяняць яго настрой да лепшага.

Канечне, літаратуразнаўства павінна ўмешвацца ў бягучыя сацыякультурныя працэсы ў плане сцвярджэння сістэмы сучасных жыццёвых каштоўнасцей. Яно мусіць клапаціцца аб тым, каб чалавек імкнуўся глыбей пазнаць сябе, сваю духоўную сутнасць, мусіць вучыць яго цнатлівасці, культуры, дабрыні, уменню цярпець і чакаць. Літаратуразнаўства — гэта своеасаблівы провад, які ідзе ад мастацкай літаратуры, яе пошукаў і здабыткаў да шырокага чытача, іх спажыўца. Чытач пазнаёміцца з творам і нечага не ўбачыць, часам нават самага галоўнага. А крытык яму давядзе: вось гэта паглядзі, на тое звярні ўвагу, пісьменнік панавому раскрывае наступную праблему, сцвярджае цікавыя і арыгінальныя ідэі. Павінна быць шчырая, зычлівая гутарка, адкрыты дыялог, без якога мы дарэшты замкнёмся ў сваім індывідуалізме. Індывідуалізм добры толькі да пэўнай мяжы, а калі ён ператварае чалавека ў нейкага анахарэта, адзіночку, то становіцца шкодным. Чалавек павінен гарнуцца да людзей, суседзяў, грамады, калектыву — такая дыялектыка жыцця на зямлі. Тут я згадваю думку сярэдневяковага мысліцеля, які адзначыў: «Калі я не за сябе, дык хто за мяне? Але калі я толькі за сябе, дык навошта я...» Сказана правільна.

Літаратуразнаўства павінна ствараць базу дадзеных па сваім навуковым профілі, рыхтаваць для дзяржавы звесткі пра тое, што чытаецца, карыстаецца попытам, а што не зусім, хто з пісьменнікаў і чаму запатрабаваны, праводзіць, вызначаць пэўныя сацыяльныя рэйтынгі і інш. Такія матэрыялы шырока публікуюцца ў замежным друку. Напрыклад, з маскоўскага часопіса «Новы літаратур-

ны агляд» мы можам даведацца пра тое, што найбольшым попытам у сучасным чытацкім свеце карыстаецца «Біблія», на другім месцы «Уладар пярсцёнкаў» і г. д. Трэба вывучаць мастацкія творы, часопісы, чытача, грамадскую запатрабаванасць пісьменніка і літаратуры, а мы ўсё займаемся абстрактнымі разумовымі разважаннямі, ганім постмадэрнізм, як быццам ён прынёс нам найвялікшую шкоду ці несусветнае гора. Наяўнасць постмадэрнізму — аб'ектыўная заканамернасць. Дарэчы, ёсць светлы і ёсць цёмны ці чорны постмадэрнізм — усё на свеце мае два бакі ці два канцы, і на гэта трэба глядзець у плане нармальнай, здаровай жыццёвай дыялектыкі.

Мне хацелася б, каб мы, літаратуразнаўцы, былі бліжэй да жыцця, да сацыяльнай рэчаіснасці. Калі ў некага ёсць смак да сацыялагічнага даследавання — чаму б ім не заняцца? Чаму б, скажам, не паехаць на раён, у пэўнае мястэчка, не раздаць там нейкія апытальнікі, не правесці анкетаванне? Няхай людзі раскажуць, як яны разумеюць мастацкую літаратуру, якімі творамі цікавяцца, чаму чытаюць гэтага і гэтага пісьменніка, а таго забылі, як глядзяць на факт існавання ў нас двух саюзаў пісьменнікаў. Усё гэта вельмі важна, гэта аснова навукі, калі наша літаратуразнаўства хоча быць навукаю.

*— Уладзімір Васільевіч, мы ведаем вас як надзвычай чуйнага да мастацкай матэрыі слова выдатнага крытыка і літаратуразнаўцу, а ў апошнія гады для многіх нечакана вы зарэкамендавалі сябе і як самабытны, яркі празаік, аўтар адмысловых, цікавых і пазнавальных раманаў «Уліс з Прускі», «Усход», «Вяртанне» і інш. Скажыце, калі ласка, як ужываюцца гэтыя два пачаткі ў вашай духоўнай свядомасці? Дапамагае ці, наадварот, перашкаджае вам як празаіку досвед крытыка і літаратуразнаўцы? І яшчэ: калі б у вас з'явілася магчымасць пачаць жыццё спачатку, ці спыніліся б вы на нечым адным, напрыклад, на прозе?*

— Сапраўды, тут ёсць нейкая загадка. Я не таму стаў займацца прозай, што мне так захацелася. Тут пазітыўна адбілася пашырэнне ў нашым грамадстве сектара свабоды, калі ў гістарычным пазнанні выявілася мноства белых плям і раней не вядомых літаратурных імёнаў. Столькі ўсяго мы не ведалі і, зразумела, не маглі пра яго расказаць, і раптам такая магчымасць з'явілася.

Я, помню, аднаго разу паехаў у сваю вёску Кругель — яшчэ жылі некаторыя старыя людзі, гляджу і думаю: хто раскажа пра ўсё тое, што адбывалася на гэтай вуліцы, у гэтых мясцінах? Чаго тут толькі не было, якая тут толькі ўлада ні панавала. Толькі адзін я помню, як у верасні 1939 года ішла чырвоная кавалерыя, як прыехала аўтамашына з вялікай бочкай газы — налівалі людзям у розны посуд, каб можна было асвятляць лямпамі хаты. Помню нямецкія абозы і танкі, стомленых каўпакаўцаў, вызваленне. Дык гэта — эпахальныя падзеі, а штодзённае жыццё, побыт... У кожнай хаце, на кожным падворку адбывалася нешта сваё, для кожнага канкрэтнага чалавека важнае і непаўторнае. Думаю, вось гэта энтрапія, як кажуць фізікі, усё праглыне і ніхто нічога не будзе ведаць. З аднакласнікаў адзін я звязаў сябе з філалогіяй, моваў і літаратурай. І мне ад пачуцця ўдзячнасці да сваіх продкаў, бабы і дзеда, бацькоў захацелася расказаць пра іх, пра тое, як яны жылі на гэтай старажытнай зямлі, працавалі, любілі, радаваліся і пакутавалі.

Я нешта ўспомню — занатую на паперы, пасля — яшчэ і яшчэ. Усё гэта паступова знаходзіла сваё месца, набывала пэўны парадак, выстройвалася ў суцэльную лінію. Я падкрэсліў, што мой раман напісаны ў духу барока. Што гэта азначае? Гэта азначае, што мая пісаніна — мазаічная, фрагментарная. Але я заўсёды помніў Льва Талстога, які казаў, што, каб падобныя старонкі звязаць, адпаведным чынам сфакусіраваць, патрэбны адзіны маральны погляд на з'явы і рэчы. Погляд з адной кропкі — патрабавальны, адказны, прынцыповы.

Паступова гэта авалодвала мною ўсё больш і больш.

Я рабіў на асобных аркушыках паперы занатоўкі і не заўважыў, як трапіў у залежнасць ад гэтай сваёй пісаніны. Адбылося тое, што адбываецца з нарка-

манамі, алкаголікамі ці закаханымі. Жартаваў, жартаваў, а потым — закахаўся... Шукалі Індыю, а знайшлі Амерыку... Такое здараецца з людзьмі. Стала так, што я ўжо павінен ці пачаць дзень з нейкага запісу, ці закончыць яго. Пры гэтым, ведаеце, навучыўся ўважліва слухаць. Нехта мне расказвае нешта, а я ці вузельчык на хусцінцы завяжу, ці непрыкметна запішу на паперыне. У гэтым плане я адчуваю шчырую ўдзячнасць да сваіх калег па Інстытуце літаратуры — Васіля Жураўлёва, Сцяпана Лаўшука, Тэрэзы Голуб, некаторых іншых, якія рабілі мне прыемныя падарункі. Напрыклад, ад Сцяпана Лаўшука ўпершыню давялося пачуць слова «зняверыць». Ён мне расказаў, які яго змест, што яно азначае, і гэта слова знайшло сваё месца ў маім тэксце.

А колькі бывае цікавага і павучальнага ў грамадскіх месцах, напрыклад, у лазні. Мне расказалі нядаўна: аднойчы ў лазню ў Траецкім прадмесці прыйшоў стары з патэфонам. (Ён быў на падпітку, відаць, таму і прыхапіў з сабою патэфон.) Распрануўся і з патэфонам, з пласцінкай палез у парылку, накруціў там спружыну — і палілася песня. Я ўжо не ведаю, якая, можа, нават «Широка страна моя родная». Кажа, мыюцца людзі, ліецца з парылкі песня, а потым заціхла... Усе чакалі, што ён пераверне пласцінку і загучыць новая мелодыя, аднак яе не было. Падышлі: патэфон маўчыць — скончыўся завод і стары ляжыць без прытомнасці. Выцягнулі яго з парылкі, зрабілі штучнае дыханне, і ён ачуняў. Слухаў ужо свой патэфон у прылазніку.

Ну але ж тут яшчэ трэба мець майстэрства, каб зрабіць смешна.

Я не столькі пісьменнік, колькі расказчык, апавядальнік. Ёсць у нас новае слова — «наратыў», у перакладзе з французскай мовы яно азначае расказ, апавяданне ці, як цяпер кажуць, аповед. Дык вось я хутчэй наратыўшчык: нешта згадваю, расказваю, бармачу. Я зрабіў для сябе адкрыццё, што не ўсе думкі павінны быць істотныя, змястоўныя, важныя, афарыстычныя. Чалавек у натуральных, разняволеных паводзінах мае права і на нешта аблегчанае, нават абсурд. Якраз гэтым ён адметны і цікавы. Чалавек не заўсёды адчувае сутнасць моманту, ён часам гаворыць і робіць нешта зусім не адпаведнае пэўнай сітуацыі. А гэта і ёсць праўда пра яго, тая праўда, якая з'яўляецца і аб'ектыўнай і каштоўнай. У нашым жыцці шмат нечаканасцей, дзівосаў, парадоксаў, і да іх трэба быць падрыхтаваным.

Дык вось гэтыя два пачаткі, пра якія вы кажаце, у мяне дапамагаюць адзін аднаму. Справа ў тым, што я гісторык літаратуры, начытаны чалавек. Я ўсё ці амаль усё прачытаў — ад Гамера і Апулея да Казлова і Малахоўскага. Канечне, усю літаратуру не прачытаеш, але класічныя творы, знакавыя рэчы... Я чытаў Дантэ, Сервантэса, Мальера, Шэкспіра, Гётэ, Байрана, Гюго, Бальзака, Флабэра, Заля і, натуральна, не хачу паўтараць тое, што было да мяне. У той жа час мне добра вядома: груба кажучы, уся літаратура пра адно і тое ж. У яе аснове ляжаць пэўныя архетыпы, міфы, якія некалі хвалявалі Гамера, Шэкспіра, Талстога, Купалу, Кафку і Джойса і хвалююць сучасных пісьменнікаў. Гэта тое, што мы называем сэнсам жыцця, адносінамі да мінулага, бацькоў, Радзімы, чалавек і іншы чалавек, улада, вера, доўг, ідэал і інш. Кожны час дае на згаданыя пытанні свае адказы. І гэтага не трэба пазбягаць. Калі пра яго напісаць шчыра, вядома, чымсьці рызыкуючы, то будзе цікава і карысна.

Часам рэдактар мне прапаноўвае: «Давайце вось гэта апусцім». Я кажу: не, гэтая дэталь мне вельмі дарагая. У мяне ёсць пэўныя грубасці, вульгарызмы, але яны матываваныя, абумоўленыя зместам твора, канкрэтнай сітуацыяй — патрэбныя. Напрыклад, інтымны момант: знізу жанчына, мажная маладзіца, а зверху нярослы, маленькі мужчына. Яна кажа: «Малы, але цяжкі». Гэтая непасрэднасць мне вельмі дарагая. Калісьці яны кахаліся, а пасля яна выйшла замуж за іншага. Ён жа працягвае яе кахаць, і вось такі эпізод. Як тут быць пісьменніку, што сказаць, якія словы знайсці?.. А гэтая рэпліка як бы ўсё ставіць на сваё месца — жыццё працягваецца. Мастацкая літаратура якраз і павінна сведчыць пра тое, павінна дадаваць жыццю духоўных інвестыцый. Яна з'яўляецца своеасаблівым

інвестыцыйным праектам у адносінах да жыцця, які садзейнічае яго развіццю, абнаўленню і ўзбагачэнню.

Раней мне было лягчэй чытаць мастацкія творы, а не навуковыя, літаратуразнаўчыя, а цяпер наадварот. Праўда, розныя ёсць літаратуразнаўцы і іх працы. Часам з цікавасцю чытаеш кнігу ці артыкул, бо ў іх аўтара адметнае мысленне, свой стыль, арыгінальная лексіка, новыя словы, характэрная мяккасць, пластычнасць. Усё гэта прываблівае.

Так што празаічны і літаратуразнаўчы пачаткі ў маіх адчуваннях і мысленні паміж сабой не спрачаюцца. Я часам і ў літаратуразнаўчай рабоце магу ўжыць нейкі вобразны, мастацкі выраз, бо заўсёды імкнуся пісаць не суха, жыва, даходліва, проста, выкарыстоўваючы розныя новыя павароты і магчымасці.

*— А цалкам засяродзіцца на прозе вам не хацелася б?*

— Некалі, вы ведаеце, я вельмі хацеў быць геолагам, але вось звязаў свой лёс з літаратурай, мовай, філалогіяй і не шкадую аб гэтым. У жыцці да ўсяго трэба неяк дарасці, саспець, тут нешта фарсіраваць вельмі складана. Гэта ўсё роўна як зерне, перш чым прарасці, яно павінна паляжаць у цёплай вільготнай глебе. «Вуліца поўная нечаканасцей» — ёсць такі фільм у рэжысёра Самсона Самсонава. Паглядзіце, Васіль Івашын пачаў пісаць вершы, калі яму споўнілася 80 гадоў. І цяпер піша, услаўляе раніцу, вясну, сонца, жураўля, хоць сам — хворы чалавек.

*— Уладзімір Васільевіч, якія прычыны абумовілі ваш зварот да мастацкай прозы? Дарэчы, калі вы зразумелі, што сталі празаікам? Да якога напрамку ці плыні ў сучаснай беларускай прозе вы сябе адносіце?*

— Я не ўпэўнены, што стаў празаікам, але цешу сябе тым, што па-ранейшаму неабыякавы да жыцця, імкнуся выявіць яго смак, перанесці на паперу колеры і барвы навакольнага свету. Я выкарыстоўваю ўсе традыцыйныя мастацкія сродкі — пейзаж, маналог, дыялог, элементы псіхалагізму, няўласна-простую мову, лірычныя адступленні, апісанні і г. д., падпарадкоўваю іх сюжэтнаму дзеянню, але адношу сябе да постмадэрнізму.

*— Да постмадэрнізму?*

— Так. Патлумачу. У нас прывыклі думаць, што постмадэрнізм — нешта цёмнае, непрасветленае, незразумелае. У маім разуменні, постмадэрнізм — гэта, як я ўжо казаў, рэальная, аб'ектыўная рэч, калі гэтую з'яву можна назваць рэччу, бо постмадэрнізм — гэта найперш, на маю думку, гістарычная своеасаблівасць сённяшняга нашага мыслення і светапогляду, сучасная эпоха ў развіцці еўрапейскай цывілізацыі, сукупнасць мастацка-стылявых напрамкаў. Н. Б. Манькоўская лічыць, што «найбольш істотным філасофскім адрозненнем постмадэрнізму з'яўляецца пераход з пазіцый класічнага антрапалагічнага гуманізму на платформу сучаснага універсальнага гуманізму, чыё экалагічнае вымярэнне абдымае ўсё жывое...» Думаю, што гэта досыць слушнае вызначэнне.

Постмадэрнізм ахоплівае, вядома, літаратуру і мастацтва, хоць выяўляецца тут даволі няпэўна. Але тэндэнцыі прасочваюцца. Постмадэрнізм яшчэ больш узмацняе ўласцівую мадэрнізму ўстаноўку на эксперымент, на абсалютызацыю аўтарскай суб'ектыўнасці, на рэмінісцэнцыі. Так што гэтая з'ява неадназначная, і калі пісьменнік у сваім постмадэрнізме перабраў меру, дык у такім выпадку ўдача яго не чакае.

Што тычыцца пытання аб тым, як мною авалодала «проза». Мая проза цёплая, паэтычная, мяне цікавяць дэталі, падрабязнасці нашага штодзённага існавання, якія павінны грэць душу, выклікаць спагадлівую ўсмешку. Зрэшты, «паэзія» і «проза», як нейкія грані нашага светаўспрымання, узаемадзейнічаюць паміж сабой, пашыраюць свае сферы адна за кошт другой і наадварот. Была б любоў і цікавасць да жыцця, астатняе прыкладзецца. А колькі паміж людзей «паэтаў» і «празаікаў», якія не пішуць ні вершаў, ні прозы?!. Не простае пытанне. Тут мне прыгадваюцца вядомыя радкі Петруся Броўкі:

Не пытайся пра гэта,
Бо адказу не дам.
Як зрабіўся паэтам,
Я не ведаю сам.

Калі вам падабаецца называць мяне празаікам — называйце, гэта ваша права.

— *А кім вы самі сябе называеце?*

— Я называю сябе пісьменнікам. Галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Праўдзін час ад часу дае мне даручэнне напісаць рэцэнзію на той ці іншы рукапіс. Кажа, вы крытык і літаратуразнаўца, ведаеце гэты матэрыял. Я яму адказваю: я пісьменнік... Да празаікаў, бачыце, ён не звяртаецца.

— *Як суадносяцца ў вашых раманах факт і вымысел?*

— Факт і вымысел цесна звязаны паміж сабой, адзін без другога існаваць не могуць. У самым аб'ектыўным пісьменніцкім адлюстраванні абавязкова будзе доля вымыслу, любое апісанне факта з'яўляецца суб'ектыўным. Тое ж самае і ў мяне. Факт дае прастору вымыслу, завастрае думку, нешта сведчыць пра чалавека, у жыцці якога ён меў месца. Я заўсёды іду ад факта, а не ад вымыслу, ад таго, што ведаю, сам бачыў, у чым цвёрда перакананы. Ёсць пісьменнікі, якія з'яўляюцца вялікімі майстрамі прыдумваць, фантазіраваць. Вазьміце раман Патрыка Зюскінда «Парфумер» — там усё прыдумана. Дзе вы бачылі чалавека, які на адлегласці ў сотні метраў мог адрозніваць пахі, з вялікага мноства выбраць адзін, па нюху ісці за іншым чалавекам? Ну, але гэта геніяльная прыдумка.

Паўтараю, я іду ад факта, але імкнуся даць яму сваё асвятленне, разглядаю яго не цэласна, а як бы раскладваю на часткі, так, каб атрымаўся аб'ём. Вымысел у мяне дапаўняе тое, што знаходзіцца ў факце. Факт дае хуткасць, энергетыку вымыслу, забяспечвае паварот у разгортванні дзеяння. Я зразумеў, што безвыходных сітуацый не бывае. Вось я зараз чытаю апавяданні англійскага пісьменніка Раальда Даля. Там ёсць такія нечаканасці, што дзіву даешся. Пісьменнік заўсёды можа прыдумаць працяг, з любога сюжэтнага тупіка знайсці выйсце.

Я выкарыстоўваю факт, унутраны сюжэт, калі нехта з герояў нешта расказвае, — такі прыём вы назіралі ў пісьменнікаў. Часта гэты расказ у расказе з'яўляецца ў творы галоўным. Такіх прыкладаў даволі шмат. Я давяраю факту, але яго не абсалютызую. Трэба мець на ўвазе наступнае: чалавек аступіўся, на нешта спакусіўся і вось такі, негатыўны, факт прысутнічае ў яго жыцці. І што, пад гэтым фактам ён увесь такі?.. Бываюць хвіліны, калі не так глянеш, скажаш не тое слова, аддасі не тое распараджэнне — пасля шкадуеш. Я не спяшаюся паводле аднаго факта мяняць да некага сваіх адносін. У чалавека можа быць розны настрой, пасля трэба яшчэ ўлічваць і ролю выпадку, простага збегу абставін і акалічнасцей. Час, момант, умовы, асяроддзе маюць над чалавекам вялікую сілу.

Факт трэба распрацоўваць, ставіць у ланцужок прычынна-выніковых сувязей, высвятляць яго прыроду. Давяраючы факту, яго трэба ў той жа час правяраць.

— *Якое месца ў вашых раманах належыць канкрэтна-гістарычнай фактуры?*

— Лявон — гэта мой дзед Лявонцій Міхайлавіч Сцепанюк. Ён рана страціў бацьку, рана стаў гаспадаром, пачаў выконваць усю цяжкую сялянскую працу. Будуючы хату, дзед пазычыў шмат грошай, не мог іх аддаць і вымушаны быў ехаць на заробкі ў Амерыку. І вось я пра гэта пастараўся расказаць у сваім рамане «Уліс з Прускі», які заканчваецца тым, што Лявон вяртаецца на Радзіму.

Ён вярнуўся, і тут жа пачалася Першая сусветная вайна. Давялося — быў царскі ўказ — падавацца на ўсход, ехаць у Расію. Рэвалюцыі, войны тады паўдзяржавы зрабілі бежанцамі, прынеслі шмат бед і няшчасцяў людзям, у тым ліку і маім землякам. У другім рамане, які друкаваўся ў часопісе «Полымя» пад назвай «Усход», я апісваю знаходжанне сваіх герояў у Расіі, тое, што яны там адчувалі,

бачылі і г. д. Дарэчы, у сувязі з дадзенай акалічнасцю мне хацелася б выдаць яго асобнай кнігай пад назвай «Расія».

З Расіі нашы бежанцы прывезлі новыя, рэвалюцыйныя, ідэі, з іх вяртаннем пачаўся рэвалюцыйны рух на заходніх абшарах Беларусі. Там людзі адчулі, што яны асобы, што ніхто не мае права эксплуатаваць працоўнага чалавека. А мой Лявон дык яшчэ ж і «амерыканец», пасля вяртання на Радзіму ён пачаў жыць і гаспадарыць па-новаму. Пруска была ўжо ў складзе Польшчы, калі Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна, «крэсы ўсходнія», знаходзіліся фактычна на становішчы калоній. Гэта вельмі цікавы перыяд у нашай айчыннай гісторыі.

Я не дазваляю сабе з героямі таго, чаго з імі не было на самай справе. Калі герой трапляе ў нейкую сітуацыю ў рэальным жыцці — гэта вы абавязкова знойдзеце і ў маім творы. У рамане «Расія» ёсць эпізод, калі Лявон Кужаль, будучы на фронце, удзельнічае ў ажыццяўленні разведкі боем. Я і гэта не прыдумаў. Справа ў тым, што ў яго роту трапіла газета «Акопная праўда». Салдаты яе начыталіся, і гэта пэўным чынам адбілася на іх настроях. Дадзеную акалічнасць заўважылі афіцэры: ага, вы рэвалюцыянеры, ну мы вам пакажам. І вось ноччу каля Смаргоні тром ротам гучыць загад: «У атаку!» Снег, мароз, вецер, пурга... Нямецкія вартавыя заўважылі іх са спазненнем, тады, калі яны ўжо перад самымі акопамі спрабавалі прайсці апошнюю лінію са скруткаў калючага дроту, і як ударылі з кулямётаў — паклалі ўсе тры роты.

У ваенных гэта называецца «разведка боем». Падчас атакі высвятлялася: ага, там стаіць гармата, адтуль б'е кулямёт і інш.

І вось тады куля трапіла Лявону ў левае плячо. Яго рука ўсохла, і хірургі хацелі яе адняць. Але за Лявона нечакана заступілася дачка Льва Талстога Аляксандра Львоўна, якая там, у франтавым шпіталі, працавала сястрой міласэрнасці, г. зн. медсястрой. Памятаеце, нешта падобнае было з Андрэем Макаёнкам: яму хацелі адняць нагу, дык ён пісталетам адбіўся. У Лявона пісталета не было, яго пашкадавала дачка вялікага пісьменніка. Яна рабіла яму кампрэсы, і праз некалькі тыдняў спачатку пачаў шавяліцца мезенец, а пасля адышла і ўся рука. А рука для селяніна, які павінен трымаць плуг і касу, ой, як многа значыць. Ён быў камісаваны з фронту і вярнуўся да сваёй маці і сясцёр у Самарскую губернію. А тут пачалася рэвалюцыя і грамадзянская вайна. Яны вырашаюць ехаць на Радзіму, але для гэтага патрэбны польскія візы. Польскае консульства ў Маскве, якое толькі што ўтварылася, не паспявала разглядаць дакументы бежанцаў.

Я спецыяльна ездзіў у Самару, Арэнбург, працаваў з мясцовымі архівамі, пераглядаў дакументы, дарэчы, перасыпаныя хлоркаю, бо тады панавалі тыф, іспанка, ад якіх людзі мерлі сотнямі тысяч. Нашы атрымалі візы недзе аж у 1922 годзе, ужо перажыўшы засуху і голад на Паволжы, што прыпалі на 1920—1921 гады. Канечне, для пісьменніка гэта вельмі ўдзячны матэрыял, таму што чалавек быў пастаўлены ў пагранічную сітуацыю, думаў аб тым, як выжыць. Людзі елі не толькі катоў і сабак, але і саміх сябе, трупы.

Мае героі вярнуліся на Радзіму з новымі поглядамі, а Лявон — дык яшчэ і з маладой жонкай. Праўда, ён узяў яе ўжо не дзяўчынай, а ўдавой, у Фёклы быў нават сынок, мой будучы бацька. І ўсё гэта я стараюся маляваць не адной фарбай, а шматколерна, жывапісна. Я цаню графіку, але жывапіс усё-такі больш сакавіты, а значыць, больш паўнакроўны і пераканаўчы. Вось, напрыклад, цвіце бэз. Як яго напіша графік? Гэта матэрыял для акварэлі, для жывапіснага палатна.

— *Уладзімір Васільевіч, як вы забяспечваеце праўдзівасць адлюстравання рэчаіснасці, апісання падзей і сітуацый? Што вам тут дапамагае?*

— Ну, па-першае, пра жыццёвую гісторыю свайго дзеда, пра тое, дзе, калі і кім ён быў, я неаднойчы чуў ад яго самога. Напрыклад, у Амерыцы ён трапіў да фермера, дарэчы, ірландца, вельмі строгага чалавека. Праўда, для таго, каб паміж імі мелі месца размовы на агульныя тэмы, я зрабіў яго ўкраінцам. Брэстчына, Заходняя Беларусь, Заходняя Украіна, адраджэнне, мова, культура, газеты і часо-

пісы, тое, што робіцца ў Расіі, — усім гэтым яны абодва павінны былі актыўна цікавіцца.

Па-другое, я прачытаў шмат амерыканскай літаратуры. Напрыклад, у Джэка Лондана давялося звярнуць увагу на тое, як яны там лавілі ды, відаць, і ловяць у Вялікіх азёрах ракавінак. Вельмі карысным і прыдатным быў вопыт і іншых аўтараў.

Пасля я чытаў кнігі беларускіх эмігрантаў, перапісваўся з імі, напрыклад, з Вітаўтам Кіпелем. Ён паведамляў мне пра штат Ілінойс, пра тое, якая там бульба, пшаніца, кукуруза, што такое ільмы — амерыканскія клёны, якім знішчальным бывае тарнада. Кіпель прыводзіў назвы гарадоў, чыгуначных станцый, скажам, на шляху ад Нью-Йорка да Нью-Джэрсі, адзначаў, хто можа сустрэцца па дарозе, як там ставяцца да негра. Што пачуеш, што пачытаеш, што дадумаеш — і складваецца цэласная карціна...

— *Каго вы лічыце сваім галоўным чытачом?*

— Пісьменнік і чытач — з'явы тыпалагічна суадносныя. Хочацца верыць, што некаму будзе цікава тое, як я думаю, гляджу на свет, можа, нехта ацэніць маю творчую манеру і ў цэлым працу. Але, канечне, як і кожны пісьменнік, адчуваю сябе адзінокім. Нядаўна Яўген Гарадніцкі апублікаваў цёплую рэцэнзію на мой раман «Уліс з Прускі», яшчэ раней Міхась Пазнякоў пра маю працу станоўча выказаўся. Гэта падтрымлівае, прыдае натхнення і сіл. «Залатога Купідона» далі. Але вось не было ў мяне сустрэч з чытачамі — бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў толькі пачынае працаваць, ды і кніга дарагая, хто яе купіць... Праўда, ёсць людзі, якія чыталі раман «Уліс з Прускі», вусна выказвалі мне свае ўражанні. Гэта Кастусь Цвірка, Алесь Наварыч, некаторыя іншыя. Цікавяцца маёй працай у Брэсце — выкладчыкі і студэнты універсітэта імя А. Пушкіна, краязнаўцы, настаўнікі, школьнікі. Студэнты па маіх творах пішуць курсавыя работы, ездзяць у Кругель, глядзяць тую хату, у якой я нарадзіўся, звоняць мне. Мяне гэта радуе.

Прачытаў мой раман Міхаіл Уладзіміравіч Мясніковіч, задаваў пытанні, удакладняў некаторыя моманты і факты. Мне здаецца, калі ён прачытаў — я не думаю, што ў яго многа вольнага часу, — значыць, нешта яго прывабіла ў творы.

— *Арсенію Таркоўскаму належыць выказванне пра тое, што «паэзія адносіцца да прозы, як цуд да фізічнага вопыту», што «паэзія першасная», «а проза з яе рэалізмам (нават натуралізмам) і з яе несумненнай карыснасцю — другасная». Вы даследуеце паэзію, а пішаце прозу. Цікава, чым для вас з'яўляецца адна і другая?*

— Калі звярнуцца да вытокаў, дык пачатак усяго — паэзія. Пачатак не толькі прозы, але і філасофіі, гісторыі, іншых гуманітарных навук. Чалавек асвойваў свет, і гэтае асваенне мела паэтычныя формы, вобразы, метафары. Але мы вучоныя, літаратуразнаўцы, і нам больш карысна перайсці на паняцці «лірыкі» і «эпасу». І тут, у гэтых суадносінах, відаць, трэба аддаць перавагу эпасу — калі ўспомніць Гамера, Гесіёда, некаторых іншых аўтараў. Хаця ўжо і ў той час было шмат паэтаў-лірыкаў, у чыіх творах выразна адчувалася прысутнасць чалавечага «я».

У пазнейшыя часы, калі пачалі ўзнікаць новыя літаратурныя жанры, напрыклад, у часы рэнесансу, калі актыўнае развіццё атрымала чалавечая самасвядомасць, адбывалася адлучэнне асобы ад абсалюту, лірыку акрэслілі паэзіяй, а эпас — прозай. Тады лірыка вельмі актыўна эвалюцыянізавала, і ёй сталі называць усё, што напісана вершам.

Я вам скажу, тое пытанне, якое паставіў Таркоўскі, акрэслена паэтам, гэта таксама метафара — «цуд» і «фізічны вопыт». Паэзія і проза цесна звязаны паміж сабою: і там вобразнасць, і там, і там прысутнічае асоба творцы, і там. Праўда, тут ёсць істотная розніца. Верш — гэта твор у некалькі строф ці радкоў, проза ж у нашай свядомасці асацыіруецца з шырокімі мастацкімі палотнамі, дзе сэнсавая нагрузка на слова значна меншая. Паэзія, як і проза, гаворыць пра пэўныя

архетыпавыя, карнявыя з'явы і працэсы, разам з тым яна можа ў лічаных радках выявіць змест, які цяжка асвоіць буйным эпічным жанрам.

Канцэпцыя лірычнага і эпічнага героя — маштабная з'ява, дадзены герой даволі рэдкі і ў нашай, і ў сусветнай літаратуры. Гэта, можа, Лабановіч Якуба Коласа, а, можа, герой Максіма Гарэцкага ці Аркадзя Куляшова. Ён не толькі аб'ядноўвае паэзію і прозу, але і ўласцівы сапраўднаму мастацтву наогул — герой, які імкнецца спасцігнуць праўду, дашукацца ісціны. Так што паміж паэзіяй і прозай больш агульнага, чым адрознага, гэта два крылы мастацкай літаратуры. У драматургіі яны як бы сыходзяцца ў адным, там прысутнічае адначасова і лірычнае, індывідуальнае, і эпічнае, шырокі ахоп рэчаіснасці. Часам і паэтычны твор заключае ў сабе нейкі радок, выраз, сітуацыю, з якой можа вырасці апавяданне ці аповесць. У той жа час мы бачым, што паэты вельмі ахвотна і ўважліва чытаюць прозу. Напрыклад, Дастаеўскага зацікаўлена чыталі і Ганна Ахматава, і Уладзімір Маякоўскі. Псіхалагічная напоўненасць творчасці Ахматавай ідзе якраз ад Дастаеўскага, ад рускай класікі XIX стагоддзя, якая імкнулася глыбока заглянуць ва ўнутраны свет чалавека. Маякоўскі распрацоўваў вобраз героя-нігіліста, што актыўна шукаў новага, адмаўляў сучасны яму, так званы, буржуазны грамадскі лад. У гэтым сэнсе ён, несумненна, ішоў за нігілістамі Дастаеўскага, за Базаравым Тургенева, іншымі падобнымі героямі XIX стагоддзя, якіх у жыцці, гісторыі, навуцы часта называлі рэвалюцыйнымі дэмакратамі.

*— Без якіх вызначальных якасцей, на ваш погляд, немагчыма стаць пісьменнікам, у прыватнасці, празаікам?*

— Ну, па-першае (і тут можна ўспомніць Таркоўскага), без успрыняцця жыцця як цуду, без любові да яго. І, мабыць, галоўнае — без назіральнасці. Вы прыгледзьцеся, звычайнага чалавека неяк мала што цікавіць, мала што хвалюе, інтрыгуе. А вось паэт, пісьменнік — гэта ў пэўным сэнсе дзівак, якога можа спыніць любая дробязь. Калі раніцай — дык тое, як прачынаецца, абуджаецца горад, першыя гукі і колеры, вечарам — як заходзіць сонца, як рэагуюць на гэта людзі, прырода, навакольнае асяроддзе. Назіральнасць — галоўнае, бо адсюль ужо ідзе жаданне падзяліцца яе вынікамі, пачуццёвымі, духоўнымі накапленнямі ці багаццямі з іншымі людзьмі, якія здольны цябе зразумець і ўспрыняць. Таму што, не сакрэт, ёсць такія людзі, што ўвогуле не чытаюць. Ой, кажа, цікавая кніга, і ўсё роўна на сярэдзіне губляе інтарэс ці стамляецца, адкладвае яе ўбок і болей не вяртаецца, забывае. Я бачыў такіх людзей, назіраў за імі. Гэта, відаць, звязана з асаблівасцямі духоўна-псіхалагічнай канстытуцыі чалавека, з тым знакам, пад якім ён нарадзіўся, з яго менталітэтам, тэмпераментам. Ну, але дадзены чалавек можа знайсці сябе ў іншым, у тым, што будзе цяжкім пісьменніку ці паэту. Не трэба пазіраць на яго так, быццам ён нейкай ніжэйшай вартасці.

Вядома, тут я не гавару пра тэхнічныя асновы рамяства. Але тэхніка, вопыт прыходзяць падчас практычных заняткаў, калі перад аўтарам стаяць задачы тэхналагічнага, структурнага парадку, калі ён думае пра тое, як пра гэта расказаць, як падаць матэрыял, як стварыць ілюзію эстэтычнага свету, каб у яе паверыў чытач. Гэтаму можна навучыцца, а вось шчыраму феномену здзіўлення, такому дзівацтву, як можа падацца на першы погляд, навучыцца цяжка.

*— Уладзімір Васільевіч, для кожнага пісьменніка вельмі важным з'яўляецца знайсці сваю тэму. Ёсць нават меркаванне, што тэма — гэта лёс. А чым тэма з'яўляецца для вас?*

— Сапраўды, тэму нечым выпадковым не назавеш. Яна звязана з лёсам чалавека, з тым, што пісьменнік да яе дарастае, прыходзіць, што яна ў ім пэўным чынам пасяляецца, мучыць яго, кранае сумленне, просіцца на паперу. Тэма становіцца ўнутранай праблемай, ёю аўтар доўга і моцна хварэе. Напісаць нарыс, паэму ці аповесць азначае для яго своеасаблівa вылечыцца ад гэтай хваробы, якую Пастарнак так і называў — «высокая хвароба». Творчасць, сапраўды, высокая хвароба. Вазьміце раманы Льва Талстога «Вайна і мір», «Ганна Карэніна», «Уваскрасенне» — гэта адказы на тыя пытанні, якія хвалявалі, мучылі пісьмен-

ніка. Ён не мог не напісаць іх, яны сталі формай асэнсавання праблем вялікага духоўнага значэння — маральных, сацыяльных, агульначалавечых. Буйныя пісьменнікі гэта выдатна разумелі. Напрыклад, мне прыйшоў на памяць верш Аляксандра Твардоўскага:

Вся суть в одном — единственном завете:
То, что скажу, до времени тая,
Я это знаю лучше всех на свете —
Живых и мертвых, — знаю только я.

Сказать то слово никому другому
Я никогда бы ни за что не мог
Передоверить. Даже Льву Толстому —
Нельзя. Не скажет — пусть себе он Бог.

А я лишь смертный. За свое в ответе,
Я об одном при жизни хлопочу:
О том, что знаю лучше всех на свете,
Сказать хочу. И так, как я хочу.

Бывае, нешта моцна кране, увойдзе ў памяць, развярэдзіць душу і выношваецца незалежна ад нас. Гэта толькі здаецца, што ў нашай свядомасці адбываецца адкрыты працэс мыслення, калі мы выразна адчуваем і разумеем тое, пра што думаем і гаворым. А на самай справе ў чалавека ж яшчэ ёсць падсвядомае, несвядомае. Вось туды, як у якім растворы, і апускаюцца часцінкі насычанай, асветленай свядомасці, і адбываецца своеасаблівы хімічны працэс. Якраз там, нібыта ў створках ракавіны ў пячоры, — калі звярнуцца да архетыпавага вобраза — жамчужына ў пячоры — і выспяваюць мастацкія жамчужынкі. Там паступова спее задума і потым, ужо ў гатовым выглядзе, усплывае ў свядомасці — і пісьменнік гатовы ўзяцца за пяро. Таму насільна сябе падштурхоўваць не варта. Працаваць, вядома, патрэбна шмат — натхненне прыходзіць падчас працы, але калі пра нешта можаш не пісаць, як раіў той жа Талстой, — устрымайся, пачакай, не пішы.

— *Якімі асаблівасцямі вызначаецца ваша ўласная творчая лабараторыя?*

— Тое, што я рабіў і зрабіў у крытыцы і літаратуразнаўстве і што пісаў прозаю, павялічыла маю цікавасць да жыцця, работы, чалавека, да таго, што ён думае, як гаворыць, паводзіць сябе, напрыклад, вітаецца з табою, што плануе, да чаго імкнецца, да людскіх адносін, грамадскіх працэсаў і інш. Ну, тут, відаць, адбіваецца і ўзрост, таму што я — чалавек сталага веку, назіральны, дасведчаны, умудроны вопытам. Хаця ўмудронасць — гэта непастаянная якасць ці велічыня, яна цалкам не засцерагае ад нейкіх нечаканых рашэнняў і ўчынкаў. Часам яна змяняецца характэрнай унутранай нестабільнасцю, нечаканымі ўсплескамі эмоцый, душэўнымі жаданнямі, учынкамі, за якія вечарам сябе дакараеш: ну, навошта я сёння так зрабіў?.. Недзе не стрымаўся, сказаў не тое, што патрэбна было сказаць, і інш. Але, ведаеце, на тое і жыццё, што яно адметнае і цікавае сваёй нечаканасцю і непрадказальнасцю.

Мая лабараторыя — назіранне за ўсім гэтым. Мы ўстанаўліваем для сябе, што з'яўляецца істотным, важным у жыцці, а што — дробязным, часам у нашай ацэнцы і свядомасці яны мяняюцца месцамі. Калісьці ў Ганны Ахматавай я сустрэў радкі: «Когда б знали вы, из какого сора растут стихи…» Дык вось гэтае смецце — вельмі дарагая рэч, яно часам можа больш расказаць пра чалавека, чым ён сам пра сябе. Нездарма Уладзімір Караткевіч адзначаў, што ў будучым, вывучаючы наша жыццё, археолагі будуць весці раскопкі сметнікаў. Для пісьменніка ўсё заслугоўвае ўвагі, усё, што б мы ні ўзялі, яму пра нешта нагадае, паведаміць. Я вам скажу, ёсць такія назіральныя пісьменнікі, у якіх у кожным радку — пэўная падрабязнасць, дэталь, знаходка.

Тэлевізар, як крыніца інфармацыі, для мяне менш цікавы і карысны, а вось газета мае вялікае значэнне. Яна больш надзейная, ці што, у ёй нешта паведамляецца пра чалавека, пра яго ўнутраную меру, патэнцыяльныя магчымасці, рэакцыю на знешні свет. А ў рабоце пісьменніка мае значэнне і голас з мінулага, з яго асабістага вопыту, і тое, што адбываецца сёння. Напрыклад, Цютчаў не ўяўляў пачатку свайго працоўнага дня без ранішніх газет. І не толькі таму, што служыў дыпламатам. Тады радыё і тэлебачання не было, і чытанне газет для яго з'яўлялася своеасаблівай інтэлектуальнай размінкай ці зарадкай.

*— Што патрэбна для таго, каб вы былі задаволены вынікамі сваёй працы?*

— Я адчуваю, што вынікамі сваёй працы я ніколі не буду задаволены. Ва ўсякім выпадку, мне так сёння здаецца. Таму што закончыш нейкі твор, праходзіць паўгода ці год, і думаеш: эх, вось там я не ўлічыў тое і тое, там недапрацаваў, там недадумаў... Але, з другога боку, трэба ж і кропку ставіць. І вельмі важна паставіць яе своечасова, бо, як мы гаварылі, вяртанне да ўжо зробленага, дапрацоўка рукапісу часцей за ўсё ідзе не на карысць. У такім выпадку ў творы спалучаюцца як бы два аўтары: я, напрыклад, мінулага года і я сённяшні. Канечне, гэта адзін і той жа чалавек, але два розныя вопыты, дзве розныя якасці. Іх механічнае спалучэнне вядзе да звычайнай эклектыкі.

Літаратура — гэта шлях да ісціны, імкненне яе спасцігнуць. Але праўда, ісціна, як і ўсё на свеце, — з'явы плынныя, цякучыя. Тое, што ўчора было праўдаю, сёння застаецца ёю не ў такой меры ці ступені, не ў такім разуменні ці плане. Вядома, фактычнае напаўненне рэчаў з'яўляецца пастаянным, але адносіны чалавека да пэўных падзей і працэсаў, яго меркаванні і ацэнкі змяняюцца. Мяняецца змест паняццяў, сэнс слоў, узнікаюць новыя паняцці і словы, пра якія раней мы нават не чулі. Ну, што мы чулі, скажам, гадоў дзесяць-пятнаццаць таму назад пра такое паняцце, як «віртуальная рэчаіснасць»?

*— Але ж у вас ёсць многа прац, якімі вы павінны быць задаволены...*

— Тут не варта цешыць сябе ілюзіямі, што ты здзейсніў нешта незвычайнае. У любым выпадку гэта некаму не вельмі спадабаецца, нехта цябе ўсё роўна пакрытыкуе. Калі ты мяркуеш, што стварыў шэдэўр, то будзеш хваравіта ўспрымаць крытыку, яна будзе для цябе вельмі нечаканай. Калісьці ў маладосці я думаў: ну вось напісаў добры артыкул. Праходзіў час, нехта крытыкаваў яго і я бачыў: заўвагі маюць сэнс. А мне здавалася, што я нечага такога дамогся, што ніколі не будзе падвергнута сумненню. Сёння людзей чым-небудзь здзівіць цяжка. А калі і здзівіш каго, дык толькі сёння да абеду, а пасля абеду ён забудзецца пра сваё здзіўленне.

***Гутарку вёў***
***Мікола Мікуліч.***



**Алесь БЕЛЬСКІ**

# НЕАДЛУЧНАЯ АД ТРАДЫЦЫІ

*Каханне, прырода, Сусвет...*
*Паэзія часопіса «Маладосць» за 2006 год*

## «Ёсць жыццё, каб кахаць і... храством захапляцца»

Сёння нярэдка гаворыцца пра страту цікавасці да паэзіі, пра тое, што гэтая эстэтычная з'ява мала каго хвалюе. Сапраўды, час пачатку XXI стагоддзя прагматычны і непаэтычны, і не заўсёды творчасць паэтаў, як раней гэта было за савецкім часам, выклікае розгалас і трапляе пад увагу шматлікіх сучаснікаў. Але ж паэзія незалежна ад аб'ектыўных прычын, нягледзячы на прыглушанасць, адасобленасць яе існавання, жыве і ствараецца — як травінкі праз асфальт прабіваюцца радкі і вершы з надзеяй быць прачытанымі, пачутымі, як кветкавыя букеты — твор да твора — складаюцца кнігі, каб асвятліць наша зямное быццё прыгажосцю і святлом. Ды і апошні верш на Зямлі ніколі не будзе напісаны датуль... пакуль існуе Каханне. Гэтае пачуццё і выклікае ўсплёск натхнення, абуджае ў чалавеку паэта — і жадаецца славіць шчаслівы міг жыцця, спяваць песні. Надыходзіць момант — і хочацца выказваць смутак у ціхай элегіі, душэўнае тамленне — у рамансе... Сёння закаханыя адпраўляюць адно аднаму вершаваныя SMS-кі. Невыпадкова каханне — вызначальная тэматычная лінія сучаснай паэтычнай творчасці. Кожны другі верш у «Маладосці» выкліканы або навеяны гэтым пачуццём. На тое яна і вечная тэма, што зварот да яе непазбежны, можна сказаць, абумоўлены ўжо самой духоўнай прыродай чалавека. Меў рацыю паэт, які неяк сказаў: «Вечныя тэмы!.. <...> Мы вырашаем дасюль. // Вечныя, вечна сучасныя...» (А. Лойка. «Вечныя тэмы»). Калі тэму кахання ў канкрэтным творы вырашыць усё ж можна, давесці да пэўнай завершанасці, то ў паэзіі, мастацтве наогул яна — цудадзейная, несупынная крыніца натхнення. Хіба можна вычарпаць мора па кропельках ці жыццё ў яго бясконцасці разнастайных праяў? Любоўныя, інтымныя радкі сучасных аўтараў — жывыя кропелькі пачуццяў, якія ўліваюцца ў неабдымнае мора паэзіі кахання. Усе яны разам раскрываюць свет чалавечай душы: тое асаблівае, але знаёмае нам па ўласных адчуваннях ці невядомае, надзвычайнае, што дзеецца ў ёй.

На старонках «Маладосці» мы атрымалі магчымасць апынуцца, кажучы словамі Ф. Салагуба, «перад відовішчам душы, азоранай каханнем». Жыць гэтым дзівосным і непаўторным пачуццём — вялікае задавальненне і асалода. У гэтым пераконваюць вершы паэтаў рознага жыццёвага вопыту і рознага ўзросту, якія даюць уяўленне аб «чароўнай эманацыі кахання» (Ф. Салагуб).

Пачуццё кахання вынікае з самой чалавечай існасці, што цудоўна пацвярджаць, ілюструюць вершы Навума Гальпяровіча, які бачыць у каханні сапраўдны, адухоўлены сэнс жыцця. Самае жаданае і запаветнае — быць побач з каханай:

> Я хачу, каб праменьчык святла
> Яркай зічкай праваўся з нябёс.
> Я хачу, каб ты побач была!..
> Ці ж не ў гэтым адхланне і лёс..

---

Заканчэнне. Пачатак у № 10, 2007 г.

Адчуць душэўнае зліццё з радзімай, «растварыцца» ў яе краявідах, любіць і кахаць, абагаўляць жанчыну — сутнаснае ў светаадчуванні Н. Гальпяровіча. Для гэтага аўтара характэрна засяроджаная сцішанасць, роздумнасць, мяккая экспрэсія слова, якая выяўляе адметнасць яго творчай індывідуальнасці. У адносінах паэта да жыцця і свету вызначальнымі з'яўляюцца пачуцці замілавання, любові, якія скіроўваюць нас у сферу ідэальнага, прыгожага, вечнага:

Я стану млынам, небам і зямлёй,
Бялюткім гаем і лістком кляновым,
Я стану сшыткам і гаючым словам,
Каб быць з табой, заўсёды быць з табой.

Рамантызацыя вобраза каханай бачыцца тыповай рысай у многіх лірычных творах паэтаў-мужчын. Складаць хваласпевы ў гонар жанчыны і кахання — гэта ў нязменнай і цудоўнай традыцыі беларускай і сусветнай паэзіі. Зноў жа разумееш: столькі разоў прамаўляюцца па сутнасці адны і тыя ж словы, але нічога не паробіш, калі душа спявае і адтуль льецца светлы гімн каханню. У кожнага сваё каханне, свой вобраз каханай. «Ты усміхнулася — // сонца прачнулася», — так выказвае сваё захапленне Зіновій Прыгодзіч у вершы «Вясна». Каханая бачыцца яму самой вясной і сонцам. Без гэтага найбліжэйшага, дарагога чалавека свет у адзін момант можа пачарнець, страціць сваю прывабнасць. З даверлівасцю прызнанняў паэт напісаў верш «За сівымі прасторамі...»:

А як выйдзе на ганак
Казка мая,—
Прытуліцца да ног яе
Промнем ласкавым
І сказаць ціха-проста ёй:
— Не хачу больш
ніякіх ростаняў!

Наогул, антычна-рэнесансная традыцыя — бачыць жанчыну ў вобразе багіні, мадонны — глыбока і трывала ўвайшла ў нашу паэзію. Міхась Пазнякоў стварае высокі ідэал каханай. Яе вобраз сонечны, незвычайны: «...Гэта ўсмешка твая залатая // Асвяціла на момант пакой». Таму і жадаецца ў адносінах да сваёй абранніцы, мабыць, добрай і чароўнай музы, толькі аднаго: «Пачуццямі высокімі гарэць, // Крыляць да зор узнёсла і натхнёна...» («Санет»). Ужо адно адчуванне таго, што на зямлі ёсць каханая, надае асаблівы сэнс жыццю, пра што і гаворыць Васіль Андрыеўскі: «Ёсць толькі ты пад гэтым небам // І Богам дадзеныя дні» («Не гавары, што мы чужыя...»). «Прад высокаю красою» схіляюць галаву нашы паэты, яны імкнуцца перадаць усю радасць і глыбіню зачараванасці жаночай прыгажосцю, і гэты момант ідэалізацыі імпануе.

У сучаснай беларускай прозе, наадварот, створана нямала жаночых вобразаў дэгенератыўнага тыпу. Чаго толькі вартая Арыядна з «Крывінкі» Івана Шамякіна — амаральная пачвара, якая тэрарызуе сваіх родных бацькоў. Дзякуй Богу, але такія тыпы ўспрымаюцца як выключэнне, анамалія. І, безумоўна, дзякуй нашай цудоўнай паэзіі, якая стварае культ жанчыны, каханай як высокай зоркі. «Якая велічная Ева!»— усклікае ў адным з вершаў Мар'ян Дукса, паэтызуючы вясковую прыгажуню, якая бачыцца няйначай як «проста каралева». Жанчына мае чароўную сілу сваёй ласкай, спагадай, чуласцю, душэўнай цеплынёй. Памятаеце, як выдатна сказаў Пімен Панчанка: «Сусвет ачарсцвеў і дашчэнту прадрог // Без ласкі вялікай жаночай» («Белыя яблыні»). Паслухаем прачулыя словы паэтычнай малітвы маладой паэтэсы Уладзлены Дырды — словы, якія вынікаюць з самой глыбіннай жаночай існасці:

Я памалюся Богу. І цябе
зноў агарну каханнем і лагодай,

і стану на калені пры святле
маленькай свечкі на стальцы сусвету.
Я памалюся Богу за цябе…

Сапраўды, каханне і любоў рухаюць чалавекам, прадвызначаюць у многім яго паводзіны і адносіны да жыцця, іншых людзей. На гэтых вечных пачуццях трымаецца многае, і, па вялікім рахунку, наш зямны і грахоўны свет. Таму паэты ўсведамляюць, як важна іх шанаваць, берагчы. Пятро Прыходзька глыбока разумее важнасць духоўных першаасноў: «Адвяду бяду любую // Ад цябе, мая Любоў!» («Громаадвод»). Алег Салтук даражыць радасцю падораных жыццём імгненняў, паэтызуе прыгажосць, суладдзе з навакольным светам:

І толькі чайкі ўсё лятуць
Ужо на пару па-над светам.
І я шапчу: заўсёды будзь
І ты, і я, і гэта лета!

«Маладыя гады, // Маладыя жадання! // Ні жуды, ні нуды, // Толькі шчасце кахання!»— так выказаў калісьці сваё меркаванне паэт-класік. Так, маладосць — пара кахання. Першага сарамлівага і трапяткога, радаснага і з дамешкам суму, гаркоты… Каханне як пачуццё-страсць і вярэдлівае тамленне паўстае з вершаў Ганны Міклашэвіч. Вось паасобныя радкі з яе спавядальнай лірыкі сэрца: «Задухмяніць суніцамі лета, // Зацалуе гарачымі вуснамі…», «Зачарую пялёсткамі тонкімі…» («Задухмяніць суніцамі лета…»); «Мне вобраз любага мужчыны // Малюе шчодрая вясна» («Садоў духмяных вэлюм белы…»); «Я дагарала іскрай нетаропка, // Упаўшы на жаданае плячо» («Вясной дарыла першыя пралескі…»). У вершах Г. Міклашэвіч звяртаюць увагу аўтарскія вобразы-знаходкі.

Жыццярадасных, мажорных вершаў пра каханне ў творчасці маладых аўтараў нямала. Узнёслым, узвышана-велічным пафасам прасякнуты верш дваццацігадовага аўтара Віталя Рыжкова, у якім рэфрэнам гучыць лацінскае выслоўе «Слаўся, Каралева Марыя!». Чытаючы гэты верш, згадваецца воклiч «Ave Maria!» Максіма Танка. Каханне ўслаўляецца ў вершы паслядоўніка класіка як вялікае і палымянае пачуццё:

Ты — лекавая расліна,
далоні твае — як травы.
Ave, Maria Regina,
Ave…

Тое, што маладыя аўтары адштурхоўваюцца ад эстэтычнай традыцыі таго ці іншага паэта, у іхніх вершах сведчаць алюзіі, рэмінісцэнцыі, тэкставыя ўкрапіны-цэнтоны. У сучаснай мастацкай прасторы асабліва відавочная духоўная прысутнасць М. Багдановіча, пра гэта, уласна кажучы, і сведчыць зварот да яго мастакоўскага вопыту, светаразумення. Кацярына Дарагонька, беручы за першааснову багдановічаўскі верлібр «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…», увасабляе свае пачуцці ў адпаведнай вершаванай форме:

Я не хацела б аднойчы
Спаткацца з Вамі на вуліцы
І першай адвесці вочы.

Я не хацела б аднойчы
Сустрэць Вас асеннім ранкам
І не сказаць — кахаю.

Крыніцай паэтычнай рэфлексіі ў вершы Уладлены Дырды «Туга па мінулым каханні…» таксама з’яўляюцца вядомыя радкі М. Багдановіча. Яна па-свойму пераўвасабляе матывы патрыятычнага верша «Пагоня», выяўляючы пры гэтым інтымнае, асабістае. Адбываецца эстэтычная трансфармацыя, аўтарка творыць уласную эстэтычную рэальнасць:

Ты ў краіне нястрыманых коней,
што лятуць па цнатлівай зямлі;
старадаўняй літоўскай «Пагоняй»
адмяраю самотныя дні.
Праз тугу да цябе — дакрануцца б…
Праз стагоддзі — прыйсці б да цябе,
на мінуўшчыну зноў азірнуцца
і знайсці не такую сябе.
Не такія і сонца, і вецер,
не такія пачуцці і сны…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Што не я твае раны накрыю
белай стужкай малітвы святой…

Гэтыя радкі, магчыма, чымсьці нагадваюць знакаміты самотны плач Яраслаўны, пераклікаюцца з традыцыямі гераічнай і рамантычнай паэзіі з яе ўслаўленнем мужнасці, ахвярнасці, высакароства.

А вось для Юліі Андрэевай першапрычынай яе натхнёнага паэтычнага выказвання стала асоба паэтэсы Яўгеніі Янішчыц і, у прыватнасці, яе выдатны верш «Ты пакліч мяне, пазаві…». Гэтая эмацыянальная рэакцыя абумоўлена імкненнем спазнаць сутнаснае ў духоўным свеце жанчыны, якая зацвярджала каханне і любоў як асноватворныя і вызначальныя пачаткі на зямлі:

Ты пакліч яе, пазаві.
Адгукнецца гарэзна полымя…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты пакліч, імя назаві,
Плынь рачулкі абудзіцца вершамі.
Ды ў бязмежжы жывой любві
Нам заззяе зорка ўсцешана.

У тым і ёсць шчасце маладосці, каб кахаць, жыць салодкімі летуценнямі. Нават самі словы, якія прамаўляюць закаханыя, маюць асаблівую энергетыку, нейкую магічную сілу ўплыву. У гэта верыцца Яне Явіч:

Чырванню зорнай палаюць рабіны,
Падае снег на зямлю…
Хочаш застацца навечна адзінай?
Проста скажы: «Я люблю».

Іншасказальна, вобразна выказваецца Кацярына Шатаво ў вершы «Я буду…», дзе свабодная форма паэтычнага пісьма перадае кардыяграму сэрца, якое прымройвае спатканне з каханым:

Калі
захочаш
піць
шукай
глыбокае
возера
з дзіўна
блакітнымі
вачыма.

Вызначэнні кахання даюцца маладымі аўтарамі, магчыма, не заўсёды абсалютна новыя, арыгінальныя. Але тое, што паэтычныя радкі ствараюцца нязмушана, з апорай на свой унутраны досвед — так, як сэрца намаўляе, гэта відавочна. Возьмем хаця б наступныя прызнанні: «А мы ў палёце // Вучымся свабодзе. //

Каханне — у душы, // І мы — у каханні» (Рагнед Малахоўскі. «Усход — захад»); «Без кахання жыццё — як няволя… <…> Дакрануцца б рукою да мары, // І пялёстак рамонка сарваць…» (Павел Торчык. «Незвычайная мара»); «Каханне — // Лабірынт у халоднай цемры… (Аліна Мельнік. «Ты глядзеў у мае вочы…»). Вользе Коваль хацелася б, напэўна, толькі марыць і не заўважаць, як кажуць, чорныя плямы на сонцы. Яна спрабуе рэальна ацэньваць жыццё, дзе не ўсё так бясхмарна і проста, бывае няўтульна, прыкра, балюча. Каханне разам з тым успрымаецца ёй у рамантычным святле — як выратавальны круг на бурных хвалях жыцця. Непасрэдна, нават з гарэзлівасцю гучыць дзявочая просьба:

Якія злыя часам жарты —
Шаленства, час расчаравання.
Так жартаваць зусім не варта!
Амурчык, падары каханне!

Каханне — не толькі замілаванне, любасць, пяшчота… Яно нярэдка, ведаем, мае і адваротны бок — бывае пазбаўленым узаемнасці ці нешчаслівым. Няцяжка адчуць па інтымных, любоўных вершах, чым адгукаецца каханне ў душы і сэрцы, асабліва тады, калі закаханыя з безагляднасцю спальваць сябе на яго агні або паміж імі здараецца прыкрае непаразуменне і, урэшце, разрыў. Засмучэнні, горкія нараканні, усведамленне віны, душэўныя пакуты, балючыя перажыванні — усе гэтыя пачуцці выяўлены з рознай ступенню псіхалагізму ў творах пра каханне. Вобраз вясны ў кантэксце аднаго з вершаў Марыі Ляшук выступае як пейзажная дэталь, якая сімвалізуе каханне, безуважным да якога застаўся той, каму адрасаваны дакор і горкая крыўда. Абрамленне-паўтор стварае яскравы рытміка-інтанацыйны малюнак: «А ён не змог вясны маёй убачыць, // Яна мужнела ў бурах і дажджах, // Павольна расцвітала ў садах. // А ён не змог вясны маёй убачыць…» («А ён не бачыў, як ішла мая вясна…»). У вершы Кацярыны Дарагонькі «Я клічу цябе…» за знешняй стрыманасцю хаваецца чулае, ранімае сэрца лірычнай гераіні:

Туманы разганяюць
Зоркі.
Прамень сонца
Над лесам дрыжыць.
Пах мядовай травы —
Ён горкі
У развітальнай глухой цішы…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты не ведаеш,
Хто я і дзе.
Я не клічу цябе.
Маўчанне.

Расстанне, адзінота выклікаюць зажураны настрой, і гэтай элегічнасцю прасякнуты многія паэтычныя радкі. Наталля Бурдзейка раскрывае «пейзаж душы»:

Ты з’ехаў.
Сумуюць дрэвы.
І спрачаюцца з імі
Сляды на снезе.

«Жыць у імя вяртання» (Я. Янішчыц) — вяртання кахання — гэта яшчэ адзін з вызначальных матываў лірычнай творчасці. Святлана Локтыш пачынае верш «Вось зараз, хутка рукі разамкну…» са звароту-пытання, прасякнутага пачуццём любасці: «Мой свет, мой цуд, мой родны чалавек, // Навошта крыўду так трымаеш доўга?». Яна гаворыць пра свае болевыя адчуванні, спрабуе адшукаць тое галоўнае, што дапаможа вытрымаць выпрабаванне каханнем: «Не гонар свой —

каханне беражы, // Не крыўды, — а спагады сей насенне». Згадайма, з якой вялікай просьбай-мальбой усклікаў У. Караткевіч: «О каханне маё бясконцае, // Не ўцякай ад мяне, пашкадуй!». У любоўнай лірыцы пастаянна сустракаюцца паэтычныя варыяцыі, дзе ёсць словы і выразы «чакаю», «цябе не хапае», «не згаснеш», «сустрэнемся» і да т. п. С. Локтыш усведамляе, наколькі важна праз памылкі і дараванне ісці насустрач адно аднаму, каб суладна прамовіць:

Я веру: пачуюць нябёсы, зямля
Прызнанняў нясмелых адвечныя словы:
— Кахаю…
— Таксама.
— Да скону…
— І я…

Ён і Яна становяцца адзіным светам у тым выпадку, калі кожны адчувае сябе часцінкай адно аднаго, здольны адкрыць іншаму сваё сэрца, умее яго слухаць, разумець... Гэтае набліжэнне, паяднанне — сустрэчны рух, які стварае своеасаблівае духоўнае біяполе. Ратавальная сутнасць кахання добра выяўлена ў вершы Маргарыты Аляшкевіч:

Пабач мяне — у кропельцы дажджу,
Нагамі босымі па абляцелым лісці
Адчуй маю замерзлую самоту.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я промнем сонечным к табе паспею выйсці…

Прадчуванне чагосьці непазбежнага, найгоршага часам падказвае інтуіцыя, само сэрца. А сэрца ўсё ж, як кажуць, не падманеш, яно бывае праніклівым і відушчым у хвіліны паглыбленага самааналізу. Гэта пацвярджае інтымны верш Таццяны Будовіч «Калі ты мяне пахаваеш…». Страта кахання заўсёды выклікае пачуццё глыбока асабістай бяды ці нават катастрофы. Сумнае, трывожнае прадбачанне малюе ўяўленне маладой паэтэсы:

Калі ты мяне пахаваеш,
(а гэта адбудзецца ўвосень),
у сэрцы сваім закідаеш
мой вобраз лістотай, што просіць
цяпла пад дажджом на дарозе,
ці нейкае іншай пяшчоты…
…імгненне спыніць на парозе
таго, што адбудзецца потым.

У маладыя гады многае, як вядома, адчуваецца больш абвострана, асабліва, калі гэта тычыцца такіх інтымных з'яў, як узаемаадносіны Яго і Яе (або наадварот). Магчыма, вершаванне, паэзія і даюць цудоўную магчымасць выліць скаргу і боль сваёй душы цэламу свету. Ці лягчэй ад гэтага? Цяжка сказаць, але кожнаму хочацца шчасця, чуласці і душэўнага разумення, каб знайсці выйсце з лабірынтаў часам няпростых узаемаадносін.

Пяшчота і боль, смутак і дакор часта ўтвараюць эмацыянальна-сэнсавае адзінства ў радках лірычнай споведзі — адзінства, якое ў скандэнсаванай форме раскрывае драму кахання. Паэма пра каханне Аксаны Спрынчан «Верацяно халоднага лета» — яскравы адбітак усхваляванай душы. Ёсць тут алюзія на твор Купалы: «…і першы раз сярпом зжынаю жыта // і ўспамінаю — // Я — «Жняя» Купалы». Каханне, якое абяцала радасць і шчасце, прынесла горыч і мукі. І гераіні хочацца быць мужнай, перажыць гэтае жыццёвае выпрабаванне. Тым не менш вобраз Яго паўстае ў рамантычным арэоле:

Вусны твае —
палыновыя, як Беларусь…
Голас гучыць прыгажосцю Элады…
Ты на руках
узнімаеш мой цень над зямлёй.

Цяжка, нават немагчыма адшукаць душэўную палёгку, пазбыцца летуценняў, і таму закаханае сэрца трымціць кволай надзеяй, уяўленне прымройвае вобраз таго, праз каго «апяклася горкім ценем самоты». Эмоцыі, асацыяцыі, імпульсы раскрываюць балючасць зведанага пачуцця, якое абярнулася расстаннем, шчымлівымі згадкамі. Для гераіні паэмы «ў халодным ліпені нараджаецца лістапад». Нялёгка даецца ёй разуменне рэальнасці, дзе ўжо няма Яго, словы выдыхаюцца на элегічнай ноце:

Выйшла на ганак —
праз цемру пачуліся крокі твае.
Не, не ты.
Гэта кроплі дажджу з даху...
Ды знаходжу сляды —
жоўтае лісце вішняў.

Твор «Верацяно халоднага лета» вельмі пачуццёвы, імпрэсіяністычны, у ім гучыць шчымлівая мелодыя кахання.

Здавалася б, што маладым немагчыма чымсьці здзівіць у даўняй, нават «сівой» традыцыі паэзіі кахання. Тым не менш асобным аўтарам гэта ўдалося, у іх атрымалася выклікаць цікавасць да сваіх публікацый. Запыніў увагу адмысловы «Ліст да Леаніда Галубовіча» Ярыны Дашынай: «Вы хацелі б мяне абняць...», «Вы цалавалі б мяне ў лоб, // я Вас — у вусны». Што гэта: адкрытае любоўнае пасланне, флірт-гульня, красавіцкі жарт? Зазначу адразу: пад вершам пазнакі «1 красавіка» няма. Прыгадаліся нашумелыя вершы нашых вядомых паэтаў і паэтэс, дзе дамінуюць любоўнае пачуццё, шчырае самавыяўленне. Здагадкі засталіся здагадкамі, але, магчыма, адбудзецца паэтычны дыялог, і мы пачуем у адказ паэтычны голас самога Леаніда Галубовіча... Верагодна, гэты твор Я. Дашынай пісаўся раней, калі Л. Галубовіч прызнаўся, што вершаў пісаць больш не будзе. Дык, можа, гэта ўсяго мастацкі прыём скарыстаны паэтэсай — і з аўтарам «апошніх вершаў» пацвельваецца сама Муза, натхняе яго на лірыку сэрца?

Зміцер Арцюх стварыў вобраз таямнічай незнаёмкі, якая недзе там — на Усходзе. Пошук каханай на фоне экзотыкі арабскага свету таксама ўспрымаецца як штосьці нязвычнае, уражальнае:

Марока...
Мары...
Мітусня...
І я з зімы трапляю ў лета,
І я шукаю, дзе яна,
Мая арабская Джульета.

Магчыма, камусьці за дзяўчат на сваёй зямлі крыўдна, што іх не шукае лірычны герой паэта, але ж пачуццё кахання не ведае межаў, яно — той чароўны магніт, які прыцягвае, нягледзячы на вялікую адлегласць і нават розныя часткі свету. Да таго ж па многіх прыкладах мы ведаем, што паэты і мастакі — натуры ўражлівыя, таму закахацца ці намаляваць загадкавы вобраз каханай — гэта не такая і цяжкая справа. Галоўнае, каб было натхненне і аб'ект захаплення. З. Арцюх ад верша да верша падаграе цікавасць да сваіх любоўных серэнад, бо і сапраўды адчуваеш, што каханая лірычнага героя — незвычайная, не такая, як усе. У вершы «Маўчанне пра Цябе» гучыць прызнанне:

У Фесе поўня мне шаптала
І ў вочы мне глядзела, быццам Ты.
І ў поўні адзінота раставала
Аблокамі арабскай нематы.

Лірыка кахання падаецца выключна камернай з'явай. У ёй увасобіліся жаночая мяккасць, мужчынская страснасць, ёсць далікатнасць, а яшчэ лёгкая эратыч-

насць пачуцця. Усе гэтыя творы раскрываюць надзвычай важны інтымны бок жыцця асобы. Больш таго, тэкставае полі паэзіі кахання сведчыць пра шырыню выяўлення зместу асобы, яе духоўнае багацце. У выніку можна пераканацца, што, кажучы словамі В. Каваленкі: «каханне, як і жыццё,— самакаштоўнае...». Безумоўна, хацелася б, каб было ў вершаванай творчасці як мага менш аднатыпнасці, перапеваў. Знойдуцца пры жаданні і радкі для кпінаў, перасмешак парадыстаў. І ўсё ж міжволі нараджаецца пажаданне: хай і надалей пачуццё кахання хвалюе сэрцы паэтаў, каб тыя адгукаліся тонкім камертонам, а гукі ліры абуджалі, як сказаў паэт, «пачуцці добрыя».

## *«Ды хто сказаў, што трэба лёгка жыць?..»*

Можна падумаць, што нашы паэты бачаць сэнс жыцця толькі ў каханні, любові. Хоць мы пераканаліся: менавіта гэтае пачуццё прыносіць глыбокія душэўныя пакуты, боль, сумненні і расчараванні. Губляючы, чалавек асэнсоўвае мінулае, разважае, робіць высновы. А яшчэ камусьці можа падацца, што маладая беларуская паэзія з лёгкасцю, нават наіўнасцю ставіцца да жыцця, бо, маўляў, столькі ў ёй летуценных уяўленняў, узнёслых эмоцый. Справа, аднак, выглядае зусім інакш, бо можна пералічваць многіх аўтараў і іх вершы, зместа-сэнсавае ядро якіх утвараюць роздум, рэфлексія, разважанне, асэнсаванне. Так, філасафічнасць — характэрная рыса паэтычнай творчасці, рэпрэзентаванай на старонках «Маладосці». Гэта не значыць, што на кожнай старонцы выдання трэба шукаць філасофію. Але згрупаваць творы з медытатыўным ухілам у адзіны тэкставы комплекс, бясспрэчна, можна і не ўяўляе асаблівай цяжкасці.

Згаданы намі раней У. Салаўёў даводзіў, што «сэнс прыроды быў у стварэнні разумнай істоты — чалавека», а «сэнс чалавека ёсць ён сам...». Свет чалавечага існавання — складаная з'ява, і паэты імкнуцца спазнаць яе сутнасць, асэнсаваць розныя аспекты быцця: сацыяльнага, маральнага, духоўнага і інш. Упэўніцца ў тым, што сучасную паэзію займаюць філасофскія пытанні, можна на прыкладзе вершаў Людмілы Рублеўскай. Жыццё — гэта не толькі прыгожыя ружы, сцвярджэнне чагосьці ідэальнага, наадварот, цяжкасці і выпрабаванні непазбежныя, якія і ёсць «калючыя кусты». Для паэтэсы надзвычай важным уяўляецца зрабіць свой уласны выбар, а гэта магчыма, напэўна, тады, калі зразумееш сябе, складанасць існавання ў рэальным свеце:

> Ды хто сказаў, што трэба лёгка жыць,
> Хто сцвердзіў — мы народжаны для шчасця?
> Няма мне нават сцежкі... Толькі пыл
> Чужых дарог часамі вочы засціць.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Мая сцяжынка мне адной належыць.

Відавочная палемічнасць аўтарскай думкі, яе скіраванасць да жыццёва важнага, сутнаснага. Хіба можна прыстасаваць адно і тое ж у дачыненні да кожнага канкрэтнага лёсу? Наўрад ці прыдадуцца стэрэатып або схема.

Усё, напэўна, павінна мець свой сэнс, сваё вытлумачэнне. Жыццё ўжо само па сабе каштоўнасць, і таму так важна пераадольваць яго драматычныя абставіны і калізіі. Ёсць тое, што не мае пэўнага сэнсу, шукай яго ці не шукай, асабліва тады, калі ў душы штосьці не вытлумачваецца, не суадносіцца, не ўзгадняецца ў адпаведнасці з сумленнем, яго пакутамі. Плыць па цячэнні, бяздумна існаваць, нават ахвяраваць — гэта інерцыя духу, пра што выдатна гаворыць Л. Рублеўская ў вершы «Валет»: «...Лепей лісцё падмятаць ля прыступкаў да Бога, // Чым паміраць за чыёсьці кардоннае сэрца».

Пытанні сэнсу існавання (як жыць і дзеля чаго жыць), выбару ў пэўных абставінах, узаемаадносін з людзьмі і светам паўстаюць пастаянна, выпрабоўваюць

кожнага з нас. Адказаць на іх адразу ці адназначна часам немагчыма, бо тыя пытанні экзістэнцыйнага парадку і вымагаюць унутранага самааналізу. Як зазначаў Сямён Франк, адказ на пытанне пра сэнс жыцця трэба шукаць «у глыбіні душы кожнага чалавека». Ён жа тлумачыў, чаму гэтае пытанне паўстае перад намі і чаму яно хвалюе нас, даводзіў, што «гэта ёсць пытанне пра хлеб, які насыціў бы нас, і пра ваду, якая спаталіла б нашу смагу» («Сэнс жыцця»). Пра хлеб духоўны і крынічную ваду жыцця разважае паэтэса Л. Рублеўская, якая сэрцам і розумам хоча спазнаць сэнс прызначэння чалавека ў свеце, асабліва, калі гэты чалавек — паэт, мастак. У вершы «На хвалях лазуркавых бэзу…» людскія стасункі, пазбаўленыя духоўнай асновы, паказваюцца як антыідэал быцця і супярэчаць, безумоўна, аўтарскаму светаразуменню. Цяжка існаваць у атмасферы абыякавасці, глухаты, калі адсутнічаюць чулая сардэчная ўвага, высакародныя памкненні і добрыя намеры. Адсюль — напружаны пошук думкі лірычнай гераіні паэтэсы, з душы якой імкне ўзрушаная хваля лірычнага пачуцця. Драматызм — у гэтым, мабыць, заўсёдная доля існавання паэта на зямлі, што і выяўляецца ў радках Л. Рублеўскай:

І я ў гэтым садзе — як птушка,
што вырасла ў цеснае клетцы.
Навошта мне дадзены крылы,
навошта пакутуе сэрца?
І з чоўнікам кволым малітвы
спрабую ўзляцець над сабою…
І з кветкамі ўверх узлятаю,
і падаю ўніз з лістабоем.

Ёсць, трэба думаць, важны асабісты сэнс для Л. Рублеўскай у звароце да асобы Яўгеніі Янішчыц. Згадайма лірычныя вершы-драмы гэтай паэтэсы, якой няўтульна пачувалася ў «садзе кахання», яна маркоцілася «ў безназоўнай цішыні, дзе перагорнуты старонкі жыцця», скардзілася і плакала «над смутным днём», хоць упэўнілася на лёсе вясковых жанчын, найперш сваёй матулі, што «дзень не любіць кволых і бяссільных». Да кожнага чалавека наведваюцца сумненні, калі не спраўджваюцца мары, жаданні. Верш Л. Рублеўскай прасякнуты роздумам пра тое, што значыць для слабой, кволай у пэўныя моманты жанчыны адшукаць душэўнае апірышча, каб сказаць: «Стрываю боль. Я не ўпаду» («Я. І. Я»).

Асабліва заўважаецца выхад паэтычнай думкі ў сферу трансцэндэнтнага, касмічнага. Да сусвету прыкаваны позірк маладых паэтаў гэтак, як і калісьці ў свой час Янкі Купалы, Максіма Багдановіча…. Вобраз акна ў вершы Ярыны Дашынай «Лістапад праз Сусвет» увасабляе адкрытасць яе паэтычнага свету. Думка ў яе красамоўнай філасофскай выяўленасці, збліжаючы нябеснае і зямное, сягае да экзістэнцыйнага спасціжэння сусвету-вечнасці, лучнасці з гэтай неабсяжнай прасторай чалавечай душы:

Распад Сусвету з інтэрвалам
парыву форткі. Хто апалай
зацыраваў лістотай зырка
зямлю — стаптанасці і дзіркі,
і сцёртасці — на кіламетры
кляновых латак. У паветры
караблікі лістоў крывавых.
Фармат акна… як пераправа
у іншы свет.

Асэнсаванне быцця як духоўнага існавання выяўляецца ў вершы Я. Дашынай «Пакіньце мяне ў спакоі…». На жыццесцвярджальнай ноце пачынаецца гэты твор, лірычная гераіня паўстае ў палоне паэтычнай мроі, якая нагадвае казку: «…і я абярнуся ракою // глыбокай і неўміручай // за нёбакрай бягучай». Рака жыцця імкне ў прасцягі сусвету, «звонкагалоса ўліваючыся ў нябёсы», пералі-

ваецца ў раку вечнасці. Аўтарскае ўяўленне набывае рэлігійную афарбаванасць: «Магчыма, за небакраем // ёсць брама раю?» Чалавечая думка заўсёды імкнецца перасягнуць межы зямнога, выйсці на той бок бачнага свету.

Не адпавядала б сапраўднасці, калі б хтосьці з тых, хто назірае за літаратурным працэсам, сказаў, што лірычны суб'ект у творчасці маладых паэтаў пасіўны, інертны, тым больш інфантыльны. Светапогляднае сталенне не заўсёды залежыць ад узросту, бо яно залежыць ад узроўню ўнутранага самапаглыблення, ступені духоўнага разумення жыцця, яго складанасці і супярэчлівасці. У вершах Вікі Трэнас унутранае пачуццё прыкметна ўскладнена, драматызуецца, адчуваецца, што яе гераіня апынулася ў сітуацыі, калі трэба пераадолець жыццёвую калізію:

Цёплы імклівы задумлівы дождж
Стрэне абдымкамі пыльную раніцу.
І невядома: залізваць мне раны ці
Бегчы хавацца ў пакінуты дом.

ці:

Ёсць час адчуць чужыя боль і страх,
Ледзь бачны рух пачуцця ў гэтых
зрэнках.

Надараецца, калі глыбакадумнасць змяняе досціп, крытычны позірк на сябе як бы збоку. Можна ўсміхнуцца, пажартаваць і крочыць далей. Таму імпануе верш Тацццяны Будовіч «Спроба самаіроніі». Сапраўды, нялёгка часам «супраць гэтае млявасці плыць». Выснова ж просіцца сама сабой: калі ты аморфны, то не трэба «нікому… ныць» і на штосьці наракаць. Можна пашкадаваць, што маладыя аўтары практычна не выкарыстоўваюць патэнцыяльныя сродкі гумару, іроніі. Так, на старонках «Маладосці» за 2006 год няма эпіграм, шаржаў, пародый, вясёлых літаратурных показак. Ці, можа, жыццё такое спрэс сур'ёзнае або маладыя (і не толькі!) развучыліся жартаваць?

Добра, што паэты ўзіраюцца ў сябе, прыслухоўваюцца да пачуццёвых імпульсаў, свайго ўнутранага голасу. І ўсё ж, як падаецца, акурат сапраўднай глыбакадумнасці пакуль бракуе асобным маладым аўтарам, яны яшчэ ў пошуках свайго арыгінальнага слова, бо філасафічнасць, драматызм і элегічнасць не заўсёды вынікаюць з асабістага лёсу як глыбока перажытае і спазнанае. Што ж, гэта абсалютна нармальны і заканамерны працэс — працэс унутранага і творчага росту. У цэлым жа маладое паэтычнае пакаленне — людзі цікавыя, духоўна ўзвышаныя, інтэлектуальныя, удумлівыя.

## *«І сэрцу аб красе прыроды гаварыце!»*

Прадчуваю, як толькі пазначу тэматычны кантэкст «прырода і чалавек», сёй-той адразу захоча мне запярэчыць, а мо нават і незадаволена зморшчыць лоб і абурыцца: ну колькі ўжо можна пісаць пра кветкі ды пралескі, лугі і лясы, вунь, пагадзіцеся, колькі праблем глабальнай значнасці павінна хваляваць паэтаў. А яны спакойна сузіраюць, як аблокі праплываюць ці траўка расце, уцякаюць ад грамадства на прыроднае ўлонне. Ды, маўляў, краявіды апяваюць выключна графаманы, бо дужа лёгка зарыфмаваць радкі тыпу «бяроз — лёс», «рака — асака», «крыніца — навальніца» і да т. п. Але ж можна адразу зрэагаваць на падобныя закіды і запытацца: а хіба ў грамадзянскіх вершах цяжэй спалучыць рыфмоўкай словы «беларус — вус», «няхай — край», «чалавек — век»? Што і казаць, асобныя аўтары набілі руку ў падобным вершаванні, і ўзровень гэтых тэкстаў не сягае далей узораў паэтычнага «нашаніўства» пачатку мінулага стагоддзя. Адразу зазначу: у прыродаапісальнай творчасці мяне таксама не ўсё задавальняе: часам бракуе вобразных адкрыццяў, кідаецца ў вочы аднастайнасць вершаваных радкоў.

І ўсё ж крыху рытарычна прагучыць пытанне: хіба можна адгаварыць, тым больш забараніць нейкай рэгламентацыяй, захапляцца зямной і боскай красой прыроды, краявідамі радзімы! Не, не і не — тройчы паўторым мы. «І сэрцу аб красе прыроды гаварыце!»— заклікаў пясняр, і гэты духоўна-эстэтычны запавет Максіма Багдановіча і іншых класікаў сёння рэалізуецца ў мастацкай практыцы шматлікіх сучасных аўтараў, не састарэе, будзем спадзявацца, ніколі.

На схіле свайго зямнога веку тонка, чуйна, нават крыху сентыментальна ўспрымаў прыроду Пятро Прыходзька. Яго верш «Матылькі» міжволі перакліkaецца з багдановічаўскім захапленнем «сінякрылым матыльком». Замілаванае стаўленне паэта да свету выяўляецца ва ўжыванні ім памяншальна-ласкальных форм слоў: «травічка», «сінія лужкі», «матылькі». У першай страфе паэт сузірае прыгожы малюнак свету. Вока цешаць, радуюць рознакаляровыя матылькі. Здаецца, паэт стаў сведкам цуду, дзівоснай ідыліі. Аднак у сваім вершы ён не проста выхапіў, зафіксаваў чароўнае імгненне, але здолеў сказаць пра большае — і пра кароткі зямны век, і ахвяраванне дзеля красы жыцця:

…То белы крыльцы развінае,
То ясназоры матылёк.
Кароткі век з іх кожны мае,
Можа, адзін толькі дзянёк.

Здаецца, там, дзе ззяе лотаць,
Агонь жыцця ўжо іх пагас.
А вось не могуць жа не лётаць
Яны ў такі кароткі час.

«Ідылічны накцюрн» — такую назву мае верш Анатоля Шушко, які таксама перадае стан сваёй душэўнай лагоды, узнёсласці і незвычайнай прасветленасці. Чаруе, дзівіць яго той самы паэтычны вобраз матылька. Яго замалёўка больш чым пейзажны адбітак, гэта — настраёвая імпрэсія. Гэтак, як матылёк, трапеча ў сэрцы паэта жывое пачуццё:

Так незвычайна,
Раніцаю гэтай,
І летуценна
Мірнае быццё,
Што здэцца, не матыль,
А сэрца лета
Над муравой
Трапеча пачуццём.

Прыроду А. Шушко не лічыць і не ўспрымае як нейкую замкнёную прастору, ён адчувае яе неабсяжнасць, бясконцасць у разнастайных праявах. Яго вандроўка ў пошуках красы і таямніц цуду (іх шуканне і адкрыццё ў прыродзе займала М. Багдановіча) — не толькі паэтызацыя велічнасці палескага лесу, гэта па сутнасці ўваходзіны ў нацыянальны космас: «…— Брыду // Па космасе — // Па цуду-лесе»; «Па лесе // Па палескім // Я хадзіцьму — // Па космасе — Шукаць…» («…— Брыду…»). Гэты пошук не скоўвае дух, надае адчуванне ўнутранай свабоды. У гэтай сувязі прыгадваецца выказванне філосафа Мікалая Бярдзяева: «Прырода ж, як суб’ект, ёсць унутранае існаванне космасу, ёсць яго экзістэнцыяльнасць, а значыць, і свабода…». Не ўцёкаў да лясных баравін жадаецца А. Шушко, яго думка «высноўвае асновы», зацвярджае гэтыя асновы як духоўна значныя, анталагічныя. Невыпадкова ў яго вершы «сонца смяецца, як выток…», называюцца рэкі Прыпяць, Нёман, Віцьба, Дняпро.

У многіх вершах выяўляецца ўзнёслая паэтызацыя навакольнага свету, які ўспрымаецца як увасабленне непаўторнай прыгажосці, гармоніі, суладдзя. Паэты ў сваіх творах перадаюць радасць і асалоду любавання краявідамі, і гэтыя пачуццёвыя ўражанні ад убачанай красы адлюстраваны ў наступных радках Генадзя Пашкова:

Белы свет,
зарой благаславёны!
Адчыняеш дзверы ў гэту ціш,
І, наскрозь пранізаны азонам,
як дзіця нябёснае,
ляціш!

Сапраўды, «спасцігаюць утрапёна вочы» красу, адносіны нашых паэтаў да прыроды — з'ява глыбока духоўная. Прырода выклікае ў душы Ігара Пракаповіча трапяткі водгук, эстэтычныя эмоцыі, бачыцца яму як праяўленне боскага цуду. Краса пабуджае да натхнёнага хваласпеву. Паэт у вершы «Калі заснула цішыня…», перадаючы ўзнёслы стан душы, выказвае сваё захапленне зямным хараством, у той жа час яго пачуццё набывае філасофскую афарбаванасць:

…Памкненняў боская прырода
Знаходзіць з вечнасцю радство.

Як пахнуць райскія сады!
Як засвяціліся прасторы!
За бунтам — сцішыцца пакора,
Каб лісцем засцяліць сады…

Прырода дорыць паэту момант азарэння, дае магчымасць выказаць штосьці важнае ў сваім светаразуменні.

Улюбёнасць у хараство навакольнага свету — характэрная рыса пейзажнай лірыкі Уладзіміра Марука, які даўно сцвердзіў сябе як паэт прыроды. Ён умее ўкласці істотны, значны сэнс ў апісанне кветкі і дрэва, ручая і саду, зрабіць вобразны малюнак «пейзажам душы». Прырода для У. Марука сама па сабе ўяўляе эстэтычную каштоўнасць, бо яна — крыніца натхнення і эмоцый. Сапраўды, гэта ў традыцыі нашай паэзіі адчуваць і выяўляць сябе «з прыродай зліўшыся душой». Адсюль у творах У. Марука адухаўленне прыроды, адчуванне ў ёй чалавечай існасці:

…А цені дрэў —
замоўленыя сведкі —
Стагоддзі ходзяць ля маўклівых гэтых сцен.

Нібыта кветкі ўсе — з душы і плоці,
І моляцца,
і думаюць у сне…

Прырода і ўнутранае «я» паэта ўяўляюць адзінае эмацыянальнае, духоўнае поле. Ён адчувае і разумее прыроду як жывую істоту. Памятаеце, Ф. Цютчаў лічыў, што ў яе «есть душа», «в ней есть язык». А вось як У. Марук, суадносячы прыроднае і чалавечае, выявіў сваё ўспрыманне, здавалася б, звычайнага дрэва: «І не месціцца дрэва душою ў абсягу…» («У забытага лесу…»).

Уладзімір Марук бачыць свет у яго натурфіласофскай глыбіні дачыненняў чалавека і прыроды, тым больш што прыроднае ён ніколі не бачыў чымсьці лакальным, замкнёным, ізаляваным. Зварот да пейзажу з яго шырокімі мастацкімі магчымасцямі абумоўлены ўнутранымі патрэбамі сказаць пра сваё ўнутранае, глыбіннае, чалавечае:

Як жа глядзець на патухлае лісце
І, хоць бязгрэшнай,
паверыць зямлі,
Дзе я не быў
у далёкім «калісьці»,
Дзе я не буду
і ў блізкім «калі».

Прырода дапамагае паэту глыбей адчуць сябе, экзістэнцыйную сувязь з жыццём і вечнасцю. М. Бярдзяеў заўважыў, што «мы прарываемся… да прыроды ў экзістэнцыяльным сэнсе праз эстэтычнае сузіранне, якое заўсёды ёсць пераўтваральная актыўнасць, праз любоў…». Пейзажныя вершы У. Марука выразна псіхалагізаваныя, у іх ёсць філасафічнасць, а часам і падтэкст: «Зарана на гэтай мяжы, // Калі яшчэ сэрца бунтуе… // Ды што ты сабе ні кажы — // Ручай тваю сутнасць пачуе» («Нап'юся вады з ручая…»). Прырода нібы люстэрка, да якога падыходзіць паэт, каб убачыць чыстае, прыгожае, вечнае — і не маніць самому сабе, шчыра выказаць тое, што ляжыць на душы, хвалюе сэрца. Гаворачы пра прыроднае, зямное, ён выяўляе глыбокае пачуццё еднасці з усім існым — хай сабе гэта будзе маленькі і безабаронны павучок:

Усміхаюся сонцу-агню,—
Павучка і мяне яно грэе.
Я яго ад сябе не ганю,
Хай са мною
дабрэе,
мудрэе.
І яго непрыкметных слядоў
Не сатрэ і заваба-камея…
Хоць маіх ён не слухае слоў,
Ды жыццё,
як і я,
разумее.

У гэтых радках раскрываецца ўся душа паэта, поўная чалавечай чуласці, дабрыні, любові, спагады.

Прырода — гэта і ёсць сама прыгажосць і гармонія. «Невозмутимый строй во всем, // Созвучье полное в природе», — так бачыў навакольны свет Ф. Цютчаў. «Люблю гармонію ў прыродзе…»— прызнаўся калісьці адзін з беларускіх паэтаў. Прыгажосць прыроды пранікла, разлілася ў душы не аднаго лірыка, сталася часцінкай яго светаўспрымання. Між тым яшчэ Янка Купала гаварыў пра тое, як важна «свабоднай думкай дабыць усе харствы свету і ўсе асалоды жыцця людскога на гэтым свеце…» («Чаму плача песня наша?»). Імкненне да прыгожага, цудоўнага, як мы ведаем, закладзена ў самой чалавечай існасці. Гэта, уласна кажучы, і пацвярджаюць шматлікія паэтычныя радкі маладых аўтараў. Васіль Андрыеўскі гаворыць пра тое, што значыць адчуць імгненне прыгажосці, якое цудадзейна ўплывае на самаадчуванне чалавека:

На міг забыўшыся на тое,
Што недзе ёсць і гвалт, і здзек…
Марозным дыхаю настоем —
Наіўны, божы чалавек.

Прыродаапісальныя вершы прысвечаны розным порам года, стыхіям і з'явам, у іх выяўляюцца розныя настраёвыя інтанацыі. Вясновая раніца будзіць паэтычнае ўяўленне Яны Явіч. Яна стварыла адухоўлены, рамантычна-казачны вобраз вясны:

Зноў пабудзіў мяне ціхі бязветраны ранак…
Зноў цеплыня… Прыгажосць… Адкажы, не маўчы!
Зачараванае, выбегла сонца на ганак
І падарыла мне залатыя ключы…

Адметная зімовая замалёўка атрымалася ў Алеся Коткі, у яго вершы выразна кантрастуюць вобразы і пачуцці:

Белая імжа, нібы вужака,
Па зямлі зляднелай прапаўзе.

У душы не застанецца жаху —
Гурбамі ляжыць чысцюткі снег.

Мілагучнасць, песеннасць вызначае гучанне вершаваных радкоў Андрэя Цяўлоўскага:

Усё прамінецца, і сэрца не тужыць,
А па-над зямлёю ад раніцы кружыць
Таполевы снег,
Таполевы снег.

Чытаючы рамантызаваны верш Алеся Спіцына «Карабель. Малітва пра вецер», прыгадалася мудраслоўе Сенекі: «Калі чалавек не ведае, да якога прыстанку ён трымае шлях, для яго ніводзін вецер не будзе спадарожным». Герой верша А. Спіцына шукае свой шлях, ён не прымае жыццёвую і душэўную бяздзейнасць, той стан заспакоенасці, калі «ветразі ад штылю ў атрафіі». Стыхія ветру яго не палохае, ён прамаўляе заклінанне:

Прачніся вецер! Я цябе малю!
(Я зразумеў, што закаханы ў вецер.)
Дай руху хвалі, сэрцу, караблю,
Пазбаў ад страху і панады смерці!

І хай падмане мара ў соты раз —
Ёсць многа берагоў на гэтым свеце,
Але ў чаканні ненавісны час,
Пакуль не позна, хай прачнецца Вецер…

Гэты верш вылучаецца раскаванасцю, рамантычнай акрыленасцю пачуцця і створаны, як падаецца, у лепшых традыцыях паэзіі рамантызму. Асабіста мне прыгадваецца бунтарства, душэўная няўрымслівасць, высокія парыванні духу герояў М. Лермантава, У. Караткевіча… Пейзажны вобраз стыхіі набывае сімвалізм гучання.

Пейзажныя вершы — нібы лісткі на дрэве ў садзе паэзіі, іх так багата, што гэтае дрэва выглядае самым шчодрым і вабным. Але вось што вока заўважае. Хацелася б — і гэта хай успрымаецца як пажаданне — каб горад, яго відарысы не заставаліся па-за ўвагай маладых аўтараў. Рагнед Малахоўскі прызнаецца: «Паэзіі вясновая душа // Блукала між сівых муроў сталіцы» («Паэзіі вясновая душа…»). Гэтыя радкі абнадзейваюць, што з'явіцца яшчэ нямала твораў пра горад, тым больш традыцыя мастацкага урбанізму ў нашай паэзіі яшчэ мае відавочны патэнцыял для развіцця. А пакуль што з апублікаванага ў «Маладосці» варта вылучыць вершаваную замалёўку Юліі Новік, якая імкнецца сказаць сваё вобразнае слова пра горад і перадаць адчуванне ў ім вясной:

Дзень святла, ноч абуджаных ценяў
Спакушаюць палонам свабоды.
Саграецца пяшчотай вясенняй
Цэлы горад, цяжкі і халодны.

Промні слепяць каменную шэрасць,
А вясна ў іх пакровах агністых
Апранае ў надзею і веру.
Чалавек зноўку думкамі чысты.

Наогул, вясновая пара — час паэзіі, яна натхняе і прыносіць плён. Ганна Вабішчэвіч усклікае: «…Вясна з маладосцю. Пішы! («Я бачу мароз на вокнах…»). Усевалад Гарачка прызнаецца: «І вось яшчэ адна вясна за плячыма, // А ў далонях і новыя вершы» («Як загарэлася першае лісце на дрэвах…»). Дума-

ецца, гэтых прыкладаў больш чым дастаткова, каб пераканацца ў тым, што прырода — заўсёдная, вечная натхняльніца паэтаў.

Касмічныя мроі, фантазіі асабліва захапляюць маладых аўтараў. Яны дэманструюць незвычайную здольнасць — уменне размаўляць і гутарыць з зоркамі, небам, сонцам, а ў гэтым выяўляецца адметная рыса міфапаэтычнага ўяўлення — свет жывы, адухоўлены. «Мне між зорак блукаць здаралася...» — так запрашае да рамантычных летуценняў аб «заўтрашніх ветразях» Вольга Марозава («Мне расказвалі пра пунсовыя...». У аўтара з таямнічым творчым імем Болачка ёсць свае касмічныя асацыяцыі: «Зоркі — каменьчыкі, // Якія накідаў Хтосьці, // Каб мы не заблукалі ў Сусвеце» («Зоркі — каменьчыкі...»). А вось які зорны фантастычны краявід стварыла Рыта Латышкевіч: «Хвіліна — і з бездані страшнай і чорнай // Уніз ляцяць зоры. Становіцца зорнай // Ужо не блакітная ясная плынь, // Дзе зоры — пялёсткі белых вяргінь». Касмічнае і зямное ў вершы Ганны Мядзведзевай «Адчыняцца дзверы...» лучыцца праз матыў лімфы, маўляў, мы можам пранікнуць «у прастору з хуткасцю крыві». Лірычная гераіня Яны Явіч надзелена высокай узнёсласцю пачуцця, тонкай чуйнасцю да свету:

Згушчаецца змрок, толькі светла
ад нечага ў хаце...
Я ведаю: ты прыляціш да мяне
і абдымеш, як маці,
Мая легкакрылая ластаўка,
Зорная Ноч...

Але касмічнае сузіранне зорнага неба не заўсёды ў вершах маладых ідылічнае, яно абуджае экзістэнцыйнае адчуванне сябе ў свеце. «Я — іду, я вандрую ўздоўж небасхілу... // побач зоркі, у зорак пытанні, пытанні...» — так выказвае сваю непасрэдную лучнасць з зорным светам Аляксей Лужынскі. («Пытанні, што засталіся без адказу...»). Будзем спадзявацца, што адказы ў іх філасофскім напаўненні на пытанні зорак — пытанні вечныя і сучасныя — яшчэ чакаюць нас наперадзе. Галоўнае, вобраз зорак выклікае ў маладых паэтаў натхненне, эмацыянальную рэакцыю, іх святло будзіць мары, думкі, пачуцці. Як мы пераконваемся, касмізм з'яўляецца неад'емнай часцінкай іх светаадчування і мыслення.

### *«Жанр са знешняй формы ператвараецца ва ўнутраную...»*

Цікава зірнуць на жанравы дыяпазон сучаснай беларускай паэзіі і, у прыватнасці, на тыя вершаваныя формы, якія прадстаўлены на старонках «Маладосці» за адзін 2006 год. «Гадавы зрэз» паказвае, што ў лірычнай творчасці дамінуюць класічныя памеры, традыцыйны паэтычны сінтаксіс. Практычна адсутнічаюць оды і гімны, а так у цэлым набор жанравых відаў і форм даволі разнастайны: элегія, малітва, пасланне, прысвячэнне, верш-разважанне, санет, балада, верлібр, актава, трыялет, акраверш, прыпавесць, хоку...

Досыць цікавым у жанравых адносінах уяўляецца лірычны цыкл (ці паэма ў вершах) Валянціны Аколавай «Нарачанскія песні любові», які мае падзагаловак — аўтарскае нязвычнае вызначэнне — «паэтычны мюзікл». Сапраўды, гэтая рэч можа разглядацца як паэтычна-музычна-сцэнічны твор, які, напэўна, заслугоўвае ўвасаблення, напрыклад, на радыё. В. Аколава прысвяціла гэтыя «песні любові» светлай памяці Максіма Танка. Сваю задуму яна патлумачыла ў пастскрыптуме да твора: «Героі і гераіні маіх песенных малітваў-прытчаў — Нарач-азярына, вадзяны лясны куток, з якога папераменна, нібы князі да княгіняў, выходзяць на авансцэну Матчынай Мовы вясновыя спевы-паданні». Змяняюцца мелодыі, танальнасці і рэгістры гэтых любоўных балад ды песень, якія створаны ў народнай вусна-паэтычнай традыцыі. Інтэрпрэтацыя фальклорных крыніц пазначана аўтарскім жанравым пошукам, у выніку якога ўзніклі адмет-

ныя вершаваныя структуры: «быліннае танга», «песня батлейка-рэхасказ», «песенны вадэвіль — споведзь — лірычная полька», «нарачанская сага-рандо, эпічная мелодыя», «заклікальная песня», «жартоўна-іранічная песня»... Відавочна, В. Аколава менш за ўсё імкнецца да перайманння, яна, скарыстоўваючы фальклорныя стылістычныя сродкі, імкнецца, каб старая форма набывала прывабнасць, мастацкасць. Гэтая трансфармацыя мае красамоўнае выяўленне ў пятым раздзеле «Таполя з ветрам гаварыла»:

Таполя з ветрам гаварыла, якая ў Нарачы ёсць сіла.
Вада азёрная вякоў — сарвала голле з вершакоў.
І разлілася ў берагі, пад колер-сінь вачэй княгінь,—
Таму і ў хваляў — лік самотны. І позірк далечы — свабодны.

Хто сэрцам — мудрасці дастане, сустрэне вернае каханне,—
Таполя з ветрам гаварыла, якая ў Нарачы ёсць сіла...

В. Аколава выкарыстала магчымасці традыцыйнай вобразнай сістэмы, паказала, што ўмее творча пераўвасабляць фальклорны матэрыял у новую мастацкую рэальнасць.

Адметны паэтычны жыццяпіс Цёткі (Алаізы Пашкевіч) стварыла Валянціна Коўтун. Вершы ў біяграфічным цыкле аб'яднаны агульным загалоўкам «У вянок Цётцы». Увазе чытачоў прапануецца яшчэ адно спасціжэнне — вершаванымі сродкамі, праз лірызацыю — асобы славутай пясняркі (нагадаем, гэтаму паэтычнаму партрэту, створанаму В. Коўтун, папярэднічалі яе паэмы «На зломе маланкі», «Суд Алаізы», раман «Крыж міласэрнасці» і літаратуразнаўчая кніга «Стала песняй у народзе», прысвечаныя Цётцы). Між тым ёй даецца ўласнааўтарскае жанравае вызначэнне гэтага вянка твораў — «пульсары паэтычнай біяграфіі». Кожны з вершаў успрымаецца як складнік цэласнага лірычнага палатна і ў той жа час як самастойны тэкст. В. Коўтун асэнсоўвае вызначальныя падзеі і сітуацыі ў жыцці і лёсе Цёткі. Галоўным для яе было — заглыбіцца ва ўнутраны свет паэтэсы і жанчыны, раскрыць яе адчуванні і думкі. В. Коўтун стварыла духоўную біяграфію Цёткі, пачынаючы ад часу дзяцінства і заканчваючы апошнім годам яе зямнога веку. Праз вылучэнне эмацыянальна-пачуццёвых і сэнсавых дамінант яна паказвае, што хвалявала паэтэсу, чым жыла яе душа, як яна гартавалася:

Мы з кніг зямных, мы з цвёрдага рабра,
За дух змагання сплачваем сурова.
І кожны з нас гарыць на тых кастрах,
Дзе ўжо былі Народы, Кнігі, Словы...

Аўтарка паэтычнага «вянка» раскрывае пачуцці дзяўчынкі, якую захапляюць «яркія акрасы» прыроды, пранікаецца яе самотнасцю ў Вільні на курсах Веры Празаравай, выдыхае ад яе імя маналог закаханай, дзе ёсць цудоўны і вельмі характарыстычны ў псіхалагічным плане радок: «Пярынкай чуюся ў крыле». Цётка стала ўдзельнікам рэвалюцыйных падзей 1905 года, важных здзяйсненняў у нацыянальнай справе (выданне «Нашай долі», «Нашай нівы», «Лучынкі» і інш.). В. Коўтун паказвае духоўную моц і апантанасць жанчыны-барацьбіткі, яе грамадзянскі неспакой, мужнасць і веру ў адраджэнне роднага краю. Цётка свядома стала на шлях змагання, паколькі разумела рэакцыйную сутнасць царскага самадзяржаўя, якое пазбавіла яе народ права на годнае існаванне. Яна перажыла не адно душэўнае ўзрушэнне, пакутавала ўсім сэрцам, бо цудоўна ведала, праз каго, за што і чаму цярпяць пакуты беларусы:

Судзяць лета, вясну і восень,
Цёплы снег на сялянскай страсе,
І спрадвечнага неба просінь,
І лугі ў тумановай расе.

Судзяць матчыну калыханку,
Кроў святую на шэрых мурах,
Судзяць сёння зямлю-сялянку,
Нашу праўду і праведны сцяг.

Цётку вяло палымянае пачуццё служэння Беларусі і свайму народу, яна адчувала духоўную еднасць з роднай зямлёй, была адданай ёй да апошніх дзён жыцця. В. Коўтун вобразна, узрушана і натхнёна раскрывае гэты глыбінны патрыятызм слыннай беларускі:

Ты, нібы молат, грукаеш зямля,
На скронях вечнасці…
І я з твайго камля,
З тваіх бунтарскіх незламаных крыл,
З тваіх цвятоў і ссушаных магіл,
З твайго крыжа, з рабра тваёй пакуты.
Да зор і хлеба мы з табой прыкуты.

Так адчуць свет думак, уяўленняў, эмоцый беларускай песняркі, будзіцелькі народнай свядомасці магла толькі роднасная душа — паэтэса, сама жанчына, якая мае чулую і глыбокую душу, палымянае сэрца. Паэма ў вершах дае нам яскравае ўяўленне пра лірычны характар і спосаб светаадлюстравання. В. Коўтун са спавядальнай элегічнай інтанацыяй выяўляе ўнутраны драматычны стан Цёткі ўдалечыні ад радзімы, на эміграцыі:

Сінякрылыя птушкі праляцелі праз долю,
Толькі чую світання вятроў пугаўё.
О касцёр мой жаночы.
Разгарыцца?.. — ніколі
Я не плачу, хоць страшна мне.
Гэта ж маё.

В. Коўтун, апрача іншага, выявіла паэтычнасць і летуценнасць натуры сваёй гераіні, высокую ўзнесенасць яе духу. «Стары Двор. 1916. Сакральнае»— заключны акорд «вянка». Аўтарка стварае лірычны маналог, які гучыць як духоўны запавет Цёткі з яе яскравай верай у нашчадкаў і будучыню.

Лірызм арганізуе цэласны сюжэтна-кампазіцыйны комплекс, галоўнай пры гэтым робіцца тэма душы славутай беларускай паэтэсы. Круг за кругам разам з аўтаркай «вянка» мы падымаемся ў асэнсаванні жыцця і творчасці Цёткі. Гэта, відаць, той выпадак, калі варта згадаць меркаванне М. Бахціна: «Жанр са знешняй формы ператвараецца ва ўнутраную, дае падставы для пераасэнсавання, для абвяржэння, для інверсіі…». Жанравыя ўтварэнні тыпу твора В. Коўтун прыкметна вылучаюцца адметнасцю сваёй паэтычнай структуры, яны, безумоўна, сведчаць пра эстэтычную рухомасць, пошук вершаванага мастацтва слова.



**Тамара АЎСЯННІКАВА**

# «Я ПІСАЛА ТАБЕ ПІСЬМО...»

Я пісала табе пісьмо:  
Першы ліст вырваў вецер,  
Другі ліст заліла чарнілamі,  
Трэці ліст застаўся чыстым.

Я. Янішчыц. *З неапублікаванага*

Набліжаецца лістапад. Гэта месяц Жэні Янішчыц, маёй аднакурсніцы і сяброўкі. Я перабіраю яе лісты і паштоўкі, шкада, што захаваліся не ўсе, перачытваю іх:

«Дорогая Кармен! Очень была обрадована, когда получила весточку о тебе. <...> После долгих путешествий мы опять в Минске. Были в ЧССР. Я — год. Рожала дома, и были с Андрейкой у мамы еще 6 месяцев. Потом в мае прошлого года Сергей приезжал за нами. <...> А в июле нам выпал счастливый случай — вернуться на Родину, в Минск. Здесь, в Уручье, мы теперь и живем. Имеем квартиру — две комнаты. Андрейка наш большой и шустрый мальчик, уже ему год и три месяца.

Что у меня еще нового? В этом году выйдет вторая книга стихов. Когда появится — обязательно пришлю. <...>

Крепко целую тебя! Твой Жоржик».

«Прыязджалі на Новы год бацькі Сяргея і павезлі малога на Рыжскае ўзмор'е. А мяне «гложет грусть-тоска», кожны дзень думаю пра сына. Сама разумееш, як дарагі нам цяпер гэтыя малышкі. З імі і жыццё прыгажэй і свет не такі ўжо й паганы, бо ёсць да каго прытуліцца. <…>

Дык вот, калі забралі Андрэйку, я ўладкавалася на працу, тут, у в[аенным] гарадку, загадваю бібліятэкай. Два выхадных сярод нядзелі — серада і чацвер, у нядзелю таксама нямнога працы. Галоўнае, ёсць вольны час, што мне і патрэбна, каб пісаць. Бо такое жаданне ў мяне яшчэ не прапала.

Мама прыслала ліст і перадае табе шчырае прывітанне, піша, што хацелася б убачыцца, убачыць цябе. Во як! Я думаю, што выберам час, калі-небудзь ды прыедзеш да нас. Тады і нагаворымся».

«Мілая Кармэн, якой я была радаснай і ўдзячнай, калі атрымала твой ліст і тваё віншаванне. За ўсё гэта — вялікае дзякуй! У нас перамены — і сумныя, і радасныя. Але ўсё гэта — як-небудзь пры сустрэчы. <…>

Моцна цалую цябе. Твой Жоржык.

Прывітанне ад Сяргея, Андрэйкі».

«20 мая 1975 г.

Мілая Тамарка, дзень добры! Шлю табе самыя найлепшыя пажаданні і ўдзячнасць за пісьмо. А мы па-старому. <…> Адзначылі святы майскія, у Сяргея якраз 10 мая быў Дзень нараджэння. Стукнула яму 30 гадоў і яшчэ тры.

Дык вось разам і адзначылі юбілей Перамогі і гэты Дзень. Было шмат гасцей і, канешне, шмат работы.

Зараз рабочыя гарачыя дні. Магу пахваліцца: маю першую кніжку запрасіў англійскі інстытут літаратуры. Не ведаю, навошта яна ім спатрэбілася. Але, канешне, падзея для мяне прыемная. Сяджу, нешта троху пішацца. Але стаіць такая гарачыня, што многа не ўседзіш дома. Цягне ўсё, а куды — таксама адказу няма. Хочацца на нейкае мора, крышку нейкай экзотыкі ці што, ды з малым надта не разгонішся. Вось і кукуем мы з ім. У канцы чэрвеня павінен прыехаць брат Віця, будзе паступаць ва універсітэт на хімфак (вытворчае аддзяленне). <...>

Пішы! Аставайцеся здаровенькія!

Моцна цалую. Жоржык».

«6 января 1976 г.

Милая Тамарка, здравствуй! Извини, что долго тебе не писала, таким тягостным и трудным для меня было последнее время минувшего года, что врагу, как говорится, не пожелаешь. Но всё окончилось. Не раз и не два вспоминаю золотые твои слова, что с этим человеком я никогда не буду счастлива, так и вышло. <...>

Трудно и горько об этом вспоминать, тем более — писать. Думаю, что когда у меня будет свой уголок в городе — ты обязательно приедешь ко мне, хотя бы на выходные.

Обещали помочь с работой. Это для меня теперь самое главное. Всё-таки в коллективе буду чувствовать себя человеком. Обидно и горько, что самые лучшие годы вылетели в трубу. А время не возвратишь. Остается упорно работать, до последней силы. Думаю, что вынесу всё на своих худых плечах.

Милая Томочка, как мне хочется увидеть тебя и поговорить. Изменились ли мы за последнее время? Есть ли в нас еще что-то романтическое?

Как бы ни было трудно, всеми силами старайся сохранять семью... Одиночество — это невеселое дело. <...> Собираюсь ехать завтра к маме, она сломала правую руку. Теперь в гипсе. Видишь, какой неудачный был у меня этот год, сколько силы, и нервов, и сердца истрачено.

Пиши, Томочка! Буду очень рада каждой твоей строчке. Крепкого тебе здоровья, твоей семье, большого счастья. <...>

Обнимаю и целую тебя.

Твой Жоржик».

«10 февраля 1976 г.

Томочка, милая, здравствуй! Так привелось, что я приехала на пару дней выступать в твой город. Но время расписано по часам: несколько выступлений в день. Боюсь, что я тебя не увижу. Если есть у тебя время (хоть часок!), то приедь, пожалуйста, в гостиницу «Могилев», где я живу: 11-ый этаж, 1130 комната. Я бываю после 8 ч[асов] вечера. Большой привет твоему семейству.

Целую. Женя».

Я збіралася на сустрэчу. Але... мне пазваніў Аляксей Пысін па просьбе Жэні і, хвалюючыся, расказаў, што здарылася і дзе яна зараз. А. Пысін вінаваціў сябе ў тым, што не перавёў Жэню на другі бок праспекта Міру. Яны разам вярталіся пасля сустрэчы з чытачамі. Дом, у якім жыў паэт, знаходзіўся насупраць гасцініцы «Магілёў». Развіталіся. Праз некалькі секунд ён пачуў скрыгат тармазоў аўтамабіля.

## *Лісты з рэанімацыі*

«Милая Томочка! Большое тебе спасибо за всё. <...> Лежу в такой странной постели с подвесками и думаю, думаю. А поэтому еще больше хандра и скука. Но всё — как-нибудь. <...>



Андрейка оставался в Минске. Но звонил Панизник, что заберет домой, в Ригу. Мне бы этого не хотелось, но я невольна и ничего не могу сделать. Да, видимо, вместо меня должна приехать на выступления Валя Ковтун. <…>

Всего тебе хорошего. Целую. Жоржик».

«Томочка, большое спасибо за передачу. Не надо так обо мне беспокоиться. Сняли меня с подвески. Теперь могу лежать на животе и на боку. Постепенно начну садиться и ходить. Думаю, что в апреле всё будет хорошо. Меня перевели на 3-й этаж в «импортный» номер, меблированный. <…> Даст бог, встретимся в более благоприятной обстановке.

Всего доброго. Жоржик».

«Томочка, здравствуй!

Дела мои не так плохи. По крайней мере чувствую себя нормально. Но до двух месяцев (а 2 месяца будет 10 апреля) еще не разрешают вставать.

После двух — дадут костыли, буду постепенно входить в норму, а там — даст бог — на своих двоих.

Немного написалось. Отослала в журналы, на радио. В 4-ом номере «Полымя» должно что-то быть мое. Как у тебя дела? Большое тебе спасибо за всё. <…> Но еще прошу — слишком не хлопочи. У меня всё есть. Всего тебе самого наилучшего!

Целую. Жоржик».

«Милая Томочка, так всё быстро случилось с отъездом, что я не успела сообщить тебе о моей выписке. У хирурга заболела мать, привезли её в эту больницу, и, конечно, надо было хорошее место. Нашли, что меня можно транспортировать. И вот на спецмашине из Могилева шофер, который подбил меня, привез сюда, к маме в деревню. Здесь мне хорошо, чувствую себя неплохо. Наконец избавилась от клизмы. А свежий воздух — это главное. К тому же — такая теплынь стоит здесь! Но грустно: и в доме, и в деревне. Тишина. Дичайшая!!! С ума можно сойти, если бы не творчество. Еще май буду скакать на костылях, а там, надеюсь, на своих двоих.

Писала Панизнику, чтобы привез Андрейку, но медлит что-то. А мне — нетерпение, боль, грусть. Кажется, что мой любимчик <…> призабыл меня. С ним мне было бы спокойнее.

Мама спрашивала всё о тебе и передает большущий привет. Томочка, отдал ли тебе Ключиц (врач скорой помощи. — **Т. А.**) книги?

Крепко целую тебя.

Привет всем. Жоржик».

«Милая Томочка, может, тебя можно уже поздравить с наследником или наследницей?..

А я все еще здесь и пробуду, видимо, целое лето, пока укрепятся мои кости. Уже хожу без костылей, думаю, что в ближайшее время будет всё хорошо и надо благодарить судьбу, что смилостивилась надо мной. И вообще начинаешь ценить жизнь, когда выбираешься по-божески вот из таких <…> ситуаций.

Чем занимаюсь? Конечно, пишу. Третья по счету книга запланирована на 1978 г. Но уже сейчас надо усиленно работать над ней, каждый день. Очень хочу, чтобы эта книга была лучше двух первых, что вышли!

Часто вспоминаю тебя и думаю, что вот какими судьбами довелось мне столько раз тебя видеть и говорить с тобой. А поэтому вспоминаются наши лучшие университетские дни, когда были молоды и безоглядны, когда хоть и грустилось, то с какой-то обязательно светлой надеждой, большими ожиданиями. Как всё быстро изменяется!..

Томочка, очень буду ждать от тебя письма. Всего тебе самого-самого наилучшего, а главное, чтоб всё было благополучно в твоей семье. Передай привет маме, муженьку, и Натке, и <…>

Крепко целую тебя. Будь счастлива.

Жоржик».

«Милая Томочка, от всего сердца поздравляю тебя с дочерью, желаю вам обеим крепкого здоровья, счастья, тишины. <…> Дети — это чудо!.. По-дружески завидую тебе и хочу, чтобы вы были всегда здоровыми. Теперь у тебя, Томочка, настоящая семья, опора, твоя радость, твои тревоги, твой день и твой сад.

А я тоже могу похвастаться: хожу на своих двоих так же, как и раньше. Правда, еще где-то заколет, заноет, но это пустяки по сравнению с тем, что было. Лежа на тех простынях, не предполагала, не думала, что еще дождусь такого счастливого конца <…> теперь могу не ошибаться, когда надо на улицу надевать плащ или брать с собой зонт. Видимо, я еще тоже счастливая, хотя бы в том, что могу жить и ходить под солнцем. А это и не так мало для человека!

Теперь, как никогда, много пишу, работаю. В связи с этим ощущается масса потерянного впустую бесценного времени. Но, думаю, что это, упущенное, смогу наверстать и что третья книга будет такой, какой я хочу ее видеть!

<…> Скучаю без Андрюшеньки, каждый день вспоминаю его, ведь уже прошло три месяца с того дня, как я его не видела. Писал (С. Панизник. — **Т. А.**), что должен на днях привезти. Скорее бы!

Привет большой от мамы. Всего вам самого наилучшего!

Крепко целую. Пиши! Жоржик».

«Милая Томочка! Здравствуй! Так назвали Олесей?.. Имя мне очень нравится, земное и вместе с тем поэтичное! <…>

Я, можно сказать, уже вполне нормальный человек, крепко стою и хожу на своих двоих. Только опять мне — как утопленнику (знаю, сейчас будешь смеяться!) <…> хотела насечь травы — да и по пальцу угодила. Ничего, заживет, только крови немало убежало. <…> А крови я вообще боюсь. <…> Дался мне этот високосный год, хотя бы скорее прошел. Может, за ним что-нибудь интересное и для меня будет.

Андрюшенька давно со мной, вырос большой умный мальчик. Теперь играет с детьми на улице, всё ему интересно: и кони, и коровы. <…> Я работаю над книгой, заживет палец — надо будет ехать в Минск. <…> Всего хорошего вам».

«26.8.76 г. Милая Томочка, получила твое письмо. <…>Да, меня тоже потрясла весть о смерти Ивана Павловича (Мележа. — **Т. А.**). Это был действительно и писатель, и Человек, что редко так тесно и сильно переплетается в других. <…>

Андрюшенька растет, умнеет с каждым днем. <…> После воскресенья поеду в столицу. Обещали квартиру. Надо работу пробивать. <…> Скорее бы все утряслось. Мама потихоньку трудится. <…>

Не забывай. Пиши. Целуем. Мы».

«<…> только вторая неделя, как я появилась в Минске. Правда, за это время я уже устроилась на работу — литконсультантом в «Сельскую газету». Так что давай присылай мне свои рассказы (а что, чем черт не шутит, как говорят?!). Живу пока на прежнем месте, в Уручье. Обещали выделить от СП (Союз писа-

телей. — **Т. А.**) жилье. Может, и скоро. Тогда, конечно, ты обязательно приедешь ко мне в гости. <…>

Октябрьский номер «Нёмана» дает мои стихи в переводе. Будет время — прочитай. <…>

Пиши мне, Карменушка, как выпадет. Привет тебе большой от Вали Ковтун.

Крепко обнимаю и целую. Жоржик».

«Милая Томочка, прости за долгое молчание. Но всегда у человека неустроенного много хлопот. Надеюсь, что скоро получу квартиру. Но и это меня не так уж радует. Очень больно и мучительно смотреть на счастливые пары и думать: за что ты богом проклят или ты хуже всех!

Работа, конечно, разгоняет мои пасмурные дни, но постоянная тревога о маме, об Андрюшеньке не дает мне покоя. Хотя бы не упасть, не выбиться из сил. Их так еще много надо, чтобы вырастить сына хорошим человеком.

Пишется, правда, много и хорошо. Но и это не веселит меня, как прежде. Женщина всё-таки создана для семейного очага в первую очередь. <…>

<…>Держитесь, любите друг друга — это главное, а заботы — они всегда были и будут, но их не так уж много, если разделить на двоих.

Крепко тебя целую. Пиши. Твой Жоржик».

«<…>У меня всё по-старому. Правда, в пятницу в Союзе писателей был Пленум, посвященный работе с молодыми кадрами. Каждый называл и мое имя. Конечно, было приятно, хотя чувствовалось, что всё по «старому счету» идет, что я многого не сделала. Но ничего, думаю, что оправдаю надежды товарищей, ведь в этом году (хотя было столько неприятностей!) мне много и хорошо писалось, и я почувствовала так остро все свои упущенные драгоценные часы!.. Теперь, как правило, работаю почти каждый день, и не оттого, что могу заставить себя. Слишком много окружает событий и явлений, достойных «ока пиита».

С квартирой еще неясно. Может, к Новому году и получу. Было бы хорошо, а то фактически скитаюсь, как настоящий пиит (шучу).

Да, на днях видела А. А. Волка (декан. — **Т. А.**). Поздоровался со мной и скромно заметил, что не появляюсь на филфаке. Я попробовала отшутиться: не приглашаете. Так он после Нового года обещал, что организует мое выступление…

Андрюшенька приехал в гости, но заболел — ветрянка у него. <…>

Будем надеяться, что Новый 1977 год будет немножко радостнее. <…>»

«3.12.76 г. …А я ездила в командировку в Брест, были литературные выступления. Принимали везде хорошо. Теперь поеду на недельку в Дом творчества, это в 18 км от Минска. Надо работать над книжкой, есть материалы и для рецензий. В общем — голова кругом. Но это приятно, особенно в эти мои скитальческие дни. <…>

P. S. Да, Сергей теперь отдыхает в Прибалтике».

«Милая Кармен! От всего сердца поздравляю тебя и твое семейство с Новым 1978-ым годом! Счастья, здоровья, семейного благополучия, радости!

Извини, пожалуйста, что долго молчала: «переживала» время. Серж П. женился, давно. Привел при моей бытности на квартиру жену. Мне, конечно, пришлось уйти. Но теперь есть своя, две комнаты. Сын пока у мамы. После Нового года заберу. Творю, пишу. А как ты, как детки? Если не рассердилась на меня — пиши и приезжай в гости.

Целую тебя. Женя».

«Милая Карменушка, день светлый! Как уехала — долго пришлось ждать от тебя весточки, думала, как ты, а тут сама замоталась.

<...> Кое-что написалось, в плане — одна поэма, первые строчки которой уже легли на чистую бумагу. Хочется много сделать, много успеть, пока еще голова свежая да сила держится, хотя настоящий поэт должен оставаться Поэтом до конца всей своей жизни. Нелегкая эта литературная баржа, но иначе себя не представляю...

Завтра утром еду в Солигорск на Праздник книги, завтра же вечером — и вернусь. Помнишь, я говорила тебе о враче, о том парне, который у нас на «периферии» работает? Так вот он услышал о моем приезде домой и зашел к маме, но мама сказала, что я уже уехала. Как ты смотришь, если что-нибудь «произойдет»?

Пиши, крепко целую. Жоржик».

«Дарагая Тамары!
Новы годзік на двары!
Хай жа шчодрым і багатым
Прыйдзе ён у вашу хату!
Цалуем — віншуем!
Жэня, Андрэйка».

«Што здарылася з маёй Кармэн? Ні слуху ні духу! Можа, на новую кватэру пераехала і гэты ліст мой назад вернецца? Ці, можа, са здароўем што не ладна? Турбуюся... Дый тады не заехала, калі была. Можа, пакрыўдзілася на мяне?

А сёння мне сніўся наш інтэрнат на Паркавай... У нас усё па-ранейшаму. Андрэй-верабей у сад ходзіць. Я — за сталом сваім пісьмовым карпею. Вось так і дні ляцяць. Адно дрэнна, што мама ў апошні час нешта здае, хвароба прыстае ўсякая.

А як ты, як дзеткі, мама твая, Вася? Пішы, мне часта так не хапае твайго голасу.

Цалую. Жоржык».

«Смяюцца людзі, і гавораць,
І плачуць людзі... Ці ад гора?
Ў душу тваю — да сонца насцеж —
Я шлю святло, і спеў, і шчасце!
І ў новым годзе, як заўжды,
Табе ні гора, ні бяды!
Вялікіх, светлых перамен
Маёй цудоўнейшай з Кармэн!
Жоржык».

Кожны раз, калі я перачытваю пісьмы ад Жэні, то дакранаюся сэрцам да яе лёсу, да яе радасці і смутку. Сёння мы можам многа гаварыць аб шчаслівым або нешчаслівым жыцці паэта Яўгеніі Янішчыц. Марная трата часу. Звернемся лепш да яе вершаў, адзін з якіх «Спыню свой крок адчайны і таропкі» яна заканчвае радкамі:

Жыццё маё, як дзікая шыпшына,
Хоць колецца, а ўсё-такі — цвіце.

І сапраўды жыццё Я. Янішчыц цвіце буйным кветам у яе паэтычным садзе.

* * *

Я наведала Жэню ў рэанімацыі. Мы не бачыліся 4 гады і 6 месяцаў, з дня яе вяселля. Жэня была вельмі рада нашай сустрэчы і ў той жа час прасіла пра-

бачэння за свой знешні выгляд, нібыта я зайшла да яе ў дом, а не ў бальніцу. Калі збянтэжанасць прайшла, мы гаварылі. Жэня хвалявалася за сына Андрэйку, за маці, за шафёра, які яе падбіў, за А. Пысіна, якому нарабіла столькі клопату, за мяне, цяжарную, каму прыходзіцца яе наведваць, за ўсіх, акрамя сябе.

Я бачыла, як ёй невыносна ляжаць у адной позе, не мець магчымасці павярнуцца, устаць. Але яна знаходзіла ў сабе сілы нават кпіць над сваім становішчам. Аварыю прымала як непазбежнасць: «За ўсё трэба плаціць, за шчаслівае жыццё — таксама», — падагуліла яна.

Душэўны боль Жэні быў мацней за фізічны. Я прыносіла ёй паперу, кнігі, часопісы, канверты — творчасць была яе збавеннем.

Вяртаючыся з бальніцы, я ішла па слізкай дарозе і думала аб Жэні. Успомніліся заняткі гімнастыкай. Мы былі ў адной групе (трэнер Святлана Салдатава). Калі Жэня выконвала практыкаванні на бервяне і асабліва на брусах, у мяне халадзела ўсярэдзіне, так адчайна ўсё выглядала. Жэня весела прызямлялася, я з палёгкай уздыхала.

Я адчувала, што ў Жэні хопіць сілы перажыць увесь гэты доўгі ланцуг няшчасцяў: дачасную смерць бацькі, развод з каханым, уласную аварыю. Магчыма, фізічны боль ёй быў дадзены, каб паменшыць боль душэўны і высветліць галоўнае, дзеля чаго трэба жыць: мацярынства і паэзія. У кнізе «Каліна зімы» мы знойдзем пацвярджэнне гэтай думцы:

Прайду быллём і церпкай лебядою.
І на жыццё развяжа вочы сын.

*«Пасля траўмы»*

Я рану закрыю работай
І выдыхну ў неба радкі.

*«Не трэба мне ўсмешкі маёвай»*

* * *

У нашым інтэрнацкім пакоі на Паркавай усе мелі мянушкі. Ініцыятарам іх была Жэня. Сабе яна ўзяла Жорж (таму што з вялікай пашанай адносілася да Жорж Санд); Колька — Тамара Каленікава, Леў — Лідзія Корбут, леў па гараскопе, Мар'ян — Марыйка, Змій Гарыныч — Яня Макарэвіч, Кармэн — я, Тамара Краўчанка. Мне такое прозвішча далі ў сувязі з тым, што я захаплялася тады цыганскай культурай, нават хацела пісаць даследаванне, смела заходзіла ў цыганскія двары і распытвала аб традыцыях. На Новы год адпаведна была ў цыганскім касцюме, на канцэртах тэатра «Рамэн» плакала. Мяне да слёз крана907 песні з адценнем глыбокага суму і з рэзкім пераходам да адчайнай весялосці.

Жэню часта запрашалі выступаць у інтэрнаты, вайсковыя часці. Яна брала нас з сабою. Такім чынам склаўся невялічкі калектыў: Жэня чытала свае вершы, Лідзія Корбут спявала, а я танцавала пад уверцюру да оперы Бізэ «Кармэн».

Атрымалася так, што ўсе, акрамя мяне, мелі мужчынскія імёны. Такая акалічнасць выклікала многа жартаў. Хтосьці са старэйшых курсаў з пакоя, дзе жылі паэты (тады яшчэ пачынаючыя), напісаў некалькі радкоў, якіх я дакладна ўжо не помню. Накшталт:

Давайце зробім мы абмен:
У нас — Мар'ян, у вас — Кармэн.

Мар'ян — меўся на ўвазе Дукса, паэт.

З гэтай нагоды, калі я выйшла замуж, адбываліся недарэчнасці ў адносінах з мужам. Пасля першай паштоўкі з подпісам *Колька* муж сказаў: «Ты ж не ў манастыры жыла, а ў інтэрнаце». Калі ўбачыў подпісы : *твой Жоржык, Леў,* у яго

закралася падазрэнне, нягледзячы на тое, што я многа расказвала аб сваіх сяброўках. Супакоіўся толькі тады, калі Змій Гарыныч заляцеў да нас у госці.

Смерць Жэні перажываў разам са мною: «Як жа так, як жа так, — паўтараў ён, — вось дурненькая».

Не ведаю чаму, але Жэня называла сябе «дрэнным хлопцам». Нават фатаграфію на памяць мне падпісала так: «Тамары-Кармэн ад самага дрэннага хлопца з пакоя — Жоржа. Але хай будзе ўспамін самым лёгкім.

Люты. 13. Мінск. 1969. Янішчыц».

* * *

Вольнага часу ў інтэрнаце было не так многа. Калі выдаваўся, мы спявалі розныя песні. Любімая песня Жэні — «За туманам нічога не відна». Слухалі музыку. Бывалі хвіліны, калі мы з Жэняй пад класічную музыку рабілі пародыю на балет, інакш гэта назваць нельга. Уявіце сабе пакой, дзе стаіць шэсць ложкаў, стол, а мы танцуем балетную партыю: Жэня — мужчынскую, я —жаночую. Нам было весела.

Жэня жартавала яшчэ і такім чынам: размаўляла праз дзверы з наведвальнікамі мужчынскім голасам. Атрымлівалася вельмі ўдала.

Мы выпускалі насценную газету нашага пакоя. Жэня, канешне, была галоўным рэдактарам і асноўным карэспандэнтам, ну і мы там тое-сёе змяшчалі. Дзякуючы Жэні, праз наш пакой прайшло многа цікавых і таленавітых людзей. Яна прыцягвала, як магніт. Многім хацелася пагаварыць з ёю, пазнаёміцца, пасябраваць. Жэня была цікавым субяседнікам, шчырым чалавекам і такой жа шчырасці патрабавала ад іншых. Пагэтаму яна давярала не кожнаму, а больш сваёй інтуіцыі. Значна пазней, у пісьме ад 3.12.1976 года, абгрунтоўваючы сваё нежаданне пайсці ў госці, сустрэцца з некаторымі знаёмымі, яна напіша: «Я хорошо знаю свою интуицию».

Адным з важных момантаў таго часу былі дыспуты, якія напачатку зацягваліся бадай да раніцы. Потым мы навучыліся шанаваць час. Прадметам абмеркавання станавілася амаль усё: фізікі-лірыкі, фільмы, спектаклі, кнігі, падзеі, адносіны і г.д. Мы былі вельмі рамантычнымі і ўзнёслымі. Апусціў нас на зямлю збор подпісаў за выкладанне прадметаў ва універсітэце на беларускай мове. Хутчэй не сама акцыя, а яе вынік. Ініцыятараў — Алеся Разанава, Лёву Барташа, Віктара Яраца — з універсітэта выключылі. Я свой подпіс паставіла, Жэня — не. На гэту тэму мы з ёй ніколі не гаварылі. Магчыма, яна лепш ведала палітычную сітуацыю. Мы былі на трэцім курсе. Калі хваля заціхла, да нас у пакой завітаў зямляк Жэні, які вучыўся ў вышэйшай партыйнай школе. Ён нам, як бы між іншым, і паведаў аб некаторых тонкасцях ідэалагічнай работы…

* * *

Хачу ўспомніць яшчэ, як мы праводзілі Жэню дадому на канікулы. Сярод нас яна была самай багатай. Жэня многа пісала, друкавалася. Яна не была транжыркай, але і ў гасціннасці ёй адказаць было нельга. Перад ад'ездам Жэня бегала па магазінах і купляла падарункі родным, знаёмым. І вось дзень ад'езду наступіў. Шэсць дзяўчат з клункамі ў абедзвюх руках накіроўваліся на вакзал, загружалі Жэню з багажом у вагон цягніка, і было няўцям, як можна адной, маленькай і шчупленькай дзяўчыне, справіцца з такой паклажай у дарозе! Гэта вельмі нагадвала паездкі С. Ясеніна ў Канстанцінава.

* * *

Аднойчы на нашым паверсе гулялі вяселле. Шум да дзвюх гадзін ночы. Мы ляглі позна і дзверы вырашылі не зачыняць, таму што Яня Макарэвіч (дарэчы,

зараз заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь) павінна была прыехаць раніцай. Я прачнулася ад таго, што нехта дакранаўся да маёй рукі, якая звісала з ложка. Гэты нехта адкідваў маю руку, а яна зноў падала. Я затаіла дыханне. Нада мной вырасла фігура мужчыны, нахілілася, і я адчула цяжкі погляд. Ад страху — закрыла вочы. Прачнулася Марыйка, спытала: «Хто гэта?» — «Не ведаю», — ледзь чутна вымавіла я. Фігура накіравалася да выхаду, пашарыла ў карманах нашых паліто і моцна стукнула дзвярыма. Прачнуліся ўсе.

У тую ноч у кожнай з нас што-небудзь ды прапала, акрамя Жэні, яе чамадан быў акуратна замкнёны на ключ. Я думаю, і ўнутраны свет Жэні, асабліва найбольш далікатнае і глыбокае ў ім, быў шчыльна зачынены нават ад сяброў.

* * *

Асаблівую павагу і захапленне ў мяне выклікала тое, як Жэня пісала. У яе быў блакнот, з якім яна ніколі не разлучалася і куды запісвала цікавую думку, паэтычную фразу, вобраз. А калі садзілася за стол, то словы кладліся на паперу лёгка, без прымусу, прыгожымі роўнымі радкамі — так ліюцца сонечныя праменьчыкі, хутка і бурліва — быццам вадаспад ці рэчка вясною. Гэта быў заключны этап творчага працэсу. Да гэтага тэма выношвалася, як дзіця.

Мне ўяўлялася, што так павінны пісаць усе. І, калі Жэня пыталася, чаму я не пішу, адказвала: «Так, як ты, не змагу, а дрэнных вершаў пісаць не хачу». — «І не трэба, як я. Не хочаш пісаць вершы, пішы апавяданні, у цябе атрымаецца». Пры жыцці Жэні я так і не напісала ніводнага верша.

Працавала яна ў асноўным ноччу. Не ўсім гэта падабалася. Мы былі жорсткімі, святло ўключаць не давалі. Выратоўваў вулічны ліхтар, які свяціў нам у акно. Жэня памянялася ложкам з Марыйкай і магла працаваць на падаконніку ці на тумбачцы. Паслухаць новы верш яна будзіла мяне, я была больш цярпімай да яе начной творчасці, цяпер і ложкі нашы поруч. Жэня нават жартаўлівае чатырохрадкоўе склала:

> Моя нога с твоею рядом,
> Твоя рука с моей рукой.
> И мне другой руки не надо,
> Не надо мне ноги другой.

Ужо на апошнім курсе Жэня атрымала ад Панізніка ў падарунак ручку з ліхтарыкам, якую ён прывёз з Чэхіі. Цяпер пяро яе рыпела не толькі з натхненнем, але і з надзеяй.

* * *

На сваім вяселлі, 19 жніўня 1971 года, Жэня была шчаслівай. Маладыя, Яўгенія Янішчыц і Сяргей Панізнік, выглядалі шыкоўна. Госці былі знакамітыя: амаль усе сталічныя паэты і пісьменнікі, сярод іх — І. П. Мележ. Сваты — аб якіх толькі марыць можна: Ніл Гілевіч — паэт, перакладчык, фалькларыст; Язэп Семяжон — перакладчык «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага; некалькі аднакурснікаў, сярод іх — і я. Не было толькі бацькоў маладых. Гэта мяне здзівіла. На што Жэня адказала, што для родных будзе ладзіцца яшчэ адно вяселле ў Велясніцы.

Усе прысутныя жадалі шчасця маладым, плённай творчасці, выказвалі надзею, што птушка ў рэшце рэшт будзе прыручанай, каб не забывалі там, у Чэхіі, куды маладыя паедуць пасля вяселля, сваю Радзіму. З гэтай нагоды і мы з Людай Малажавай, нашай аднакурсніцай, падарылі Жэні карту Беларусі і компас.

Мне таксама далі слова. Я сказала наступнае: «Жадаю нашым маладым быць здаровымі, як сібірскія зімы, руплівымі, як вясна, прыгожымі, як лета, багатымі, як восень, шчаслівымі, як голуб з галубкаю». Я дакладна помню сваё віншаванне, таму што Жэня папярэдзіла мяне, каб я рыхтавала тост. І мне не хацелася

ўдарыць тварам у гразь перад такімі гасцямі, асабліва перад Нілам Сымонавічам, які вёў у нас спецкурс па фальклоры.

На другі дзень пасля вяселля мы дамовіліся з Жэняй сустрэцца ў Саюзе пісьменнікаў. Там яна і прадставіла мяне І. П. Мележу як сваю сяброўку і яго зямлячку. Іван Паўлавіч накіраваўся насустрач, і мы працягнулі адно аднаму рукі: я — правую, ён — левую (правая была паранена ў час Вялікай Айчыннай вайны). Я аб гэтым ведала, але перад вялікім земляком збянтэжылася. І. П. Мележ моцна пацiснуў маю левую руку і, усміхнуўшыся, заўважыў: «Вельмі рад. Вы ўчора добры тост сказалі».

З Жэняй мы разлучыліся больш чым на чатыры гады. Яна ўступіла ў нязведанае сямейнае жыццё. Некалькімі гадамі пазней у кнізе «Дзень вечаровы» Жэня напіша:

> І я гадам неразгаданым,
> Нібы сябрам, махну рукой…
> Ах, што там,
> Што там за туманам —
> Дарога? Бездараж? Спакой?..

За туманам у Жэні была дарога і бездараж…

* * *

Я наведала Жэню на Ульянаўскай, 4. Многа нязручнасцей было: першы паверх, вокны вельмі нізка, а пагэтаму заўсёды занавешаны. Але Жэня радавалася і выказвала падзяку Барысу Сачанку, які дапамог ёй атрымаць кватэру.

Галоўным багаццем у кватэры Жэні была пішучая машынка. Тэлевізар — і не толькі — купіць не было за што. Калі яна расказала пра абставіны разводу, я спытала аб прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі, якую яна атрымала за зборнік вершаў «Дзень вечаровы».

—Ты што! — здзівілася яна. — Яе ж нікому не даюць. Усе пішуць заяву аб перадачы прэміі ў Фонд міру.

Доўга мы гаварылі з Жэняй і не маглі нагаварыцца. Я спытала: «Колькі ж ты была шчаслівая?» — «Два тыдні», — пачула ў адказ.

Дзень прайшоў, і ноч на зыходзе. У тую ноч мы імкнуліся зразумець лёс Ул. Маякоўскага, С. Ясеніна. Самагубства — гэта сіла ці слабасць?!

Да высновы мы не прыйшлі. То нам здавалася, што гэта слабасць, і Жэня прыводзіла словы М. Астроўскага: «Умей жить и тогда, когда жизнь становится невыносимой…» Потым пярэчылі сабе. Ясна было адно: Жэня супраць самагубства. Але душэўны стан сяброўкі мяне трывожыў. «Ты за мяне не хвалюйся. У мяне ёсць выйсце — вершы. Калі б не пісала, страціла б розум», — супакойвала мяне Жэня.

У гэтую сустрэчу я зразумела, што Жэня яшчэ кахае былога мужа. І ў гэтым была яе трагедыя.

> За што, скажы, твой вобраз мілы
> Насіла ў сэрцы, як магла?
> І разлюбіць — не разлюбіла.
> І зберагчы — не зберагла.
>
> *«Хвіліны пройдуць дарагія»*

* * *

Жэня вярнулася з Амерыкі, дзе яна прабыла тры месяцы ў складзе ўрадавай дэлегацыі Беларусі, накіраванай для ўдзелу ў рабоце XXXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Жэня пазваніла, радасці ў голасе я не пачула, хутчэй наадварот.

На мае пытанні адказала, што ўсё раскажа пры сустрэчы. Такая магчымасць выпала тыдні праз тры. Ужо ў Мінску я пазваніла Жэні — тэлефон маўчаў. Праз некаторы час яшчэ і яшчэ набірала нумар, але зноў — маўчанне. Уладзіўшы свае справы, я накіравалася на Ульянаўскую, 4. На званок у дзверы зноў ніхто не адказаў. Я напісала запіску і апусціла ў паштовую скрынку. У мяне былі для Жэні сувеніры. Я абышла кватэру вакол у надзеі знайсці адчыненай фортку. На маё шчасце такая аказалася на кухні. Я закінула пакецік з сувенірамі. З-за фіранкі выглянуў спалоханы твар Жэні. Пазнаўшы мяне, яна абрадавалася, адчыніла: на стале ляжалі акуркі ад цыгарэт. Заўважыўшы, куды скіраваны мой погляд, сказала: «Толькі нічога не гавары», — і пачала свой сумны аповед аб тым, як нялёгка было ёй у Амерыцы. Усе выступленні ёй даваліся ўжо ў гатовым выглядзе, ад сябе яна не мела права сказаць ніводнага слова. Уразілі яе амерыканскія бамжы, якія спалі на вуліцах і капаліся ў сметніцах. А больш, канешне, на яе падзейнічаў, я думаю, інструктаж, у час правядзення якога запалохвалі ўсіх, хто ехаў у капіталістычныя краіны. Яна была ў палоне страхаў: баялася адказваць на тэлефонныя званкі, баялася выходзіць на вуліцу. Я супакойвала яе, як магла, але тады я не разумела, што ёй патрэбен быў урач. Сёння, магчыма, хапіла б псіхолага. У той час звярнуцца да псіхіятра для яе было б таксама прыгаворам. Я параіла ёй прымаць што-небудзь заспакаяльнае.

Жэня крышку супакоілася, паказала пакупкі, падарыла мне прыгожы парасон з аборкамі, расказала, якія там танныя рэчы ў параўнанні з нашымі можна купіць. І ўжо ў канцы нашай сустрэчы я бачыла звычайную Жэню, якую ведала заўсёды.

Я хачу яшчэ сказаць аб гасціннасці Жэні. Калі б да яе ні заходзіла, не было такога выпадку, каб яна не накарміла. Цікава, што ў кожны мой прыезд, дамоўлены ці не, у яе заўсёды быў курыны булён.

* * *

24—25 лістапада 1988 года Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюзаў лёгкай прамысловасці праводзіў семінар, у якім я прымала ўдзел. Тады я працавала старшынёй прафсаюзнага камітэта Магілёўскай стужкаткацкай фабрыкі. Дзе іменна будзе праходзіць семінар, я не ведала, але сустрэчу з Жэняй планавала, нават узяла з сабою зборнік «Каліна зімы», які быў без аўтографа. Усе папярэднія кнігі Жэня падпісвала і высылала, так яна збіралася зрабіць і на гэты раз, але я запярэчыла і сказала, што ў мяне ўжо ёсць «Каліна зімы», а падпіша — пры сустрэчы. Жэня атрымала новую кватэру на Старажоўскай і абяцала запрасіць, як толькі крыху абжывецца.

На жаль, семінар праходзіў пад Мінскам, у нейкім піянерскім лагеры. 24 лістапада, пасля вячэры, я разам са сваімі калегамі прагульвалася па дарозе ўздоўж лесу. Прырода і вечар былі казачнымі. Лістапад у той год выдаўся снежным. І я прачытала першую страфу з верша «Я пачакаю»:

Нічога не вяртаецца назад:<br>
Ні гэты міг, ні гэты дзень, — я знаю.<br>
Ты адыходзіш ціха ў снегапад,<br>
А я люблю вясну. Я пачакаю.

Мае субяседніцы зацікавіліся вершам і яго аўтарам. Я расказвала аб Жэні, чытала вершы, а зборнік «Каліна зімы» аказаўся так дарэчы. Спаць мы леглі далёка за поўнач. Пазваніць не было адкуль. Цяпер разумееш, як добра мець сотавую сувязь.

Дзень 25 лістапада быў загружаны поўнасцю. Пасля 17 гадзін наш заказны аўтобус накіраваўся ў Магілёў.

Не паспела я нават распрануцца, як раздаўся тэлефонны званок. Мая аднакурсніца і сяброўка з Баранавіч Тамара Каленікава (зараз настаўнік рускай мовы

і літаратуры вышэйшай катэгорыі) паведаміла аб смерці Жэні і яе прычыне. Такога — я не чакала! Апошняя наша размова па тэлефоне нічога трагічнага не прадказвала, а наадварот. Жэня была радаснай: яна атрымала кватэру, аб якой так марыла, і не на першым паверсе, які ёй абрыд, а на восьмым. Да таго ж падпісаны да друку зборнік выбраных вершаў «У шуме жытняга святла». Мне здавалася, што ўсё наладжваецца, становіцца на сваё месца.

У скрусе я напісала Марыі Андрэеўне, маці Жэні. Адказу не было. Я разумела, што ў яе зараз іншых клопатаў хапае. Пазней мы з ёю неаднойчы сустракаліся.

Неяк летам, дакладна год не помню, на аўтавакзале ў Магілёве я ўбачыла двух мужчын, адзін з іх — Сяргей Грахоўскі. Я падышла, павіталася, папрасіла прабачэння за турботу. Ён абрадаваўся, пачаў пытаць, адкуль я яго ведаю. Я расказала, што вучылася разам з Жэняй Янішчыц, што была на сустрэчы з ім у 1969 г., маю яго аўтограф да кнігі «Вершы».

— Улічыла, гэта ж трэба, улічыла праз столькі гадоў, — не мог супакоіцца паэт, радуючыся, як дзіця.

Я спытала, што ён ведае аб смерці Жэні. Сяргей Грахоўскі распавядаў, што напярэдадні Жэня наведала родных і блізкіх, абышла выдавецтвы часопісаў, у адным з якіх ён яе і ўбачыў. Жэня была ў добрым настроі, жартавала. А на развітанне кінула: «Прощайте». Сяргей Іванавіч спытаў: « А чаму «прощайте», а не «да сустрэчы?» На што Жэня загадкава адказала: «Можа, пабачымся, а можа, і не».

Так атрымалася, што магілу Жэні я наведала першы раз 27 верасня 1994 года, пасля таго, як Жэня мне прыснілася. У маім сне яна з такой горыччу спытала: «Што ж ты цяпер да мяне не прыходзіш? Пакрыўдзілася, ці што?» Я не бачыла Жэню мёртвай, не бачыла яе магілы, і мне здавалася, што яна жывая.

Я маю ўсе яе шэсць зборнікаў. Пяць з іх — з аўтографамі. Зборнік вершаў «Пара любові і жалю» Жэня падпісала: «Мілая Тамара-Кармэн, частачка маёй любові — на 123 стар. (але гэта — не ўся ж!..) Дзякуй за тое, што ты харошы таварыш, сапраўдны сябра! Шчасця табе, святла тваёй сям'і і ўсялякіх поспехаў жадае нязменны Жоржык: Жэня.

З Новым 1984-м годам! 26.XII.1983г.»

Калі не мне вясну пачуць,
Калі не мне ісці па травах, —
Сябры мае, што злева, справа,
Замоўкнуць песні не дадуць.

У горы з сонцам напалам
І ў трудных пошуках, у быце,
Калі не мне, — маім сябрам
Глыбей у сэрца зазірніце!

*Я. Янішчыц*

У маёй памяці Жэня застаецца назаўсёды маладой. Яе паэзія будзе хваляваць яшчэ не адно пакаленне. І мы, яе сябры, не дадзім «замоўкнуць песні» нашай Жэні, таленавітага беларускага паэта Яўгеніі Іосіфаўны Янішчыц.



Рыма СТАХОВІЧ-ЛАРЧАНКА

# БУКЕТ ЛЯСНЫХ КРАСАК

Заміраючы ад хвалявання, сцішваючы біццё сэрца, я заглядваю праз шырока адчыненае акно ў пакой — так, гэта ягоны кабінет, ягонае любімае крэсла — і асцярожна, вельмі павольна (аж рукі дрыжаць) стаўлю букет на падаконнік. Ён такі прыгожы і духмяны, такі цудоўны, што нагадвае дзівосную лёгкую птушку: вось-вось раскрые крылцы і... знікне ў бязмежным сінім небе. А ўсё ж — ці дастаткова прыгожы, дастаткова яркі для Яго? Адыходжу на два крокі і з хваляваннем упэўніваюся: усе фарбы лесу раптам заззялі ў раме акна, і наваколле асвяцілася іх чароўным і яркім бляскам. Сінія, ліловыя, залаціста-ружовыя, цёмна-барвовыя, жоўтыя краскі, а пасярэдзіне — царыца лесу, царыца паху Начная прыгажуня! На пялёстках яшчэ блішчыць-зіхаціць раса, а ў маім сэрцы пануе радасць. Ніколі яшчэ мой букет не быў такім узнёсла прыгожым і такім удалым.

З лёгкім спалохам азіраюся. На маё шчасце, сонейка яшчэ не паспела высока ўстаць. Пануе цішыня, ніхто нічога, здаецца, не заўважыў. Суніцы, мілыя суніцы! Божа, які казачны водар ідзе ад іх! Стаўлю кошык на падаконнік і яшчэ раз аглядаюся. Застаецца толькі дастаць з вядзерца баравічкі. Да чаго ж яны прыемна акруглыя, прыгожанькія! Пералічваю іх — дзевяць. Дзевяць маленькіх белагрудых гномікаў з цёмна-карычневымі капялюшыкамі, прызначаных Яму.

Амаль кожнае лета пасля вайны я адпачывала разам з бацькамі і двума братамі ў Каралішчавічах — Доме творчасці беларускіх пісьменнікаў. І гэта дало мне цудоўную магчымасць пазнаёміцца з шэрагам таленавітых, знакамітых творцаў — гонарам нашай літаратуры.

Я любіла гэты ціхі зялёны куток не толькі за прыгажосць прыроды, маленькае азярцо сярод стромкіх сосен і безліч лясных красак на ўзгорках, але і за нейкую асаблівую атмасферу творчасці, душэўнай адкрытасці і добразычлівасці. Ужо тады (дзяўчынай-падлеткам) я горача пакланялася самаму вялікаму цуду на Зямлі — дару пісьменніка і верыла ў магутную сілу мастацтва. Кожны беларускі пісьменнік — а іх тут адпачывала нямала — здаваўся мне цудадзейным Магам, звышмагутным Чараўніком, ніяк не звязаным з дробязямі быту, з будзённай рэчаіснасцю. Я саромелася і чырванела пры сустрэчы з імі, бо гэта былі святыя, неразгаданыя і, на маё ўяўленне, вельмі сардэчныя, вялікай шчодрасці душы людзі. Уявіце сабе: Якуб Колас, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Кандрат Крапіва, Іван Мележ... Нават хадзіць па адной з імі траве, бачыць іх было ўжо вялікай радасцю.

Асаблівую цікавасць выклікаў у мяне Якуб Колас, да таго ж ён быў знаёмы з маім бацькам, і я неаднойчы бачыла, як, седзячы на лаўцы ў двары Дома творчасці, — удваіх ці яшчэ з кім — яны дружалюбна і падоўгу размаўлялі. Колас вабіў маю душу не толькі сваімі глыбокімі, таленавіцейшымі творамі, але і шчырасцю, незвычайнай чалавечай прастатою. Ён заўсёды, калі сустракаў мяне, вітаўся з нейкай асаблівай прыязнасцю і цеплынёй, але дзявочая сарамлівасць перашкаджала мне пазнаёміцца з ім бліжэй і выказаць яму сваё захапленне. «Як гэта дзівосна і таямніча — пісаць, ствараць кнігу, — ідучы па лесе і адчуваючы нейкі асаблівы душэўны ўздым, часта думала я. — Якое трэба мець сэрца, душу, талент, уяўленне, творчую фантазію, каб толькі з музыкі, якая гучыць у тваёй душы, і простых, звычайных слоў саткаць чалавечы вобраз: жывы і прывабны, непадробны ў кожным сваім руху, у кожным гуку, у кожнай, самай, здавалася б, нязначнай

падрабязнасці. «Ядвіся, Ядвіся...» — як апантаная, скрозь слёзы радасці горача шаптала я (якраз перад гэтым зноў перачытала «У палескай глушы» і знаходзілася пад моцным яе ўплывам). Я ўся знемагала ад асалоды, ад светлых парыванняў, ад шчырага захаплення. Ядвісечка... Сапраўды «лепшая, прыгажэйшая казка Палесся!» Як горача любіла я гэты вобраз, як была ўдзячна пісьменніку за яго! Дзе знайшоў ён гэтыя фарбы? Дзе адшукаў столькі адценняў, хвалюючых і тонкіх паваротаў душы, столькі заразлівага мілага смеху, столькі ўсплёскаў нечаканай глыбокай радасці? Ядвіся стаяла перад маімі вачамі як жывая, то ціхая, «крыху як бы засмучаная», то «з іскрамі смяшлівасці і хітрасці» ў акруглых вачах, то казачна таемная, жаноцкая, паэтычная. Чароўная ўсмешка дрыжала на яе вуснах, раскошныя цёмна-русыя валасы раскідаліся па плячах, вось-вось пачуецца спуджаны мілы смех, вось-вось зловіць яе, затрымае ў сваіх руках шчаслівы Лабановіч.

«Ядвісечка... мілая, родная Ядвісечка, — чуецца мне. — Бедная вы, мілая, родная Ядвісечка!». І ўсё дрыжыць ува мне, усё замірае ад захаплення...

Праз колькі гадзін пасля таго, як краскі і баравічкі былі ўладкаваны на падаконніку, я паснедала, прыбрала ў пакоі, старанна запляла косы, надзела новую сукенку і, пакрасаваўшыся хвілін колькі перад люстэркам, выпырхнула на дворык.

І першы, каго я ўбачыла перад сабою, быў ён, Якуб Колас. У капелюшы і са сваёй палачкай. Ён усміхнуўся і ветліва, добразычліва працягнуў мне руку. У вачах яго ігралі вясёлыя агеньчыкі.

— Дзень добры, — неяк асабліва мякка, прыхільна сказаў ён.

— Дзень добры, — не ўзнімаючы вачэй, ціха адказала я і, каб не выявіць свайго ўзрушэння, ледзьве-ледзьве пацiснула яго пальцы.

— Хто ж гэта такі шчаслівы ў нашым Доме, што не дае табе спаць па начах? — спытаў ён.

— Не-не... Я сплю... сплю! — адмоўна заківала я галавою, чырванеючы і чамусьці адварочваючыся; сэрца маё білася моцна-моцна, ажно выскоквала з грудзей, рукі і ногі дрыжэлі, як на экзаменах, у вачах стаяў туман.

«Няўжо ён усё ведае?» — з жахам падумалася мне. Колас паглядзеў на мяне вельмі цёпла, пранікліва і, здаецца, пра многае здагадаўся.

— Ну, вось і спраўдзілася, — урачыста прамовіў ён і яшчэ раз уважліва, задаволена агледзеў мяне з галавы да ног. — Вырасла, выспела нарэшце, як сакавіты яблык. І сукенка да твару. Малайчына, маеш густ! — Я ўспыхнула. — Каторы ўжо год сачу за табою... Яшчэ зусім нядаўна гарэза, дзяўчынка-падлетак была, і вось... хоць сватоў засылай! Слаўная, сімпатычная выйшла дзяўчына. Шчасця, кахання табе! Добрага хлопца. А галоўнае — духоўнага жыцця! Без жыцця Духу, без думак, без разважанняў і само жыццё — тлен, нікчэмнасць, пустое існаванне. Ведаеш гэта?

— Ведаю... чаго ж не?

— Ну і як жа ты ведаеш? — спытаў Колас.

— Вельмі проста, — зноў успыхнула я і паглядзела на яго смела, амаль з выклікам. — «Гамлета» чытала, «Анегіна», Дастаеўскага дый у Вашай аповесці «У палескай глушы» шмат чаго цікавага і блізкага знайшла для сябе... Асабліва ў думках Лабановіча... і пра зорачкі, і пра сэнс жыцця, і... і пра іншае... — сказала я і паступова зрабілася чырвонай, як мак, аж слёзы на вачах выступілі.

Колас усміхнуўся:

— Ну нічога, нічога, не саромся, — мякка супакоіў ён. — Падумаеш, нейкі там стары дзед кампліменты гаворыць, парады дае... Не звяртай на гэта ўвагі! Свая галава на плячах ёсць... Вунь якая мілая, светлая галоўка! А кнігі і сапраўды любіш?

— Вельмі, вельмі люблю! Болей за ўсё на свеце! — парывіста адказала я і нечакана для сябе гучна, шчаслiва засмяялася. — Вашу Ядвісю вельмі люблю... З кожным разам усё болей і болей. Нешта такое прывабнае ў ёй, такое мілае і непасрэднае, вясёлае і ў той жа час самотна-тужлівае і горка-горка трагічнае,

што кліча і кліча некуды мяне, зачароўвае, ахутвае летуценнем... Яна на Таццяну Ларыну нечым падобная. Але больш гордая, мне здаецца, замкнёная натура ў яе, больш страсная і няўрымслівая. Толькі вось...

— Што?

— Толькі вось ніяк, ну ніяк не магу змірыцца з тым, — усхвалявана працягвала я, — што скончылася, абарвалася ўсё ў іх так раптоўна з Лабановічам. Такое чыстае, трапяткое каханне было... А ў іншую хвіліну думаю: не-не, правільна, толькі так... Недапетая і гэтым яшчэ больш вабная, больш спакуслівая песня! Авеяная чарамі смутку...

— Гм! Я рады... рады за цябе... — голас пісьменніка пацішэў; ён колькі хвілін глядзеў прама перад сабой, потым перавёў погляд на аблокі. — Гм! Не памыліўся, відаць, я ў табе, не страціў свайго чалавечага, свайго пісьменніцкага нюху... Душа ў цябе не спіць, развіваецца, паспявае ўслед целу... Гэта вельмі, вельмі важна, дзяўчынка. Не толькі пра хлопцаў думаеш, а? — радасна засмяяўся ён. — А ўсё ж думаеш? Прызнайся: думаеш? — і ён хітра-хітра глянуў на мяне з-пад свайго капелюша, як бы пранізваючы ўсю наскрозь. — А калі думаеш, дык правільна робіш, — дадаў ён. — Хіба ж у маладосці ёсць што даражэйшае?

Недзе глыбока ўнутры цалкам згодная з ім, я, нібыта не чуючы гэтых слоў, апусціла галаву і хуценька, нервовымі рухамі сплятала і расплятала сваю касу, адчуваючы, як усё больш і больш па-здрадніцку палымнеюць мае шчокі. Бо сапраўды закахалася ў суседскага хлопца, і не было з таго часу аніводнай хвілінаачкі, каб я не марыла пра яго.

— Прызнавайся не прызнавайся, і так усё ясна, — Колас паглядзеў на мяне неяк загадкава, засяроджана, аб чымсьці сваім думаючы і нешта сваё ўспамінаючы; а я, каб не перашкаджаць яму, маўчала.

«Які ў яго добры і адухоўлены твар, — міжволі падумалася мне, — якая добразычлівая кожная зморшчынка яго, кожная рысачка».

Колас устрапянуўся і вярнуўся да размовы, як быццам бы ўспомніў раптам нешта дужа важнае і неадкладнае.

— Дзякуй табе за краскі і за суніцы, — цёпла ўсміхаючыся вачамі, сказаў ён. — А я ўсё думаў: хто гэта такі адчайны і клапатлівы, што ў шэсць гадзін раніцы краскі мне на акно ставіць, а сам знікае, як той прывід? Мо хто закахаўся ў мяне? І памірае ад гіблай атруты? Або ссохся ад таго кахання, як корч?

Не вытрымаўшы, я адвярнулася і гучна, весела, ад усёй душы рассмяялася. І доўга яшчэ, выціраючы слёзы далонню, не магла супакоіцца. Вось ужо, здаецца, усё прайшло, я зусім спакойная, але варта мне было ўявіць сябе ссохлым карчом, як смех апаноўваў і апаноўваў зноў. Колас такой рэакцыяй маёю быў яўна задаволены.

— Чаго смяешся? — жартаўліва і нібыта сярдзіта вымавіў нарэшце ён.

— Няўжо я зусім не варты кахання, а? Не-е-е, не такі ўжо дрэнны я кавалер, як табе здаецца. Памыляешся, дзяўчынка, ох, як памыляешся... Вось хутка зноў адпушчу свае вусы... доўгія-доўгія, новы касцюмчык прыдбаю, свежую кашулю, гальштук прыгожы, тады — беражыся! Дам рады любому. Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!

Мы ізноў засмяяліся і паглядзелі адно на аднаго з яшчэ большай сімпатыяй і цеплынёй. Паміж намі як быццам працягнулася нейкая ніточка даверу і поўнага ўзаемаразумення. Колькі хвілін пастаялі, памаўчалі; Колас кіўнуў галавою.

— Вельмі прыгожы атрымаўся ў цябе сёння букет, Рымачка, — адзначыў ён. — А які рэдкі, надзвычайна тонкі пах... Цуд!

— Гэта Начная прыгажуня так моцна пахне, — весела растлумачыла я. — Тут яе незлічонае мора, Канстанцін Міхайлавіч. Сустракаецца скрозь. Толькі шукаць яе трэба ўмець: яна ў цёмных вільготных месцах ад сонейка хаваецца.

— Дзе, дзе, ты гаворыш, хаваецца?

— У цёмных вільготных месцах, — паўтарыла я.



*Якуб Колас з дочкамі беларускіх пісьменнікаў Рымай Стаховіч, Нэляй Кавалёвай, Валяй Куляшовай у Каралішчавічах.*

— Ага, — узрадавана падхапіў ён і хітра, пранікліва глянуў на мяне. — Яна, начная прыгажуня, ад сонейка хаваецца, а ты, выходзіць, ад мяне. Дзевяць дзён адным вокам спаў, а другім, як добры маладзец, усё сачыў і сачыў... Ледзьве не аслеп... І толькі сёння, на дзесяты дзень нарэшце ўбачыў. Як тую Жар-птушку ў казцы... Вось, аказваецца, хто злодзей і кармілец, вось яна, таемная парушальніца... Ну, не саромся, не саромся, не чырваней... ад добрых спраў яшчэ нікому чырванець не прыходзілася, — смяяўся ён. — А дзе ж ты гэткіх спраўных баравічкоў, лясная чараўніца, знайшла? Нябось, увесь лес скрозь аблазіла?

— Чаму ж увесь? — запратэставала я. — Калі ўмеючы, дык і хадзіць не трэба. Вунь там, — махнула рукою ўбок невысокага ельнічку. Твар Канстанціна Міхайлавічаа выцягнуўся, а я залілася звонкім шчаслівым смехам.

— І тут, прызнацца, мяне абскакалі, — камічна ўздыхнуў Колас. — Ведаю гэтае месца я, добра ведаю, бо сам люблю грыбы збіраць. Яшчэ з дзяцінства люблю... Рымачка, дзякуй табе, — сур'ёзна прамовіў ён. — Ну што ж, скажу шчыра. У даўгу перад табой я не застануся, і калі выйдзе з друку мой першы том — а выйдзе ён хутка, — я падару яго табе... з надпісам. Будзе памяць аб Каралішчавічах...

— Праўда?! — аж затрапятала я ад радасці і захаплення. — Самы сапраўдны том?! Ваш?! Вамі напісаны?!!

— Самы, самы сапраўдны... мой, — весела і задаволена адказаў Колас. — А несапраўдных у мяне, далібог, няма. Прашу прабачэння...

І ён жартаўліва пакланіўся.

Бачу толькі, як ласкава ўсміхаюцца ягоныя добрыя разумныя вочы, як збіраюцца каля іх танюсенькія зморшчынкі. «Няўжо гэта магчыма, тое, што ён гаворыць? — ашаломлена думаю я.

— А можа, і ўвесь Збор твораў... у сямі тамах. Адолееш?

— Ах, як мне гэтага хацелася б! — успляснула я рукамі. — Каб Вы толькі ведалі! Я... я і марыць пра такое не магла! Дзякуй, вялікі Вам дзякуй... — голас

мой сарваўся, квола задрыжэў. — А Вы... Вы не забудзеце? — нечакана для самой сябе спуджана спыталася я. — У Вас жа столькі працы, столькі творчых планаў, думак, спраў... Паедзеце ў Мінск і... забудзеце пра мяне, — і я паглядзела на яго ўмольнымі, амаль няшчаснымі вачыма.

Колас нісколечкі не пакрыўдзіўся, толькі пераступіў з нагі на нагу і ціхенька-ціхенька ўздыхнуў. Потым стаў вельмі сур'ёзны.

— Калі чалавек дае абяцанне, Рымачка, дык памятае пра яго. Навошта ж тады і даваць? Праўду я кажу ці не?

— Праўду, — збянтэжана-шчаслíва згадзілася я і, прысаромленая, чырвоная, з удзячнасцю паглядзела яму ў вочы.

— Не хвалюйся, усё будзе, як сказана... — пацвердзіў ён. — Лічы, што кніга ўжо ў цябе... Ты любіш, калі яна пахне свежай друкарскай фарбай?

— Люблю! Я ўвогуле пах фарбы люблю.

— Так яно і павінна быць, — задуменна і неяк загадкава-самотна дадаў ён. — Менавіта так... у тваім узросце... Ну, гуляй, гуляй, не марнуй час, — схамянуўся ён. — Няма чаго маладой страказе са старым баравіком час бавіць.

І вось аднойчы, калі я ўвайшла ў сталовую (быў час абеду) і ўбачыла там Канстанціна Міхайлавіча за сваім столікам — не з лыжкаю ці відэльцам у руках, а з невялікім стосікам кніг прыгожага вішнёвага колеру, — сэрца маё страсянулася радасцю. Нешта імгнення падсказала мне, што зараз, менавіта зараз здзейсніцца тое важнае, аб чым марыла ўвесь гэты час і што не забудзецца ніколі.

І сапраўды, Колас устрапянуўся, убачыўшы мяне, прасвятлеў тварам і энергічна, весела памахаў мне рукою, каб я падышла да яго. І калі не адчуваючы зямлі пад нагамі, асцярожна, павольнымі крокамі наблізілася да яго, ён узняўся са стула, паціснуў мне руку і ўрачыста, моўчкі ўручыў першы том свайго Збору твораў у сямі тамах.

Літары заскакалі перад маімі вачыма, спачатку я нічога не бачыла.

— Чытай, чытай... ну! — аднекуль збоку данеслася да мяне. — Раскрый кнігу! Я нясмела разгарнула яе. Унізе, на тытульным лісце, быў надпіс: «Мілай, слаўнай Рымачцы Стаховіч на памяць аб Каралішчавічах». Дата і подпіс — Якуб Колас.

Нешта прыемнае і хвалюючае ўлівалася мне ў душу. Я сутаргава ўздыхнула, павяла плячыма — ад неймавернага адчування радасці паўнаты жыцця, ад удзячнасці вось гэтаму блізкаму цяпер мне чалавеку і ўсяму свету.

Так, ён не забыў пра мяне, ён, як і абяцаў, памятаў увесь гэты месяц... Я глянула на ягоную мілую, мудрую ўсмешку, успыхнула, горача, парывіста абняла яго і, уся чырвоная і бясконца шчаслівая, кінулася да выхаду.

І ўсё-такі я яшчэ не верыла свайму шчасцю.

Кніга ляжала на маіх далонях. Бясцэнны, ні з чым не параўнальны падарунак. І ў тую хвіліну мне здалося, што я магу абняць усе лясы, лугі, рэкі, узгоркі і краскі роднай зямлі сваімі пачуццямі, што я — усемагутны Чараўнік, Валадар і ўсё-ўсё ў жыцці для мяне магчыма...

А было гэта 24 ліпеня 1952 года.

Як жывы, бачу я зараз той самы цудоўны букет, асветлены першымі промнямі сонца, і маё сэрца сціскаецца пяшчотаю, як і тады, гэткім жа няўрымслівым і маладым хваляваннем. Што магла я, неразумнае семнаццацігадовае дзяўчо, падарыць яму, Вялікаму народнаму пісьменніку, Майстру, Творцу, акрамя гэтых простых лясных красак?.. Так, толькі дары лесу, дары Прыроды, якую ён так горача, так самазабыўна любіў, і магчыма, гэта быў найлепшы і найдаражэйшы для яго падарунак.



Васіль МАКАРЭВІЧ

# МАЛІТВА РОДНАМУ КРАЮ...

*Кастусь Цыбульскі.* **Малітва і песня.** Вершы і песні. Беларускі кнігазбор, 2006.

Вопытныя крытыкі раілі і раяць калегам, перад тым як уважліва пазнаёміцца з любой кніжкай паэзіі ці прозы, напісанай у традыцыйнай манеры пісьма, якая толькі што выйшла з друку, і выказаць сваю думку пра яе мастацкую якасць і вартасць, не чытаць творы яркага і надзвычай таленавітага аўтара. Творы першага з іх абавязкова здадуцца слабымі, нават бездапаможнымі. Гэта акалічнасць можа збіць крытыка з панталыку, прымусіць падысці да іх з іншай, больш высокай меркай, і патрабаваннямі, нагаварыць многа непрыемнага і зрабіць шмат непатрэбных крытычных закідаў.




Прызнацца, нешта падобнае здарылася і ў мяне з кніжкай Кастуся Цыбульскага «Малітва і песня». Перачытаўшы том М. Цвятаевай, пасля яе яркіх метафарычных строф, якія не проста запамінаюцца, а ўразаюцца ў душу і сэрца, вершы К. Цыбульскага напачатку здаліся занадта прэснымі і нават празаічнымі. Што ж рабіць у такім выпадку? Выйсце адно: астыць і ў рэшце рэшт выйсці з-пад таго чарадзейнага ўздзеяння, якое аказалі магічныя радкі незвычайнага таленту рускай паэтэсы. І што вы думаеце? Вызваліўшыся з-пад улады М. Цвятаевай і ўвайшоўшы ў простыя, а дзе-нідзе часам нават спрошчаныя каардынаты паэтычнай зацікаўленасці К. Цыбульскага, стала зразумелай яго адкрытая і нязмушаная манера пісьма (пра што думаю, пра тое і пішу, што бачу, пра тое і кажу), стылістычныя асаблівасці, наіўнасць і нават сінтаксічная нязграбнасць некаторых строф і вершаў у цэлым. У большасці твораў адчувалася гарачая споведзь чалавека ўжо немаладых гадоў, якому давялося нямала чаго пабачыць і перажыць на сваім вяку. Асабліва ён стараўся занатаваць і засведчыць у сваіх вершаваных радках тыя факты, якія адбываліся на яго вачах, ці ўдзельнікам якіх быў сам. Учытваючыся ў творы, пачынаў думаць, што аўтар згадваў цікавыя факты і падзеі не для шырокага круга чытачоў, а для сяброў і знаёмых, каб яны пазнаёміліся з імі і выказаліся, наколькі ўмела і праўдзіва паэту ўдалося іх адлюстраваць і ўзнавіць. І тым не менш з такімі вершамі цікава пазнаёміцца і нам, звычайным чытачам. Не сакрэт, што ў чужых прыватных выпадках і здарэннях мы знаходзім нешта сваё, інтымнае і блізкае, што робіць радкі сугучнымі нашаму настрою. А гэта ўжо няблага для паэта, які не прэтэндуе на асаблівую пахвалу і папулярнасць, не крычыць і не енчыць на ўсіх перакрыжаваннях пра выключную таленавітасць сваіх твораў, як гэта робяць некаторыя нават аблаўрэачаныя рыфмачы, якія прывыклі да таго, што іх слугачы, невядома па якой прычыне, гнуцца перад імі ў дугу і называюць паэтычнымі зоркамі першай велічыні.

Пра тое, што кніжка К. Цыбульскага варта ўвагі чытача, гаворыць у невялічкай прадмове вядомы паэт Казімір Камейша. З веданнем справы ён піша: «Паэты часцей за ўсё мудрыя мудрасцю свайго дзяцінства. Сталасць жа — гэта заўсёды вопыт, пэўнае жыццёвае падсумаванне. А душой паэта, як правіла, кіруе ўражлівае дзяцінства. Так падумалася, калі я прачытаў рукапіс кнігі Кастуся Цыбульскага «Малітва і песня». Амаль усе яго сённяшнія паэтычныя вобразы зафіксаваны зрокам і сэрцам яшчэ ў дзіцячыя гады. Гэта і лета, якое «плыве ў туман», і духмяны мурог ля вёскі, які «колькі год сумуе па касе». Паэтычныя дарогі вядуць у маленства:

Заўтра зноў прысніцца на зары
След дзяцінства босы
на расе...
А дарогі ўсе вядуць не ў Рым —
У бацькоўскі кут вядуць усе...

Цёплыя лірычныя радкі нечакана саступаюць месца гарачым, публіцыстычна-разважлівым маналогам пра неразбярыху і тлум дня сягонняшняга. І спрабуе разабрацца, адшукаць выйсце з такога шляху, які скіраваны ў бездань бездухоўнасці, у багну нахабнасці, падману. У кнізе мы знойдзем вершы і песні пра пачуццё кахання, гумар. Імпануе шчырая, заземленая і некрыклівая лірыка К. Цыбульскага».

Ужо ў першай страфе верша, якім адкрываецца зборнік, і пры гэтым на высокай ноце, паэт узнімаецца над будзённасцю, імкнецца зірнуць на нашу зямлю як бы з космасу, стараецца асэнсаваць, чым яна з'яўляецца для нас, насельнікаў-зямлян, а мы — для яе. І, увогуле, як усе мы адносімся адно да аднаго, ці хапае ў нас узаемапавагі і чалавечай любові, якія павінны існаваць паміж людзьмі:

Зямля адна у мроіве планет,
І мы адзіныя — зямляне-госці...
Ці хтосьці сёння думаў пра мяне?
Ці заўтра я згадаю пра кагосьці?

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што, кідаючы папрок сваім сучаснікам у абыякавасці адно да аднаго, аўтар не думае і не спрабуе выгарадзіць сябе, зрабіць выгляд, што ў параўнанні з імі ён святы анёлак. Не, ён хварэе той самай хваробай на няўважлівасць і абыякавасць, што чумой коціцца па ўсёй планеце, пагражаючы стаць заразнай і страшнай эпідэміяй. І хоць далей аўтар гаворыць з пэўнай дыдактычнасцю, тым не менш знаходзіць дакладныя і ёмістыя радкі, нават у пэўным сэнсе паэтычныя вобразы, хаця ўжывае, здавалася б, сотні раз чутыя рэчы і дэталі.

А каб жа думаць, жыць адзін адным,
А каб жа век дзяліць акраец хлеба,
І толькі б разам — як агонь і дым,
Да скону разам — як зямля і неба!

Апошнія два радкі, здаецца, прэтэндуюць на філасофскі роздум і абагульненне. Пра важнае і жыццёвае паэт сказаў коратка і моцна, паклаўшы ў яго аснову тое, што вядома для кожнага і, як кажуць, знаходзіцца навідавоку і пад рукой. Два радкі набліжаюцца да крылатых выразаў, яны лёгка запамінаюцца і не выветрываюцца з памяці. Іх можна з поўным правам залічыць у творчы актыў К. Цыбульскага.

Наступны верш адносіцца да тых твораў, якія ў савецкія часы лічыліся «ўдарнымі» і абавязкова павінны былі прысутнічаць у пачатку кніжкі. У ім паэт гаворыць пра сваю «малую» радзіму, маладзечанскі куток, дзе ён нарадзіўся і вырас, адкуль і падаўся ў свет. У радках адчуваецца душэўнае хваляванне і трапятанне, любоў да кожнага кусціка як травы, так і лазы, да кожнай бярозкі і клёна. Аўтар

імкнецца гаварыць размашыста і маштабна, як напрыклад: «Тут сама нараджаецца вечнасць». Што і казаць, жаданне ўзвысіць родныя мясціны заслугоўвае пахвалы. Але для таго, каб мы, чытачы, паверылі ў гэта, трэба было знайсці такія мастацкія дэталі і мазкі, якія б наглядна пацвярджалі сказанае, гаварылі самі за сябе. Праўда, у апошняй страфе аўтар як бы раптам спахапіўся і вырашыў выправіць промах. Ён звяртаецца да свайго асабістага, можна лічыць, аўтабіяграфічнага, што ў нейкай меры і кампенсуе папярэднія пралікі. К. Цыбульскі прызнаецца: «Тут Жар-птушкай жыве незямная любоў, што завецца пяшчотна Ірынкай...» Вось гэтаму канкрэтнаму ўдакладненню, што Жар-птушку, незямную любоў паэта, завуць Ірынкай, няма цаны. Яно, як святло бліскавіцы, нечакана асвятляе верш ад пачатку да канца, робіць яго больш жывым, даставерным і жыццёва праўдзівым. Хаця мы не ведаем, хто яна, гэта Ірынка, якая сабой, аблiччам і паставай, але наша ўяўленне малюе вабную і гожую дзяўчынку, у якую можна закахацца з першага позірку.

Выгодна вылучаюцца побач з поўнагабарытнымі вершамі строфы-карацелькі, а больш дакладна, сэнсавыя чатырохрадкоўі. Нібыта баючыся, каб не давялося расцякацца думкай па дрэве, і траціць на гэта нямала часу ды і паперы, К. Цыбульскі гаворыць сцісла, стараецца «ўціснуць» думку ў мінімальную колькасць радкоў. Што гэта, эксперымент ці пошукі новых магчымасцей паэтычнага выказвання? Якой бы формай ні лічыў паэт чатырохрадкоўі, большасць з іх можна смела аднесці да аўтарскай удачы. Значыць, не так сабе гавораць, што сціслась — сястра таленту. Каму не прыйдзецца па душы хаця б вось гэта страфа, у якой глыбокая думка і багаты падтэкст:

Як многа трэба чалавеку:
Чужыя землі, моры, рэкі...
...Як мала чалавеку трэба:
Труна і крыж,
два метры глебы...

Каго мае на ўвазе паэт, гаворачы пра чалавека, якому «трэба... чужыя землі, моры, рэкі...» Магчыма, надта цікаўнаму турысту, які не хоча сядзець дома, ірвецца ў падарожжа, каб паглядзець і палюбавацца чужымі краявідамі, іх прыгажосцю? Ды не! Мяркуючы па іранічнай інтанацыі, гаворка ідзе пра майстроў агрэсіі, што ходзяць ва уніформе і наводзяць сёння парадак у Іраку і Афганістане, дзе грымяць выстралы і выбухі траціла і льецца нявінная кроў. Чым усё гэта канчаецца для саміх «міратворцаў»? Ды вядома чым! Паэт недвухсэнсоўна гаворыць, што ў такіх выпадках чалавеку трэба вельмі мала: «Труна і крыж, два метры глебы...» Гэта пры тых абставінах, калі яшчэ пашанцуе. Здараецца, што ад наёмнікаў не застаецца нічога, хіба што жменя апаленага пяску.

Верш прыцягвае ўвагу чытачоў кантрастнасцю і значнасцю думкі, супярэчлівасцю чалавечых запатрабаванняў. Вельмі пахвальная рыса ў творчасці Цыбульскага, што ён не займаецца аматарскім рыфмаваннем радкоў, не надта звяртаючы ўвагу на сэнс і змест таго, пра што хоча сказаць, як гэта робяць менш вопытныя аўтары, а імкнецца пранікнуць у сутнасць жыццёвых і філасофскіх праблем і пытанняў. Аднак не заўсёды пільна, а часам і не з усёй адказнасцю сочыць за словам, дакладным яго ўжываннем. Замест таго каб сказаць, што для нябожчыка патрэбна два метры зямлі, ён гаворыць «два метры глебы». Глеба — гэта спецыфічнае слова, і яно часцей скарыстоўваецца ў тэхнічных і казённых дакументах і паперах.

Пра тое, што К. Цыбульскі ўмее разважаць і гаварыць вобразна і паэтычна, заінтрыгаваць чытача, выклікаць яго на шчырае суперажыванне, абудзіць успаміны пра дзяцінства, яскрава сведчаць шэраг радкоў і строф. Відаць, у хвіліны душэўнай прасветленасці і натхнення напісана вось гэта страфа:

Светлы дзень ад бялюткага снегу,
Што віруе з-пад самых нябёс.

Эх, шпурнуць бы ў дзяцінства з разбегу
Снежку памяці, шчасця і слёз.

Снежка, якую лірычны герой, а з ім, безумоўна, і паэт хоча шпурнуць у дзяцінства з разбегу, так заззяла і зазіхацела ў безназоўным вершы, зрабілася такой залатой метафарай, што яе, здаецца, можна адчуць на дотык. Параўнаўча няблага гучаць і два радкі наступнай страфы: «Снег, мой снег! Карагод васількова, ручніковая бель на зямлі». Услед за гэтым павінны былі ісці нейкія вельмі арыгінальныя па думцы і метафарычнай значнасці радкі. Паэт жа задаволіўся вельмі прыблізнымі і не новымі пажаданнямі, нешта накшталт: «Вось бы нам чалавечыя словы чысцінёю такой наталіць...» Нават пры пэўнай паэтычнай дапушчальнасці, нельга сабе ўявіць, як гэта можна словы наталіць чысцінёй. Тут аўтару, кажучы спартыўным тэрмінам, не хапіла адпаведнага вопыту, сілы і, як мне здаецца, дыхання, на якім ён і павінен быў закончыць, калі так можна сказаць, паэтычны забег. А жаль! Калі б аўтару ўдалося знайсці радкі і вобразы, раўназначныя тым, якія былі прыведзены вышэй, як узорныя, мог бы атрымацца адзін з тых вызначальных і галоўных твораў, што маецца ў кожнага паэта і, як маяк, узвышаецца над астатнімі.

Зрэшты, паэтычна-вобразныя знаходкі і залацінкі, міма якіх нельга прайсці, не заўважыўшы іх, рассыпаны, бадай, па ўсіх старонках зборніка «Малітва і песня». Іх хочацца прывесці цалкам, звярнуць увагу чытачоў, тым больш што для гэтага не шкада друкаванай плошчы. Вось яны, магчыма, сям-там каструбаватыя і спрэчныя, але вырабу спадара К. Цыбульскага: «Беражыце ў жыцці не гадзіннік — гадзіны», «Успамінамі цеста месіцца, успамінамі ў печы паліцца», «Кожны чаркай душу спавядае», «У застрэшку нудзіцца каса, пашчарбаная ад часу і іржы...», «Пластуюцца гады, нібы ў стагі, а ў тых стагах — мурожная атава», «З пратэзам боль прыжыўся да нагі», «Віруе завірухі калаўрот». Гэтыя радкі сведчаць пра тое, што аўтар мае востры зрок, выдатную памяць і да ўсяго неблагую фантазію, якая падказвае яму, з чым параўнаць тую ці іншую рэч ці прадмет, пра што нагадвае звычайная будзённая падзея альбо здарэнне.

Часам вершы ўражваюць цэласнасцю і праўдзівасцю бытавой карціны, узятай з жыцця простых людзей, што прайшлі суровае выпрабаванне падчас вайны, а трымаюць экзамен на чалавечую годнасць ужо ў мірныя дні. Паэту настолькі запомніліся асобныя дэталі, што ён узнаўляе іх без ніякай натугі, лёгка і проста, і стварае замалёўку ці эцюд, здзіўляючы чытачоў сваёй натуральнай жывасцю малюнка:

Сустрэліся ссівелыя дзяды
На шумным асіповіцкім вакзале,
І важка пра нялёгкія гады
Гамонку нетаропка завязалі.

Казалі пра сяўбу і пра вясну,
Пра цяжкую вясковую жытуху,
Пра нечую абрыдлую свякруху,
Пра хіжую, далёкую вайну...

Паглядзіце, у строфах мы не знойдзем аніводнага вобраза, яркай метафары, нейкага адкрыцця. І тым не менш строфы прыцягваюць нашу ўвагу, не даюць адарвацца ад таго, пра што гавораць дзяды. У чым жа сакрэт іх вабнасці? Ды ў першую чаргу, здаецца, у той прастаце выслоўяў, якая прыходзіць да аўтара з гадамі, калі адпала неабходнасць шукаць незвычайныя мастацкія вобразы, якія б кінуліся ў вочы чытачу, магчыма, нават збілі б з панталыку. К. Цыбульскі ідзе іншым шляхам. Ён занатоўвае ў вершы тое канкрэтнае і дакументальнае, што яму давялося пабачыць і пачуць ад сівых дзядоў на асіповіцкім вакзале, дзе ён, трэба думаць, апынуўся падчас службовай камандзіроўкі ці іншай патрэбнай паездкі. Аказваецца, удача паэта чакае там, дзе ён

і не думаў яе сустрэць. Пра што гэта гаворыць? Ды пра тое, што паэзія была і застаецца вечнаю загадкай, якая можа паднесці такі незвычайны сюрпрыз, ад якога можна толькі здзівіцца і ахнуць. І як натуральна, без непатрэбнага фальшу і патугі на абагульненне мог бы закончыцца гэты эцюд, калі б аўтар паставіў кропку на вось гэтых простых, хоць і ў нейкай меры нават празаічных, але мнагазначных радках: «Прыпомнілі...Цыгаркі прыкурылі, з маўчаннем сплюнулі і селі у вагон...»

Калі паэту захочацца сказаць пра тое цікавае і непаўторнае, з чым ён сустрэўся, пабачыў і яно глыбока запала ў душу і сэрца, у такім разе радкі ідуць, бягуць з-пад яго пяра, як усё роўна самі, бо пачуццё адстаялася, а думка выспела і выкрышталізавалася. Больш таго, з'явілася і загучала спеўная мелодыя, якая дапамагае аўтару гаварыць шчыра і задушэўна, прызнавацца ў тым глыбока асабістым ды таемна-інтымным, пра што іншым часам можна было б і прамаўчаць. Ці не таму амаль у кожнай страфе лёгка і нязмушана паўтараюцца адны і тыя словы, але ўжо з новым сэнсам, думкай і эмацыянальнай афарбоўкай. І такая вось арыгінальная эстафета, якая атрымліваецца пры дапамозе паўтору, дапамагае аўтару трымаць чытача ў пастаянным напружанні, прымушае яго сачыць за пачуццямі і душэўным станам лірычнага героя, якія ўвесь час мяняюцца, пераходзяць з адной якасці ў другую. Гэты верш хочацца працытаваць поўнасцю:

Нахлынула,
як ліўні ўсіх стагоддзяў...
Як вадаспады свету на мяне
Упалі ўраз...
Я месца не знаходзіў...
А днём знаходзіў,
дык губляў у сне.

І сон — як снег...
А снег у шэрых лужах
Знікаў і падаў,
падаў і знікаў...
Яна прыйшла не цеплынёй,
а сцюжай,
Сустрэў яе,
сустрэў і пакахаў.
Не пакахаў,
а захварэў раптоўна,
Не захварэў,
а палыну глынуў...
Яна ўзышла у сэрцы
яснай поўняй,
А ці не горка там
ад палыну?

Сёй-той з паэтычных снобаў можа знайсці асобныя «сучкі і задзірынкі». Але не яны вызначаюць усхваляванасць і глыбіню пачуцця гэтага лірычнага верша ў цэлым. Гэта той выпадак, калі ў радках шчасліва паяднаўася шчырасць выказвання з пэўнай вобразнай навізной. Адно, у чым можна зрабіць закід паэту, дык гэта тое, што ён перагрузіў верш шматкроп'ем. Ні для каго не сакрэт, што хваляванне і эмацыянальнасць у творы перадаецца не шматкроп'ем, а іншымі мастацкімі сродкамі.

Нельга абысці ўвагай і верш, у якім гаворыцца пра ноч маладзіка. Уражвае твор сталасцю думкі, лексічным багаццем, строгасцю інтанацыйнага ладу і інтанацыі, сур'ёзнымі адносінамі да ўсяго, пра што гаворыцца ў радках. Страфы ў вершы выверанья, трывалыя і надзейныя, як дубовыя бёрны ў падрубе новай

пяцісценкі. Зрэшты, некаторыя з іх складаюцца з пяці радкоў. Гэта ў тым выпадку, калі паэт паўтарае першы радок страфы ў яе канцы, каб яшчэ больш узмацніць сэнс сказанага. У першай страфе як быццам нічога асаблівага і незвычайнага няма, і тым не менш яна прываблівае нашу ўвагу меладычнай інтанацыяй, нейкай загадкавасцю, як быццам аўтар сабраўся павесці аповед пра чарцей і ведзьмакоў, нейкія казачныя здарэнні і выпадкі, пра якія можна даведацца толькі ў казках і легендах:

Над Случчынаю — ноч маладзіка...
Трапечуць зоркі у рачных затонах,
І цуглямі звіняць на лузе коні,
Лілеямі успенена рака...
Над Случчынаю — ноч маладзіка.

Трэба сказаць, што ў лірычным вершы нічога дзіўнага і казачнага не адбываецца. Аўтар малюе начную карціну і закаханую пáру, прызнанне юнака, які звяртаецца да нарачонай: «Каханая, багі мае зямныя не ведаюць, як я цябе чакаў у дзіўны час, у ноч маладзіка...» Як было ўжо сказана, паўтор двух слоў «ноч маладзіка» ў розных варыянтах, розных значэннях і эмацыянальных усплёсках дапамагае аўтару зрабіць верш больш інтанацыйна рытмічным і лірычным, што не можа не адгукнуцца ў душы чытачоў, крануць і пэўным чынам расчуліць і адначасова прымерыцца самім да закаханай пары альбо згадаць гады ўласнай маладосці. Мінорным і прачулым акордам гучыць і заключная страфа гэтага, можна сказаць, напісанага сталай і майстравітай рукой аўтара:

...Няхай з табою канем у вяках,
На могілках вянкі павыгараюць.
Дзве постаці сустрэнуцца за гаем,
Ў тумане белым, да рукі — рука,
У дзіўны час, у ноч маладзіка...

Маюцца ў зборніку вершы, прысвечаныя землякам, сябрам, кампазітарам, якія напісалі на яго вершы музыку, і яны сталі песнямі. Праўда, вершы гэтыя носяць спецыфічныя рысы асабістых адносін і не выходзяць за рамкі прыватнага бытавання і цікавасці. Напэўна, упершыню ў нашым кнігадрукаванні разам з вершамі публікуюцца песні аўтара з нотамі кампазітараў, і гэта навінка робіць зборнік Кастуся Цыбульскага больш тэматычна разнастайным і цікавым.



Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

# ПРЫСТАНАК — СВІСЛАЧ

Прызнаюся: доўгі час шукаў разгадкі, спрабуючы даўмецца, чаму класіку беларускай літаратуры так хораша працавалася і хораша думалася на Пухавіччыне.

Ключ да разгадкі знайшоў, азнаёміўшыся з пісьмом Я. Коласа С. Гарадзецкаму ў лістападзе 1935 года: «Много мешает мне в работе то обстоятельство, что сижу в Минске. Нужно будет преодолеть это сидение и окунуться в иную обстановку. Я давно говорил своим коллегам, что жизнь на одном месте губит писателя». Невыпадкова ў красавіку 1936 года паэт едзе ў Пухавічы. На гэты раз у Дом адпачынку, дзе працуе над трэцім актам п'есы «Вайна вайне». Задуманае рэалізаваў менавіта ў Пухавічах, аб чым Колас паведамляў С. Гарадзецкаму: «III акт получается чрезмерно громоздким. Уж я его уплотняю-уплотняю, многое опускаю, но материал чересчур большой и сложный. Но что меня немного поддерживает, так это тот мостик, который я долгое время не видел и который меня смущал, именно переход от третьего к четвёртому... этот мостик как будто нащупан. Свой план работы я выполнил: написал третий акт» (лісты да С. Гарадзецкага ад 19, 20 красавіка). Крыху больш як тыдзень у Доме адпачынку — і работа выканана, намацаваны мосцік, які забяспечыў пісьменніку поспех, творчую ўдачу. Усё правільна. Пухавіччына, якую Я. Колас лічыў сваёй другой радзімай, стала калыскай натхнення песняра. Ён прызнаваўся ў любові да Загібелькі, якая «лепш Парыжа» (адпачываў тут з 15 ліпеня да 15 верасня 1935 г.), палюбіў Вусце (летаваў у 1937—1938 гг.), запэўніўшы, што не змяняе вёску на знакаміты еўрапейскі курорт «Бадэн», апеў убранства лугоў Падбярэжжа (адпачываў тут з сям'ёй у 1936 годзе). Кожны, хто пазнаёміцца са спадчынай Якуба Коласа, абавязкова адчуе цёплыя адносіны паэта да Пухавіччыны. Ён часта пісаў пра гэта ў друку. Адпачываючы ў 30-я гады ў Тальцы (летаваў у А. І. Яўсейчыка), Якуб Колас паведамляў у артыкуле «Думкі да дваццацігоддзя БССР»: «У вытоках невялічкай рачулкі Талькі на Пцічы раскінуўся агромны балотны масіў. Яго плошча вымяраецца дзесяткамі тысяч гектараў. Гэта спрадвечная непраходная багна, хмыз, куп'ё, дзікая жорсткая трава. За апошнія гады тысячы га ад гэтага балота адваёваны, асушаны. 1000 га — вялікі кавалак зямлі, яго трудна абысці за дзень, яго не змерыш вокам. Гэта дзівосная чорная, як дзёгаць, зямля. Агромністыя сцірты саломы абмалочанай збажыны, густа раскінутыя стагі канюшыны, цэлы пасёлак бульбяных капцоў, зялёная роўнядзь густой палушыстай руні — гэта сведкі вытворчай сілы новай зямлі».

Знаходзім у Якуба Коласа цікавыя старонкі пра духоўныя запатрабаванні жыхароў Талькі. У артыкуле «За паўтара дзесятка гадоў» народны паэт БССР падкрэсліваў: «Ёсць у Тальцы паштовае аддзяленне. Адкрыта яно ў 1925 годзе і абслугоўвае два сельсаветы. Па дакладнаму падліку, Талькаўскае паштовае аддзяленне перасылае штодня 1370 экземпляраў газет і часопісаў».

З такой жа любоўю і прыязнасцю гаварыў Якуб Колас і пра пухаўчан. Так, 1 мая 1946 года на старонках «Литературной газеты» быў змешчаны артыкул Якуба Коласа «Мечта», дзе ён расказаў, марачы пра цагляную Беларусь, аб адпачынку ў Вусці (адпачываў у вёсцы ў 1937—1938 гадах). Прыводзіць паэт у артыкуле ўрывак са свайго верша пра тое, што калгаснікі пабудуюць новыя, змятуць замшэлы хлам: «Дамы-катэджы я ўбачыў сам і Вусце я на Бадэн не змяняю».

Верай у стваральныя сілы працаўнікоў Пухавіччыны прасякнута кожнае слова пісьменніка. Выступаючы на шостай сесіі Вярхоўнага Савета БССР у Гомелі ў

1944 годзе, Якуб Колас расказаў дэпутатам пра Клемуса Жука: «Хто, напрыклад, ведае скромнага старшыню калгаса — Клемуса Жука, майго блізкага суседа, калі я жыў летам на дачы ў калгасным пасёлку. Яго хату спалілі фашысты, дабро разграбілі, і ён са сваёй 16-гадовай дачкой падаўся ў лес да партызанскага атрада. Маё пісьмо не дайшло да яго. Вось чаму я палічыў патрэбным сказаць аб гэтым чалавеку-барацьбіту сесіі Вярхоўнага Савета».

Хто ж такі Кліменцій Ануфрыевіч Жук? Нарадзіўся ён у 1902 годзе. Член партыі з 1939 года. У час вайны камісар партызанскага атрада імя Чапаева. Да вайны ўзначальваў калгас «Пуцілавец».

«Мы жылі да вайны ў вёсцы Беразянка, — расказвае Аляксандра Кліменцьеўна Жук, жыхарка вёскі Блонь. — Бацька, па сутнасці, дома не сутыкаўся, матаўся па калгасных палях, фермах з ранку да вечара. (Цэнтр калгаса знаходзіўся ў Пухавіцкай Слабадзе.) Калі Колас прыехаў на адпачынак у Беразянку, адбылося знаёмства. Тата з Коласам хутка знайшлі агульную мову. Праўда, і спрачаліся часта аб перспектывах развіцця вёскі. І тут добра выявіліся натуры абодвух, сумленныя, прынцыповыя. Час быў нялёгкі, недаставала ўгнаенняў для палёў. Бацька бедаваў, што попел і фекаліі — не тое для палетка. Колас раіў: трэба заняцца вытворчасцю торфакампостаў. Цяпер моладзь не ведае, што ў тыя гады даводзіўся цвёрды план па вырошчванні не толькі бульбы, але і тэхнічных культур — кок-сагызу, цыкорыю, каноплі і нават тытуню. Даводзіўся і план здачы сена дзяржаве. І бацька стараўся, як мог.

Памятаю, як бацька запрасіў Коласа на зажынкі. Паэту зрабілі вянок з васількоў. Нейкае ўтрапенне найшло на ўсіх членаў брыгады «Беразянка». Колас сказаў: «Дайце, жанчыны, «Лявоніху». Як-ніяк свята ў вас». Нехта ў адказ: «А гармоніка ж няма». А Колас яму: «А пад язык хіба нельга?» Танцаваў босы, у вышыванай кашулі. Радасці было, — усміхаецца Аляксандра Кліменцьеўна. — Прастасць народнага пісьменніка ўзнімала дух. Жонка Коласа, Марыя Дзмітрыеўна, спякла смачны пірог у гэты дзень. Прынесла на поле. Усе спрабавалі, хвалілі. Але не толькі пірагі яна ўмела пячы, вышывала так, што малюнак ад фабрычнага не адрозніш на тканіне. Марыя Дзмітрыеўна навучыла і мяне вязанню і вышыванню.

Мне вязанне і вышыванне ў партызанах дапамагло. Неяк камандзір брыгады «Полымя» Яўген Філіпскіх, паглядзеўшы на маю работу (мы тады былі ў брыгадзе «Полымя» ўжо), папрасіў для партызан цёплае адзенне звязаць. І вязалі. Жонка Філіпскіх Ванда Браніславаўна дапамагала нам. Яна цяпер, як прыязджае ў Беразянку 9-ага мая, успамінае, як ратавалі партызан ад холаду жаночыя рукі».

З апавядання былой партызанкі (Аляксандры Кліменцьеўны Крэз па мужу) дамалёўваецца вобраз Коласа. Яго сціпласць, прастата, шчырасць, адкрытасць, прыродная мудрасць.

— Мы ведалі, — кажа Аляксандра Кліменцьеўна, — што 31 студзеня 1939 года за выдатныя поспехі і дасягненні ў развіцці савецкай літаратуры ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Якуб Колас быў узнагароджаны ордэнам Леніна. І ганарыліся гэтым. Усе. Жыву цяпер у Блоні. Заязджаў да нас у Блонь і сын Коласа — Міхась. Калі напярэдадні вайны памерла мая мама, Якуб Колас прыехаў з Мінска на пахаванне, каб ушанаваць памяць Надзеі Васільеўны. Вельмі кранула нашу сям'ю гэты факт.

Дзе ж вытокі духоўнай еднасці Якуба Коласа з народам?.. На гэта пытанне адказала Вольга Леанідаўна Шчэрба, якая жыве ў Блоні: «Колас па прыездзе ў Беразянку спыніўся ў нашай хаце. Мой бацька заўважыў: «Побач дом пустуе часова. Мы туды пойдзем, вы ў нашай хаце жывіце на здароўе. Мой бацька быў ляснік. Дык як збяруцца ўсе разам пад вечар, то толькі пра лес і размова у іх. Колас лічыў, што лес — вартаўнік рэк і азёр, бо ён ахоўвае клімат Беларусі. Расказваў Якуб Колас бацьку і пра Парыж, куды ездзіў на Сусветны кангрэс у абарону культуры ў 1935 годзе. Памятаю, Якуб Колас у гутарцы з бацькам казаў пра акупіраваную Стаўбцоўшчыну. Палі яе былі зрэзаны палоскамі. Ад іх патыхала ўбоствам. Такі вывад зрабіў Колас, едучы па тэрыторыі Заходняй Беларусі ў

Парыж. Бацька разумеў душу Коласа, яго настрой. Памятаю, сказаў: «Наш край стане для вас блізкім». А ён і стаў дарагім для паэта. Колас у Беразянцы захапляўся зборам грыбоў і рыбалкай. Была каля дуба мясціна, дзе ён вудзіў рыбу. Ніхто ў тым месцы з вяскоўцаў рыбу не лавіў. Коласа гэта крыўдзіла. «Нейкія асаблівыя ўмовы ствараюць для майго адпачынку. Так нельга», — даводзіў ён бацьку.

І яшчэ памятаю. Аднойчы свайму шаферу Федзю Колас паведаміў: «Заўтра ў Мінск паедзем, паглядзі наш «фордзік», каб спраўны быў. Узялі і мяне ў дарогу. Так я ўпершыню ўбачыла Мінск. Паказваў Колас мне шматпавярховыя дамы, нават у кіно звадзіў.

— Уражанняў было шмат, — задумалася Вольга Леанідаўна і працягвала: — На наступны дзень бацька выбіраў мёд з калоды. Коласу на пачастунак — першая міса. Хваліў празрысты «ліповец» Колас. За вячэрай, за сталом, збітым з дошак, укапаным каля хаты, я ўспомніла паездку ў Мінск. Колас усміхнуўся: «Яшчэ з'ездзім. У горадзе таксама шмат цікавага. А мо калі-кольвек і вучыцца там будзеш пасля заканчэння школы» (мы ўсе хадзілі ў школу ў Бабы).

Браў паэт нас і ў лес. Але мы ведалі: калі ён хутка раптам накіроўваўся дадому, то так трэба. Яго чакае рабочы стол. Жонка Коласа, Марыя Дзмітрыеўна, параіла мужу: «Вазьмі з сабой блакнот і калі што захочаш запісаць, то на пяньку занатуй. А дзяцей не пакідай».

Больш Колас не спяшаўся да пісьмовага стала, пісаў на пянёчку. А мы, сцішыўшыся, чакалі, а потым збіралі ўсе разам грыбы. Колас грыбы сушыў! Любіў і смажаныя. Прызнаюся: неяк я трапіла ў рабочы «кабінет» Коласа. На стале ў нашай хаце папера, алоўкі, самапіска. На падлозе ляжаў чырвонец. Падняла я яго, кажу Коласу: «А я на падлозе нашла нешта ў вас». Ён адказвае: «То вазьмі сабе. От паедзеш у Мінск, купіш цукерак».

— «Беларускай бульбы»? — пытаю.

— Але, — згадзіўся Колас, які частаваў нас менавіта гэтым гатункам цукерак. Зразумела я: грошы ён знарок кладзе так, каб мы ўзялі іх. Бо даваць спецыяльна іх нам ён саромеўся.

Жыхары вёскі Лукаш Ількевіч, Люба Шчэрба, Васіль Паскробка, Васіль Карлюкевіч — усе любілі народнага паэта за душэўную шчодрасць. Мы з радасцю ўспрынялі вестку: Якуб Колас будзе ставіць дачу ў нашым пасёлку. Пісьменнік падабраў мясцінку на беразе Свіслачы, выпісаў лес. Пачалі звозіць у адно месца лесаматэрыял. Аднак задумка не здзейснілася. Перашкодзіла вайна. Неяк у час сустрэчы з вучнямі мар'інагорскай сярэдняй школы № 4 яны запыталі мяне: «А чаму так рана памерла жонка паэта? Ці былі вы знаёмы з ёю?» Сустрэча была афіцыйная. Я адказала тое, што думала. Так, знаёма была. А наконт хваробы Марыі Дзмітрыеўны... Сярэдні сын Коласа загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны. Яна не магла перанесці гэту страту, захварэла.

Беразянку спалілі фашысты. Спасцігнуў вёску лёс Хатыні. Тут загублена 39 жыццяў. У пасляваенныя гады Якуб Колас прыязджаў сюды неаднаразова, каб схіліць галаву перад памяццю дарагіх людзей. А кожнага тут ён ведаў пайменна. Ад малога да старога.

У размову зноў уключаецца Аляксандра Кліменцьеўна Крэз:

— Я хацела б звярнуцца да вучняў школы і іх мацярок. У друку з'явілася кніга Мушынскага «Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці». Выдадзена «Мастацкай літаратурай» у 1982 годзе. У ёй шмат напісана і пра наш раён.

Вось, як напрыклад, тлумачыць паэт, чаму месцам адпачынку ён выбраў Беразянку: «Пасёлак, дзе я летаваў два гады, ссяляецца. Пяцідзёнку патраціў на пошукі новага прыстанішча, і вось яно ёсць. Буду жыць у сямідзесяці чатырох кіламетрах ад Мінска. Заўтра пераязджаем». Гэта радкі з пісьма Коласа, адрасаванага паэту-перакладчыку Сяргею Гарадзецкаму. Чытаем далей: «Некалькі слоў аб маёй новай мясціне. Яна вельмі ціхая. З аднаго боку шырокая, вельмі прыгожая даліна Свіслачы са старымі дубамі, Свіслач тут цудоўная... Я жыву ў хаце лесніка. Ён вызваліў яе цалкам, а сам перайшоў у суседскі домік, што застаўся

без гаспадароў. Сваім кабінетам я больш чым задаволены. Тут стаіць мой рабочы стол. Перад вачыма мой нязменны спадарожнік жыцця — барометр».

Затым Аляксандра Кліменцьеўна паведаміла, што ў 1943 годзе яе бацька напісаў пісьмо Якубу Коласу. Партызаны брыгады «Полымя» прымалі ўжо самалёты з Масквы. Аднак адказу ад Коласа Жук не атрымаў. Згубілася недзе пісьмо на дарогах вайны.

У 1947 годзе Якуб Колас і Клемус Жук сустрэліся. Яны абняліся, як родныя, столькі ж гадоў не бачыліся. Бацька расказаў госцю аб барацьбе з фашыстамі, Колас — пра страты, смерць Марыі Дзмітрыеўны, яго жонкі, і гібель сярэдняга свайго сына Юркі на фронце. Гаманілі да вечара. «Ім было што ўспомніць», — зазначае Аляксандра Кліменцьеўна. Крыху памаўчаўшы, завяршае словамі: «Якуб Колас у сэрцы кожнага з нас. Няхай свеціць імя яго».

Уражвае выключная працаздольнасць Якуба Коласа ў гады летавання ў вёсках. У Вусці Якуб Колас займаўся перакладам твораў Тараса Шаўчэнкі на беларускую мову. У Беразянцы прыступіў да напісання першых раздзелаў паэмы «Рыбакова хата», расказаўшы пра задумку І. Ю. Міцкевічу ў пісьме ад 19 красавіка 1946 года: «Мыслю сабе, што работа пойдзе добра, бо шмат перадумана, пеpажыта за апошнія часы. Паэма ж мая мімаволі прыкуе мяне да берагоў Свіслачы, адкуль і пачынаюцца вытокі мае «Рыбаковай хаты».

Моцна трымала паэта ў абдымках і пасляваенная Балачанка. Тут, у хаце мясцовага старшыні калгаса К. Дзяткі, у перыяд з 3 па 7 верасня 1947 г. паэт працаваў над эпілогам (2-гі варыянт «Рыбаковай хаты»), пісаў заключэнне для камісіі ў Маскву на прадмет прысуджэння Дзяржаўнай прэміі СССР прэтэндэнту на яе атрыманне А. Ганчару (адобрыў твор украінскага пісьменніка «Сцяганосцы»).

У Балачанцы з вуснаў К. Дзяткі пачуў Я. Колас трагічны аповед пра раструшчанае вайной каханне. Вусцянска-балачанкаўскія падзеі ў гады фашысцкага ліхалецця знайшлі адлюстраванне ў апавяданні Я. Коласа «Асіpацелая хата» (часопіс «Беларусь», 1952 г., № 6). Ён аддаваўся працы ўвесь.

Адарваўшыся ад стала, часова выходзіў на ганак хаты К. Дзяткі, нема застываў узрушаны прыгажосцю наваколля.

Пад белай страхою стаіўся
пасёлак,
Прымоўклі навокал
лясы.
Мільёны, мільярды халодных
вясёлак
Убралі снягоў абрусы.

(*«Зімой у Балачанцы»*)

Сёння трапіць у Вусце можна з Балачанкі. А што Балачанка? У ёй цяпер восем хат. Ні крамы, ні медпункта. Мала засталося і людзей. Стала тут жывуць толькі дзве сям'і. Астатнія ў горадзе. Некаторыя сюды прыязджаюць, каб летаваць. Карэнная жыхарка Балачанкі Зося Маркіянаўна Корань, з якой мы сустрэліся, накіравалася спачатку да старэйшай жанчыны Зосі Клеўкі. Але той дома не аказалася. І сама цётка Зося Маркіянаўна згадзілася расказаць школьнікам-экскурсантам Амяльнянскай сярэдняй школы пра жыццё народнага паэта.

— Калгаснікі яго называлі проста — дзядзька Колас, а дзеці — дзядзька Якуб. У нас у Балачанцы да вайны школка была на чатыры класы. Канстанцін Міхайлавіч упадабаў нашы мясціны, — гаварыла далей цётка Зося. — Спыняўся і на хутары ў Вусці. Жылі там добрыя людзі — Клеўкі, Рымашэўскія. Пяць хат у Вусці. А мясцінка прыгожая, вабная. Балачанка ўпадае ў Свіслач, побач Вусцянскі грудок, а на ім грыбоў, хоць касу закладвай. Як у дзеўках я хадзіла, — бывала, па грыбы злётаю на грудок. Баравікі там рудаватыя, куртаценькія. Там

і дзядзьку Коласа сустракала. То рыбачыць ён, то па лесе ходзіць. Абачліва, не спяшаючыся, — заўважае Зося Маркіянаўна.

Зрэшты, расказвае Зося Маркіянаўна пра цікавае хораша.

— Цягнула ў Вусце і сына Коласа — Данілу Канстанцінавіча. Наш былы старшыня калгаса Апанас Аляксеевіч Лопан па выхадзе на заслужаны адпачынак з Міцкевічам абышлі не раз увесь Вусцянскі лог. Дарагія, — думаю я, — былі сыну сцежкі бацькі, які пісаў аб жыхарах пад прымусам знесенай вёскі.

— Добра паэту, відаць, думалася ў Вусці, добра пісалася, — зазначае і настаўніца Амяльнянскай сярэдняй школы Браніслава Іванаўна Сакалова.

Слухаю аповед Зосі Корань і спрабую зразумець, чаму ўсё ж так прыцягвала паэта вёска і яе наваколле.

Праз пяць гадоў я зноў наведаў Вусце,
Прытулак дум, абраны мой куток,
Дзе высіцца Вусцянскі мой грудок
І вецер лёгенька гайдаецца на кусце.

Нарэшце з’явілася Зося Піліпаўна Клеўка: вярнулася з лесу з пралескамі.

Бабуля шчодра адарыла дзяцей кветкамі. Відаць, засумавала Зося Піліпаўна па людзях і хочацца падзяліцца ёй думкамі пра вясновы лес, дзе яна ведае кожны кусцік, кожны ўзгорак.

— Лес шанаваць трэба. Ён за любоў аддзячыць.

І нагадала старая:

— Раз «легкавушка» Коласа засела. Насупроць маёй хаты. Колас у бальніцу да доктара вёз хворага. Ну, мой чалавек вызваўся памагчы. Колас недзе адхінуўся, а шафёр з маім гэта прыносяць у вёдрах ігліцу з мурашніку, пад колы машыны сыплюць. Тады гразка было. Падклалі пад шыны, машына на цвёрдае і выйшла. Паэт, як угледзеў, што мурашнік развярнулі, дык як узлуецца, як узлуецца! «Што вы, — кажа, — лесу шкодзіце?»

Зося Піліпаўна ўспамінае яшчэ выпадак.

— У нашага аднавяскоўца Жука расла дачушка Ганначка. Пяць годзікаў мела дзіцятка. І ўсё румзала: то кот лапкай нос падрапаў, то певень дзеўбане ў ножку. Даведаўся Колас пра тую бяду. Прыходзіць у хату да Жука і пытае:

— Дзе той пеўнік нядобры, што Ганначку крыўдзіць?

Ну, а дзяўчынка ў плач: «У лес сышоў з катом», — кажа.

— Дык і сабачка, няйначай, з імі, што вока табе запарушыў, калі разграбаў на агародзе лапамі зямлю?

— Усе яны заадно, — у слёзы Ганначка. — Згаварыліся.

Тут Колас і заступіўся за ката. «Прызнайся, — кажа, — што носік ад сонца ў цябе палупіўся, ад загару значыцца».

Можа, і сапраўды не вінаваты той кот быў. Ганначка вочкі апусціла долу, успомніла, што кот моцна і не выцяў яе лапай. І Тузіка, што ў Жука быў, Колас апраўдаў нязмушана.

— А ўсе беды таму, — смяецца Піліпаўна, — што Ганначка не хацела сябраваць раней з катом, сабачкам, пеўнем. А як стала карміць ката, у сподачак яму малака нальe, бывала, пеўню зярнят з хаты вынесе, дык яны ўсе, быццам згаварыўшыся, не крыўдзілі больш дзяўчынку.

— Гэта Ганначцы так дзядзька Колас падказаў? — пытаюць школьнікі.

— Ён, ён, — згаджаецца Зося Піліпаўна. — Вельмі ж Колас любіў дзяцей і не пераносіў, калі хто з іх пакутуе. Канстанцін Міхайлавіч, — дадае жанчына, — верш склаў пра Ганначку. Пра тое, як яна нудзай была. То тое раней не па ёй, то гэта — кепска. А тут быццам другім стала дзіцяткам. Вось што значыць мець клопат пра іншых.

Просім Зосю Піліпаўну звазіць нас у Вусце. Некалі яна з сяброўкамі прыходзіла ў вёску, каб паглядзець на прыехаўшага ў госці да Якуба Коласа Янку Купалу. Да вайны было.

...Праскочыўшы бярозавы гай, аўтобус бярэцца ўправа. Напрыканцы дарогі ўпіраемся ў поплаў.

— Далей аўтобус не пойдзе, — кажа Зося Піліпаўна. — І вёску мы не ўбачым. Да вайны вёска ссялілася. Вусцянцы з'ехалі з хутара хто куды: адны пасяліліся ў Балачанцы, другія — у Пухавічах. Загадаў Сталін узбуйніць вёскі, і людзі пакідалі хутар з болем.

— Дык як мог Купала даехаць сюды? Наўкол балацяніца. Можа, рэльеф змяніўся, іншая мясцовасць была раней?

— Ехаў ён з Пухавіч праз Заціставу Слабаду, праз Грабаўе. Тут раней мосцік быў. Масток праз Свіслач, — ахвотна тлумачыць бабулька. — Масток праскочыў — і ты ўжо ў Вусці. А Свіслач тутака да вайны нешырокая была. Гэта меліяратары рэчку каўшамі ўсю перастрэслі.

Зося Піліпаўна задумалася на хвіліну:

— Цікавае жыццё тут было. Сюды, у вёску, нават артысты прыязджалі. Рэпетыцыю праводзілі... Усе ў саламяных капелюшах, вясёлыя, як дзеці. Рэпеціравалі каля хаты Рымашэўскага. Мы на мурожніку ўсе, а яны свой спектакль даюць. Колас на табурэціку сядзеў перад намі, прагляд рабіў. А то, бывала, ускочыць — і да артыста. Паказвае, як трэба словы вымаўляць... А адзін з іх дзеда Талаша іграў. Пагаворыць-пагаворыць — ды і ў хату да Язэпа, — распавядае Клеўка. — Усмяг я, кажа, кваску трэба папіць.

Артысты ў Вусце сапраўды ў 1937 годзе прыязджалі. Прыязджаў В. А. Дарвішаў, рэжысёр-пастаноўшчык п'есы Я. Коласа «У пушчах Палесся» (па матывах аповесці «Дрыгва»). Дарвішаў з трупай збіраўся паказаць спектакль у Маскве. Яму патрэбны былі парады Я. Коласа. Так што некаторыя «мізансцэны» пракручваліся тут, у Вусці, навідавоку.

— Пра Купалу раскажыце, — просіць вучаніца Заяц.

— Купала гасцяваў у Коласа тры дні, здаецца. У грыбы хадзілі яны, у шахматы гулялі, з намі, малымі, забаўляліся. Купала вучыў нас вызначаць узрост хвойнага дрэва па кальчаках, нават сонечны гадзіннік зрабіў на зямлі з тычак. Памятаю, даваў нам патрымаць компас, расказваў, як ім карыстацца трэба. Аднойчы сабраў нас, малых, і экзамен дае: «Назавіце насякомых, птушак, якія пражываюць у вас?» За правільны адказ ставіў нават адзнаку. Каму «нуль», каму «тройку».

У жыцці Я. Коласа былі горкія хвіліны. Асабліва ў той час, калі хварэла Марыя Дзмітрыеўна, жонка паэта (сям'я Коласа жыла ў Ташкенце). Сухі клімат Ташкента пераносіла цяжка: ёй нядобрылася. Колас спадзяваўся толькі на клімат Пухавіччыны. Толькі там вернецца здароўе Марыі Дзмітрыеўне. Бо там гаючыя смалістыя лясы, залатыя пяскі-дарогі, абрусы. Уся гэта гама вытрымана ў журботных танах у вершы «МДМ», напісаным употай ад жонкі. Як надзея, спадзяванне, вера на вяртанне ў родны край, які часова акупіраваны гітлераўцамі (вусцянска-балачанскія мясціны паэт лічыў свяшчэнным местам). Ён пісаў:

Я хачу прыгадаць
Нашы дні былыя,
Вусце, луг, сенажаць
І дубы старыя.

Залатыя пяскі
Беразянскіх пустак,
Хвайнякоў паяскі,
Што пралеглі з густам.

І дарог абрусы
У шаўковай ткані,
Чабары, верасы
На глухой паляне.

Як мне дораг час той,
Той зямлі ўкрасы,
Дзе хадзілі з табой
Мы ў грыбныя часы.

Эх, вярнуцца б нам зноў
К родным пералазам,
Ды між рэчак, дубоў
Зноў прайсціся разам.

Аб табе, сваім дню,
І аб Беларусі
Я гадаю і сню,
Мілая Маруся.

Марыя Дзмітрыеўна ў Вусце, у Беразянку не вярнулася: 21 мая 1945 года яе не стала. Памерла ў Маскве ў бальніцы.

На тэрыторыю Пухавіччыны паэт ступіў першы раз у далёкім 1933 годзе, калі прыехаў у Тальку. Трэба было падлячыць самага малодшага з сыноў — Міхася. Лепшыя лекі — нашы лясы, дубровы, рэкі, паветра. Менавіта ў Тальцы з'явілася ў Коласа жаданне расказаць чытачам пра прыгоды гарадскога хлапчука. Так у друку з'явілася з цягам часу паэма «Міхасёвы прыгоды».

Што мог адкрыць Я. Колас у Тальцы? Канешне, рэчку. І ўрочышча дубоўасілкаў.

Талька — слаўная
рачушка.
Грунт яе пясчаны,
Бераг мяккі, як падушка,
Дзірваном засланы.
Луг квяцісты
па ўзбярэжжы,
А трава, як лава.
Па грудах дубы,
як вежы —
Паглядзець цікава.

Яшчэ большае захапленне выклікаў пераезд Я. Коласа ў 1935 годзе ў Загібельку, ціхую вёсачку на ўзгорку. Летаваў Я. Колас у той год з сям'ёй у лесніка Волеся Бранавіцкага. І Загібельку паэт апеў, падабраўшы дакладныя вобразныя, яркія эпітэты, выказаўшыся гранічна дакладна:

Быць можа, я крыху дзівак,
Але люблю я Загібельку:
Тут кожны хвойнік мне сваяк,
Там ясным днём надрэчны гак
Мне суліць мяккую пасцельку.

Вучні Амяльнянскай сярэдняй школы ўстанавілі ў Балачанцы памятны камень, а ў Вусці — шыльду ля крынічкі Коласа замацавалі. Крынічку Коласа паказала Саўлевіч Вера з Падбярэжжа. А праз некаторы час у Балачанку завітаў з вучнямі Пухавіцкай сярэдняй школы сын Я. Коласа Міхась Канстанцінавіч.

На хаце жыхара Балачанкі Кораня ўстанавілі мемарыяльную пліту ў гонар паэта.

Другая мемарыяльная пліта замацавана каля Падбярэжжа на сцяне прыдарожнага кафэ па Бабруйскай трасе. Упрыгожыла памяшканне чыгуначнага вакзала мемарыяльная пліта і ў Тальцы, абвясціўшы аб пражыванні паэта ў тутэйшых мясцінах у 30-я гады.

Пра гэта паведаміў Аляксандр Аляксандравіч Прановіч, дырэктар раённага краязнаўчага музея, актыўны прапагандыст творчасці Я. Коласа, у раённай газеце «Пухавіцкія навіны» ад 18 лютага 2006 года ў артыкуле «Загібелька, Вусце, Беразянка»:

«Ідзе час. Міхась Канстанцінавіч, ганаровы грамадзянін горада Мар'іна Горка, не парывае сувязь з Пухавіччынай. Гэта ён парупіўся, каб у раённым краязнаўчым музеі была створана кампазіцыя «Якуб Колас: прырода і людзі роднага краю». Сюды ён перадаў мноства фотаздымкаў і некаторыя асабістыя рэчы бацькі. Бібліятэкары, настаўнікі, вучні многіх школ раёна добра ведаюць дзядзьку Міхася, які вельмі часта выступае перад імі, чытае творы Якуба Коласа і свае. І яшчэ ён умее гаварыць, як птушкі і звяры».



**Алена КОРДА**

# ДОКТАР ПА ПРОЗВІШЧЫ МАРУТКА

Я шмат чула пра яго як пра выдатнага спецыяліста па касцявых захворваннях. Але ніколі не думала, што ў свой сталы век давядзецца сустрэцца з гэтым доктарам. Ды лёс распарадзіўся па-свойму. І вось я сяджу перад загадчыкам касцявога аддзялення 1-га Мінскага гарадскога сухотнага дыспансера Сяргеем Васільевічам Маруткам. Прагледзеўшы здымкі, ён сказаў, што яшчэ невядома, якое ў мяне захворванне, але ўсё роўна я іхняя хворая, і мне патрэбны пасцельны рэжым. Спаважны, сардэчны, з усмешкай на вуснах, з іскрыстымі шэрымі вачыма, што высвечвалі зацікаўленасць да майго аповеду. Так свяціцца вочы могуць толькі ў зычлівага чалавека, які аддае ўсяго сябе дзеля выратавання нямоглых людзей. Калі я задавала яму якое-небудзь пытанне, Сяргей Васільевіч сядзеў задумаўшыся, з пасуравелым тварам, і я разумела: ён думае, што мне адказаць, каб знянацку не напалохаць. Калі ж знаходзіў патрэбныя словы, кідаў на мяне загадкавы позірк і адразу ўсміхаўся: «Раю паляжаць у нас, і ўсё будзе добра».

Я паверыла ў яго мудрасць, у яго талент. Гэта доктар найвышэйшай кваліфікацыі, працавіты, шчыры, сціплы, чалавек на рэдкасць прыстойны і сумленны. З ім лёгка весці змястоўныя, цікавыя размовы на розныя тэмы. Я давярала яму, як і ўсім супрацоўнікам касцявога аддзялення.

Узначальвае дыспансер выдатны арганізатар аховы здароўя Міхаіл Міхайлавіч Мярзлоў. У аддзяленні працуюць урачы Мар'ян Іосіфавіч Нядзведзь, Аляксей Фёдаравіч Шаўко, Віктар Віктаравіч Пашун (дарэчы, ён — ліквідатар аварыі на Чарнобыльскай АЭС).

З вялікай увагай адносяцца да хворых медсёстры Яўгенія Міхайлаўна Чэлышава, Наталля Сяргееўна Літвіновіч, Людміла Юр'еўна Жучкова, Таццяна Іванаўна Паўловіч і іншыя. Добрасумленна ставяцца да сваіх абавязкаў працэдурная медсястра Алена Віктараўна Арлова, метадыстка па лячэбнай фізкультуры Тамара Уладзіміраўна Дземідзенка, масажыстка Вольга Анатольеўна Горда.

Сяргей Васільевіч задаволены, што побач з ім працуе такі згуртаваны калектыў, які ніколі ні ў чым не падводзіў яго.

Як мне стала вядома, Сяргей Васільевіч да ўсяго яшчэ і заўзяты альпініст. Разам з членамі беларускага таварыства «Зеніт» у якасці ўрача падымаўся на высокія горы Цянь-Шаня, Паміра, Каўказа. Аднаго разу нават узяў у паход сваю жонку Наталлю Сяргееўну. Яна таксама ўрач, дацэнт, працуе ў Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце на кафедры пульманалогіі і фтызіятрыі, часта кансультуе хворых, што лечацца ў дыспансеры.

Сяргей Васільевіч Марутка нарадзіўся ў 1956 годзе ў вёсцы Багушэвічы Бярэзінскага раёна. Калі бацькі пераехалі ў Мінск, хлопчык вучыўся ў

41-й сярэдняй школе. Потым паступіў у Беларускі дзяржаўны медінстытут. Скончыўшы яго, працаваў тэрапеўтам у Баранавічах, у Мінску — у дзіцячым траўматалагічным цэнтры. Неўзабаве перайшоў у дыспансер і працуе тут больш як дваццаць гадоў. За гэты час вылечыў шмат цяжкахворых. Памятае ўсіх, але асабліва запомніўся адзін, за жыццё якога давялося доўга змагацца. На месцы, дзе працаваў гэты чалавек, узарваўся балон з газам. Спачатку хворага лячылі ў Рэспубліканскім апёкавым цэнтры, потым прывезлі ў дыспансер з дыягназам — сухоты. Урачы здолелі паставіць яго на ногі.

А яшчэ быў і такі выпадак. Неяк на пачатку вясны Сяргей Васільевіч прагульваўся на лыжах па сцяжынцы ўздоўж Свіслачы і раптам пачуў крык аб дапамозе. Нядоўга думаючы, памчаўся ў той бок і ўбачыў за некалькі крокаў ад берага мужчыну, які боўтаўся ў вадзе. Доктар не разгубіўся, пачаў кідаць яму палкі ад лыжаў. Ледзьве сам не зваліўся ў ваду. Тапельцу ўсё ж удалося начапіць на рукі спачатку адну, потым другую палкі. І тады Сяргей Васільевіч рыўком пацягнуў іх да сябе.

Як высветлілася, гэты чалавек хацеў набраць у каністру вады для машыны, якую пакінуў крыху воддаль на дарозе, але пакаўзнуўся і паляцеў з адхону.

...Бягуць і бягуць імклівыя ручаіны вёснаў. У кожным чалавеку жыве рамантык. Такі і доктар Марутка. Ён любіць прыроду, усё створанае ёю. Любіць водар лясоў, скошанай травы. Любіць блукаць па лясных сцяжынах у пошуках грыбоў, ягад, розных лекавых траў. Любіць назіраць за пчоламі, якія з гудзеннем лётаюць на лузе і збіраюць з кветак нектар. Зачараваны спевамі птушак, пазнае іх па галасах. Сяргей Васільевіч і сам як хуткакрылая птушка. Хто не ведае яго як доктара, можа падумаць, што гэта спартсмен — гімнаст ці акрабат — прыгожы, хударлявы, стройны. Вочы яго высвечваюць дабрыню, спагаду, любоў да ўсяго зямнога. Калісьці яму прапаноўвалі працу за мяжою. Адмовіўся, застаўся верным сваёй Бацькаўшчыне.

Такі вось любімы ўсімі доктар Сяргей Васільевіч па прозвішчы Марутка.



**Антон ПРЫЦЭЛ**

## КРЫК У ЛЕСЕ

Хочацца ў лес закрычаць,
каб усе птушкі пачулі…

*Генадзь Пашкоў*

У лес іду я не маўчаць,
не цішыню у голлі гушкаць.
У лесе я хачу крычаць,
каб чулі і звяры, і птушкі.

Хай ведаюць наўкол, што я —
паэт даволі галасісты,
што рыфма звонкая мая
не сцелецца апалым лістам.

Я б мог і ў горадзе раўнуць,
ды толькі што пра тое марыць,
бо там адразу забяруць
і ўмомант адвязуць на нары.

А ў лесе — што, прастор у ім,
тут як хачу, так і крычу я,
бо ёсць закон, вядомы ўсім:
хто не крычыць — таго не чуюць.

## СІЛО КАХАННЯ

Ты матыльком даверлівым шукала
Зіхоткае, чароўнае святло.
Але цябе ўжо даўно чакала
Маёй любві нябачнае сіло.

*Алесь Бадак*

Паставіў я сіло кахання,
А сам, зашыўшыся ў кусты,
Чакаю, аж трымціць жаданне,
Калі ў яго патрапіш ты.

Ты з цемры на святло ляцела
Даверліва, як матылёк,
І, можа быць, сама хацела
Патрапіць у сіло-сачок.

Але ці ты не заўважала
Пастаўленае мной сіло,
Ці, можа, іншае шукала,
Што больш жаданае было…

## ХТО НА ШТО ЗДАТНЫ

Бацька ў садзе
гоніць самагонку,
Маці свінням
буракі крадзе…

*Павел Шруб*

Звеку бацька
справаю заняты,
І ў матулі
справа ёсць свая.
Да нічога толькі я
няздатны.
І ў каго такі ўжо
ўдаўся я?

Каб, як бацька,
гнаў я самагонку,
Каб, як маці,
краў я буракі,
Дык тады б
не лаялася жонка,
Што я муж
такі і растакі.



# МЕТРЫКА
## *літаратурная*

**175**

гадоў таму ў Пецярбургу нарадзіўся **Дзмітрыеў** Міхаіл Аляксеевіч, беларускі і рускі этнограф і фалькларыст, педагог.

Скончыў Галоўны педагагічны інстытут у Пецярбургу. З 1853 года быў настаўнікам дваранскага вучылішча, пазней — дырэктарам гімназіі ў Навагрудку. З 1867 да 1873 года працаваў інспектарам, а пасля дырэктарам Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Быў членам Рускага геаграфічнага таварыства. Займаўся збіраннем беларускай народнай вусна-паэтычнай творчасці, асабліва тапанімічных і міфалагічных легенд. Зрабіў апісанні народных звычаяў, абрадаў, сялянскага побыту. Цікавіўся таксама жывой беларускай мовай — спрабаваў скласці паказальнік слоў і выразаў гаворак Навагрудчыны. У архівах сабраў каштоўныя звесткі пра А. Міцкевіча. Выдаў зборнік беларускай народнай паэзіі «Вопыт збірання песень і казак сялян Паўночна-Заходняга краю» (1868) і «Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю» (1869).

Памёр у 1873 годзе.

**20**

гадоў таму быў заснаваны **Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры**.

Быў заснаваны ў Мінску ў 1987 годзе. Мае 8 эспазіцыйных залаў плошчай больш за 400 квадратных метраў. Матэрыялы музея характарызуюць этапы развіцця беларускай літаратуры, станаўленне асноўных жанраў, дзейнасць пісьменнікаў і прадстаўнікоў культуры мінулага і сучаснасці. Храналагічныя рамкі: канец XVII стагоддзя — 2000-я гады. Працуюць таксама персанальныя стацыянарныя выставы.

## СНЕЖАНЬ

**2**

— **105** гадоў таму на станцыі Пухавічы нарадзіўся **Вольны** (Ажгірэй) Анатоль Іўсцінавіч, беларускі паэт, празаік, кінадраматург.

Вучыўся ў Ігуменскай гімназіі. Служыў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі (1921) працаваў у ЦК ЛКСМБ, у газеце для сялянскай моладзі, вучыўся ў БДУ. З 1923 года быў удзельнікам літаратурнага аб’яднання «Маладняк». З’яўляецца адным з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў беларускай прозе (аповесць «Два» і раман «Ваўчаняты» ў сааўтарстве з А. Александровічам і А. Дударам). 4 лістапада 1936 года быў арыштаваны, а 29 кастрычніка 1937 года расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920 годзе. Выдаў зборнікі вершаў «Чарнакудрая радасць», «Табе». Аўтар аповесці «Антон Савіцкі», кніг фельетонаў і п’ес. Паводле яго сцэнарыяў пастаўлены фільмы «Хвоі гамоняць», «Атэль «Савой», «У агні народжаныя», «Сонечны паход», «Новая радзіма». У 1935 годзе выйшла ў свет яго кінааповесць «Шасцідзесятая паралель».

**3**

— **70** гадоў таму на хутары Біскупцы Лідскага раёна нарадзілася **Бічэль** Данута Янаўна, беларуская паэтэса.

Скончыла Карнілаўскую сямігодку і Лідскае педвучылішча (заключны курс у Навагрудку ў 1957 годзе). Паступіла ў Гродзенскі педагагічны інстытут і ў 1962 годзе атрымала дыплом філолага. Настаўнічала ў Гродзенскай школе рабочай моладзі № 5. З 1982 года працавала старшым навуковым супрацоўнікам тамашняга абласнога гісторыка-археалагічнага музея, а пасля ў «Доме Максіма Багдановіча», дзе яе руплівасцю была адкрыта музейная экспазіцыя (1986).

Пісаць вершы пачала рана. Першы верш у рэспубліканскім друку быў змешчаны ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ў 1958 годзе. Аўтар шмат якіх арыгінальных зборнікаў паэзіі: «Дзявочае сэрца», «Нёман ідзе», «Запалянкі», «Доля», «Ты — гэта ты», «Браткі», «Дзе ходзяць басаною», «Загасцінец», «Даўняе сонца», «А на Палессі», «На белых аблоках сноў», кніжка выбранага «Снапок». Неаднаразова выходзілі ў свет і яе кніжкі для дзяцей: «Грыб-парасон», «Рыжая палянка», «Дагані на кані», «Лузанцы», «Габрынька і Габрусь».

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1984).

Жыве ў Гродна.

**4**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Студзянец Касцюковіцкага раёна нарадзіўся **Русецкі** (Бурдзялёў) Аляксей Сцяпанавіч, беларускі паэт, перакладчык, заслужаны работнік культуры Беларусі.

Вучыўся з перапынкамі, пакуль урэшце не асіліў сямігодку і стаў студэнтам Аршанскана белпедтэхнікума (дарэчы, вучыўся ў адной групе з будучым маршалам І. Якубоўскім і паэтам І. Васілеўскім). У 1931 паступіў па парадзе дзядзькі ў Маскоўскі зааветэрынарны інстытут. Падчас вучобы актыўна ўдзельнічаў у беларускім культурным і літаратурным жыцці. Атрымаўшы дыплом (1935), працаваў у Ферганскай даліне Узбекістана. У Смаленску і Барысаве праходзіў службу ў Чырвонай Арміі (1935—36). Працаваў у Маскве, Краснаярскім краі, у Хакасіі. У 1938 годзе пераехаў на працу па спецыяльнасці ў Мінск. Ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, а пасля і на Халхін-Голе (Манголія). У Мінск вярнуўся ў 1947 годзе. Працаваў літаратурным кансультантам пры СП БССР (1947—51 і 1961—67). У перапынку — загадчыкам адзела публіцыстыкі часопіса «Беларусь», а з 1967 года — намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». З 1973 года — зноў у часопісе «Беларусь».

Першы верш надрукаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» ў 1934 годзе. Выдаў кнігі: «У заўтрашні свет», ««Святло акон тваіх», «Служба святла», «Зямля гаворыць зорам», «Позірк», «Крокі сэрца», «Хвала жыццю», а таксама Выбраныя творы ў 2-х тамах і некалькі аднатомнікаў, апошні з якіх «Айкумена». Выдаў таксама кнігу літаратурных партрэтаў «Ісці да чалавека».

Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя А. Куляшова (1981).

Памёр у 2000 годзе.

**5**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна нарадзіўся **Разанаў** Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч), беларускі паэт, перакладчык і эсэіст.

У 1966 годзе скончыў сярэднюю школу ў родная вёсцы. У тым жа годзе паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Неадрыўна ад вучобы працаваў ліцейшчыкам на Мінскім заводзе ацяпляльнага абсталявання (1967—68). У 1969 годзе быў адлічаны з універсітэта за «нацыяналізм», а па сутнасці за патрабаванне выкладаць навучальныя курсы на філалагічным факультэце на беларускай мове. Намаганнямі Максіма Танка ды іншых вядомых людзей быў пераведзены на філфак Брэсцкага педагагічнага інстытута, які ўрэшце скончыў у 1970 годзе. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Кругельскай СШ Камянецкага раёна. Служыў у Савецкай Арміі

(1971—72). З 1972 года — супрацоўнік тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» і бюлетэня «Родная прырода». З 1974 года працаваў рэдактарам, а пасля старшым рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура». З 1986 года быў на творчай рабоце, а таксама працаваў старшынёй Беларускага рэспубліканскага фонду імя Рэрыхаў (1990), з 1992 года быў навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. З'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Беларускага Пэн-цэнтра. З 1994 года — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Крыніца».

Першыя публікацыі з'явіліся ў 1961 годзе. Выдаў кнігі: «Адраджэнне», «Назаўжды», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «Паляванне ў райскай даліне», «Рэчаіснасць», «Танец з вужакамі» (выбранае), «Кніга ўзнаўленняў», «Лясная дарога», «Каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць», «Дождж: возера ў акупунктуры» ды іншыя.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990).

З 2001 года з'яўляецца пастаянным стыпендыятам розных краін Еўропы і ў асноўным жыве і творыць у Нямеччыне, Аўстрыі і Швейцарыі. Яго творы перакладзены больш як на 30 моў свету. Лаўрэат прэстыжнай еўрапейскай прэміі імя Ёгана Готфрыда Гердэра (2003).

**9**

— **90** гадоў таму ў вёсцы Цёплае Чавускага раёна нарадзіўся **Рагуцкі** Уладзімір Лаўрынавіч, беларускі паэт.

Нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў. Звестак пра яго жыццё засталося, на жаль, мала. Вучыўся ў школе ў вёсцы Старое Пашкава, дзе настаўнікам быў паэт Я. Журба. Пасля сканчэння школы паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, які скончыў у 1939 годзе. Там пазнаёміўся з М. Аўрамчыкам. Працаваў у абласной газеце «Камунар Магілёўшчыны». Адтуль і быў прызваны ў Чырвоную Армію. Загінуў на фронце ў 1941 годзе.

Першы верш надрукаваў у газеце «Піянер Беларусі» ў 1934 годзе. У 1940 годзе Дзяржаўнае выдавецтва прыняло да друку рукапіс яго першага паэтычнага зборніка. Асобныя творы паэта змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем», «Крывёю сэрца», «Покліч долі адзінай». Успаміны пра У. Рагуцкага напісаў М. Аўрамчык у «Дні паэзіі-1971» пад назвай «Паэт і чайка».

**15**

— **70** гадоў таму ў гарадскім пасёлку Шаркоўшчына нарадзіўся **Кірылаў** Герман Іларыёнавіч, беларускі празаік і драматург.

У 1954 годзе скончыў мясцовую сярэднюю школу. Паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, які скончыў у 1959 годзе. Працаваў літаратурным работнікам у Шаркоўшчынскай раённнай газеце «Калгасны шлях» (1959—60). У 1960 годзе быў абраны другім, а ў 1961 годзе першым сакратаром Шаркоўшчынскага райкама камсамола. Пасля скасавання Шаркоўшчынскага раёна зноў вярнуўся ў журналістыку — быў загадчыкам аддзела пісьмаў рэдакцыі міёрскай міжраённай газеты «Сцяг працы» (1962—65), а ў 1965 годзе — намеснікам галоўнага рэдактара гэтай газеты. На той жа пасадзе працаваў і ў полацкай газеце «Сцяг камунізму» (1965—76). З 1976 года — уласны карэспандэнт абласной газеты «Віцебскі рабочы» ў Полацку.

Першая мастацкая публікацыя — апавяданне «Без крыўды ў сэрцы» (часопіс «Маладосць», 1974). Выдаў зборнік прозы «Падлётак». Друкаваўся з арыгінальнымі творамі пра сталінскія часы ў часопісе «Крыніца». Напісаў цікавыя творы пра Саюз беларускай моладзі.

**19**

— **80** гадоў таму ў Клімавічах Магілёўскай вобласці нарадзіўся **Бурсаў** Іван Цярэнцьевіч, паэт і перакладчык.

Працоўны шлях пачаў счэпшчыкам вагонаў на Чэлябінскім металургічным заводзе (1945—52). Пасля працаваў саставіцелем цягнікоў на Мінскім трактар-

ным заводзе (1953—57). Адначасова вучыўся ў школе рабочай моладзі і наведваў літаратурнае аб'яднанне пры газеце «Знамя юности». Скончыў Літаратурны інстытут імя А. Горкага ў Маскве (1962). Працаваў рэдактарам аддзела прозы часопіса «Нёман» (1962—64). З 1965 года пераехаў на сталае жыхарства ў Маскву і стаў працаваць у выдавецтве «Молодая гвардия».

Друкуецца з 1953 года. Піша на рускай і беларускай мовах. Выдаў шмат кніжак вершаў, прозы і казак для дзяцей, сярод якіх «Близкие звезды», «Горсть», «Среда», «Грамота лет», «Песочные часы», «Помня о любви», «Круг», «Едет лес», «Ванька-Встанька», «Девяносто пять ежей», «Сорок сорок» ды іншыя. Перакладае творы беларускіх і ўкраінскіх паэтаў на рускую мову.

**22**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Ліпнікі Слуцкага раёна нарадзілася **Васілевіч** Алена Сямёнаўна, беларускі празаік.

Нарадзілася ў сям'і лясного аб'ездчыка. Бацькі памерлі вельмі рана. Выхоўвалася ў сваякоў. У 1937 годзе скончыла сямігодку ў мястэчку Урэчча. Паступіла ў Слуцкае педагагічнае вучылішча. Пасля двух курсаў паехала ў Рагачоў, дзе працягвала вучобу на літаратурным факультэце настаўніцкага інстытута, які скончыла ў 1941 годзе. У 1944 годзе была прынята на чацвёрты курс філалагічнага факультэта БДУ. Пасля атрымання дыплома паехала да мужа ў Курск, працавала літкансультантам пры кніжнай рэдакцыі выдавецтва «Курская правда» (1946—50). Пераехаўшы ў Мінск, загадвала аддзелам культуры часопіса «Работніца і сялянка» (1950—72), працавала загадчыцай рэдакцыі ў выдавецтвах «Мастацкая літаратура» (1972—80) і «Юнацтва» (1980—83).

Сур'ёзна займацца літаратурай пачала пасля вайны. Першая аповесць «У прасторах жыцця» была апублікавана часопісам «Беларусь» у 1947 годзе. Піша ў асноўным для дзяцей і юнацтва (шырокавядомая яе тэтралогія «Пачакай, затрымайся...»), хоць займелі свайго чытача і такія яе кнігі, як «Пісар страявой часці», «Мыс Добрай Надзеі», «Элегія», «Жонка нябожчыка», «Люблю, хвалююся — жыву...»

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1977).

**25**

— **80** гадоў таму ў Оршы нарадзілася **Яфімава** (Яўхімава) Маргарыта Барысаўна, беларускі літаратуразнаўца і крытык.

У 1946 годзе скончыла сярэднюю школу № 3 горада Брэста. У 1951 годзе скончыла філалагічны факультэт БДУ, а ў 1955 годзе аспірантуру гэтага ж універсітэта. Працавала выкладчыцай на кафедры беларускай літаратуры ў Магілёўскім педагагічным універсітэце (1955—66).З 1966 года — дацэнт кафедры беларускай літаратуры БДУ. Была заснавальнікам, кіраўніком і рэжысёрам філфакаўскага тэатра-студыі «Летуценнік».

Першы артыкул, прысвечаны творчасці М. Багдановіча, надрукавала ў 1957 годзе. Аўтар кніг: «Цэлы свет — дзецям», «Янка Маўр», «Беларуская дзіцячая літаратура», «Гучыць жывое слова», «З верай у дзіцячае сэрца». Аўтар шматлікіх вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў. Пісала змястоўныя цікавыя прадмовы да кніг: А. Васілевіч, В. Віткі, Я. Маўра, А. Якімовіча. Складальнік кніг пра Ф. Скарыну «Народу свайму ўслугуючы» і «Адкрыць нашчадкам Скарыну». Даследуе гісторыю беларускай, пераважна дзіцячай, літаратуры.

Кандыдат філалагічных навук (1956), дацэнт (1968).

**26**

— **90** гадоў таму ў Оршы нарадзіўся **Васілёнак** Яўген Пятровіч, беларускі празаік, паэт і перакладчык.

Сярэднюю адукацыю атрымаў у Аршанскай чыгуначнай школе. У 1934—35 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Магілёўскага педагагічнага інстытута. З 1935 года працаваў у рэдакцыях раённых газет Шклова, Барысава, Багушэўска,

Оршы. У 1939 годзе па камсамольскай пуцёўцы быў накіраваны на журналісцкую працу на Далёкі Усход. Працаваў у Хабараўску, Усурыйску, Уладзівастоку. У 1943—45 гадах служыў у радах Чырвонай Арміі, працаваў у рэдакцыі дывізійнай газеты «Боец-патриот». Працаваў пасля вайны карэспандэнтам газеты «Гудок» у Алма-Аце. З 1948 года — зноў у Мінску. Працаваў у БЕЛТА, у аддзеле публіцыстыкі часопіса «Маладосць». У 1958—66 гадах быў галоўным рэдактарам часопіса «Нёман».

Друкавацца пачаў з вершаў у 1936 годзе. Першая кніга апавяданняў «Зялёныя агні» выйшла ў 1954 годзе. Выдаў таксама кнігі: «Прызванне», «Выпадковы прыпынак», «Розныя дарогі», «Каралеўскі гамбіт» (драма ў 4-х актах), «Таццяна Ларына», «Вячэрняя размова», «Забыты вензель», «На перагоне» і «Выбраныя творы» ў 2-х тамах (пасмяротна, 1977).

Памёр у 1973 годзе.

**26**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна нарадзіўся **Гніламёдаў** Уладзімір Васільевіч, беларускі крытык і літаратуразнаўца.

Скончыў мясцовую сярэднюю школу ў 1954 годзе. У 1959 годзе, атрымаўшы дыплом філолага-педагога Брэсцкага педагагічнага інстытута, працаваў завучам Тамашоўскага дзіцячага дома ў Брэсцкім раёне. Адначасова працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў тамашняй сямігодцы. Служыў у Савецкай Арміі (1959—61). Пасля арміі вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры АН БССР, а з 1965 года працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам гэтага ж інстытута. У 1966 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1969 да 1976 года працаваў інструктарам аддзела культуры, а пасля загадчыкам сектара мастацкай літаратуры ў апараце ЦК КП Беларусі. З 1976 года — намеснік дырэктара Інстытута літаратуры АН БССР па навуковай рабоце. У 1987 годзе абараніў доктарскую дысертацыю па тэме: «Сучасная беларуская паэзія». Пасля ўзначальваў Інстытут літаратуры НАН Беларусі.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1963 годзе. Асноўная тэма яго даследаванняў — беларуская сучасная паэзія. Актыўна выступае ў друку з артыкуламі і рэцэнзіямі. Выдаў кнігі «Лірычны летапіс часу», «Сучасная беларуская паэзія», «Традыцыі і наватарства», «Упоравень з векам», «Як само жыццё», «Класікі і сучаснікі» ды іншыя. Апошнім часам працуе ў жанры прозы. Выйшлі з друку яго раманы пра жыццё ў Заходняй Беларусі.

**85**

гадоў таму пачаў выходзіць штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны **часопіс «Полымя»**.

Выдаецца з 1922 года ў Мінску на беларускай мове. У 1922—24 гадах [да № 3 (11)] выданне Беларускага кааперацыйна-выдавецкага таварыства «Савецкая Беларусь», у 1924 годзе [з № 4 (12) — 31] выданне Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, у 1932—34 гадах (да № 5) орган аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, з 1934 года (з № 6—7) орган праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, з 1945 года — Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1932—41 гадах (да № 3) выходзіў пад назвай «Полымя рэвалюцыі». Падчас Вялікай Айчыннай вайны не выдаваўся. З 2002 года ўваходзіць у РВУ «Літаратура і Мастацтва».

Друкуе творы беларускіх пісьменнікаў, пераклады, артыкулы па пытаннях беларускай літаратуры і мастацтва, гісторыі, навукі, эканомікі і культуры, а таксама нарысы, рэцэнзіі на новыя кнігі ды іншыя матэрыялы, звязаныя з духоўным жыццём беларускай нацыі.

**80**

гадоў таму было створана **аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў «Полымя»**. Існавала з 1927 да 27.05.1932 года.

*Аўтар рубрыкі*
***Леанід ГАЛУБОВІЧ.***

# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2007 ГОД

## ПРОЗА


**Бруй Аляксей.** Палёт. II—109.

**Бруй Аляксей.** Шкляная труна. Апавяданне. XI—74.

**Бутэвіч Анатоль.** Апошняе ігрышча. Аповесць. I—15; II—14.

**Васілеўская Галіна.** Белая акацыя. Апавяданне. I—83.

**Гапееў Валерый.** Кропка на карце. Апавяданне. IX—47.

**Гарэлікава Таццяна.** Навучы мяне зноў любіць. Апавяданне. XI—55.

**Гніламёдаў Уладзімір.** Вяртанне. Сямейная хроніка. X—3; XI—12.

**Дамашэвіч Уладзімір.** На мяжы цярпення. Раман. IV—3; V—12; VI—114; VII—48.

**Даніленка Міхась.** Залатое вядзерца. Апавяданне. II—106.

**Даніленка Міхась.** Два апавяданні. X—46.

**Кадзетава Валянціна.** Апавяданні. III—99.

**Камейша Казімір.** Паміж кубкам і вуснамі. XII—49.

**Капыловіч Іван.** Чорная паласа. Апавяданне. XII—90.

**Карэнда Іван.** Воплаўская госця. Аповесць. VI—43; VII—6.

**Коўтун Валянціна.** Спасам пакліканыя. Кінараман. III—6.

**Леванові Леанід.** І смех, і слёзы, і любоў. Абразкі. III—68.

**Ліпскі Уладзімір.** Янкаў вянок. Раздзелы з аповесці. IX—61.

**Марчук Георгій.** Салодкія слёзы. Лірычная камедыя. I—112.

**Сауліч Уладзімір.** Апавяданні. IV—114.

**Сіпакоў Янка.** Тры апавяданні. VI—3.

**Станкевіч Юры.** Тры апавяданні. XII—25.

**Федарэнка Андрэй.** Два апавяданні. V—64.

**Цвірка Кастусь.** Будзіла вёску берасцянка. Аповесць. VIII—51.

**Цыпіс Навум.** Два ўрокі. Аповесць-эсэ. IV—79.

**Чаропка Вітаўт.** Архангел святой Ганны. Аповесць. II—66.

**Южык Міхась.** Лесвіца. Раман. VIII—7; IX—9; X—60.

**Янушкевіч Язэп.** Трагікамедыя ў Люцынцы. I—94.


## ПАЭЗІЯ


**Андрыеўскі Васіль.** «Глядзіць спадзеўна Багародзіца...» Вершы. IV—128.

**Багамолава Алена.** «Нас Бог натхняе жыць...» Вершы. VII—79.

**Барахвостаў Павел.** Санет-прадчуванне. Актава. Трыялет. Янку Купалу. Туга аб Хрысце. ***Ля акна я прысеў нерухома... Вершы. *Палымянскі дэбют.* III—93.

**Башлакоў Міхась.** Сярэбраны ветразь. Вось так і мне б... ***Лета... Успамін. ***Іван-чай духмяны адцвітае... Адзінота. Вершы. III—65.

**Гальпяровіч Навум.** «Мы з табою на мове гаворым адной...» Вершы. IV—108.

**Гальпяровіч Навум.** Вершы. XII—45.

**Грынкевіч Адам.** Мой родны край. Імгненні. Чалавеку ўласціва здзіўляцца. XI—71.

**Гучок Яўген.** «І над намі зіхціць вясёлка...» XI—79.

**Жуковіч Васіль.** ***Жыві ўва мне... ***Айчына... Маміна слова. Рух прыроды. Лес пасля ўрагану. Санеты для Жэні. Трыялеты. Верлібр. Імгненні. Вершы. VI—35.

**Жыгуноў Алесь.** Спатканне з Тройцай. Вершы. IV—75.

**Зубрыцкі Эдуард.** Залётны птах. Воран. Асенні дым. Вараныя. І ўсміхнуцца, і ўбачыць. Вершы. IV—131.

**Зэкаў Анатоль.** «Не жыць як набяжыць...» I—74.

**Зэкаў Анатоль.** «Жыві, глядзі на белы свет...» Вершы. X—40.

**Камейша Казімір.** Хутар Няшота. Боль вясны маёй. Шлях, які не пройдзеш двойчы. Восенькі Нізок. ***На новы лад перавяла... ***Сцежкамі аж на край свету... *** «Адвязі мяне ў лета!»... Вершы. IX—3.

**Кандратаў Мікола.** ***Твой голас нечакана сціх... Ноч перад хростам. Чаромхавыя вочы. ***Мёд не загуснуў у сотах... ***Нам верасень вяртае цеплыню... ***Калядны снег злятае на далонь... ***Недасканалы й разам з тым чароўны... Развітанне Анатоля Сыса. ***Дарэмна сваю маладосць я гукаў. Вершы. IX—58.

**Крываноc Леанід.** Хатынь. Прапаўшы без вестак. Чарнобыльскія хаты. Малая радзіма. ***Бруіцца крыніца...***Лягла цемра ціха... ***Залатое поле... Ганначка. Вершы. V—70.

**Кручэнка Тамара.** «Затрымаюся ў леце...» Вершы. XII—22.

**Лайкоў Янка.** ***Анямела Слова маё... ***Слухай ноч... ***Я шукаў сябе... Вершы. IV—112.

**Лукша Валянцін.** Фрэска старажытнага Полацка ў Віленскім храме. Мірскі замак. Жыгулёўскія горы. У міжземнаморскім Спліце. Кінэрэт — Галілейскае мора. Дзень прыбыў... Прадчуванне... ***Руплівы жнівень патрывожыў неба... Нібы лістку асенняму... Жураўлінае веча. Сабе. Вершы. VIII—112.

**Маеўская Ніна.** Светам правіць любасць. Вершы. I—88.

**Макарэвіч Васіль.** Печ. Жарнавік. Ягаднае лета. Горад і сяло. Дом. ***Пацалунак Іуды. ***Ступае ноч нячутнымі падэшвамі... Вершы. II—56.

**Макарэвіч Васіль.** Волат. Верш. VII—3.

**Малахоўскі Рагнед.** Песня Ача. ***Дзе рачулка Нарачанка дрэмле... Натхненне. Расчараванне. Кахання радок. ***Тлее горад начнымі агнямі... Эскорт імгненняў. ***Гарэць забытых летапісаў скруткі... Шчасце паасобку. ***Я быў закаханы... ***Калі душа ператвараецца ў анёла... ***Сыходзяць зімовыя мары... Вершы. XII—85.

**Маляўка Мікола.** «Люблю жыццё ва ўсіх яго праявах...» XI—3.

**Марук Уладзімір.** «Зорка ў небе мігціць...» Вершы. II—3.

**Марук Уладзімір.** «У цішы нараджалася вера...» VII—39.

**Міклашэўскі Яўген.** Неперспектыўныя вёскі, або Развітанне з мінулым. Вершы. VI—150.

**Мятліцкі Мікола.** Новыя вершы. I—3.

**Новік Юля.** ***Тры кветкі шыпшыны... ***Сонца болю... ***Не спявай... Задзіночанне. ***«Горад адзін на дваіх...» Словы беларускія. Сустрэча. Вершы. VII—90.

**Пазнякоў Міхась.** ***У Заброддзі пеняцца прысады... ***Ах, як добра ў лясное цішы... ***Хаджу і да болю рад... ***Крочыць вірлівай сцяжынкай... ***Ціхая, родная хата... ***Спявае поле ціхім жытам... ***У гэтым свеце... ***А нас з табой сама вясна абрала... ***Горад без цябе пусты... ***Ну што трывожыш ты мяне... Трыялеты. Вершы. VIII—47.

**Русілка Вольга.** ***Ты не ведаеш... ***Ты так і не заўважыў... ***Жы-ва-я!.. Сцежка. ***Гэта як подых... ***Якое такое каханне... Вяртанне. ***Ён не вернецца... На развітанне. ***І вось цяпер... Вершы. III—3.

**Салодкая Надзея.** Вялікдзень. Веснавы настрой. ***Згарае ўсё... ***Ну што ты ўсё кажаш пра стому і цені... ***Перад кім мне плакаць, жаліцца каму?.. Вершы. X—55.

**Салтук Алег.** Успамін пра Свіцязь. Помніць. Мара. У Ялце. Пра любоў. Развядзёнка. На радзіме. Настрой. Незабыўнае. Сястры Віці. Чысціня. Просьба. Вершы. V—59.

**Скарынкін Уладзімір.** Восеньскія матывы. Вершы. IX—41.

**Спрынчан Аксана.** ***На Белым возеры... ***Здарожаная, змораная... ***Цалую вусны звабныя твае... ***Так даўно не прыходзілі словы... ***Успамінаю цябе... ***Шукаю сутву быцця... ***Туман увосень з водарам вясны... ***То клякочуць буслы... ***П'ю каву з украінскім мёдам... ***Спатоленая навальнічным водарам... Вершы. X—57.

**Шабовіч Мікола.** ***Няхай на сэрцы сумтуга... Ідзе Хрыстос. ***А я радзіме верш ці прысвяціў... «Пакуль пяшчотай белаквецяць сны...» Вершы. VIII—118.

**Шах Соф'я.** Высь. Вянок санетаў. XI—49.

**Шніп Віктар.** «Дастанеш да неба рукой...» Вершы. V—3.

## 125-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

**Да калыскі Купалы.** «Круглы стол» часопіса «Полымя» ў Вязынцы. VII—92.

**Зэкаў Анатоль.** Тут — дыханне Купалы. VII—109.

**Казлова Вольга.** У агні Вялікай Айчыннай. VII—119.

**Чарота Іван.** Янка Купала ў Славакіі. VII—119.

## 125-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

**Да калыскі Коласа.** XI—81.

**Жураўлёў Васіль.** «Заўтрашні дзень» як альтэрнатыўная праблема ў творах Якуба Коласа. XI—110.

**Зэкаў Анатоль.** «Стаіць мая хата між хвой кучаравых...» XI—93.

**Казлова Вольга.** Эпісталярная спадчына Якуба Коласа перыяду Вялікай Айчыннай вайны. XI—97.

**Мушынскі Міхась.** «На шляхах волі» — вершаваны раман Якуба Коласа. VIII—157.

**Шаладонаў Ігар.** Выпрабаванне на чалавечнасць. XI—118.

**Шамякіна Алеся.** Прастора ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». XI—103.

## НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ

**Бялевіч Антон.** Смерць Маланні. Прызнанне ў вернасці. Вернасць лебядзіная. Журавіны. Вершы. I—149.

**Галавач Платон.** Праз гады. Урывак з рамана. IV—146.

**Засім Мікола.** Розныя шляхі. Пры панскай Польшчы. Сон. Дуброва. Забраная вясна. За Радзіму. Светлай памяці бацькоў. Сястра мая... Маладой настаўніцы. Вершы. V—91.

**Звонак Алесь.** Святлацені. Сіняя птушка. Успамін. Альбуць. Мелодыя. Беларускія жанчыны. Скрыпач. Вершы. III—122.

**Кавалёў Павел.** А ты і не ведаеш... Апавяданне. VI—163.

**Мікуліч Барыс.** Развітанне. Раздзел з аповесці. II—120.

## ПЕРАКЛАДЫ

**Ар-Сяргі Вячаслаў.** Расставанне. Унізе. «Юнона і Авось». Акварэль. Лабірынт. Боль. Антонімы зімы. Мядзведжае заляцанне. Вершы. Пераклад з удмурцкай. XII—107.

**Катляроў Ізяслаў.** «Вышыня, што стала глыбінёю...» Вершы. Пераклад з рускай. X—101.

**Ліпневіч Валерый.** Бабуля. Дзед. Вершы. Пераклад з рускай. II—97.

**Медунецкі Васіль.** Бацька. Зорка. Палын. Дзеля сонца. Галатэя. «Афганец». ***З дзіцячых год... ***Жыцця імгненне... Душа. Арэлі. Сквапнасць. Самападман. ***І грымнуў арган... Вершы. Пераклад з рускай. IV—133.

**Олэсь Аляксандр.** Вершы. Пераклад з украінскай. VIII—131.

**Паліканіна Валянціна.** Вясна. Гусцее морак... ***Пакарай мяне стрэчай з табой... ***Каханне — Божы запавет... ***Вызнай, як магу кахаць... ***Калі сышла жанчына... ***Ты узвёў паясы абароны... ***Ты не вяртай... ***Пайшоў адзін... ***Ваш першы мужчына... ***Не глядзі сінькай стылага неба... Стары дом. Над намі дух сярэднявечча. ***Неба сінеча. Вершы. III—110.

**Славянскі паэтычны космас.** Вершы. Пераклады з славацкай, славенскай, харвацкасербскай, сербскай, македонскай, чэшскай, балгарскай, русінскай, сербалужыцкай, польскай моў. V—82.

**Чарказян Ганад.** Чаргаві. Пераклад з курдскай. VI—100.

## СТАРОНКІ ЛЁСУ

**Аўсяннікава Тамара.** «Я пісала табе пісьмо...» XII—166.

**Баравікова Раіса.** Гутаркі з уласным «Я». V—122.

**Курбека Іван.** Коласаў Юрка. V—131.

**Міцкевіч Міхась.** «Кроплі і слёзы» Якуба Коласа. XI—190.

**Шамякін Іван.** З Дзённікаў. I—143; II—114; III—115; IV—138; V—74; VI—154; VII—83; VIII—123.

## НАВУКА

**Гусакоў Уладзімір.** Стратэгія нацыянальнай харчовай незалежнасці Беларусі. III—145.

**Гусакоў Уладзімір.** Беларускае Палессе: ацэнка стану і перспектывы развіцця прыродных комплексаў. VIII—150.

**Максімовіч Валеры.** Класіка і сучаснасць. IV—182.

**Марціновіч Алесь.** Пісьмёны Вольгі Ляўко, альбо Выпадковасць, што стала заканамернасцю. V—139.

**Мятліцкая Ганна.** Міфалагема Сусветнага Дрэва і сімволіка раслін у паэзіі Янкі Купалы нашаніўскага перыяду. VII—123.

**Сабіна Пятро.** «Вачыма зямлі». VI—188; VII—140.

**Сабіна Пятро.** На вышыні ўзлёту. IX—115.

**Сабіна Пятро.** Ураджайны канвеер. X—108.

**Сабіна Пятро.** Другі хлеб. XI—151.

**Сабіна Пятро.** Спажывайце, калі ласка. XII—113.

## НЕЗАБЫЎНАЕ

**Алейнік Лада.** «Пакуль сонца не згасне, пакуль свецяцца зоры...» VIII—172.

**Бугаёў Дзмітрый.** Мастак, адкрыты свету. VIII—177.

**Казлова Вольга.** Мой хросны бацька. IX—173.

**Кісялёў Васіль.** Ён быў чалавекам эпохі. VI—201.

**«Мне хацелася, каб наша беларуская літаратура зьзяла творамі-дыяментамі...»** Пісьмо В. Харужай М. Лынькову. V—150.

**Патапенка Віктар.** На зямлі радзімічаў. II—199.

**Праневіч Генадзь.** Поруч з Калеснікам. IX—181.

**Цыпіс Навум.** Дзве Хатыні Леаніда Левіна. II—155.

## ШКОЛЬНЫ ФАКУЛЬТАТЫЎ

**Вярцінскі Анатоль.** II—126.

**Дайнека Леанід.** I—157.

**Ліпскі Уладзімір.** IV—153.

**Матукоўскі Мікалай.** III—132.

**Пысін Аляксей.** V—98.

## ШКОЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

**Южык Міхась.** Што чытаць дзецям? **Алейнік Лада.** Майстэрства пабудовы прыгодніцкага сюжэта. **Масла Алена.** Ключ да разумення жывога свету. **Наварыч Алесь.** Жыццё і дзіўныя штукарствы Мацейкі, або Рабінзон Кукуруза, сын Палесся. XI—127.

## ЛЕГЕНДЫ XX СТАГОДДЗЯ

**Заір Ісакавіч Азгур.** VIII—137.

**Ларыса Пампееўна Александроўская.** II—138.

**Іван Паўлавіч Мележ.** VI—171.

**Стэфанія Міхайлаўна Станюта.** IV—170.

**Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко).** IX—99.

## ПОСТАЦІ

**Алейнік Лада.** Летапісец сваёй эпохі. II—168.

**Гніламёдаў Уладзімір:** «Я заўсёды іду ад факта...» XII—133.

**Карлюкевіч Алесь.** Інстытут Мальдзіса. VIII—181.

**Мяснікоў Анатоль.** «Нас ведала грамадства, цаніла дзяржава...» XII—127.

**Паплаўскі Георгій:** «Рэалізм — душа мастацтва». VII—152.

**Саладоўнікаў Станіслаў.** «Следства працягваецца...» X—122.

**Сіпакоў Янка:** «Гэта ж якая радасць — ствараць жыццё!» II—176.

**Сульянаў Анатоль:** «Духоўнасць, маральны стрыжань умацоўваюць прафесіяналізм».

## НАШ КРАЙ

**Гардзей Віктар.** Падарожжа ў Цельшына. VI—222.

**Гарэцкі Максім.** Праграма збірання вуснай народнай творчасці. III—188.

**Гатальскі Ігар.** Ад Мінска па Даўгінаўскім тракце. V—170.

**Дзянісаў Антон.** Краязнаўства Полаччыны на старонках часопіса «Наш край». II—211.

**Запрудскі Ігар.** «Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі...» II—203.

**Зубкоўскі Браніслаў.** Прыстанак — Свіслач. XII—189.

**Ісаенка Уладзімір.** У сэрцы Палесся. IX—191.

**Карлюкевіч Алесь.** Слова ў дарогу. I—188.

**Карлюкевіч Алесь.** Вандроўка па літаратурнай Валожыншчыне. IV—231.

**Каспяровіч Мікола.** Там, дзе тварыў Каганец. I—190.

**Клімковіч Ірына.** Таямніцы каменных валуноў. X— 191.

**Курбека Іван.** Сцяжынамі Смольні. VIII—190.

**Макарцоў Мікола.** Голас святой Захаранкі. VII—193.
**Мятліцкі Мікола.** «Вусцянскі мой грудок». XI—187.
**Рогач Анатоль.** З роду Жалігоўскіх. VII—187.
**Сабіна Пятро.** Жыццё — Радзіме ў спадчыну. VIII—194.
**Содаль Уладзімір.** Сцежкамі Мацея Бурачка. X—185.
**Стаховіч-Ларчанка Рыма.** Букет лясных красак. XII—178.
**Хацкевіч Вера.** Ратуцічы. III—193.
**Чыгрын Сяргей.** Чамяры і чамяроўцы. I—199.
**Шушкевіч Уладзімір.** Па слядах лепельскіх арганаўтаў. IV—217.

## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

**Алейнік Лада.** Гармонія слова і вобраза. I—176.
**Андраюк Серафім.** Мікола Лупсякоў. III—172.
**Андраюк Серафім.** Біяграфія ў трагічным гістарычным кантэксце. X—142.
**Бадак Алесь.** Паэт з планеты хараства. X—155.
**Бельскі Алесь.** Неадлучная ад традыцыі. X—160; XII—149.
**Гніламёдаў Уладзімір.** Сцвярджэнне жыцця. I—167.
**Кенька Міхась.** Іван Франко па-беларуску. V—165.
**Кісялёў Уладзімір.** Дзеці вайны. V—168.
**Лявонава Ева.** Біблейскія алюзіі ў творчасці Уладзіміра Караткевіча. III—183.
**Марціновіч Алесь.** «...Над пыльнай вечнасцю дарог». I—184.
**Мікуліч Мікола.** «Маё царства — унутраны свет...» V—163.
**Прохар Маргарыта.** Экалогія прыроды і экалогія душы. IV—194.

## СКАРБЫ МОВЫ

**Каўрус Алесь.** Слова даўняе і сучаснае. XI—161.
**Лепешаў Іван.** Пра паходжанне прыказак. IV—210.
**Прыгодзіч Мікалай.** Са словам на «ты»... III—170.
**Старычонак Васіль.** Метафара ў структуры літаратурнага тэксту. VII—173.

## КНІГАРНЯ

**Алейнік Лада.** «Майстар-клас» дэбютанта. X—170.
**Гаспадыніч Павел.** Калі сакура цвіце ў Беларусі... VII—185.
**Іофе Эмануіл.** «Я не ўяўляю свайго жыцця без Мінска...» VI—213.
**Карлюкевіч Алесь.** Прарокі Айчыны. VI—219.
**Макарэвіч Васіль.** Малітва роднаму краю... XII—183.
**Малахоўскі Юрый.** Паднебнае слова. VIII—188.
**Новікаў Сяргей.** Удалае даследчыцкае паляванне. X—176.
**Шамякіна Марыя.** Шляхамі мовы. VIII—185.

## З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

**Як ствараўся Дзяржаўны гімн БССР.** XI—173.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

**Баравікова Раіса.** Роздум над фотаздымкам. *Маё XX стагоддзе.* I—171.
**Гардзей Віктар.** «Родны кут, і светлы, і блакітны...» *Помнае.* III—156.
**Корда Алена.** Доктар па прозвішчы Марутка. *Чалавек сярод людзей.* XII—196.
**Кручэнка Тамара.** Лекі гаючыя роднага слова. *На конкурс.* XI—169.
**Лаўрык (Лапцёнак) Таццяна.** Дзіна Паўлавец. Пакліканне — настаўнік. *На конкурс.* IX—154.
**Лойка Алег.** Загадкі і цуды натхнення. *Эсэ.* V—112.
**Перавознікава Ірына.** Напіцца з радзімай крыніцы. *На конкурс.* X—138.
**Сакун Арсен.** Паглядзім на сябе збоку. *Надзённае.* IV—165.
**Сакун Арсен.** Ступень адказнасці, памножаная на ступень аддачы. VIII—3.
**Сітуха Уладзімір.** Хваткі. *Надзённае.* IX—128.
**«Часопіс «Полымя» — этапы творчага станаўлення. «Круглы стол» у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі.** *Да 85-годдзя «Полымя».* XII—3.
**Шамякіна Таццяна.** Парадоксы нашага жыцця. III—151.
**Шамякіна Таццяна.** Парадоксы нашага жыцця. IX—160.

## ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ

**Ермалаеў Уладзімір.** У гасцях. Не паразумеліся. Літ. пароды. X—198.
**Прыцэл Антон.** Крык у лесе. Сіло кахання. Хто на што здатны. Літ. пароды. XII—198.

## МЕТРЫКА ЛІТАРАТУРНАЯ

I—213; II—215; III—199; IV—235; V—197; VI—232; VII—199; VIII—200; IX—201; X—200; XI—200; XII—199.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Працягваецца падпіска на I паўгоддзе 2008 года.**

**індывідуальная льготная**
**для настаўнікаў (індэкс — 00471)**
**на 1 месяц — 4700 руб.**
**на 3 месяцы — 14 100 руб.**

**індывідуальная (індэкс — 74985)**
**на 1 месяц — 6600 руб.**
**на 3 месяцы — 19 800 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**
**на 1 месяц — 8800 руб.**
**на 3 месяцы — 26 400 руб.**

**ведамасная льготная (індэкс — 00727)**
**на 1 месяц — 7200 руб.**
**на 3 месяцы — 21 600 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

*e-mail: polymya@bk.ru*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-91.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 03.12.2007 г. Фармат 70 ×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 18,29. Тыраж 3412 экз. Зак. 3154.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і
Міністэрства адукацыі — 00727
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 00471



# Чытайце ў наступным нумары:

**Ягор Конеў**
**Грэчкасейная ідылія Тадэвуша Касцюшкі**
Раман (пачатак)

**Васіль Ткачоў**
**Дошкі**
П'еса

**Віктар Шніп**
**Вольга Русілка**
**Уладзімір Мазго**
Вершы

**З вавілонскай паэзіі**
**Пераклад Янкі Сіпакова**

**Алег Лойка**
**Дзівосы прозы**
Эсэ

**Легенды XX стагоддзя**
**Яўген Глебаў**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130-8068




